# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ



№ 5

1926

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

МЕНСК

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ



№ 5
1926



Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК

# ТАВАРЫШ ІНСПЭКТАР

## Ц. Гартны

Няцікавых рэчаў у гэтым сьвеце няма.
Але ёсьць людзі, якія нічым ня цікавяцца.

Стройная, як маладое дзерава, заўсёды поўная жыцьця ды весялосьці, а зараз задумённая, сядзела Грыпіна Вядзерка на маленькім дзіцячым зэдліку і сачыла за копкаю дзетак, што ўвіхаліся каля абеду. Малыя шалуны, крыклівыя, быццам вараняты, трашчэлі, перагукваліся адно з другім, лаяліся, стукалі тоўстымі дзеравянымі лыжкамі па стале. Вакола вялізных лаханак стаялі лужы гнядога, як памыі крупніку. Рагі гэтае стравы рысавалі ружовыя суккенкачкі дзяцей. Дзьве кухаркі пазіралі з дзьвярэй у пякарню за малымі і нясьмела пасмейваліся. Час-ад-часу то адна, то другая пыталі дзяцей:

— Дзеткі, падаваць другое?

І ці то іх не дачувалі дзеці, ці проста, прывыкшы да нядбайных бязудзельных нотак у голасе кухарак, не хацелі ім адказваць. Тады адказвала за іх Грыпіна Вядзерка:

— Пачакайце, яшчэ не разьлічыліся з першым.

— Другое прастыне,—напіралі кухаркі, хочучы як найхутчэй скончыць з гэтаю надаеўшаю ім цырымоніяй.

Дзень-у-дзень, вось ужо з трэцяга траўня, яны варацьць на пяцьдзесят душ дзяцей у колёніі абеды й вячэры; раніцаю гатуюць у катле гарбату. Адно й тое: сушаную садовіну ў гнілаватай вадзе замест гарбаты і прытухлую пшонную крупу ў крупніку ды ў кашы. Прыкрасы—так скупа, так ашчадна, што ў крупніку—ні скалачкі, а каша—перасыпаецца пяском—пэўна ня вельмі смачна. І галоднаму трудна ў рот убіць—ня лезе. Ці-ж кухаркам гэта невядомая рэч? Варылі, гатавалі, дзякаваць богу, абедзьве не адзін дзесятак гадоў. Знана, добра знана, як смачна і калі нясмачна. Што-ж дзіўнага, калі ў гэтай вось колёніі згубіўся смак у страве. А дзе масла, а дзе сала, мяса? Страва любіць тлустасьць. Ясна, як на далоні. Дык не, быццам гэта якая злачыннасьць, вось за смак ды за патраўнасьць няйначай яны, кухаркі, павінны адказваць. Тадора і Юзя. Упікае за гэта Грыпіна Вядзерка, упікае Саламея Кублік, бухгальтар Ахрэм Маркавеня... Усе, хто толькі тым або іншым стыкаецца з кухняю, каго нялёгкая прыгнала ў колёнію. Быццам згаварыўшыся...

Няйначай згаварыўшыся... Праўдзівей—падгавораныя. Падгавораныя, бо й дзеці—за адно. І падгавораныя—кім? Грыпінаю Вядзерка.

Вось чаму кухаркам надаела цырымонія з абедам і вось чаму і Тадоры і Юзі зьненавісна кожнае слова Грыпіны Вядзерка. Чамусьці кожны раз яна, Грыпіна, адказвае за дзяцей, судзіць яду за іх, таксама камандуе падачаю стравы і ўбёрамі са стала. Што за парадак гэткі—узялі ды паставілі над імі гэтага фэльдфэбаля? Кара нейкая,—думаюць кухаркі і точаць на Грыпіну Вядзерка зубы.

А Грыпіна Вядзерка добра разумее, у чым справа; улічае ўсе недахваткі з боку матэрыяльнага забесьпячэньня колёніі, ведае, чаму і што яны. І за гэта нікога не вінавацiць—тым болей, кухарак. Як-ні-як, а дзеці папраўіліся, ды нават добра. Нагуляюцца і ядуць у смак, кампаніяй. Ня так ужо дрэнна і дарослым. Так што яна не наракае—кухаркі пераўвялічваюць. Калі Грыпіна Вядзерка і кажа аб ядзе, то яна адмячае тыя хібы, якія выходзяць з нядбайнасьці кухарак у час гатаваньня. Сапраўды, і Тадора і Юзя глядзяць на сваю працу, як на мала заработную, дачасную, ненавідзяць яе і адносяцца да яе—між тым ды іншым. І выходзіць, што амаль ня штодня ці падгарыць каша, ці ў крупнік вугальле насыплецца, ці не даварацца крупы, ці з крупніка выйдзе другая каша, і дзеці—зьядуць кашу ды кашаю закусваюць... Няўжо гэтага нельга адмеціць? Або нельга за гэта ўпікнуць? Гэтае права Грыпіна Вядзерка прызнае за сабою і срога яго аберагае... Тым болей, што дзяцей яна шануе і стараецца даглядаць, мэрам-бы родная маці. Праўда, крычыць на распусных, ушчуе мудрагельных, але дзеці ёй даруюць усё. Бо тут возьме накрычыць, а дзіця супакоіцца—і цётка Грыпіна яго прыласкае. Але што тут агульнага ў адносінах Грыпіны да кухарак і да дзяцей?

Дзеткі чарадою, як гусяты з гускаю, ладзяць са сваёю настаўніцаю.

Саламею Кублік забываюць, і мала якое адварочваецца паглядзець назад, ці „цётка Саламея таксама тут“. Ходзяць і просяць дзеці хадзіць з імі, галоўным чынам, Грыпіну Вядзерка. Бо яна—яна кіраўніца—вучыць іх пяяць, расказваць казкі, знаёміць з назовою кожнага дрэўца і кожнае красачкі. За дзяцей, за іх здароўе адказвае Грыпіна Вядзерка і іх абстойвае перад усіма.

———

Грыпіна Вядзерка любіць дзетак не за службу, а з пачуцьця. Яна ўглядае ў малых тое бесклапотнае, рэзвае, маладое жыцьцё, якім нясе ад дзяцей. У вобразе дзесяткаў дзяўчатак і хлопчыкаў, сьмяхуноў, крыкуноў яна бачыць адбітак таго хараства, якое заключаецца ў фармаваньні будучага чалавека, асобы, цэлага сьвету. Вось чорненькая, трапяткая Матрунка—які досьціп, якая жвавасьць, зацікаўленьне да кожнае зьявы! Вуньдзека з правіловай, нібы адточанай формай твару чорнавокі Юзік. Ніжа поглядам—як шылам. Думае, майструе ўсякія штучкі, цацкі,

модэлькі. Задуменная Гэлька. Неўгамонны Яська... Усе, як каралькі з рознастайных дарагіх каменьчыкаў на вясьле, у перабіўку. Кожная фарбачка азвыклася ў Грыпініным ваччу, знашла сваю мясьціну. Гэтак ніжацца людзкая гісторыя спакон вякоў—да гэтага дню, да моманту, калі вось, дзесятага ліпня ў сераду, дзеткі з колёніі ядуць абед.

---

На гэты раз абед бяз вады. Кухаркі мякка пераглядаюцца адна з другою; ня верань, што ўсё ціха адбудзецца. Зьелі дзеткі крупнік— абышлося. Хутчэй-бы з гэтаю цырымоніяй! Надаела! Тадора і Юзя ня вераць, каб Грыпіна Вядзерка спакойліва, але ябедліва, не папікнула: „Ізноў сапсаваны абед“. Ім не ўцярпеж падаць кашу, прыбраць: няхай дзеці спачываюць, а Грыпіна Вядзерка бяжыць да рэчкі на купаньне.

— Ужо падаваць кашу?

— Давайце.

Грыпіна Вядзерка сказала і выбегла на ганак. Дзеці не заўважылі, а кухаркі—прыкмецілі. Было навіною, што яна не сядзела, як заўсёды, пры стале да канца абеду, не ўглядалася за кожнаю ложкаю кожнага дзіцяці, а сарвалася і, як каза, мерськанула на ганак. Тадора з Юзяю, носячы лаханькі кашы з пякарні на стол, перашэптваліся адна з другою. Паглядалі ў бок Саламеі, якая на гэты раз, замест абеду, прылягла на складанай караваці й прынялася чытаць, напэўна, ліст, і не абміналі ганку.

— Што-б гэта было?

— Цікава.

Гэта—да канца абеду, які зацягнуўся больш звычайнага. Рупела кухаркам ведаць прычыну, чаму сёньня Грыпіна Вядзерка зусім інакшая— і яны сьпяшылі памыць пасуду ды выйсьці на двор.

— Глядзі,—казала Тадора,—Саламея адна дзяцей укладае.

— Але, але.

---

Саламея Кублік усё яшчэ чытала ды перачытвала адзін і той-жа лісьцік. Гартала над галавою, шоргаючы паперай. Сонца прабівала шэрую паперу, і чырвоны атрамант сьвяціўся дробнымі рыскамі. Дзеткі спалі—ціха-ціха, як-то ў летні поўдзень сьпіць трава. Зрэдка выкажа іншае скрозь сон нявыразнае слаўцо і ізноў замоўкне. За вакном, у воддалі, на дзядзінцы чуваць гутарка—то прашлі цесьлі з абеду. Загукаў певень, і апошняе „ку“ заглушыў лісьцем кустоў. У пякарні, дзе на паложаных на козьлікі дошках сушацца лаханькі ды ложкі, шэрагам, пад роем мух, мушак і вос, нікога. Тадора і Юзя—не пасьпелі скончыць з пасудаю, як вышмыгнулі на двор. Зараз яны пачнуць гатавацца да вячэры—гадзін праз тры забегаюць па пякарні. А цяпер пашлі, каб пачуць, можа ёсьць якія навіны, паглядзець, куды пашла Грыпіна Вядзерка.

---

У самы абед прыехаў інспэктар соцвыху. Якраз тады павяртаў вазок да стайні, калі Грыпіна Вядзерка стаяла на ганку, пакінуўшы дзетак адных есьці кашу. Яна з ранку пачула, што ў колёнію маюць прыехаць на агляд. Бухгальтар праведаў і ёй давёў. Вось чаму сёньня яе трывожыла гэта і вось чаму абедаючы яна не зважала на якасьць стравы, а спакойліва, нядбайліва перакідалася словамі з кухаркамі. Трывожыла ня так баязьлівасьць перад начальствам, як цікавасьць—якое яно з сябе...

Грыпіна Вядзерка чула раней, што ў акрузе адбылася зьмена інспэктара. Як быццам-бы паставілі на месца ранейшага Мікалая Барбарука, яе знаёмага.

Даўнейшага, яшчэ знаёмага ад 15 году, з часу, калі яна спатка-лася з ім у Лідзе настаўніцаю двухклясавае школы. Барбарук быў падпаручыкам аднага з сібірскіх стралковых палкоў, які йшоў на фронт. Усё, як заўсёды, было выпадкова: і спатканьне, і знаёмства. Надта бягуча, а таму суха ды чэрства. Мэрам-бы, не заўважна для маладога, спраўнага афіцэра, перадя кім стаяла здань сьмерці і закрывала сабою для Барбарука ня толькі яе, Грыпіну Вядзерка, а і ўсё на сьвеце, нават бляск сонца. Сёньня зранку вобраз Барбарука—у форме афіцэра—затуліў ад яе тое, што дагэтуль яна бачыла. Чаму так нагальна? І так пякуча распаліла яе нутро? Ажно ня выпаўніла зранку двух нумароў програмы і на дзесяткі пытаньняў дзетак: „А гэта што, цётка, а чаму так, цётка"— не адказала. А стукнулі калёсы аб каменьні бруку—трэба было пачуць і выбегчы на ганак. Зьлез чалавек, мігнуў між ваччу па дарозе ў кантору колёніі, і ўваччу—стаіць Барбарук. Гэта толькі трывожыла Грыпіну Вядзерка.

---

Бачылі кухаркі, пасьпеўшы выйсьці на ганак, як Грыпіна Вядзерка стройнаю хадою, калыханкаю, прашла між вокан будынку, калісьці дому ўпраўляючага маёнткам, пана Драўлянскага, а зараз кантораю колёніі. Чаго ня было, а таму і не маглі ўбачыць—дапісалі: быццам яна зрабіла гэты манэўр знарочыста, каб пахваліцца сваёю постацьцю, каб кінуцца ў вочы начальству, быццам-бы йшла і ўсьміхалася, наватківала рукою.

Бабскімі плёткамі залілі ўсю сьцяжынку, ад будынку колёніі да рэчкі. Ябедна, упічліва, дакорна. Тайком перадалі некаторым асобам гэтыя свае думкі—каб мацней уразіць Грыпіну Вядзерка. А сапраўды— нічога такога ня было ў яе павядзеньні. Ня было, не! Грыпіна Вядзерка прашла між канторы колёніі не незнарок, не для дэмонстрацыі сваіх якасьцяй, а міжвольна, пад націскам крэпкага пачуцьця цягі да новага чалавека. Трэці месяц адна, калі ня лічыць Саламеі Кублік, зусім іншае па думках ды настроі. У глушы, сярод паплавоў, лясоў, поля. Вясною ды летам, калі ўсё цьвіце, буяе, калі столькі паху, хараства, любасьці,

калі, як ніколі, цяжка аднэй. Маладой. Дзяўчыне ў саку, як кажуць. З натураю, што нямерна любіць хэўру, грамаду, людзей.

Успомніла, як не хацелася выяжджаць з акругі, з якою кампаніяй расставалася. Але адказацца—ці-ж добра? Паехала. Абяцалі і таварышкі і таварышы прыяжджаць у госьці. Меркавалі ўладзіць маёўку. Але дзе ўсё тое? Забылася... ды ня ёй забылася. Яна глушыла ўспаміны і не давала волі думкам. Але што-раз, кожны дзень, нават некалькі разоў на дзень яе думкі пераносіліся ў акругу, бегалі там і па клясным пакоі і ў кватэрах таварышак і ў гарадзкім сквэрыку, па вузенькіх панэлях Савецкае вуліцы. Цьвіў бэз і какалуша, пукаліся сады, а зараз вось— расьцьвілі высокія лахматыя ліпы. Рої пчол пяюць сымфонію, розных пташак—мэрам-бы знарок хто наганяе на спакусу—нямоўчныя галасы. Жыцьцё—кіпучае, на вачох, у кожнай травінцы. Калі па каліву пераліецца ў тваю істоту, колькі хаценьняў, якое прагі набярэцца ў тваім сэрцы! Ці-ж можна ўлажыць яго ў рамкі, падпарадкаваць розуму? Грыпіна Вядзерка, як краскі да сонца, цягнулася да супольнасьці, да істоты, з якою-бы можна было падзяліць радасьць жыцьця.

Можа прыехаў часамі Барбарук? Прапусьціла думку гэту, паглядзеўшы на вакно ў канцылярыі коленіі, і пашла на рэчку.

---

Ці рэчка цякла, ці стаяла ў ёй вада на месцы—цяжка было разгледзець. Хоць-бы адзін паясок хвалькі, хоць-бы адна зарубінка, як то бывае на стромым цёку. Толькі плюхне верхаводка і пусьціць булбанку па ровені вады або муха з разгону парушыць яе смуглае шкло... Нясло парай, мэрам-бы ўсю рэчку запоўнілі цёплым лугам, толькі што вынятым з грубкі. Маніла рэчка ў сваю глыбіню, у аерную гусьцеч.

Грыпіна Вядзерка з стромага берагу, абрывістага пры вадзе, сачыла на воду. Думала. Пара, калі штодня купалася, прашла. Больш паўтары гадзіны. Але яна ня спынялася на думцы, каб на гэты раз прапусьціць заўсёдашні параграф праграмы.

Цягнула ў воду, а думкі, раз'юшаныя ўпяршыню за два месяцы, быццам-бы прывязалі яе да зямлі. Вось кіне трэсачку, паганяецца поглядамі за роўнымі кругамі вады—і зноў непарушна. Гэтак блытаецца клубок, калі ты яго незнарок асыплеш. Няма нідзе канца, а здаецца— кожная нітачка да яго вядзе: паспрабуй і абманешся. Так было з рашучасьцю ў Грыпіны Вядзерка...

Прышлося дачакацца тае хвіліны, калі раптам, мэрам-бы чужая сіла, штосьць стукнула ўнутры і падняло яе з зямлі. Тады Грыпіна Вядзерка шпарка разьдзелася і скочыла ў ваду. Засаб колькі разоў пераплыла рэчку, нырнула галавою ў ваду і выбегла да адзежы. У момант абцерлася, нядбайліва зусім, бяз увагі да загару—ці пабольшыўся,—што рабіла раз-у-раз—адзелася і пашла. Дзеці перанялі яе думкі і пацягнулі

яе погляды ў бок колёніі. У вочы лілося сонца, калі яна ўзіралася ў прагаліну ліп, ці не вядзе часамі дзяцей Саламея Кублік сюды, да яе. Як быццам-бы мятусілася штосьці, пярэсьцілася ў ваччу. Няўжо дзеці?

---

Саламея Кублік стрэла Тадору з Юзяю і запытала іх:

— Ці вы ня бачылі, куды пашла Грыпіна Вядзерка?

— Можа з начальствам дзе-колечы спацыруе.

Тадора ўсьміхнулася, а Юзя дадала:

— Мы бачылі, як яна праходзіла між канцылярыі, мэрам-бы салдат паўз генэрала.

Дзеці гулялі на палянцы, за садам. Дагэтуль ня было, каб гулялі адны, бяз Грыпіны Вядзерка, толькі з Саламеяй Кублік. Напэўна нешта здарылася. Саламея не баялася, што здарылася што-кольвечы благое, але дзеці паслалі Саламею праведаць пра цётку Грыпіну. Саламея мусіла пайсьці паглядзець на „той бок дому“. Сустрэла кухарка і запытала. А сама дагадвалася, ці не заснула толькі Грыпіна пакупаўшыся. Звычайная рэч. З якое рацыі ёй клапаціцца наконт рэвізыі! Падумаеш! Хваліцца ня трэба, а ў справе выхаваньня дзетак ды іх дагляду не падкапаешся. Калі ўжо Грыпіне Вядзерка папікнеш у працы, то трэба быць альбо злым, альбо выразна староньнім чалавекам—ну, не па справядлівасьці... Саламеі рупіла, каб ды тая рэвізія хутчэй—усё-ж цікава, бо напэўна яна дадатным кончыцца.

Хацелася памяняцца думкамі з Грыпінаю Вядзерка, ды вось— недзе дзелася.

Кухаркі згаварыліся паскардзіцца інспэктару на „непаразуменьні“ з боку кіраўніцы.

— Абы чапіў інспэктар нашае справы—трэба ўсё вылажыць наверх,—казала Тадора.

Юзя згаджалася:

— Абавязкова трэба выясьніць усё гэта.

— А баяцца—пляваць.

— Чаго ды каго баяцца? Усюды гэткую ласку знойдзеш. Бяды вялікай!

Прыезд інспэктара ўзьюшыў кухарак. Абедзьве думалі, што іх правяраць нечага, што ўся справа начальства аднясецца выключна да Грыпіны Вядзерка; яна—старшая, а кухарскае дзела—дзесятая вада на кісялі. Вось выявіць суадносіны між імі і кіраўніцай—гэта сьледуе.

— Толькі адно,—сумнявалася Тадора,—ці захоча інспэктар лезьці ў нашу справу?

— Хто яго ведае,—не давярала і Юзя.

— Думаеш, гэта вітлюга завабіць да сябе інспэктара і ўвесь час змурзае.

— То напэўна. Бачыш, як хітра павяла сябе. А інспэктару што трэба...

— Паглядзі—хлопец!

Яны йшлі гатаваць вячэру. Ня думалі, ці ёсьць у пякарні дровы, ці старчыць крупы. Не клапаціла гэта кухарак. Займалі навіны дню. І калі ў руках адчулася пасуда, а перад вачыма—кацёл, то рукі міжвольна, несхаць перабіралі кожную рэч, якая ў іх пападала. Як-бы само сабою йшло варыва. Ні Тадора, ні Юзя не клапаціліся аб тым, як зварыцца каша. Не хацелі думаць, што лішняя муха ў місцы, на адзін процант больш падгару—як небясьпека за спакой вырасьце ўтройчы.

— Глядзі ты, ці ўжо ня сышліся яны.

— Ты думаеш?.. А...

Юзя не дасказала, бо раптам між акна прашла Грыпіна Вядзерка. Хутка. Заклапочана. Кухаркі заварушыліся, змоўклі, занялiся лаханькамі, нажамі.

Грыпіна Вядзерка прышла ў пякарню няпрыкмечанай з іх боку.

— Тадора,—пазвала першую кухарку,—можа-б сёньня інспэктару крыху смачней зварылі? Можна?

— Адкуль яго ўзяць, Грыпіна Якаўна!

— Няўжо такі ў вас нельга вылучыць лішняе скварачкі?

— Вы-б даведаліся, колькі даюць нам на гэтыя скварачкі!

— Я ведаю... Але інспэктар-жа... так нельга, абы... як-небудзь вымеркуйце, Тадора. Абавязкова...

І пашла.

— Ізноў каманда? Гатова запрагчы ў воз...—не здаволілася Юзя.

— Абы чапіцца...

— Каб яна пачапілася на асіне... Падумаеш, скварачкі! Ласы на гэтыя скваркі, нябось, а даюць—людзям на сьмех.

— То-та і ёсьць... Адкуль ты яе возьмеш?..

— Няхай сама будзе за падкрасу...

Кухаркі ліхамысна зарагаталі. Рэхам аддаўся іх рогат па сталовай, праляцеў у двор. Ажно саміх перапалохаў, і кухаркі адначасна затулілі раты фартухамі... І суцішыліся... суцішыўшыся, перамовіліся шэптам.

— Хаця-б не пачула.

— Можа яшчэ не пасьпела выйсьці.

Юзя падбегла да дзьвярэй з пякарні ў сталовую і асьцярожліва паглядзела направа ды налева.

— Няма нікога,—шапнула Тадора.

— А каб і чула, то што яна нам зробіць?

— Харкаць на яе...

У катле кіпела вада, паднімаючы высокі каўпак шуму. Палалі смалякі ў печы, і куравыя языкі полымя лізалі чорную сопуху коміну.

---

Дзеці гулялі ў ката і мышку. Колькі сьмеху і радасьці было ў іх! Крычалі, бегалі адно за другім, вязалі рукамі кола, разрывалі яго. Адны ў каўпакох з казакоў ды курасьлепу, другія ў шапках з лістоў конскага шчаўя, трэція ў вянкох з канюшынавых смактушак, з цюцюпану, з крывянак. Саламея Круглік камандавала гэтым роем шалуноў, ушчувала непаслушных, гразілася на мудрагеляў, суцяшала пакрыўджаных. Пад высокімі ліпамі насіўся рэзкі голас.

Ніводнае дзіцё ня прыкмеціла, калі падышла да палянкі Грыпіна Вядзерка. Яна спынілася ў разоры, зьлёгку затуліўшы сваю постаць лістамі шчавельніку. Цешылася рэзвасьцю дзетак, умілялася іх бесклапотнасьці... Многія без бацькоў, бяз родных; што іх чакае ў будучыне?

Посная аднастайная яда, бруднаватыя пасьцелі, саламяныя падушачкі—хоць-бы што! Вось сонца ды трава, вось чыстае паветра ды кампанія... Сёньня, цяпер а заўтра?.. Аднакія пытаньні з дзесяткаў вуснаў: ці сьвеціць сонца? Шустрыя вочкі, толькі паднімуцца вейкі, кідаюць узрокі ў вокны. Гарбата—між іншым. Нямытымі, неадзетымі, толькі паднімуцца з пасьцелі—на двор. Не сабраць да сьнеданьня, ня прымусіць пяці хвілін аддаць на мыцьцё. Якая глыбіня жыцьцёвых праяў! Які імпэт жыцьця!

Грыпіна Вядзерка захапілася думкамі і не ўважала, дзе, чаго і навошта яна стаіць. У вачох мігацелі дзеці. Усё роўна—нібы-то праляталі вераб'і ці вароны. Таксама—стварэньні крыклівыя.

Але раптам яна ўбачыла, як гуртам, навыперадкі дзеці панясьліся да яе. „Цётка Грыпіна! Цётка Грыпіна! Цётка Грыпіна!" Зашамала лісьце шчавельніку, працягнулася капа ручак да яе постаці. Як пчолы калоду, абляпілі яе дзеці з усіх бакоў. Распытвалі, дзе была, звалі гуляць, падавалі вянкі, каўпакі, дубчыкі, лісткі.

---

Ці-ж трэба большае атэстацыі для настаўніцы, як агульная любасьць да яе з боку дзяцей? Інспэктар бачыў гэту сцэну і адчуваў яе сэнс. Ажно спыніўся сярод сьцежачкі ў садзе, ідучы да дзяцей. Пастаяў, паглядзеў некі час і падышоў да Грыпіны Вядзерка, калі тая заняла дзяцей казкаю. Дзеці сьціхлі, разявілі раты і слухалі настаўніцу. Інспэктар пачуў апошнія словы казкі, прыпыніўся моўчкі—няхай настаўніца канчае. Кіўнуў рукою, каб Грыпіна Вядзерка ня смуцілася перад ім... Ды куды-ж там было! Зьмяніўся настрой—зразу прысох язык, заблутаўся ў роце.

— Дзеткі, сёньня ўжо годзе,—праказала Грыпіна Вядзерка дзецям.

— Добра, добра, добра...—панясло́ся некалькі дзесяткаў галасоў.

Інспэктар павітаўся з малымі, запытаў некалькіх, як і што яны жывуць, ці весела ім, ці хочуць у горад, ці не галодныя. Дзеці адказвалі, пазіраючы на настаўніц. А настаўніцы глядзелі на інспэктара.

І Грыпіна Вядзерка, забываючы рачаіснасьць, паднімала ў памяці вобраз Барбарука. Перабірала драбнейшыя рыскі яго твару, азірала постаць, выглядала колер вачэй. І Барбарук—і не Барбарук. Ня гэткі роўны, здавалася, як быў тады. Бяз вусоў. Заўпалыя шчокі. Задуменнасьць. Раскудлачаныя валасы—замест гладка прычэсаных, з прадзелам на левым баку галавы. Вальнейшыя рухі, вялыя і ціхія... Але нос—той самы, да каліва падобны; але вочы—яго; мягкі, плаўкі погляд—быццам мошастам павядзе па твару, глянуўшы. Столькі гадоў! Век!

Запытаць?!

Цяжка рашыцца. Ці ёмка вось гэта, зразу, пры першым спатканьні? Замест сур'ёзнае гутаркі аб справе—пра асобу.

Што падумае? Як паглядзіць Саламея Кублік?

Не! Ні зашто! Трэба ўстрымацца. Трэба!

Грыпіна Вядзерка пусьціла ў ходу ўсю сілу волі, ажно тупнула нагою, цепанула плячыма. Апусьціла вочы, каб не глядзець узапой, каб нават ня даць выгляду, што зацікаўлена ім, інспэктарам, як мужчынам, а не начальнікам.

— Дзеткі,—перабіла іх цікавасьць да інспэктара,—пара да дому; там ужо, напэўна, вячэра гатова. Пойдзеце?

— Гэй, у шэрагі!—падаў адзін хлапчук, і хутка дзеці вывелі выгінастую ўстужку з сваіх фігурак. Саламея Круглік падраўняла іх, прыгразіла, каб яны не мудраваліся і праказала да Грыпіны Вядзерка:

— Я хіба адна іх завяду,—а вы...

— Калі ласка.

— Дзеткі, айда наперад! Разьвітайцеся з дзядзькам інспэктарам.

— Бывайце здаровы! Дабранач! Бывайце-э... Дзядзька інспэктар!

---

— А ў вас тутка добрае месца! Сад, рэчка! Лес недалёчка.

— Нудна, таварыш інспэктар. Дзіч.

— Няўжо-ткі вам нудна?

— Ня верыце?

Яны прашлі вакола палянкі. Грыпіна Вядзерка паглядзела на інспэктара і, наважыўшыся штосьці запытаць, абарвала на слове. Пачырванела ад няёмкасьці.

— Сьмялей, сьмялей,—падбадзёрыў інспэктар.

Куды-ж аднеквацца далей? Грыпіна натужна засьмяялася і рашыла:

— Выбачайце. Я не пачула вашага ймя.

— Не пачулі?

— Сапраўды.

— Маё ймя—Мікалай.

— Скажэце, вы часамі ня той Барбарук, які ў 1915 годзе быў падпаручыкам аднаго з сібірскіх палкоў?

— А вам як здаецца?

— Мне цяжка рашыць: падобны вельмі.

Інспэктар памаўчаў крыху, пасьля запытаў:

— А як вы мяне ведаеце?

— Ліду помніце?

— Ліду?.. Вы былі настаўніцаю?.. Чуць-чуць прыпамінаю... У пятнанцатым годзе, вясною...

На гэтым тэма вычарпалася, хоць у абоіх было жаданьне перайсьці да ўспамінаў, да апісаньня прыватнага жыцьця на працягу мінуўшых дзесяці гадоў. Але і Грыпіне Вядзерка і інспэктару паказалася, што іх гутарка перашла не на той шлях, як трэба, што й першае перамаўленьне занадта было звычайным, абітым манэўрам—каб можна было разварочваць гэту тэму далей.

Барбарук вярнуўся да спраў колёніі.

— А я, прызнацца, і ня прымеціў, дзе-ж ваша вывеска?

— Зьнялі, таварыш Барбарук. Была набіта на браме, пры ўезьдзе, а зараз мы хочам перанесьці на будынак.

— Чаму гэта? Баіцёся людзей?

— Гэта наш бухгальтар закамандаваў. Ён у нас адміністратар і распарадчык.

Барбарук засьмяяўся.

— У вас зусім ня нудна, як я бачу.

Грыпіна Вядзерка пачырванела.

Яна ня цікавілася вывескаю і, нават, прыпамінае няўверана, што гэткая была. Не разумела, чаму прыпляла бухгальтара: можа хто ёй сказаў. Стала раздумоўваць...

— Кіньце, таварыш Вядзерка—заўтра выясьнім. Мне, вядома, цікава ня вывеска, а становішча колёніі і матэрыяльнае, і з боку выхаваньня дзяцей. Як у вас з гэтым?

— З боку выхаваньня—заўтра пабачыце, а з матэрыяльнага боку—цяжкавата. Сяк-так перакідаемся. Сонца і паветра—замяняюць многае з таго, чаго не хапае...

— Вялікая рэч—сонца! З мілаю ахвотаю падзяліў-бы вашу долю.

— Вам так здаецца.

---

Дзеці ўлажыліся спаць. Гоман сьцішэў. Моўчкі варушыліся на ложках непрыапранутыя галоўкі. Ад саду прычынілі акяніцы. У пакоі пацямнела. Саламея Кублік адшукала маленькую лямпачку і засьвяціла агонь. Куравае, прышчэрбленае шкелка сьцірала і тую зыркасьць сьвятла, на якое мела сілу лямпачка. Па кутох калыхаўся змрок. Доўгі стол кідаў у два разы даўжэйшы цень. Кухаркі выцерлі кухню, памылі пасуду і вышлі. Выходзячы, несхаця мармынулі разьвітальнае слова. Саламея не дагадалася аб тым, ці прыгатавалі яны што-колечы для інспэктара. Пры-

помніла, калі Тадора з Юзяй ачуліся на дварэ. Тады сумелася сама перад сабою і выбегла з памяшканьня.

— Тадо-ора!—пазвала.

— Чаго табе?—пачула з-за вугла будынку голас Грыпіны Вядзерка.

Яна йшла з інспэктарам у памяшканьне. У Саламеі справа раскідалася.

— Мне была патрэбна Тадора!

І калі Грыпіна ўзышла на ганак, а інспэктар крыху адстаў, Саламея падшапнула:

— Я наконт вячэры госьцю.

— Ага! То й праўда. Кухаркі пашлі?

— Пашлі.

Грыпіна Вядзерка зьвярнулася да інспэктара:

— Таварыш інспэктар, адну хвіліначку пачакайце на ганку. З Саламеяй Кублік.

— Калі ласка, таварыш Вядзерка.

Саламея заняла інспэктара гутаркаю пра колёнію, пра яе жыцьцё, пра яе матэрыяльны стан. Інспэктар даваў ёй цэлы шэраг пытаньняў, спраўляўся падрабязна, як і што йдзе праца, як папраўляецца здароўе дзетак.

А ў гэты час Грыпіна Вядзерка зьбегала ў пякарню, наведала да бухгальтара і сяк-так састроіла вячэру з каўбасы з хлебам, з сыру, з яешні ды гарбаты; дастала кіслага малака гладышык. Прынясла ад бухгальтара два падламаных крэслы, ахаяла каморку. З некай няёмкасьцю падбегла да інспэктара з Саламеяй і пазвала:

— Прашу на шклянку гарбаты. Чым хата багата.

— Дзякую. Навошта было вам турбавацца?.. Эх, гэта начальства!..

— Буду мець вялікую прыемнасьць, калі не адмовіцеся. Зойдзем, Саламея.

Саламея ад сябе запрасіла інспэктара.

— Вы ўжо не пагарджайце.

Яны пашлі.

---

Ноч глядзела на зямлю мільёнамі зор. Чорны полаг яе туліў надворак. Праз адчыненае акно падаў смуглы жоўты промень на мяккую мураўку. Ціха шыпеў самавар. Некалькі хвілін ня чуваць было жаднага крыку, ні гуку. Пасьля дзесьці падала свой голас сава. Па гасьцінцы затарахцелі калёсы падводы. На іх стук адазваўся зацяжным брэхам сабака. Яшчэ нечы крык умяшаўся ў гэта. Гоман стаяў каля дзесяці хвілін...

А калі крыху ацiхла, інспэктар пачаў гутарку.

— Мне падабаецца гэта.

Грыпіна Вядзерка не згадзілася.

— Вы, таварыш інспэктар, толькі суцяшаеце нас.

— Даю слова.

— Як каму,—уставіла Саламея Кублік, наліваючы гарбату ў шклянкі.

— З першага разу можа ўпадабацца.

— Толькі ня гэта,—стаяла на сваім Грыпіна Вядзерка.

Пры гэтым яна сарамліва затуляла сабою бедна засланы драўляны ложак. Няўпрыкмет для Барбарука прыкрыла голыя берагі шарачковага матрацу. Асьцерагалася, каб не таўхануць чуць-чуць стаяўшы стол.

— Столькі паху! Я за сёнешні дзень паздаравеў на год. Ліпы, канюшына, грэчка, краскі.

— Гэтага хапае.

— А чаго вам больш трэба?

— Адны мы, таварыш інспэктар.

Грыпіна Вядзерка ўлажыла ў гэтыя словы ня толькі праўду, а і спагаду. Яна не хацела паказаць Мікалаю Барбаруку голы факт, а выказала тым сваю радасьць да яго прыезду.

— Паху—пагэтуль,—правяла рукою пад падбародкам,—і таму, што вельмі багата паху, мы задыхаемся ў ім, не з кім яго падзяліць.

Барбарук паглядзеў на Грыпіну вокам далёка ня інспэктарскім. Але ўспомніў акругу, вуліцу Троцкага, дом № 6, кватэру трэцюю. Ці ўжо ў гэты час вярнулася дамоў Тацяна?

— Дык ежце, Мікалай Рыгоравіч... Можа-б малака вам?—пытала Саламея.

— Калі ласка—не клапацецеся. Навошта ўсё гэта.

— Ня думайце, што мы нагэтулькі бедныя, каб і малака не дастаць...

Барбарук паглядзеў на каморку.

— Няпрытульная, скажаце?

— Баюся, каб не разысьціся з рачаіснасьцю.

Інспэктар засьмяяўся.

— А як жылі ў 1920 годзе?

---

Тадора з Юзяю сядзелі на лаўцы пры сьвіронку. У двары ня было больш нікога. Будынкі выдзяляліся чорнымі плямамі ў шэрані ночы. Ні ў адным—сьвятла. Толькі з трэцяга акна колёніі—жоўты промень.

Туды, да яго, прагліся ліхамысныя погляды кухарак. Вакол тых, хто сядзеў за вакном, ішлі шэпты. Віўся загавор, якому-бы дай сілу—сьвет перавярнуў-бы, хоць асяродак яго сходзіўся ў тым-жа будынку, шасьцю вокнамі ўлева.

— Не казала я табе?—шаптала Юзя.

— Сышліся, як належыць.

— Гэта, лічыцца, іх справа. Прыехаў на рэвізію, а папаў...

— Вяртуха гэтая ўсякага с панталыку саб'е.

— Я заўтра перайму яго на дарозе і не адпушчу, пакуль ня выкажу ўсяго.

— А думаеш, ён слухаць будзе?

— Тады можна на яго скаргу паслаць...

— Дастукаешся ты, пахвалішся.

Абмывалі Грыпіну Вядзерка памыямі. Не шкадавалі й Саламеі Кублік. Інспэктар у кухарак—ні да чога не гадзіўся. І Тадора і Юзя толькі адны былі дбайцамі аб дзецях, аб колёніі, чуць не аб усёй асьвеце ў акрузе. Іх языкі кранулі спалком, начальніка міліцыі, Наркамасьветы. За апошняга кухаркі наймацней учапіліся. Сталі комбінаваць, меркаваць, выдумоўваць, як і што дайсьці да гэтае асобы, каб расказаць яму сваю крыўду і настаяць на перамене кіраўніцы—Грыпіны Вядзерка.

Навошта гэткая, калі ім, нізавым работніцам, спакою не дае, чапляецца за ўсякую дробязь.

А сама—толькі й ведае, што з інспэктарамі балавацца. Ёй дзеці—хай прападаюць. Ці-ж мала ў гэтым доказаў яе нягоднасьці?... Там, у Менску, мусяць прыслухацца да іх голасу... А сёньня яны прыпільнуюць... Агеньчык не здарма за поўнач сьвеціцца... Во, там...

Кухаркі хвілін з пяць не глядзелі на сьвятло ў акне і калі паднялі ўзрокі—то ўбачылі, што сьвятла няма.

Тадора штурханула Юзю—і абедзьве падняліся.

———

Саламея Кублік пакінула ў Грыпіны Вядзерка Барбарука аднаго. Заенчыла дзіця—і ёй трэба было пабегчы справіцца, у чым рэч. Замарудзела і не вярнулася. Чаго-ж, павячэралі, а мала што можа цікавіць інспэктара пытаць у кіраўніцы? Яна, Саламея, другая сьпіца ў калясе... Ды, апроч таго...

Кожны раз Саламея Кублік скардзілася на сваю долю. Грыпіна Вядзерка мае болей ад яе шансаў перад мужчынамі. Нельга адказаць у Грыпінінай здатнасьці, у васабліва ўмелым падыходзе да іх, ва ўсім строі яе постаці... Саламея ўжо пераканалася ў гэтым. Грыпіна цягне да сябе мужчын, як магнэс—голку... Завісьліва Саламеі, але Грыпіна Вядзерка невінаватая, не... У даным выпадку ясна, што адносіны паміж інспэктарам і Грыпінай ня сёньня пачаліся... Нездарма Грыпіна даведалася пра яго ймя. У гутарцы з ім заходзіць да сяброўства. Аднаго і другога цікавіць мінулае ў прыватным жыцьці кожнага... Грыпіна—глядзеце—як уважліва праслухала Барбарукову аповесьць з пачатку да канца.

Зьнедаволілася, калі Барбарук крануў сваіх сямейных спраў... Перамянілася... Зьнедаволілася—гэта відаць хоць-бы па тым, што сьпярша Грыпіна вынаходзіла месцы, дзе-б яго палажыць спаць, а пасьля згадзі-

лася, каб інспэктар пашоў да бухгальтара... Наперакор... Цудная, аднак! Варта ёй узьнімаць мінулае! Навошта затуляць ім сёнешняе. Усё-ж Барбарук—начальнік. Прыехаў з службоваю мэтаю... Вось ня ўгодзіць і выйдуць іншыя скуткі. Абмовіцца лішнім словам у вакрузе—і няпрыемнасьць... Няхай-бы ўжо ўладзіла з начаваньнем... У прыгрэбіцы—канюшына-ж ёсьць...

Думалася Саламеі Кублік, што будзь-бы на яе, не зрабіла-б па-грыпінінаму. Але, наогул, яе гэта менш усяго датычыць... Мажа заўтра перайначыцца?

— Ш-ша-а, дзеткі, сьпеце.

Прылягла сама і заснула, не пачуўшы, калі выходзіў ад Грыпіны Вядзерка інспэктар, Мікалай Барбарук.

---

— Ведаеце, Мікалай Рыгоравіч, як я рада, што вы прыехалі да нас! Трэці месяц бяз новага чалавека. Гэта-ж з розуму можна зысьці! Слухаць палявую цішу, дзень-у-дзень, ноч-у-ноч—адно і тое-ж. Вось гэтак, нібы трымаеш у руках дошчачку—з аднага боку чорную, з другога—белую, і варочаеш перад вачыма. Днём—бела, ноччу—чорна... Вы скажаце, што днём пташкі пяюць, сонца, бурліць рэчка каля заставак... Зелень—ну, і пах, прастор. Але-ж ён адзін-аднакавы! Бачыш—неабмежны, аісьці няможна... Памойму—лепш сядзець у чатырох шчыльна зачыненых сьценах...

Грыпіна Вядзерка спавядалася перад Барбаруком упоцемку, калі згасла лямпа. Не хапіла газы, і Грыпіна Вядзерка балюча хвалявалася, падкручваючы кнот. А вось хопіць, а вось яшчэ хвілінку пагарыць. Але кнот не згаджаўся гарэць сухім. Пасьмяецца Мікалай Рыгоравіч і падумае: „Якія нядбайныя дзяўчаты“.

Дагадвалася Грыпіна Вядзерка, што справа павінна так пайсьці, сама-ж дапускала месца палахліваму жаданьню: няхай сабе тухне. Патухне лямпа, а яны ўдваіх—хто перадугледзіць розныя мажлівасьці?

Каму, сапраўды кажучы, патрэбна цьмянае курава мізэрнай лямпачкі? Усе сьпяць—толькі зоры калышуцца ў небе.

Але якавы думкі таварыша інспэктара? Ці не ашукваецца яна ў сваім разьлічэньні? Няўжо, Мікалай Барбарук, дарэшты забыў пра свае інспэктарскія мэты і стаў чалавекам, які выпадкова апынуўся сам-на-сам з Грыпінаю Вядзерка, калісьці выпадкам напатканай? А мо' Барбарук гэткім манэўрам яе выпрабоўвае толькі? А мо' яна, паддаўшыся жаночаму пачуцьцю, пападае ў крэпкае сільлё?

Няпэўнасьць, заўсёды трапяткая, зьвязаная з адчуваньнем, прыемная рэч, калі за ёю не стаіць разувер'е. Што прывядзе яна ў даным выпадку?

Грыпіна Вядзерка не пасьпела ні на чым спыніцца, калі лямпа стухла. Малюпаткі пакоік, мэрам-бы кінуўся ў якуюсь чорную прагаліну, і перад ёю, міганулі каляровыя колы. Разьняліся, пацямнелі і згінулі...

— Даруйце, — усяго і выказала Грыпіна Вядзерка.

Барбарук яе заспакоіў. І як сядзеў на паламаным крэсьле, гэтак і астаўся сядзець. Аб тым, кабісьці — не заікнуўся. Тады толькі Грыпіна Вядзерка пасьмялела, абнадзеілася і ськеміла, што многа лішніх думак прапусьціла ў галаве... Ня варта было... „Ці-ж на ўсякую дробязь"... Яна з гэтага хацела вывесьці, што над многім чым лішне хвалявацца. Але тут-жа адказалася ад гэткага рашэньня. Прайшло з пяць хвілін, а яна ня ведала, што далей рабіць: ці стаяць на адным месцы, нярухома, як захапіла яе цем, ці прысесьці. Ізноў гатова выйсьці няёмкасьць, ізноў — гаданая рэч. Тым болей, што на другі раз цяжэй прыплесьці выпадак... Інспэктар выручыў — хацеў паправіцца на крэсьле і пахіснуўся. Незнарок, у поцемку, працягнуў рукі і злавіў Грыпініну фігуру.

— Даруйце.

Грыпіна Вядзерка прытрымала Барбарука за руку і сьледам-жа прысела каля яго, ня прымаючы свае рукі з яго калень. Праз хвілю, другую стала спавядацца інспэктару...

---

— Вы дарма сумуеце, таварыш Вядзерка!—разважаў Барбарук.— Вы гэтак добра выглядаеце, што на вас міла паглядзець... Ад вас нясе кіпучым маладым жыцьцём. Сонца і зелень—напаўняе вашу істоту... Гэта дала вам колёнія... Не абмыляюся, калі скажу, што вы напалову паздаравелі проціў ранейшага. Як мне помніцца—вы былі худзенькай, блядою. А можа я няясна сабе прадстаўляю вас?

— Так, я паправілася... Я адчуваю сябе на столькі моцнаю, на столькі здаровою, што недзе дзявацць здароўя... Так, так. Недзе дзявацць здароў'я. Вайду гэта ў лес і здаецца, хвоі вырывала-б... Я хварэю ад здароў'я... Паверыце?

— Не расказвайце—мне страшна робіцца,—пагіранізаваў Барбарук. А памаўчаўшы дадаў:

— Дзіва адно: скардзіцеся на тое, што сумна, што дрэнна забяспечаны з матэрыяльнага боку, а тым часам...

— Вось-вось... і самой мне дзіўна ўсё гэта. Ядою нельга пахваліцца—крупнік ды каша, каша ды крупнік... няўдала звараныя к гэтаму.

— Усё-ж, я спагадаю вам, цётка Грыпіна. Каб я быў нежанаты, каб меў болей волі, я-б ахвяраваў месяц-другі на жыцьцё ў колёніі...

— Вы не жартуйце, Мікалай Рыгоравіч... Я вам кажу праўду... Каб гэта яшчэ ды ня дзеці—звар'яцела-б. А то—дзеці выручаюць... Люблю дзяцей... Так люблю дзяцей, што няма слоў выказаць гэта... не хвалюся перад вамі, таму што вы начальнік мой, не... Але вам не падшукаць гэткае, як я, другое... не падшукаць, Мікалай Рыгоравіч... Для мяне дзеці—вобраз жыцьця, бесклапотнага, вíруючага жыцьця, да якога мяне таўхае некая невядомая мне сіла...

— Мне казалі пра вас... Ды я ўжо бачыў, калі вы расказвалі дзецям казку. Малыя глядзелі на вас з гэткаю ўмільнасьцю, як глядзяць анёлы на мадонну—на карціне Рафаэля... Так, так...

— Вы ня лісьцеце мне... Вы ўсё-ж... заядлага мужчыну... мужчыну, кажу вам, малюеце з сябе.

— Ці-ж тое дрэнна, павашаму?

— Го, не... Ці-ж бяз гэтага мажліва тое хараство ў жыцьці, тая радасьць існаваньня, што запаўняе нашу істоту... Я... я скажу вам... бессаромна, адкрыта... ці-ж мы дзеці?... Мне так хочацца мужчынскае кампаніі, прысутнасьці іх усюды й заўсёды, пара ў пору, гэтак па гадзін дзесяць у дзень... Ня ведаю чаму, але ў апошні час іменна абурае мяне гэтае пачуцьцё... Можа-б тады мае здароў'е пашло-б на карысьць, можа тады-б іншым зьместам напоўнілася-б мае сэрца... А цяперака? Рука інспэктара мімавольна каўзанула па Грыпіным плячу і, здавалася Барбаруку, бязвольна прыліпла да яе мяккага цёплага цела,—але Грыпіна Вядзерка нашла ў гэтым прычыну, каб пахіліцца да інспэктара, і ў момант яе галава апала на яго плячо... Барбарук не паварухнуўся... Мэрамбы разлічваў сваю чыннасьць на бліжэйшую хвіліну.

— Ах, Мікалай Рыгоравіч, прашу выбачэньня, я й забыла, што вы жанаты, што ваша жонка ў гэты момант... думае аб вас нешта іншае, лепшае, чым...

Грыпіна Вядзерка ў момант выпрасталася на крэсьле, не аддаючы сабе адрахунку, чаму і што гэта робіцца; пасьля праказала:

— Дык вы, таварыш Барбарук, пойдзеце спаць на канюшыну? А як з ключамі?

Барбарук нічога не адказаў і падняўся з крэсла.

---

Кухаркі падышлі да ганку ў той момант, калі стукнулі дзьверы і Барбарук пераступіў парог з памяшканьня. Тадора з Юзяю перапалохаліся дашчэнту, брусамі пападалі з боку ганку і прытаіліся. Ї надало-ж ліха! Апоўначы пад дзьвярыма! Абедзьве ціснуліся к ашарпанаму таркаваньню сьценкі, затойвалі дых, душылі пазывы да кашлю і калаціліся, як у трасцы. З няцерпам чакалі, калі пераступіць інспэктар ганак і адыдзе крокаў пяць-дзесяць ад будынку. Тады яны паўзком аддаляцца за рог будынку і праз сад схаваюцца да сябе ў кватэру. Але Барбарук вышаў на ганак і стаў. Прашло даўжэразных пару хвілін і сьледам вышла Грыпіна Вядзерка. Ї вось замест таго, каб ісьці ўдваіх, інспэктар і кіраўніца затупалі на адным месцы і перашлі да гутаркі...

— Я вас правяду, Мікалай Рыгоравіч,—набівалася Грыпіна Вядзерка.

Інспэктар далікатна адгаворваў: цёмна, аднэй няёмка ды страшна хадзіць па надворку, да гэтага ён сам ведае, дзе паветка, умовіўся з бухгальтарам, як і што адкрыць, як з сярэдзіны заперці.

— А можа вам непаслана?

— Пераначую...

Грыпіна Вядзерка ўглядала ў словах Барбарука памсьцівую холаднасьць; прыпісвала гэта таму, што няўдала абышлася з ім... І вельмі жадалася ёй адкупіцца за сваю няёмкасьць... Чым? Хоць чым.

Каля дваццаці хвілін гутарылі Барбарук з Грыпінаю—для кухарак паказалася вечнасьцю.

Адлежалі бакі, не хапала сьцерпу ляжаць і кожная па сабе парываліся падняцца і бегчы ад ганку. Але сполах перад тым, што на іх паглядзяць, як на якіх злачынцаў, паднімуць гвалт, нагоняць і тады прыдзецца сьвяціць вачыма,—сполах перад гэтым супыняў кухарак. Яны натужваліся да апошняга, крапіліся і ляжалі.

Кожны момант рабіўся для іх доўгім кавалкам часу, якому ня відаць было канца. Тадора злавалася на сябе самую і разам на Юзю—чаго іх пагнала нялёгкая на гэткую справу. Юзя згубіла ўсякую цікавасьць, якая гнала яе ўвесь дзень падглядаць за Грыпінаю. Абедзьвюм—Грыпіна Вядзерка стала самым лютым ворагам, чалавекам, які сабраў ва ўсім сьвеце ўсю бяду і няшчасьця ды абрынуў іх на кухарак.

Каб яны прымелі — жыўцом праглынулі-б яе... Але папалі ў гэткі стан—што ні так, ні гэтак, ня тое й ня сёе... Кухаркі са злосьці скрыгіталі зубамі, раздражняліся няўмеру, вось-вось будучы ня ў моцы сутрымацца і выдаць сябе... Тадора зарухала і скрабанула чарапком аб камень.

Можа і ціхутка, але ёй здалося, што Грыпіна Вядзерка з інспэктарам пачулі... Гэта надало большае сьмеласьці, і Тадора працягнула ногі ды кранула Юзінай галавы.

Юзя шэптам пераняла таварышку... Мажліва—мінула-б адна хвіліна, як кухаркі сябе выдалі-б... Але на ганку затупалі зразу чатыры нагі: інспэктар з Грыпінаю Вядзерка сышлі з ганку і накіравалі ўправа...

Кухаркі, як шалёныя, усхапіліся на ногі і далі драла. Павяртаючы за рог будынку, яны нарабілі стуку, разьбіўшы якуюсьці пасуду.

— Цішэй!—пераняла Юзю таварышка.

У садку абедзьве прыпыніліся, адсапліся і рашыўшы на тым, што ўсё-ж яны Грыпіну ўлічылі ў праступку, пашлі да хаты.

---

— Дабранач! Ня бойцеся, ніхто вас ня ўкрадзе...—Грыпіна Вядзерка міжвольна падняла ўгору руку, хочучы паслаць паветраны пацалунак, але раптам рука затрымалася ў нявыразнай позе, а пасьля апусьцілася. —Прыемных мараў,—пажадала Барбаруку і адышлася на адгон, каб быць мала ўбачнай; сама прыглядалася, хочучы прыкмеціць ці не азіраецца інспэктар. Няўжо ён, як каразьлівая дзяўчына—так злодумны? Альбо ня лічыцца з абставінамі?.. Не хацела згадзіцца Грыпіна Вядзерка, што яна адна супроць аднаго, што навакола нікога-нікагусенькі...

А ліпы так пахнуць, гэтак урачыста сьвецяць зоры, і так смачна ўсе сьпяць!.. Яшчэ ня было ў жыцьці Грыпіны Вядзерка гэткага моманту. Колькі помніць—ні разу, ні разу.

Скрыпнулі дзьверы ў паветцы, бразнула клямка, стукнула штосьці аб нешта іншае, мэрам-бы паленам па пустой бочцы... Гэта ўзварушыла цішу, разьняслося далёка ў бакі. Грыпіна баялася, каб ніхто, апроч яе, не пачуў. Думала, а мо' знарок Барбарук зрабіў гэта. Мажліва яго манэра такая, выпрабаваць. Ліха іх ведае, мужчын, на якія яны хітрыкі пускаюцца... Чамусьці гэтыя дагадкі Грыпіне паказаліся грунтоўнымі, ажно яна асьцярожліва, затаіўшы дых, зрабіла некалькі крокаў у бок паветкі... Стала на пальчыках, выцягнула голаў наперад і настаражылася... Але ўсё маўчала, маўчала...

Пасьля рашуча кранула з месца і цьвёрдым крокам пашла к будынку, у які схаваўся інспэктар... Прыглядзелася—вароты зачынены. Было ясна—Барбарук пашоў і лёг спаць. Было ясна—яна папала ў нямiласьць. Было ясна—яна пакрыўдзіла інспэктара... Але чым, чым, чым?—Бестактоўнасьцю. Грыпіна Вядзерка са злосьці скрывіла твар, затупала на адным месцы і выразным шэптам прамовіла:

— Якая-ж я дурніца! Што мне да таго, калі ён жанаты... Дурніца я, дурніца... Гэта-ж начальства, інспэктар, чалавек амбітны, а я... Не, нельга, каб ён з крыўдаю на мяне заснуў...

---

Гэта-ж была ноч, ужо позьняя ноч. Была ноч на дзіва спакойная і цёплая-цёплая, нават душная. Рабілася цяжка сапці. Няўжо гэткая ноч нікому ня цікавая? Альбо ёсьцека людзі, што на іх ня ўплывае ніякае хараство?.. Або ёсьцека людзі, якім не патрэбна гэтае хараство?

Грыпіна Вядзерка прытулілася да варот паветкі, прыслухалася. Ёй хацелася пачуць, ці сьпіць Барбарук, моцны ці не яго сон... За варотамі нешта шарпела, шамала. Не разабраць—сапе інспэктар ці не. Нешта шаптала Грыпіне Вядзерка на вуха, што Барбарук ня можа спаць. Ёй хацелася верыць гэтаму шэпту. Бо' чаму-ж не паверыць, калі не павінна быць, каб мужчына... каб мужчына баяўся кабеты... Ня можа быць, каб яго холаду не распарыла гэткая цёплая ноч... Жывуць-жа людзі і на далёкай поўначы... Мажліва з ім, Барбаруком, што колечы здарылася? Занядужаў чым, або што?

Думкі віхрыліся ў галаве кабеты, тузалі яе нэрвы, неспакоілі. Пачуцьцё мянялася што хвілінку: то цягнула вярнуцца і бегчы да сябе, то нешта прыкоўвала да месца... Пасьля, раптам, выскачыла настойнае, упартае жаданьне—пастукаць у вароты. Мэрам-бы гэтыя вароты супынялі яе пасярод дарогі і мяшалі йсьці, куды яна выбралася з выразнаю мэтаю. Не павінна яе, маладое ды адважнае, стойкае ды сьмелае, хоць-бы што затрымаць.

„Ён ня сьпіць?“ праверыла яшчэ раз Грыпіна Вядзерка, прытуліўшыся да варот. Але нічога ня вызнала—той-жа шам і шоргат... Тады яна бяз усякай цырымоніі—стукнула кулаком раз, пасьля другі раз, трэці... Па двары разьняслося гульлівае рэха, якое скрала нясьмелы голас:

— Хто там?

— Мікалай Рыгоравіч, даруйце, я адно слова... адно толькі слова хачу сказаць...

Барбарук не пачуў і ўдвойчы запытаў:

— Хто там?

— Гэта я—Грыпіна Вядзерка... я перапрашаю вас... я не магу згадзіцца, каб вы асталіся пакрыўджаным на мяне.

Не прашло і хвіліны часу, як рэзкі скрып засьведчыў адчыненьне дзьвярэй. Грыпіна Вядзерка кінулася ў цёмную прагаліну шчыліны і ў голас прамовіла:

— Якое-ж мне дзела, што вы жанаты, Мікалай Рыгоравіч. Даруйце мне за маю дурную неасьцярогу...

Ці адказаў што Барбарук на гэтыя словы Грыпіны Вядзерка, ці можа маўчліва зачыніў вароты; і калі зачыняў вароты ці скрыпнулі яны, ці не—Грыпіна Вядзерка ня чула...

Менск, 1926—Май.

## ЗА ПАРОГАМ*)

### Тарас Гушча

I

Мінуў Сьцёпка сяло, у поле вышаў.

Бяскрайныя прасторы ляжаць перад ім, пазіраюць на яго нязьлічонымі вачамі, пазіраюць маўкліва і ўдумна, як-бы пытаючыся: „якая бура нясе цябе, хлопча? Куды і чаго?“ І нейкае, яшчэ нязьведанае адчуваньне жалю агарнула Сьцёпку, калі ўзышоў ён на ўзгорак і азірнуўся на сяло. Усё, што было найдаражэйшае ў яго жыцьці—дзяцінства, таварышы, сям'я, Аленка і гэтае пяшчотна-кволае дрыгаценьне струн яго сэрца,—усё гэта засталося там, пад саламянымі стрэхамі, над якімі дзе-ні-дзе ўзьняліся дрэвы сваімі верхавінамі.

Сьцёпка змусіў сябе адвесьці вочы ад сяла, каб не паддацца ахапіўшаму яго жалю.

— Бывай!—сказаў ён у голас, крута павярнуў і шырокімі крокамі пашоў на той бок узгорку, адкуль ужо ня ўгледзеш сяла. Адышоўся з поўвярсты, яшчэ раз назад азірнуўся, азірнуўся—і спыніўся: з узгорку, як куля, шыбаваў Алесь, яго брат, і махаў шапкаю, каб Сьцёпка спыніўся.

Алесь зараз-жа дабег да Сьцёпкі. Затаміўся хлопчык бягучы, аж расчырванеўся: яму-ж так хацелася дагнаць Сьцёпку. Лагодна ўсьміхнуўся брату. А Сьцёпка глядзеў недаўменна: якая прычына змусіла Алеся даганяць яго?

— Мама паслала мяне... Вось табе хлеб на дарогу!

Алесь перадаў брату досыць ёмка напакаваную белую зрэбную торбу з хлебам і салам, а потым дастаў з-за пазухі маленькі скрутачак.

— Тут мама трохі і грошай дала. А гэта, вось, нейкая паперачка ад Мікіткі Лагуна.

Сьцёпка на момант замяўся: браць ці ня браць гэтую пасылку?

Але яго так моцна кранула матчына дабрата і такую віну пачуў перад ёю, што не пасьмеў зрабіць ёй крыўду. Дый Алеся-ж ён пакрыўдзіў-бы.

— Ну, дзякую, браток! Скажы маме, што я ніколі не забуду яе, ніколі не скажу ёй больш благога слова.

І Сьцёпка трохі адвярнуўся ад брата, каб не паказаць яму вачэй.

— Ты як-жа пойдзеш?—спытаў Алесь.

---

*) Гл. „Полымя“ № 7 за 1925 г.

— На Загор'е, а там—па чыгунцы.

Алесь многа меў сказаць чаго, але слоў не знаходзілася.

А можа лепей і не гаварыць! Ды ўсё-ж такі ня стрымаўся і сказаў, але зусім ня тое, што хацелася сказаць.

— Ну, а ты-ж ня будзеш баяцца?

— Я?—Сьцяпан усьміхнуўся.—Не, брат, я нічога не баюся.

Алесь аж пазайздросьціў яму: такі ён вялікі, сьмелы і дужы!

— Тут ёсьць такая сьцежачка, што можна латвей прайсьці.

— Ведаю,—адказаў Сьцёпка і рашуча прамовіў:

— Ну, бывай, брат, здаровы!.. Маме там памагай.

Сьцёпка зірнуў Алесю ў вочы, кіўнуў галавою і, закінуўшы кіёчак з торбаю за плечы, пашоў у сваю дарогу.

Алесь трохі пастаяў, пазіраючы ўсьлед Сьцёпку, а потым стала і разважна павярнуў назад, калі-ні-калі аглядаючыся на Сьцёпку. Сьцёпка-ж скора зьнік з вачэй, бо дарога павярнула ў кусты.

Чым дальш адыходзіўся Сьцёпка ад сяла, тым больш мілым яно станавілася яму, але разам з гэтым яно незаметна выціскалася з Сьцёпкавай душы новымі думкамі, новымі разважаньнямі, вобразамі дарогі і тым невядомым, далёкім, што яго чакала і цалкам ляжала наперадзе. І пачуцьцё адзіноты часамі агортвала Сьцёпку. А калі мінуў ён Загор'е, ён пачуў, што гэта—апошні парог, які злучаў яго з сваім сялом, бо ў Загор'і вучылася Аленка, а ад Загор'я пачалося зусім новае і чужое.

II

І Загор'е засталося ззаду.

Яшчэ вярсты тры, і Сьцёпка вышаў на чыгунку. Вёрст восемнаццаць адбіў. Нават ногі затаміліся трохі. На чыгунцы прыпыніўся на момант, у вадзін і ў другі канец яе глянуў. Для большай пэўнасьці запытаў сустрэчнага незнаёмага селяніна, у які бок трэба на Менск ісьці і колькі лічыцца вёрст да яго. Зьмерыў вачамі дарогу. Маўклівa, безадказна яна—але як прыгожа яна, як павабна! Зграбненька ляжаць рэйкі, акуратненькі павароты—загібы іх і згодзен іх бег. А гэтыя слупы з роўна нацягнутым тоўстым дротам! І дзень і ноч выйгравае на іх вецер свае песьні, песьні прастораў зямлі, і мудрая людзкая мысьль лётае па іх лёгкакрылаю пташкаю, а гэтыя белыя гугачкі на слупох выглядаюць здалёк беленькімі галубкамі.

Вось гэтыя, моцна зьбітыя між сабою рэйкі адным канцом сваім у самы Менск упіраюцца. Восемдзесят шэсьць вёрст! Ой, не малы гэта кус для маладых няпрывычных да хады ног!

Ідзе Сьцёпка дзе чыгункаю па шпалах, а дзе вузенькаю сьцежкаю, што павіваецца па хібох насыпу побач чыгункі, ідзе, мінае чырвоныя домікі будачнікаў, пераезды, купкі дрэў, а перад ім раскрываюцца ўсё новыя і новыя рысункі дарогі: лясы, лужкі, мосьцікі, пажоўклыя гоні палёў, дзе пападаюцца сям-там яшчэ няпрыбраныя мэндлікі аўсоў і атуленыя сіняватаю смугою далечы.

З кожным паваротам чыгункі, з кожнаю новаю вярстою Сьцёпка глыбей адчувае ўладу гэтых незнаёмых прастораў, сярод якіх параскіданы цёмна-сінія палоскі лясоў. І гэтыя вёсачкі, і людзі, і гаі побач дарогі пазіраюць на яго, як на чужынца, неспагадліва і нават, здаецца, варожа. Маркотна і неспакойна на сэрцы...

Успомнілася Аленка. Ад гэтага ўспамінку адразу нейк цёпла і радасна стала Сьцёпку. Але чаму яна ня вышла, калі ён выходзіў адзін з сяла ў гэтую невядомую дарогу? Хоць-бы здалёк паказалася. І шкода стала яму Аленкі, і трохі крыўда на яе забірала яго. Ён успомніў спатканьне з ёю. Слаўнае было спатканьне! Не, Аленка—мілая, залатая дзяўчына! Такой дзяўчынкі ніколі не забудзе Сьцёпка. Гэтыя думкі і гэтае адчуваньне апошнімі зьвенамі ўзварухнуліся ў Сьцёпкавым сэрцы і заступілі поўнасьцю месца другім думкам і другому пачуцьцю.

Калі маркота і адзінота і не ўзялі верху над Сьцёпкам, то толькі затым, што ў Сьцёпкі за плячамі была торба з салам. Гэтая торба была для яго прыяцелем, сваім чалавекам, самым блізкім земляком, з каторым ня так цяжка было ў дарозе. Паварочваючыся за плячамі ў тахт яго хады, яна чым далей, тым болей пачынала напамінаць яму аб сабе. І Сьцёпка стаў разглядацца, дзе-б выбраць лепшую мясьціну для адпачынку. Такая мясьцінка скора і знашлася. Сышоў з дарогі, выбраў зацішнае месца на беразе маленькае рачулачкі і разлажыўся для папаскі. Дарожны вецер і гарачае жнівенскае сонца яшчэ больш расьпісалі загарам яго і без таго загарэлы твар. Сьцёпка борзда разьвязаў торбу, скінуўшы па сялянскаму звычаю шапку з галавы, адламаў кусок хлеба, адарваў надрэзаны кавалачак сала і са смакам стаў сілкавацца.

Падмацаваўшыся, Сьцёпка напіўся ў рэчцы вады. І тут ён пачуў такую млявасьць, што мусіў прылегчы. Яму так моцна захацелася спаць, што вочы яго пачалі зьліпацца самі. Але Сьцёпка перамог сябе: не, спаць не гадзіцца! Ці мала што можа здарыцца! Лепш пасядзець трохі, а там памаленьку дабрацца да станцыі, тым болей, што ўжо пачынала вечарэць, а да станцыі заставалася вёрст пяць, ня болей. І тут толькі Сьцёпка пачуў, што дарога—не такая ўжо лёгкая рэч, як гэта здавалася яму дома. Трэба яшчэ дайсьці да першае станцыі, а там яшчэ цэлых чатыры. Ня так-та скора і лёгка адмераць іх сваімі нагамі!

І тут Сьцёпку прышла ў галаву сьмелая мысьль—прыстроіцца якнебудзь на поезьдзе і махнуць машынаю! Гэтая думка выціснула ў яго ўсе іншыя думкі. Нават і сон яго разагнаўся. Сьцёпка падняўся на ногі, закінуў зноў торбачку за плечы (а яна цяпер палягчэла трохі), вышаў на чыгунку і патрапаў удоўж яе па вузенькай бясконцай сьцежачцы, так добра яму цяпер знаёмай. Ідзе і абмяркоўвае, як-бы гэта латвей на машыну папасьці. Трэба спрабаваць шчасьця: езьдзяць-жа людзі па машынах, дык чаму-б і яму не праехацца? І час-бы выйграў, і ўсякую такую экономію. Пры гэтым у галаву яго ўбілася адно глупства: калі праедзе ён па машыне, то паступіць на рабфак!

III

Сонца было ўжо зусім нізка над лесам, калі з-за павароту дарогі перад Сьцёпкам вынікнуў сэмафор, бы нейкі вартаўнік з працягнутаю рукою. Сьцёпка бачыў яго першы раз, і яму было невядома, для чаго стаіць тут гэты дзіўны слуп. Ня было калі Сьцёпку разважаць над гэтым, бо зараз-жа з-за купак расьлін паказалася і сама станцыя. Аж сэрца забілася ў хлопца мацней: на гэтай станцыі яму прыдзецца разьвязаць сваю, можна сказаць, першую задачу, задачу адзінокага вандроўніцтва, і разьвязаць сваім розумам, бо хто-ж тут паможа табе? І не адну задачу, а дзьве: пераначаваць і ўладзіцца з яздою на машыне. І гэтая звадлівая думка—калі праедзе па машыне, то паступіць на рабфак—таксама жыве ў яго галаве, карціць яму, спакою не дае. З гэтымі дзьвёма задачамі зьвязваецца цэлы рад другіх задач... З чаго пачаць? Як прыступіць?

Зьменшыўшы тэмп хады і нясьмела аглядаючыся, падыходзіць ён да станцыі. Яго ўвагу займаюць пустыя вагоны, загнаныя ў глухое месца. Можа гэтыя вагоны ці ня йдуць на Менск?

Сьцёпку ніколі не даводзілася быць на станцыі, і цяпер кожную пядзю яе зямлі, кожную часьціну яе прыходзілася адольваць сваім уласным розумам. На станцыі было досыць пуста і ціха. Дзе-ні-дзе праснуе людзкая фігура і зараз-жа зьнікне невядома куды. Сьцёпка ступае яшчэ павальней, разглядаючыся навокал. Ён заўважыў кучку хлапчукоў, такіх вось, як Алесь і Юрка, яны йшлі дзесь з другога боку чыгункі праз рэйкі, накіроўваючыся ў галоўны будынак.

— Скажэце, хлопчыкі, якая гэта станцыя?

Сьцёпка ведае, як называецца станцыя, але яму трэба разгаварыцца з хлапчукамі, каб дазнацца таго, што цікавіла яго цяпер.

— Станцыя Беразайка, каму трэба—вылязайка!—пачуў ён адказ і чародка жэўжыкаў, як спуджаныя верабейчыкі, са сьмехам паімчаліся па пляцформе ўздоўж будынкаў. Адзін, адбегшыся, павярнуў галаву ў бок Сьцёпкі, гукнуў:

— Прачытай: там напісана!

Хлопчык думаў, што Сьцёпка няпісьменны, пасьмяяцца хацеў з яго. Але тое, што гаварылася на глум, Сьцёпка ўзяў на вум. І сапраўды: чаму-ж бы яму і не пацікавіцца напісамі? Сьцёпка павярнуў галаву ў бок будынкаў і падняў вочы ўгору. Тут ён знашоў: „зал I кл.“, „зал II і III кл.“, „буфэт“, „тэлеграф“, „багажнае аддзяленьне“, а таксама і „для мужчын“, „для жанчын“ і інш. На дварэ пачынала цямнець і трэба было добра прыглядацца, каб разабраць ня зусім выразныя літары, відаць, стускнелыя за доўгія часы.

— Чаго ты шукаеш тут?

Сьцёпка здрыгануўся, бо запытаньне было для яго нечаканым, а ў голасе незнаёмага чалавека—Сьцёпка яго і не заўважыў—чулася начальніцкая строгасьць, хоць, праўда, начальства гэта было і невялікае.

Гэта быў толькі стрэлачнік, сярэдніх гадоў чалавек, з сьветлымі, спушчанымі ўніз вусамі, у зашмуленым ліхтарамі каптане. За поясам у яго былі заткнуты два сыгнальныя знакі, а цераз плячо перакінут ражок.

— Нічога, так гляджу.

Сьцёпка думаў гэтым і адрабіцца, але стрэлачнік не адступаўся, бо Сьцёпка паказаўся яму чалавекам падазроным, ва ўсякім разе вартым увагі. У такіх разох стрэлачнік не прапускаў здарэньня распытаць, даведацца, хто, чаго, куды і як? Бо ён быў чалавек цікаўны і вельмі любіў прачуць сёе-тое: па яго думцы, на сьвеце яшчэ павінна нешта цікавае зрабіцца, нешта такое, пасьля чаго ўжо пачнецца настаяшчае жыцьцё.

Стрэлачнік, не адходзячы ад Сьцёпкі, пацягнуў папяросу-суслу, ушчаміўшы ея двома пальцамі, пацягнуў заядла і запытаўся:

— Едзеш куды?

Сьцёпка ўсьміхнуўся.

— Не, пяхотам іду.

У тоне Сьцёпкавага адказу была мяккасьць і пашана да стрэлачніка, што таму вельмі спадабалася.

— А куды йдзеш?

— У Менск.

— У Менск? пяхотам?

— Ехаць ня маю за што.

— А чаго йдзеш ты ў Менск?

— Вучыцца хачу.

Стрэлачнік яшчэ раз смактануў папяросу і гопнуў яе на плятформу.

— Вучы-ы-цца! Бачыш ты! А скуль-жа сам?

— З Заборцаў.

— Вот маладзец!.. Але я табе скажу, што цяперашняя навука... Стрэлачнік патрос галавою і рукою махнуў.—Ні ядронай бабушкі ня варта. Распуста, а не навука.

— Не, дзядзька, няпраўда!—з жарам запярэчыў Сьцёпка:—цяпер-жа сапраўдная навука і даецца. Гэта раней навуку дзялілі для бедных і для багатых, багатым—унівэрсытэты, а бедным—гула асмаленая. Вучылі толькі, каб падаткі плацілі ды на багатых працавалі і бога баяліся.

— Ось у тым-жа, брат, і справа, што бога баяцца перасталі. А раз у цябе няма бога, то які-ж ты чалавек? Чым адрозьніваешся тады ад скаціны?

— Розумам.

— А розум табе хто даў?

— Розум ад прыроды...

— Ад прыроды! А прырода адкуль узялася?

— Ну, а бог адкуль узяўся?—запытаў і Сьцёпка.

— Мы—чэрві ў параўнаньні з богам. Як можам яго ведаць?

— А калі ня ведаем, дык як-жа верыць у тое, чаго ня ведаеш?

Стрэлачнік паглядзеў на Сьцёпку.

— А ці ведаеш ты Галабурду?—запытаў ён нечакана.

Сьцёпка трохі замяшаўся.

— Якога Галабурду?

— От,—ёсьць такі.

— Не, ня ведаю.

— А можаш ты казаць, што Галабурды няма?

Сьцёпка замяўся, а стрэлачнік атакаваў яго яшчэ больш энэргічна, зрабіўшы з гэтага адпаведны вывад, а потым пашлёпаў Сьцёпку па плячы і сказаў:

— Трэба, брат, многа павучыцца, каб ведаць маленькае. І вучацца людзі, аж лысеюць з навукі, а ўсяго ведаць ня будуць. Вучыся і ты. Але вось, як ты да Менску дабярэшся? Шкода мне цябе, хлопча, і ног тваіх маладых шкода.

Вынікам гэтага спатканьня і гэтага дыспуту было тое, што стрэлачнік заклікаў да сябе Сьцёпку, пачаставаў яго кіслым малаком і начаваць пусьціў. А на заўтра раніцаю здаў яго на тормаз знаёмаму кандуктару з таварнага поезду.

## IV

Людзі мала калі бываюць такімі шчасьлівымі, як быў шчасьлівы Сьцёпка, седзячы на тормазе. Калі-б тая радасьць і тое шчасьце, што часамі, хоць і вельмі рэдка, трапляюць да чалавека, маглі-б сьпяваць і зьвінець сваімі акордамі, то наша вуха чула-б найцікавейшую на сьвеце музыку. Такая музыка была цяпер і ў Сьцёпкавым сэрцы. Ён цяпер ніаб чым ня думаў, ён проста пазіраў на тыя вобразы, што ўзьнімаліся з нутраў яго самаго, ціхусенечка сам сабе ўсьміхаўся.

Адпачыў з дарогі Сьцёпка, а раніца новага дня, так шчасьліва пачатага, расьсявала па станцыі і навокал праменьні сьвятла, надзей і нейкай новай бяспрычыннай радасьці. Скрозь высокія круглыя топалі, што стаялі на станцыі, прабівалася сонца, а лісьці на іх трапяталіся так ціха і так паважна, што Сьцёпку часамі здавалася, нібы яны гаварылі штось гэтаму новаму дню і яснаму сонцу. У галаве поезду заложна-аднатонна сіпеў паравоз. Яго высока паднятая, яшчэ старасьвецкая, коміна, нібы галава турка ў цюрбане, выпускала густую валністую стужку чорнага дыму. Яшчэ некалькі хвілін, і гэтая сіпаватая песьня паравоза абарвалася, прыціхла. „Тух-тух-тух-тух!“ заклакатаў ён сярдзіта, магутна дыхнуў дымам, выкаціўшы ўгору чатыры клубкі, а сьледам за гэтым засьвістаў тонка—праразьліва і працяжна. „Кіў-гець!“ скрыганулі вагоны, і поезд здрыгануўся, бразнуў крукамі, грымнуў буфэрамі, здрыгануўся неахвотна-гультайна, прыпыніўся, здрыгануўся мацней, зрушыўся з месца і, пазвоньваючы сцэпамі, пакаціўся па рэйках, што-раз прыбаўляючы ходу.

Сьцёпка стаяў у цесным корыдорчыку між вагонам і тормазам і пазіраў, як адыходзіла ў зад станцыя з яе будынкамі, вадакачкаю, сэмафорам і круглымі топалямі, робячыся ўсё меншаю і меншаю, покі ня зьнікла з вачэй, схаваўшыся за пукатасьцю зямлі. На тормазе нікога больш ня было, і Сьцёпка адчуваў сябе вольна. На першых часах ён захапляўся яздою і тымі новымі малюнкамі, што мільгацелі перад яго вачамі. Ні аб чым ня думалася, было проста весела і радасна. Падзеі апошніх дзён адышлі дзесь далёка-далёка, як-бы іх і ня было, як-бы яны толькі прысьніліся яму. Але незаметна, паводле таго, як поезд імчаў Сьцёпку ўсё далей і далей, яго пачалі забіраць думкі аб горадзе, аб паступленьні на рабфак. Дзе прыпыніцца яму ў незнаёмым горадзе? Што ён будзе рабіць, калі не паступіць на рабфак? Куды дзецца тады?

І Сьцёпка пазіраў у той бок, куды імчаўся поезд. Праўда, „імчаўся“ ён ня так ужо шпарка, але для Сьцёпкі, як ня бачыўшы больш шпаркай язды, здавалася, што ён тут імчыцца сокалам. Пазіраў Сьцёпка, ці ня відаць ужо часам Менск, ды горад быў яшчэ далёка. Сьцёпкаў непакой дасяг свае найбольшае сілы тады, калі ён ехаў апошнюю станцыю. Горад-жа доўга не паказваўся, і толькі пад вечар перад ім вынырнулі, як з-пад зямлі, вежы царквей, касьцёлаў і гарадзкія будынкі.

Дык вось ён які Менск!

Ой, дый горад-жа! Аж галавою паківаў Сьцёпка; яму здавалася, што ўжо большага, харашэйшага гораду і на сьвеце няма.

Эх, Менск, пашарпаны, пабіты, папалены братняю польскаю рукою! Каб ты чуў ды ведаў, як шчыра быў захоплен Сьцёпка тваім хараством і веліччу, ты зацьвіў-бы шчасьліваю ўсьмешкаю ад самага Брэскага вокзалу і аж па Камароўскае балота, а твае тротуары і вуліцы, ня толькі ня мошчаныя „строфамі“ Купалы, Коласа і Бядулі, як скардзіўся адзін на сьвеце Дудар, але нават і комхозкімі каменьнямі, напэўна сказалі-б: „Праваліцца-б нам скрозь землю, каб толькі ня бачыў Сьцёпка нашага бруду і нашага заняпаду!“

Поезд спыніўся досыць далёка ад станцыі. Сьцёпка зьлез з вагона, азірнуўся па бакох, куды яму накіравацца, і павольна пасунуўся ў бок вокзалу. У дзьвярох, пры ўваходзе ў залю, яго запынілі. Страху набраўся тут Сьцёпка. Нават прышлося паказаць дакумант, пасьведчаньні Мікіткі Лагуна ў тым, шта Сьцёпка—добры бязбожнік і кандыдат у комсамол. Ад сябе-ж Сьцёпка дадаў, што ён ідзе пехатом сто вёрст, каб паступіць на рабфак. Пра язду на таварным поезьдзе, па сялянскай сваёй хітрасьці, Сьцёпка дыплёматычна змаўчаў. І Сьцёпку з пашанаю прапусьцілі.

На станцыі было людна і шумна. На лаўках па бакох і па сярэдзіне залі сядзелі і ляжалі пасажыры, абложаныя рознымі пакункамі. Там і сям снавалі людзкія фігуры, як-бы не знаходзячы сабе месца. Адны сядзелі ціха, нярухліва, другія перамаўляліся між сабою, жартавалі і сьмя-

яліся. Некаторыя закапаліся ў чытаньне газэт. Сьцёпка акінуў усю гэтую грамаду людзей, жанчын і дзяцей, простых і гарадзкіх, — нідзе няма ні аднае асобы, хто хоць-бы зьвярнуў на яго ўвагу. Чужыя, незнаёмыя, далёкія, неспагадлівыя, занятыя кожны сам сабою. Сьцёпка, прыпыніўшыся ў больш-менш зацішным месцы, пастаяў трохі, разглядаючы публіку і разважаючы, што яму рабіць тут, дзе правесьці ноч. У крайнім выпадку перабудзе як-небудзь тут. Часу ў яго хватае: цэлых два дні выіграў ён у дарозе. Першы непакой, ахапіўшы яго тут, прашоў, і Сьцёпка пачаў разважаць больш спакойна. Шчасьлівая думка выклікала ў яго памяці Дом Селяніна, аб якім ён чытаў яшчэ летам. Знайсьці гэты дом, устроіцца там,—вось яго першая задача. Сьцёпка зусім павесялеў. Вышаў са станцыі на пад'езд, запытаў людзей, дзе знаходзіцца Дом Селяніна, даведаўся, што на другім канцы гораду, што, сеўшы на конку, можна даехаць аж да самага таго дому.

V

Добрая рэч гэты Дом Селяніна, і не аднаго толькі Сьцёпку прыхіліў ён. Нахваліцца ня мог Сьцёпка гэтым домам, бо дзе-ж бы ён падзеўся ў незнаёмым горадзе? А тут і адпачыць можна, як належыць чалавеку, і час правесьці разумна сярод газэт і кніг, і людзей паслухаць, і аб справах патрэбных дазнацца.

Сьцёпка прачнуўся досыць рана. У доме было ціха. Апроч яго, тут было яшчэ некалькі чужых людзей. Заснуць ён ужо ня мог, але не ўставаў, каб не патрывожыць сон людзкі. Але-ж і сьпяшацца яму няма куды. Першыя думкі яго былі аб тым, што ён у горадзе і што гэта ўжо другая ноч, праведзеная за парогам бацькаўскага дому. І гэты бацькаўскі дом успомніўся яму, і сэрца нейк трохі заныла. Асабліва шкада яму стала маткі, калі ўспаміналася, як прыпала яна галавою на грудзі яму і плакала. Дрэнны ён хлопец; навошта было так крыўдзіць матку, казаць ёй такія дзёрзкія словы? І яна гэта ўсё даравала яму, усё забыла, і колькі любасьці выказала яна да яго! І толькі яна паклапацілася, каб ня быў ён галодны ў дарозе. Сьцёпка запакоіў сваё сумленьне тым, што цьвёрда пастанавіў хоць чым-небудзь узрадаваць сваю матку, хоць-бы і як цяжка прышлося яму на сьвеце. А сьледам за гэтым пашлі і другія думкі, многа думак. Сьцёпку трэба перш за ўсё знайсьці рабфак, а там навесьці спраўкі, ці дашлі яго дакуманты туды. Праўда, яны разам з заяўленьнем былі пасланы—пасылалі іх з настаўнікам—па пошце. Але-ж трэба ўпэўніцца, ці там яны: мала што можа быць! І яму нейк страшна стала, што яго заяўленьне дзе-небудзь прапала, а праз гэта і ўся справа можа прапасьці. Трэба, трэба ўпэўніцца, покі ня позна.

Аглядаючы новую абстаноўку, нязвычайна цікавую, Сьцёпка хацеў апісаць усё гэта і паслаць... Каму? Ізноў успомніў Аленку, а разам з гэтым адчуў і нейкую прыемнасьць у сэрцы. Напісаць-бы ёй ліст? І напі-

ша, няіменна напіша. Але што пісаць цяпер? Невядома, як абернецца справа. Лепш пачакаць, покі скончацца экзаміны. Не пераскочыўшы роў, няма чаго і „гоп“ казаць.

Асьцярожненька падняўся Сьцёпка, адзеўся і вышаў з кватэры. На корыдоры сустрэўся незнаёмы чалавек, адзеты на гарадзкі манер, пажылы. Як відаць, гэты незнаёмы чалавек меў нейкае дачыненьне да Дому Селяніна.

— Што, дзетачкі, начаваў тут?—ветла спытаў Сьцёпку незнаёмы чалавек.

— Але!

— Ну, і што-ж, добра табе тут было?—незнаёмы чалавек палажыў пры гэтым сваю тоўстую, мяккую руку Сьцёпку на плячо.

Сьцёпку тут успомніўся лёзунг „тварам да вёскі“, але на шырокім твары незнаёмага чалавека было столькі дабраты, што напэўна ёю—і толькі ёю выклікана гэтая ўвага да Сьцёпкі. Ёсьць-жа на сьвеце і добрыя людзі.

Разгаварыліся.

— А-а-а!—працягнуў незнаёмы чалавек, даведаўшыся, што Сьцёпка прышоў ў горад навукі шукаць, і губы яго разышліся ў найдабрэйшую ўсьмешку, бы вароты ў гумне, калі яно напакована пад самы шчыт сенам і збажыною.

— Добра, добра, дзетачкі! Трэба, трэба вучыцца!

У Сьцёпкі прамільгнула жаданьне спытацца пра рабфак, як яго тут знайсьці. Ён толькі замяўся трохі, як назваць добрага чалавека: „таварыш“ як-бы крыху і не падходзіць, бо незнаёмы чалавек такі паважны і шырокі, а глаўнае—у гадох такая розьніца.

— Выбачайце, я вот ня ведаю, як вас назваць...

— Дзедушка, дзедушка называй мяне: мяне так усе завуць.

„Дзедушка“ гаварыў пабеларуску.

— Я хацеў вас спытаць...—Сьцёпка запнуўся, яму было нейк нязручна казаць „дзедушка“: лепш—„дзедка“ або „дзядок“, як кажуць на вёсках,—ці ня ведаеце часамі, як да рабфаку дайсьці?

— Хадзем: я табе раскажу і пакажу.

„Дзедушка“ ўзяў Сьцёпку за руку і вышаў з ім на вуліцу.

— Ось мы выйдзем зараз на Траецкую гару,—пастарому назваў ён Плошчу Парыскай Комуны,—адтуль я табе пакажу, як на рабфак зайсьці.

— Ну, вось глядзі,—казаў „дзедушка“, узьвёўшы Сьцёпку на сярэдзіну Траецкай гары,—там улева, бачыш? высокая труба. Гэта—электрычная станцыя, а правей на горцы—царква, бачыш? зьверху зломаная вежа, а справа—калпак такі. Вось гэта музэй, а там, правей, на самай горцы, высокая будыніна. Гэта—вадакачка. Дык вось, дзетачкі, паміж музэем і вадакачкаю будзе вуліца. Па праваму боку вуліцы, на рагу, у

прысадах—сквэр ён пагарадзкому называецца,—будзе стаяць гэтая самая вадакачка. Ты туды і пойдзеш, ось так спусьцішся, пройдзеш мост цераз Сьвіслач—улева дзяржыся, потым выйдзеш на Савецкую. Там і ўбачыш музэй і вадакачку. Туды і шыбуйся, дзетачкі. Пад вадакачку выйдзеш і ідзі туды каля прысад, мінеш прысады, пройдзеш трохі далей па тэй-жа вуліцы, там і будзе унівэрсытэт, той самы рабфак. Там ты ўжо лёгка знойдзеш. Ну, будзь-жа здаровы!

„Дзедушка“ падаў Сьцёпку руку і разьвітаўся з ім, а Сьцёпка шчыра яго падзякаваў.

Некаторы час, як зачараваны, стаяў тут Сьцёпка і любаваўся горадам. Высокія белыя камяніцы прыгожа раскінуліся па ўзгорках за Сьвіслаччу і далёка разьбягаліся ва ўсе канцы, атуленыя па акраінах ужо пажаўцелымі вяночкамі садоў. Асабліва кідаўся Сьцёпку ў вочы той пункт гораду, што каля Пляцу Волі, дзе стаяць такія вялізарныя вежы цэркваў, манастыроў і касьцёлаў. Штось паважнае і строгае адчувалася ў іх абліччы. Як-бы нешта гавораць яны з далёкіх вякоў сваімі мурамі, маўкліва-зацятымі, узьняўшыся высока над горадам. А гэты вось будынак, што лявей... Што гэта: дом, манастыр ці касьцёл? Які паважны ён! І так магутна ўзьнята над яе-ж уласнымі мурамі гэтая сьцяна, бы плечы і тыя нейкага волата, з лёгкімі празрэзамі, праз якія сьвеціцца неба. Грамада камяніц, раскінутых на вялікіх прасторах, вельмі прыгожа спускалася да даліны Сьвіслачы. Там-сям па кругавіне гораду, стаялі, бы вытачаныя, фабрычныя трубы з хвастамі цёмнага дыму. Правей вадакачкі, дзесь у глыбі гораду, віднеліся слупы з густа нацягнутым дротам. Сьцёпкаву ўвагу прыцягалі гэтыя высачэзныя жэрдкі, цёмнымі рысамі ўзьнятыя ва ўсіх канцох гораду. Для чаго яны? У некаторых мясьцінах скрозь прасьветліны камяніц прабіваліся сінія далечы, дзе чарнеліся лясочкі, узгоркі і лапінкі поля—прасторы сялянскіх вёсак.

Сьцёпка доўга стаяў, любуючыся горадам, і нейкае новае адчуваньне калыхала яго, прыцягала да гэтага гораду і ў той-жа час палохала і непакоіла.

Слаўны горад! Эх, павучыцца-б тут, пажыць-бы ў ім!

Сьцёпка зрушыў з плошчы і пашоў шукаць рабфак, кіруючыся на вадакачку. Праблытаўся ён досыць доўга па незнаёмых вуліцах, покі трапіў на вадакачку, а адтуль і на рабфак.

## VI

Са страхам увашоў Сьцёпка ў канцэлярыю рабфаку.

Тое прадстаўленьне аб рабфаку, што склалася ў Сьцёпкі дома, зусім не адпавядала таму рабфаку, які Сьцёпка бачыў цяпер перад сабою. У канцэлярыі было многа моладзі: і хлопцы, і дзяўчаты. Каля аднаго століка, дзе сядзеў нейкі пісар ці можа і сакратар, бо выгляд і трыманьне яго змушалі думаць аб ім, як аб асобе важнай, зьбілася цэлая грамада моладзі. У другіх мясьцінах досыць прасторнай канцэлярыі таксама

стаяла моладзь гурткамі. Да аднаго такога гуртка і Сьцёпка падышоў, падышоў асьцярожна і нясьмела і лавіў вухам тыя гутаркі і абрыўкі яе, што выбіваліся з гэтае кучкі моладзі. „Таксама прыехалі паступаць“, заўважыў сам сабе Сьцёпка, прыслухаўшыся да гутаркі, і паглядзеў на гэтых маладых людзей, як на сваіх конкурэнтаў. Тое, што далей даведаўся тут Сьцёпка, яго трохі засмуціла: нязвычайна вялікі наплыў народу—з чатырох прыходзіцца выбіраць аднаго. „Рэзаць будуць“, насілася сярод моладзі.

І вось што яшчэ гаварылася тут: прымаць будуць у першую чаргу дзяцей рабочых, як ужо паказвае і само слова „рабфак“. І людзі пролетарскага стану пры гэтым весялелі. Затым будуць аддаваць перавагу і тым, хто мае пэўны рабочы стаж. Ну, а пра комсамольцаў і казаць няма чаго. Ні пад адну з гэтых груп Сьцёпка не падыходзіў. І заслуг у яго перад рэволюцыяй ніякіх няма, хоць-бы якога гада-бандыта злавіў! Праўда, ён падаў думку разбурыць сьвяты калодзеж, але гэтая заслуга—віламі на вадзе напісана. Каб тут даведаліся аб гэтым, то можа яшчэ і ці пахвалілі-б? Вось тут-жа і падумаць трэба! Чым больш уставала гэтых перашкод, тым больш расло ў Сьцёпкі ўпартае жаданьне дабіцца свайго. Напралом пойдзе, кулакі ў дзела пусьціць, а рабфаку ня ўпусьціць. Трэба свайго дабіцца—і больш нічога.

Сьцёпка цьвёрдымі крокамі падышоў да таго стала, дзе сядзеў важны пісар, а можа і сакратар. Якраз гэта тут і спраўку патрэбную можна ўзяць. Расштурхаў Сьцёпка грамаду і бліжэй да стала праціснуўся. Было кінута некалькі ня зусім ветлых поглядаў у Сьцёпкаў бок, але Сьцёпка зрабіў від, што не заўважыў іх.

— Паглядзеце, таварыш, ці ёсьць тут маё заяўленьне?—Пісар падняў на Сьцёпку вочы. Сьцёпка глянуў на пісара, глянуў цьвёрда і сур'ёзна. Пісар хацеў нешта сказаць, але, замест адказу, узяў вокладкі, расьпёртыя рознымі паперамі.

— Прозьвішча ваша?

— Барута, Сьцяпан.

— Гэтае „Барута“ для самога Сьцёпкі загучала нейк дзіўна. Сьцёпка нават трошкі засароміўся, бо ўсе зірнулі на яго. І ён таксама зірнуў на адну дзяўчыну—проста яна тут бліжэй стаяла. Ну, куды-ж ёй з Аленкаю раўняцца? Падстрыжаная, кудлатая, і рот вялікі.

Пісар тымчасам борзда перакінуў паперы, спыніўся.

— Барута?

— Так.

— Ёсьць ваша заяўленьне.—І галавою махнуў.

Сьцёпка адышоўся. Яму адразу стала лёгка, як-бы ён перамог тут нешта важнае і труднае, або ўжо на рабфак паступіў.

І пра экзаміны даведаўся Сьцёпка—праз дзень пачнуцца. І вось яшчэ што зрабіла на Сьцёпку ўражаньне: студэнты рабфаку, організацыя

іх, многа рабіла заходаў, каб памагчы прыехаўшым кватэрамі і абедамі. А памагчы ім трэба было, бо многім ня было дзе прыткнуцца, ня было чаго есьці. Галота, чуць прыкрытая галота, стукала ў дзьверы навукі, шырокаю хваляю сьцякалася з далёкіх акругоў. Вядомым стаўся для Сьцёпкі і такі факт, калі старыя студэнты-рабфакаўцы некалькіх чалавек такой галоты прыстроілі ў больніцы, як хворых, а добры доктар цішком дазволіў ім сяк-так падфранціцца ў больнічную вопратку.

Усё гэта было вельмі цікава. Цікава тым, што горад не забываў вёскі, і вядомы лёзунг ня ёсьць толькі словы, як гэта часамі гаварылася там, на вёсцы. Такім парадкам ужо адно знаёмства з горадам, хоць далёкае і павярхоўнае, раскрывае табе вочы. А пажыць тут да павучыцца!.. Не, што-б там ні было, а на рабфак паступіць трэба. А як ня ўдасца? Тады што?

Не: гэта было-б для Сьцёпкі надта цяжка.

VII

Было шумна і людна каля будынку рабфаку ў дзень экзаменаў. Чырвоныя хустачкі дзяўчат мяшаліся з хлапцоўскімі шапкамі розных гатункаў, пачынаючы гарадзкімі кепкамі і канчаючы самадзельнымі саламянымі брылямі. Пераважвала ўсё-ж такі сялянская суконная сьвітка. Ня было недастачы і ў галіфэ, таксама вельмі рознастайных, як па матэрыі, так і па шырыне іх злучаных мяшкоў. Сабраныя ў адно месца яны рабілі поўнае ўражаньне і выклікалі ў Сьцёпкі некаторую зайздрасьць, бо ў яго ніколі ня было галіфэ. Увесь гэты стракаты натоўп, як жывы этнографічны музэй, рассыпаўся па ўсходах, корыдорах і аудыторыях, нясучы з сабою і надзеі свае, і свае трывогі.

І тут Сьцёпкава прадстаўленьне аб экзамінах не адпавядала рэчаістасьці. Сьцёпка думаў, што экзаміны будуць рабіць у камісіях, дзе будзе многа розных профэсароў. Аказалася-ж, што экзаміны рабіў адзін чалавек. У некаторых аудыторыях сядзела некалькі профэсароў—можа яны і ня зусім профэсары: ну, але думаць аб іх, як аб профэсарох нікому не пашкодзіць і менш усяго самым „профэсаром“—і прыймалі экзаміны па аднаму прадмету, але кожны асобна.

Сьцёпка ўвашоў у аудыторыю, дзе прымалі экзаміны па матэматыцы, каб прыгледзецца і прыслухацца, а потым ужо выбраць лепшага „профэсара“. Тыя пытаньні, якія давалі профэсары, былі для Сьцёпкі так просты і лёгкі, што ён раптам набраўся сьмеласьці і, трымаючы ў руках свой лісток на права здаваць экзамін, стаў у невялікую чаргу. Стоячы за сьпіною свайго назнаёмага таварыша, Сьцёпка то ўсьміхаўся, то пацікаў плячамі, калі чуў няправільныя адказы. А калі дашла яго чарга і профэсар запытаў штось з арытмэтыкі, то Сьцёпка, дакладна адказаўшы на ўсе профэсарскія запытаньні, тут-жа сказаў, што ён вельмі добра ведае ўсе разьдзелы арытмэтыкі. Але з такім заяўленьнем ён набраўся клопату, бо профэсар зазначыў яму:

— У такім разе вам няма чаго рабіць на рабфаку.—Спрачацца з профэсарам было рызыкоўна, і Сьцёпка змаўчаў. Профэсар тымчасам справядліва ацаніў яго веды, што і адмеціў на яго лістку. А Сьцёпка вывеў з гэтага такое заключэньне, што і перабор меры таксама нядобра, як і недабор. Трэба быць асьцярожным і больш дзяржацца сярэдзіны.

Экзаміны цягнуліся блізка тыдзень. За першыя дні Сьцёпка паздаваў іх усе, але спакою ня было ў яго: можна паздаваць усе экзаміны і на рабфак не паступіць. Будзе яшчэ адна камісія ў канцы экзаменаў. Гэтая камісія і скажа, каго прыняць, а каго не. Маркотна цягнуліся для Сьцёпкі апошнія дні. Сланяўся ён па горадзе, знаёмства завёў з некаторымі хлопцамі—з тых, што з ім паступалі на рабфак. А часу ўсё-такі было многа. Баяўся Сьцёпка, што камісія знойдзе яго багатым, або нават і кулаком, і па гэтай прычыне ня прымуць. Вось чаму з найбольшым непакоем чакаў ён той дзень, калі гэтая камісія адбярэ студэнтаў на рабфак.

Ї дзень гэты прышоў... Эх, лепш-бы ён і ня прыходзіў: ня прыняла Сьцёпку камісія, і не аднаго Сьцёпку, а сотні такіх Сьцёпак: мест не хватала. Як асуджаныя на выгнаньне, хадзілі няпрынятыя з паніклымі галовамі, стукаліся ў розныя дзьверы, а гэтыя дзьверы хоць і адчыняліся перад імі, а памагаць мала памагалі.

Нахмураны і сур'ёзны хадзіў Сьцёпка каля будынку рабфаку. Зжыўся з ім, палюбіў яго, і ў думках сваіх жыў і вучыўся ў ім, і ня прынялі! Што-ж яму рабіць? А рабіць нешта трэба. Туды, сюды кінуўся—адказ адзін:

— Што рабіць? Вакансій няма... Камісія так пастанавіла.

Зьвярнуўся да таго-другога з членаў камісіі. Той і другі члены камісіі артыстычна ўскідалі плячамі, разводзілі рукамі і рабілі выразную міну.

— Вакансій няма... Ня я—камісія так пастанавіла. Зьвярнецеся ў Галоўпрафобр.

Пашоў Сьцёпка ў Галоўпрафобр.

Ї карыдор, і пакой каля Галоўпрафобру, і самы той пакой, дзе сядзеў загадчык Галоўпрафобру, былі нашчэнт забіты вучнёўскаю моладзьдзю. Дзівіўся тут Сьцёпка, скуль яе столькі набралася.

Змучаны, знэрваваны загадчык Галоўпрафобру з сухім бледным тварам садзеў, як у шчыльна абложанай крэпасьці, размахваў рукамі, ускаківаў і садзіўся, як-бы баронячыся ад пчол, а на яго насядалі з усіх бакоў, насядалі ўпарта, стыхійна. Праціскаючыся бліжэй, Сьцёпка наглядаў сцэны размовы моладзі з загадчыкам, прычым заўважыў, што ня ўсім ён адмаўляе, робіць часамі дапіскі на дакумантах, пасьля чаго ад яго адыходзілі ўжо вясёлымі. Ї яшчэ адно назіраньне зрабіў Сьцёпка: хто мацней насядае, той свайго дабіваецца. Вось чаму, калі наперад высунуўся Сьцёпка, то ён стаў у баявую позу і прыняў вельмі грозны від.

— Вам што?—сакануў загадчык.

— Я здаў экзаміны на рабфак, а мяне ня прынялі.—І падае квіток аб здачы экзамінаў.

Загадчык зірнуў на квіток.

— Дык што я магу зрабіць?—крыкнуў ён і рукою махнуў.

— А мне што рабіць?—падняў голас і Сьцёпка, і таксама рукою махнуў.

Загадчык зірнуў на Сьцёпку, як-бы з нагі зьбіты, а Сьцёпка, не даючы слова сказаць, засыпаў словамі:

— Мой бацька бедны, самому няма на чым жыць. Мяне з дому выгнаў за тое, што я з комсамольцамі на сходы хадзіў. Я сам гатаваўся, сто вёрст пяхотам трапаў, здаў экзаміны... Што-ж мне цяпер рабіць? Красьці ісьці? Я хачу вучыцца, каб з мяне карысьць была дзяржаве.

Загадчык узяў квіток і рэзолюцыю налажыў. Варочаючы яго назад Сьцёпку, ён сказаў сярдзіта:

— Ну, вас залічаць звыш комплекту, але на дапамогу не разьлічайце.

Ня верачы свайму шчасьцю, Сьцёпка казаў сабе ў думках:

„Абы вы мяне прынялі. Рэшта дадасца“.

---

Познаю восеньню Сьцёпкава маці сядзела за прасьніцаю, а Міхайла Барута майстраваў сані на зіму. Алесь сядзеў бліжэй да лямпы з пісьмом у руках, а збоку каля яго стаяў Юрка. Алесь чытаў:

„Дарагія тата, мама, Алесь і Юрка!

Пакінуў я вас трохі ня так, як людзі. Вы мне даруйце і на мяне ня гневайцеся. Прызнаю, што я быў вінаваты.

Я паступіў на рабфак. Хоць і цяжка было, але паступіў. У нас на рабфаку вучыцца больш 450 чалавек. У часе заняцьцяў раніцаю а 9 гадзіне, як зьбяруцца ўсе рабфакаўцы, то будыніна гудзе ўсё роўна, як пчолы ў вульлі. Столькі руху бывае, што мудрэй, як у час жніва ў вёсцы. Пасьля заняцьцяў, а 3-4 гадзіне, мы ідзем абедаць у сваю студэнцкую сталоўку. Тутака, у гэтай сталоўцы, абедае столькі людзей, што ў нас у вёсцы няма такой ніводнай вялікай сям‘і: каля 1.300—1.500 студэнтаў. А пасьля абеду я іду чытаць газэты і вучыцца ў гурток. Тут рыхтуем на наступны раз лекцыі.

Кладземся мы спаць вельмі позна: а 12 або а першай гадзіне ночы. А то ўсё вучымся і чытаем шмат кніжак. Жывём мы ўсе ў вялікім мураваным агульным доме па асобных пакоях. У нашым пакоі жыве 9 чалавек: 4 хлопцы-беларусы з вёскі і 5 яўрэяў з фабрыкі. Жывем аднэю сям‘ёю. Што ёсьць у ваднаго, напрыклад, з яды, дык карыстаемся ўсе. Апрача хлопцаў, ёсьць у нас і дзяўчаты. Яны жывуць у васобных пакоях. Нам даюць пэнсію—12 рублёў у месяц, але з іх вылічаюць за абед, вячэру, хлеб і на другія дробныя патрэбы, так што на рукі прыходзіцца 2-3 руб. Мне, як ня бачыўшы лепшага жыцьця дома, тут жывецца добра. Нядаўна выдаў мне наш рабфакаўскі камітэт сяньнік, коўдру і матэрыі

на бялізну. У лазьню ходзім праз кожныя 2 тыдні. Са мною вельмі добра сябруюць комсамольцы. Я думаю ўжо паступіць у комсамол, каб быць організаваным і вясьці барацьбу з буржуазіяй за наша сялянскае жыцьцё. Дарагія, родныя! Каб вы ведалі, як я цяпер здаволен, што вучуся. Нават і ў сьвятыя дні ня маю адпачынку. Як прыдзе якое-небудзь сьвята, то я не праводжу дарма часу так, як праводзіў дома, а заўсёды знайду сабе работу. Акуратна хаджу я ў гурткі. Нядзелямі часта ежджу ў вёскі, дзе наш рабфак вядзе культурную работу. Мне, як знаёмаму з вёскай, хочацца дапамагаць сялянскай справе. Наша дапамога вёсцы заключаецца ў тым, што рабфак дапамагае праводзіць культурна-асьветную працу ў вёсцы. Пасылаем бяз грошай кніжкі, газэты для школ і хатчытальнень. Зьбіраем усе скаргі на розныя непарадкі мясцовай ўлады і чым можам, дапамагаем там, на месцы, а то ўсе скаргі перадаем у газэты.

Жыцьцё-ж у Менску ідзе так шпарка, проста так і б'е крыніцаю. На вуліцах бесьперастанку цэлы дзень да позьняй ночы ходзяць людзі, лётаюць аўтомобілі, езьдзяць фурманы. На вуліцах гарыць сьвятло электрычнасьць. Дамы стаяць мураваныя, двухпаверхныя, а нават ёсьць і шасьціпаверхныя. У горадзе і за горадам ёсьць розныя фабрыкі. Там працуюць рабочыя разам па некалькі сот чалавек. Пасьля цяжкай працы (я раз быў на заводзе і бачыў іхнюю працу і жыцьцё) ідуць яны па рабочых клюбах і там праводзяць час, чытаюць газэты і кнігі.

Бачыце, дарагія, родныя, што рабочыя таксама цяжка працуюць, але яны пасьля стараюцца разумна скарыстаць час, ня так, як у нас—у сварках, п'янстве і розных бойках.

Дарагія, родныя! Вельмі ўжо позна: тры гадзіны ночы. Усе мае таварышы заснулі і моцна храпуць. Мне таксама хочацца спаць. А што робіцца на сьвеце, то я напішу вам другім разам.

Бывайце здаровенькі. Напішы мне, Алеська, як вы там жывеце, што ў вас чуваць.

Шлю вам усім свой рабфакаўскі паклон.

Ваш сын Сьцёпка".

Міхайла Барута ціха ў вус усьміхаецца, а Сьцёпкава маці ўцірае сьлёзы радасьці і жалю.

*(Канец будзе).*

## ДА МУЗЫ

### А. Гурло

Я ня вораг сабе ні табе,
Не забойца я брата, ня Каін—
Замарыў я сябе ў барацьбе.
І вось, часам, як друга спаткаю,

Я да ног да яго прыпаду,
Яго рад цалаваць я, сьмяяцца,
Забываючы гора, бяду.
Не заві, ня ўпікай ты паяцам.

Не паяц я, не арлекін—
Проста шчыры душою і сэрцам.
Дык ты, муза, мяне не пакінь,
Дай мне ласкай тваёю сагрэцца.

Страціў веру я шмат у каго,
Адцураўся ліслівай спагады.
Праскакаў я жыцьця карагод
У хмелі злосьці, варожасьці, здрады.

Налажыла ўсё гэта на твар
І на кудры бялявы завітак,
Вочы страцілі бляск хараства...
Мяне ворагам ўсё-ж не заві ты.

Я ня вораг сабе ні табе
І цябе, як сябе, я шаную.
Замарыў я сябе ў барацьбе
І кахаю вось толькі адну я—

Гэта толькі кахаю цябе.
Праўда, часам табе я пярэчыў—
З гэтым разам пярэчыў сабе.
Ты прыпомні той радасны вечар—

Першы сум мой, твой першы акорд.
Як тады я стаў раптам вясёлы—
Сам сабе учыніў перакор.
Тады віхрам ўскружылася кола

І панесла жыцьцёвы наш вір.
Мы кружыліся ў віхры буяным...
Я быў раб, ты была—мой кумір,—
Былі-ж шчасьцем аднака мы п'яны.

А цяпер—вось ня ведаю сам--
Чаму сэрца сьціскае трывога?
Табе міла другая краса,
Ты шукаеш другое дарогі.

Я-ж застаўся адзін, як і быў,
Нават песьню з сабою ўзяла ты.
Толькі чую я шэлест вярбы
Для мае асамочанай хаты.

1926 г.

## НА СОЖЫ

### А. Гурло

Ой, цяжка быць на бездарожжы!
Ой, цяжка быць, як хто пакіне!
Хаджу ўзьбярэжжам рэчкі Сожы...
Яе далёка рвуцца плыні.

Мяне хвалююць і трывожаць
І іх ігра, і іх усплёскі.
Хто сілу хваль тых пераможа,
Што цешаць блізкім і далёкім?

Ня маю думак я варожых,
А нешта моцна сэрца цісьне.
Я рад бязьмерна рэчцы Сожы,
І роўна міла рэчка Сьвіслач.

І тут і там мне роўна гожа,
Але і тут і там мне горка,
Што сэрца цісьне і трывожыць
І вузкі шлях і шлях прасторны.

Гомель, 1926 г.

## СВАЕ НОЧЫ І ДНІ Я РАЗЬВЕЯЎ...

**Ясакар**

Шумяць грозныя шквалы сівыя,
Кожны з іх мяне глынуць гатоў.
Свае ночы і дні я разьвеяў
У віхуры пявучых гадоў.

Я рассыпаў вянкі гучных вёснаў,
Як дзяўчо лепясткі з васілька,
Нібы раньне на луг сеець росы,
Бы дукаты гулякі рука.

Замест вогнішча грэўся я песьняй—
Доўгі верш на працягу шмат лет.
У прасторных палёх было цесна,
Хоць у сэрцы насіў цэлы сьвет.

Смутак вэлюмы тчэ нада мною—
Годы бурныя рынулі ў цьму.
І заходзіцца сэрца тугою—
Я ня знаю, ня знаю чаму...

Замаркоціла думка ў паўночы,
Заскрабла, нібы ціхая мыш.
Нейкі болеч туманіць мне вочы,
Бы на плечы павесілі крыж.

Знаю, смутак сягоньня ня ў модзе,
Струны новыя ў полі зьвіняць.
Сьпеюць гымны аб шчасьці ў народзе,
І на сына любуецца маць.

Я—закінуты ў далі вандроўца,
Я уцек з беларускіх палёў
Да каўказкага яркага сонца,
Да абхазкіх чужых берагоў.

Я уцёк ад уласнага ценю
Да магнолій, да пальмавых рос.
Думы поўначы зноў замігцелі—
Я-ж іх сам з сваім сэрцам прынёс.

Я уцёк да арліных надгор'яў,
Дзе буяе, цьвіце вінаград,
Каб з мядовых і дзікіх пастораў
З новай сілай вярнуцца назад.

Можа тут свае болі залечу,
Пачну вершы пісаць, як пісаў.
Калі часам атручана сэрца,
Дык ці-ж сэрца я выкіну псам?

Можа гор залатыя гравюры
Запалоняць мяне, як дзіцё,
Можа мора норд-осты і буры
Кінуць смутак на дно ў забыцьцё.

Можа ў ночы запесьціць маланка,
Бразьне ў грудзі агатавы зык,
І насунуць ружовыя ранкі
Мне на кудры агністы башлык.

Можа морскія ямбы, хорэі
Ў маю кроў кінуць новы свой рытм,
Закалышацца думкі-камэі,
Як трыльёны хвалістых карыт.

Можа тут між скалістых даймонаў,
Паміж горных чароўных Тамар
Струны гусьляў маіх загамоняць
І зазорацца зовамі мар.

Можа песьня пастушкі абхазкай
Сэрца новым засее зярном,
Я паўднёвай захмелюся казкай,
Бы кіпучым чырвоным віном.

Абхазія. Гагры, 24-І-26 г.

## НОЧ ЦЬВІЛА, ЯК ГОРНЫ МІТ

**Ясакар**

Спусьціўся вечар смуглай кветкай,
Памчаўся вецер на кані.
І зср рубінавая сетка
Кідала мгненьні з вышыні.

Спляліся разам блізі, далі
У цёмна-сіні аксаміт.
І шэпты горныя паўсталі,
І ноч цьвіла, як горны міт.

Падняўся першы клік шакала,
Казала мора забабон.
І хваля хвалю паласкала,
І ноч плыла, як доўгі стогн.

І кактус кволы гнуў галіны,
Хіліў да самай да зямлі.
І за хвілінамі хвіліны,
Як дробны моль, у даль паўзьлі...

Абхазія. Гагры, 12-III-26 г.

# ТРЫОЛЕТ

**Паўлюк Трус**

Як струны звонкія цымбалаў,
У сэрцы песьня зазьвінела
І змоўкла ў лузе анямелым,
Як струны звонкія цымбалаў.

Яна у думках зарунелых
Расою раньняй не апала,
Як струны звонкія цымбалаў,
У сэрцы песьня зазьвінела.

## ТЫ ЎЖО СКАЗАЛА МНЕ НА РОСТАНЬ...

**Паўлюк Трус**

Ты ўжо сказала мне на ростань,
Як мы стаялі ля крыніцы.
Ня буду плакаць і журыцца,
Ты ўжо сказала мне на ростань.

Не адцьвітуць ў душы зарніцы,
Хоць разьвітаемся папросту.
Ты ўжо сказала мне на ростань,
Як мы стаялі ля крыніцы.

## ПЯЛЁСТКІ

**Ізраіль Плаўнік**

1

Пагубляла неба зорныя пялёсткі,
Засьцілалі кветкі поле і лугі...
Шчыра іх вітала лісьцямі бярозка,
Мігацелі ў хмарках пацеркі тугі:
Пагубляла неба зорныя палёсткі.
Засьцілалі кветкі поле і лугі...

* * *

Паплыву я з ветрам у прастор жытнёвы,
Назьбіраю кветак зорных на вянкі...
Запляту у косы... Вып'ю хмель ліпнёвы,
Паплыву я з ветрам у прастор жыцьцёвы—
І раздам навокал песьні-васількі.

2

Сьпеюць мары апаўночы,—
Штосьці зоры мне шапочуць,
Пранікаюць ў глыб душы...
Ахмяляе стан дзявочы...
Тайна зораў зьзяе ў вочах...
Вецер палкасьцю імжыць.
Расплялісе косы ночы,
Месяц срэбрам даль палошча,
Поіць кветкі на мяжы...
Сьпеюць мары апаўночы,—
Штосьці зоры мне шапочуць,
Заклікаюць жыць і жыць!..

3

Ой, ня плачце, ветры! Ня сумуй, зязюля!
Разарвала сонца зорную кашулю,
Разагнала хмаркі, месяц пахавала
І пашло купацца ў быстрай рэчкі хвалях...
Ня сумуй, зязюля! Срэбнаю расіцай
Пачастуе кветкі раньне-маладзіца...
Да грудзей пяшчотна сонейка прытуліць..
Ой, ня плачце, ветры, ня сумуй, зязюля

# СУЧАСНАЕ СТАНОВІШЧА САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ

*(З дакладу на пасяджэньні прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР 4-га чэрвеня 1926 г. аб дзейнасьці Ўраду Беларускае Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі)*

**А. Чарвякоў**

Наш даклад ужо адзін раз слухаўся на пасяджэньні Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР. Значыць, задача наша будзе зьмяшчацца ў тым, каб намаляваць дасягненьні Беларускае Рэспублікі за кругабег ад мінулага дакладу да гэтага часу. Гэта—першае. Другое—учора матэрыял, які тычыць дакладу, быў разасланы членам Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР, так што яны змаглі азнаёміцца больш падрабязна са становішчам Савецкае Беларусі. Трэцяе—вельмі мала часу, чаму прыдзецца спыніцца на самых галоўных пытаньнях для таго, каб ахарактарызаваць становішча Беларусі.

Першая група пытаньняў датычыць разьвіцьця народнай гаспадаркі Савецкай Беларусі. Разьвіцьцё Беларускай народнай гаспадаркі ідзе прыблізна тым-жа тэмпам і ў тым-жа кірунку, як і гаспадарка Саюзу ССР цалкам. Уздым гаспадаркі БССР, які адбываўся ва ўмовах надзвычайнага разбурэньня пасьля вайны, зараз мае значныя вынікі, што дазваляе сказаць аб набліжэньні БССР да заканчэньня аднаўленчага кругабегу ў гаспадарчым будаўніцтве. Аканчальнае завяршэньне аднаўленчага процэсу ў БССР затрымліваецца з прычыны разбуранасьці асноўнага капіталу цэлага шэрагу галін народнай гаспадаркі.

### Сельская гаспадарка *)

Сельская гаспадарка за апошнія тры гады мае значныя дасягненьні. Абязладжаная войнамі, якія адбываліся на тэрыторыі нашай Рэспублікі, яна ў 1920-21 годзе скарацілася на 30—35 проц. адносна даваеннага часу. Зараз яе становішча малюецца наступнымі данымі:

а) засеўная плошча ў 1924-25 годзе перавысіла даваенную на 13 проц., даўшы рост з 2.287,3 тыс. дзесяцін у 1923-24 годзе да 2.493,0 тыс. дзесяцін у 1924-25 годзе (+9 проц);

б) ураджай збожжа перавысіў сярэднюю даваенную норму: так, збор з дзесяціны ў пудох быў:

---

*) Лічбы ўзяты з аднае крыніцы, (з матэрыялаў эконом. кам. к дакладу прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР 4/VI-26 г. Аб дзейнасьці ўраду БССР), як у вартыкуле т. Адамовіча „Гаспадарчае будаўніцтва СССР і БССР“ (Полымя № 4 26 г.), так і ў гэтым артыкуле т. Чарвякова ў аддзеле „Сельская гаспадарка“.

| Сярэдні | 1905—13 г. | 1923—24 г. | 1924—25 г. |
|---|---|---|---|
| Жыта зімовае | 42,4 | 46,0 | 48,1 |
| Ячмень | 47,1 | 45,0 | 51,2 |
| Авёс | 48,3 | 51,0 | 55,7 |
| Ільляное семя | 29,2 | 22,4 | 26,2 |
| Бульба | 432,2 | 432,2 | 548,2 |

в) валавы збор збожжа з году ў год павялічваецца: сабрана было збажыны ў 1923 годзе 84.735,7 тыс. пудоў, у 1924 г.—92.703,2 тыс. пуд., у 1925 г. 100.982 тыс. пудоў;

г) тэхнічныя культуры і засеўныя травы ўсё больш і больш здабываюць сабе месца ў сельскай гаспадарцы, паступова адваёўваючы засеўную плошчу ад зернавых культур;

д) пашырэньне зямельных ужыткаў шляхам зямляўпарадкаваньня і мэліорацыі набывае ўсё больш шырокія памеры з адначасным пераходам гаспадарак да шматпольных севазваротаў. Зямляўпарадкавана да 1925 г. 1.830.020 дзесяцін, за 1925 г.—182.000 дзесяцін; мэліорацыйнымі работамі ў 1924-25 годзе было ахоплена забалочанай плошчы 31,5 тыс. дзесяцін, шматпольныя севазвароты організаваны ў 1925 г. на плошчы ў 100.088 дзес., з іх 73,4 проц. у сёлах і пасёлках;

е) гадоўля жывёлы хутка аднаўляецца, даўшы за мінулы год рост коняй—9,7 проц., буйнага быдла—10,1 проц., авец—13,6 проц., сьвіней—20,5 проц. У параўнаньні з даваеным часам на 100 дзесяцін засеву прыпадае штук скаціны:

| | 1913 г. | 1925 г. |
|---|---|---|
| Рабочых коняй | 29,6 | 27,4 |
| Дарослага буйнага быдла | 58,6 | 47,1 |
| Авец (без ягнят) | 54,5 | 55,2 |
| Сьвіней (без парасят) | 44,3 | 43,3 |

ж) сельска-гаспадарчыя машыны, начыньне, насеньне і штучныя ўгнаеньні ўсё больш і больш трапляюць у сёлы. За 1924-25 год сяло атрымала ўсяго гэтага на 162 проц. больш, чымся ў 1923-24 годзе;

з) коопэрацыйныя аб'яднаньні растуць, як сваёй колькасьцю, гэтак і колькасьцю пайшчыкаў: на 1-ае кастрычніка 1924 году было 849 аб'яднаньняў з 48.074 пайшчыкамі, а на 1-е кастрычніка 1925 г.—904 аб'яднаньні са 122.230 пайшчыкамі, што складае каля 20 проц. сялянскіх гаспадарак.

Такім парадкам, агульныя гадавыя даныя кажуць аб тым, што сельская гаспадарка Беларусі расьце колькасна і якасна. Аднак, для правільнай ацэнкі гаспадарчага становішча Беларускае Рэспублікі трэба мець на ўвазе, што Рэспубліцы шмат шкодзіць зямельная пералюдненасьць, і ў гэтым сэнсе яна знаходзіцца ў больш неспагадных умовах, чымся іншыя Рэспублікі Саюзу. На адну душу сельскага насяленьня ў Беларусі прыпадае каля 1,7 дзесяціны зямель сельска-гаспадарчага карыстаньня, з якіх каля 0,3 дзесяціны прыпадае на балоты. З гэтай прычыны Бела-

рускае сяло налічвае да 30 проц. лішняй рабочай сілы. Глебы Беларусі бедны і мала ўраджайны. Дзеля гэтага матэрыяльнае становішча Беларускага селяніна застаецца вельмі цяжкім, а адзначаныя вышэй дасягненьні зьяўляюцца вынікам упартай і напружнай барацьбы за сваё існаваньне. Перад намі ва ўсю веліч пастаўлена проблема перасяленьня, як адзін з выхадаў з надзвычай цяжкага становішча.

### Прамысловасьць

Наша прамысловасьць шчыльна злучана ў сваёй дзейнасьці з сельскаю і лясною гаспадаркаю. Яна грунтуецца, галоўным чынам, на перапрацоўцы сельска-гаспадарчай і лясной сырызны. За мінулыя гады мы маем вельмі значны рост прамысловасьці, і яна набывае ўсё большую ўдзельную вагу ў нашай экономіцы.

Галоўныя даныя, якія малююць становішча прамысловасьці, такія:

1. За 1924-25 г. асноўны капітал дзяржаўнай прамысловасьці, падпарадкаванай Вышэйшаму Савету Народнай гаспадаркі Беларусі, павялічыўся з 9.891,5 тыс. да 11.434,7 тыс. або на 11,6 проц.; уласныя зваротныя сродкі ўзрасьлі з 6.563,8 тыс. да 9.282,8 тыс., інакш на 41,5 проц.

2. Валавы выраб цэнзавай прамысловасьці павялічыўся з 33167,3 т. руб. у 1923-24 годзе да 51.311,2 тыс. руб. у 1924-25 г. (+59,5).

3. Колькасьць рабочых, занятых у прамысловай вытворчасьці, павялічылася з 11.552 чал. у 1923-24 годзе—да 14.738 чал. у 1924-25 годзе (+27,6%).

4. Выраб на адзін чалавек-дзень з 4,8 даваенных руб. у 1923-24 г. падняўся да 5,86 руб. у 1924-25 г. (+22%).

5. Заработная плата дасягнула ў 1924-25 годзе 22,8 бюдж. руб.,— вышэй на 21,3% параўнальна з заработнаю платаю ў 1923-24 годзе.

У 1925-26 годзе мяркуецца затраціць на прамысловае будаўніцтва 5.795,7 тыс. руб. Пераважная колькасьць гэтых сродкаў (каля 85%) ідзе на пераабсталяваньне, пашырэньне асноўнага капіталу і пабудову новых заводаў. У мінулым годзе капітальныя затраты пераважна мелі аднаўленчы характар. У 1926-27 г. проектуецца выпаўніць розных будаўнічых работ (прыблізна) на 12.000.000 рублёў.

Асноўныя патрабаваньні, што выстаўляюцца прамысловасьцю Беларусі, такія:

а) узмацненьне фінансаваньня прамысловасьці з пазыкі гаспадарчага аднаўленьня на будаўніцтва і

б) уладжаньне пытаньня цэнтрам аб бесьперапынным дастаўленьні прамысловасьці сырызны і прадметаў тэхнічнага абсталяваньня, асабліва прывозных.

Побач з гэтым мы маем значны рост мясцовай і прыватнай прамысловасьці, а таксама дробна-саматужнай і рамясловай вытворчасьці. Агульная колькасьць гэтых прадпрыемстваў дасягае 39.348, з якіх 2.766 маюць

мэханічныя рухавікі і ў якіх занята звыш 55.000 рабочых. Пераважная большасьць прыватных гаспадарчых адзінак выпадае на долю адзінак саматужнікаў і рамесьнікаў (32.516).

Валавы выраб мясцовай прамысловасьці дасягае прыблізна каля 15.000.000 руб., што складае палову вырабу ўсяе цэнзавай прамысловасьці.

Удзельная вага прыватнай цэнзавай прамысловасьці зьмяншаецца: у 1923-24 годзе яна мела 6,7% рабочых і 8,3% валавога вырабу, а ў 1924-25 годзе ўжо 4,2% рабочых і 5,6% вырабу ўсяе цэнзавай прамысловасьці.

**Гандаль**

Поруч з гэтым ідзе значнае пашырэньне звароту тавараў. Асноўныя даныя, якія датычаць гэтага таваразвароту, зьяўляюцца тымі самымі, што і для ўсяго Савецкага Саюзу, чаму на іх падрабязьней спыняцца я ня буду.

**Бюджэт**

Цікава прасачыць рост народнай гаспадаркі, як ён адбіваецца на нашым бюджэце. Расходы БССР, якія падлічаліся ў 1924-25 годзе ў 13.272 тыс. рублёў па дзяржаўным бюджэце і ў 19.593 тыс. рублёў па мясцовым, у 1925 годзе вырасьлі да 26.177 тыс. рублёў па дзяржаўным і да 24.703 тыс. рублёў па мясцовым бюджэце, даўшы суадпаведны рост на 90 і 26%.

Цікавы даныя, якія малююць рост бюджэту Савецкай Беларусі і іншых Саюзных Рэспублік. Даходы і расходы па дзяржаўным і мясцовым бюджэтам РСФСР, УССР і БССР за 1923-24, 1924-25 і 1925-26 г.г. на 1 душу насяленьня ў рублёх выражаліся ў наступных лічбах:

Даходы:

| | БССР | % | РСФСР | % | УССР | % |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1923-24 г. | 3,47 | (100) | 5,33 | (100) | 5,61 | (100) |
| 1924-25 г. | 6,16 | (177,8) | 8,44 | (158,3) | 8,23 | (146,5) |
| 1925-26 г. | 9,11 | (259,3) | 12,83 | (231) | 12,09 | (209,3) |

Расходы:

| | БССР | РСФСР | УССР |
|---|---|---|---|
| 1923-24 г. | 4,18 | 6,19 | 6,10 |
| 1924-25 г. | 5,92 | 9,11 | 7,97 |
| 1925-26 г. | 9,68 | 11,35 | 12,48 |

З гэтых даных відаць, што павялічэньне даходаў і расходаў па бюджэце на 1 душу насяленьня Беларусі ідзе ўсё больш узмоцненым тэмпам і нават хутчэй, чымся ў іншых рэспубліках. Аднак, з гэтых-жа даных відаць, што забесьпячэньне БССР сродкамі адстае ад яе суседзяў, хоць ясна відаць, што СССР імкнецца ўсякімі спосабамі дапамагчы Беларусі, каб нагнаць папярэдзіўшых суседзяў і гэтым даць ёй мажлівасьць гаспадарча і культурна разьвівацца.

## Агульныя ўмовы працы ў Беларусі

Трэба сказаць, што нашу работу ў галіне гаспадарчага будаўніцтва прыходзіцца весьці ва ўмовах 1) зямельнага перанасяленьня сяла, 2) экономічнага развалу нашых мястэчак. Паводле нашых падлікаў, беларускае сяло дае да 30% лішкаў рабочай сілы; мястэчкі, экономічна аслабелыя, ня маючы экономічнага грунту для свайго разьвіцьця, даюць агромністы лік беспрацоўных.

## Яўрэйскае пытаньне

Спынюся на нашых экономічных мерапрыйманьнях, якія палягчаюць становішча яўрэйскага насяленьня. Мы выбралі два шляхі: 1) надзяленьне яўрэйскага насяленьня зямлёй і 2) залучэньне яўрэйскага насяленьня на нашы фабрыкі і заводы. У мінулым годзе нам удалося прыстасаваць каля 5 000 душ яўрэйскага насяленьня на зямлю, вылучыўшы для гэтай патрэбы зямельнага фонду каля 10.000 дзесяцін. У гэтым годзе тэмп надзяленьня яўрэяў зямлёю пойдзе некалькі марудней, бо вылучыць вольныя плошчы вельмі цяжка—прыходзіцца вызначаць для гэтага некаторыя лясныя вучасткі. Але ўсё-ж у гэтым годзе мы думаем прыстасаваць яўрэяў прыблізна на 5.000 дзес. Адзначу, што нашыя мерапрыемствы ў гэтым кірунку сустракаюць шчырае падтрыманьне з боку беларускага сялянства. У значнай ступені аслабленьню цяжкага экономічнага становішча мястэчак будуць спрыяць ільготы, якія даюцца саматужнікам і рамесьнікам.

## Культурная праца

Наша рэспубліка самая няпісьменная з ўсіх частак Савецкага Саюзу, апрача Туркмэністана, Узбэкістана. На 1.000 душ насяленьня ў 1920 годзе пісьменных прыходзіліся: па эўропэйскай часьці РСФСР—434, Паўночнаму Каўказу—356, Украіне—416, Беларусі—327. Пісьменныхжа ў сельскіх мясцовасьцях на 1.000 душ насяленьня налічвалася 276 ч. Калі-ж вылічыць адсюль вучняў, то атрымаем яшчэ меней: 25,92%. Імкненьне з боку насяленьня ў школы надзвычайна вялікае. Паводле нашых падлікаў, імкненьне ў школы ў нас мацней, чымся ў іншых часьцях Савецкага Саюзу. Наплыў дзяцей ў школы выражаецца наступнымі лічбамі (у процантах) па Саюзу ССР—13,9, па РСФСР—13, па УССР—16, а па БССР—24,3.

Колькі дзяцей забясьпечана зараз школамі? Да вайны ў межах Беларусі навучалася дзяцей у веку ад 8 да 11 год—39%; у гэтым годзе гэты процант падняўся да 68. За бартом, такім чынам, астаецца 32% дзетвары. Шмат горай ідзе справа з дзяцьмі ад 12 да 15 год. Такіх дзяцей у школах навучаецца ўсяго—12%, а ў сельскіх мясцовасьцях—6%. Другая ступень ня ўбірае патрэбнай колькасьці дзяцей—не хапае сямілетак. Мы разглядаем гэта як дачаснае зьявішча. У цэнтральным прамысловым раёне навучаецца, як ведама, ужо 91,2% дзяцей ад 8 да 11 г., у Паўночна-Заходнім—89,2%.

Павялічэньне колькасьці дзяцей школьнага веку ў школах ідзе за рахунак нагрузкі на настаўніка. Лік школ расьце марудней, чымся лік жадаючых паступіць у школы. Нормальна, як ведама, на аднаго настаўніка палагаецца група ў 40 вучняў.

Я лічу, што для пераходнага часу нормальнай групай у Беларускай Рэспубліцы можна лічыць групу ў 40 вучняў.

Між тым, паводле даных ЦСУ СССР, на 1 студзеня 1925 году на аднаго настаўніка прыходзілася: у СССР—34,7 вучняў, РСФСР—34,1, УССР—37,9, БССР—38,2. У сельскіх-жа мясцовасьцях у школах прымітыўках нагрузка яшчэ большая: у СССР—41,5, РСФСР—41,9, УССР—40,4, БССР—49,4.

Расходы, якія Савецкая Беларусь робіць на народную асьвету, растуць штогодна. Параўнальна з 1923-24 годам, гэтыя расходы вырасьлі ў паўтара разы ў 1924-25 годзе; а ў гэтым годзе, параўнальна з 1923-24 г., прыкладна, у 3 разы.

Мы апрацавалі плян ўсеагульнага навучаньня. Паводле нашых падлікаў, мы зможам ажыцьцёвіць гэты плян ўсеагульнага навучаньня, прыкладна, у 10 год. У гэтым годзе мы пачалі яго ажыцьцяўляць. У пагранічных раёнах нам удасца збыць няпісьменнасьць у 5 год. Польскі ўрад у вадзнаку вызваленьня ад бальшавікоў будуе на граніцы касьцёлы. Мы-ж на сваіх граніцах у вадзнаку вызваленьня ад белапалякаў—будуем школы.

Цікавы даныя аб разьвіцьці профэсыянальна-тэхнічнай асьветы. У нас існуе: тэхнікумаў—23, проф.-тэхн. школ—29, іншых—20. Варта таксама адзначыць, што нам удалося замацаваць і забясьпечыць разьвіцьцё вышэйшых школ Беларусі: Унівэрсытэту, Сельска-Гаспадарчай Акадэміі, КОМВУЗ'у і Вэтэрынарнага Інстытуту.

Такім чынам, і гаспадарчы, і культурны рост мае месца ў нашай Савецкай Беларусі. У сувязі з гэтым мы маем значны рост палітычнай актыўнасьці насяленьня.

Даныя аб перавыбарах у Саветы лепш за ўсё характарызуюць гэты рост.

### Перавыбары ў Саветы

У гэтым годзе мы правялі перавыбарную кампанію на грунце інструкцыі ЦВК Саюзу ССР, разасланай усім нам у якасьці кіраўніцтва. Паасобку, для нас меў вялікае значэньне артыкул 18 гэтай інструкцыі, дзе гаварылася аб тым, хто не пазбаўляецца права выбараў у Саветы. Гэты артыкул, трэба сказаць, выклікаў у нас агромністы палітычны эфэкт. Атрымаўшых права выбару па гэтай інструкцыі ў нас даволі многа.

Перавыбарную кампанію мы правялі дакладна, грунтуючыся на інструкцыі ЦВК Саюзу ССР, ужываючы рассылку позваў, вызначаючы выбарныя вучасткі, праводзячы папярэднія справаздачныя кампаніі і, урэшце, праводзячы сходы беднаты.

Трэба сказаць, што лёзунг аб рабоце сярод беднаты быў даны, як належыць, своечасна. Мы правялі шырокую кампанію сярод беднаты, склікаючы сходы, прычым дапускалі на гэтыя сходы і серадпякоў. Мы ставілі ў парадку дня пытаньні гаспадарчага будаўніцтва, мерапрыйманьні Савецкага Ўраду, накіраваныя да паляпшэньня гаспадарчага становішча беднаты, і выступленьні адзіным фронтам беднякоў і серадпякоў на выбарах супроць кулакоў і іншых процісавецкіх элемэнтаў. Гэтыя сходы былі надзвычайна шматлікімі і актыўнымі; яны выклікалі энтузыязм з боку бяднейшага нясяленьня і спрыялі шчыльнаму аб'яднаньню серадпякоў і беднаты. Серадпякі ахвотна ішлі на гэтыя сходы і пасьля выступалі на выбарах адзіным фронтам з беднатой.

Грунтам яднаньня серадпякоў і беднякоў было імкненьне пабудаваць жыцьцё пановаму і правесьці зямляўпарадкаваньне. Вось асноўны вузел, вакол якога скрыжоўваліся інтарэсы серадпякоў і беднякоў. Серадпяком абрыдла валакіта з правядзеньнем зямляўпарадкаваньня. Яны разумеюць, што Савецкая Ўлада будзе падтрымліваць беднату, і загэтым яны былі на яе баку.

Некалькі слоў аб актыўнасьці насяленьня. У перавыбарную кампанію ў нас прымала ўдзел 48 проц. насяленьня. Па асобных акругах гэты процант павялічваўся. Так, напрыклад, у Мазырскай акрузе ўдзел выбаршчыкаў дасягаў—54 проц., Барысаўскай—52 проц., Калінінскай—55 проц., Полацкай—55 проц. Па асобных выбарных вучастках на сходы зьяўлялася да 80 проц.

Удзел у перавыбарах саматужнікаў і раней пазбаўленых, а цяпер, паводле арт. 18 інструкцыі, атрымаўшых права выбараў, быў надзвычайна актыўным. Мы маем ў некаторых выпадках організованыя актыўныя выступленьні.

Надзвычайна незначнай у гэтых выбарах была роля Саюзу працаўнікоў зямлі і лесу. Гэты Саюз не адыграў той ролі, якую павінен быў адыграць.

Удзел інтэлігенцыі колькасна быў надзвычайна актыўным. Амаль усе 100 проц. зьявіліся на выбары. Але ў гэтым годзе настаўнікі і іншая інтэлігенцыя на выбарах была пасыўнай: здымала свае кандыдатуры, не выступала актыўна ў абарону тых кандыдатур, якія мы хацелі правесьці. У чым-жа справа? На настаўніцкім зьезьдзе мы ставілі гэтае пытаньне. Аказваецца—нежаданьне сварыцца з заможным сельскім элемэнтам, нежаданьне прымаць удзел у клясавай барацьбе сяла, ідэя агульнага сялянскага, агульнага нацыянальнага фронту часта мелі вялікае значэньне.

Найбольш характэрным фактам для перавыбарных кампаній гэтага году зьяўляецца: праяўленьне групавай барацьбы розных соцыяльных пластоў сялянства ў кірунку заваяваньня Саветаў. Гэта асабліва яскрава выявілася: 1) пры ацэнцы дзейнасьці даваўшых справаздачы органаў на выбарных сходах, калі кулацкая частка падавала прапазыцыі, якія ганьбілі

дзейнасьць сельсавету альбо райвыканкому, а бедната і серадмякі—выказвалі сваё адабрэньне; 2) пры выбарах прэзыдыумаў; 3) пры выбарах падлічальнікаў і ўтварэньні паўторных падлікаў. Былі выпадкі, калі той альбо іншай групе не ўдавалася правясьці сваіх кандыдатаў, дэманстратыўнага пакіданьня сходу групамі пасьля іх паражэньня.

Бядняк і серадняк ў пераважнай большасьці выпадкаў выступалі супольна супроць заможных і кулакоў, упарта і актыўна баранячы сваіх кандыдатаў у Савет. Зрэдка наглядаліся моманты, калі серадняк часткова ішоў за кулаком, як, напрыклад (у вадным выбарным пункце Сураскага раёну, Віцебскай акругі), адзін серадняк выступаў супроць беднякоў, кажучы, што беднякоў ня трэба выбіраць у Саветы, і што Савецкая ўлада трымаецца толькі на серадняках і кулаках. У другім выбарным пункце Гайнаўскага сельсавету (Новая-Гайна), Лагойскага раёну, Менскай акругі серадмякі організаваліся з багатымі хутаранамі і правалілі кандыдатуры беднякоў у сельсавет.

Заможны і кулак актыўна выстаўлялі сябе супроць бедняка і серадняка, іншы раз відочна, а часамі шляхам вярбоўкі серадняка і сkліканьнем нелегальных сходаў.

Прыслужнікі рэлігійных культаў: папы, дыяканы і ксяндзы ў некаторых мясцох таксама прымалі ўдзел у організаваньні кулацтва. Так, напрыклад, у Копыльскім раёне, Слуцкай акругі, гэтая група насяленьня цераз кулакоў хацела правесьці старшыню касьцёльнай пяцёркі і дачку папа (апошняя папала ў сельсавет, але на пленуме зьняла сваю кандыдатуру) і іншых пажаданых ім кандыдатаў.

Апрача некаторых выпадкаў, спробы кулацтва ўсюды ня мелі посьпеху; шмат дзе кулакі былі зможаны ўжо ў часе перадвыбарнай кампаніі, і, страціўшы ўсякую надзею прайсьці ў Савет, рабілі спробы сарваць сход, або не зьяўляліся на выбары. Былі і такія выпадкі, калі пасьля няўдачы кулакі ў рэзкіх формах скардзіліся ў ЦВК, прыводзячы розныя факты формальнага характару, асабліва там, дзе кіраўнікі перавыбараў не ў належнай меры былі практычны і давалі зачэпкі для скаргаў. Так, напрыклад, у Верхачанскім сельсавеце, Полацкай акругі, кулакі зрабілі фальшывыя подпісы ад некалькіх сёл і падалі скаргу, ускладаючы шэраг абвінавачаньняў на сельсавет, скарыстаўшыся тым, што былі зроблены некаторыя тактычныя памылкі; у Кражаскім сельсавеце, Барысаўскай акругі, організаваўшаяся група кулакоў пабыла на ўсіх выбарных вучастках і пасьля няўдач скардзілася па тэлеграфу ў ЦВК ў рэзкім тоне, вінавацячы выбраны сельсавет ў адміністрацыйным нажыме і розных злачынствах. Пасьля праверкі факты не падцьвердзіліся, і выявілася, што гэтая група вяла напружную работу за сваіх кандыдатаў, дзеючы рознымі спосабамі: зрывам сходаў, спойваньнем і інш.

Адносна перавыбараў з боку мясцовых выбарных камісій была вытрымана правільная лінія. Мы ўнiклі адміністрацыйнага нажыму. Было непаразуменьне ў Быхаве, дзе некалькі перастараліся. Пэўную ролю

адыгралі нашы вылучэнцы, як у сэнсе высьвятленьня перад масамі пытаньняў савецкага будаўніцтва, гэтак і ў сэнсе залучэньня насяленьня ў выбарныя кампаніі. У гэтым годзе нам удалося абнавіць нашы сельскія саветы на 45-46 проц., старшынь райвыканкомаў на 25—30 проц.

У дачыненьні складу нанова выбраных сельсаветаў можна адзначыць наступнае:

а) вельмі нязначны процант батракоў;

б) зьніжэньне процанту бясконных;

в) павялічэньне процанту вызваленых ад сельска-гаспадарчага падатку з прычыны незаможнасьці;

г) некаторае зьніжэньне процанту жанчын;

д) павялічэньне процанту членаў і кандыдатаў КПБ і членаў ЛКСМБ.

## Аб актыўнасьці насельніцтва

Цікавы наступныя даныя, якія характарызуюць актыўнасьць насяленьня.

Тыраж газэт, якія выходзяць у БССР, дасягае 90.670, што дае адну газэту на 46,2 душ насяленьня.

Калі-ж узяць лічбу беларускіх і ўсесаюзных газэт, то выйдзе, што адна газэта прыходзіцца на 25,7 чалавек.

Часопісяй у БССР выходзіць 12 з тыражом 35 950. Дзякуючы экономічнаму ўздыму беларускага сяла, газэты пачынаюць усё больш туды трапляць. Апроч нашых акруговых газэт сяло выпісвае: 23.000 экз. „Крестьянской газеты", 8.968 — „Бедноты" і 3.107 — „Батрак".

Камітэты ўзаемадапамогі ахапляюць на грунце дабравольнага членства каля 90 проц. сялянскага насяленьня.

## Палітычныя настроі насяленьня

Палітычныя настроі асобных груп насяленьня можна ахарактарызаваць, прыкладна, такім чынам:

1. *Настрой рабочых* цьвёрда-савецкі. Калі і ёсьць нездаволенасьць, дык яна выходзіць ад нездаволенасьці асобнымі настроямі, да жаданьня збыць іх, выправіць, умацніць Саветы.

Рабочыя нездаволены: а) рэальным зьніжэньнем заработнай платы, б) цяжкімі кватэрнымі ўмовамі, в) выпадкамі безгаспадарнасьці адміністрацыі, высокімі нявытворчымі расходамі ў некаторых трэстах і заводаўпраўленьнях, г) выпадкамі ненормальных адносін адміністрацыі да рабочых, д) выпадкамі невыпаўненьня ўмоў аховы працы (як з прычыны нядбайнасьці, няўважлівасьці, нераспараджальнасьці адміністрацыі, гэтак і з прычыны спаханасьці асноўнага капіталу), ж) слабасьцю работы заўкомаў, а таксама некаторымі ненормальнасьцямі ў дзейнасьці профсаюзаў.

Яскравым паказальнікам палітычнага становішча на сяле зьяўляюцца перавыбары Саветаў. Мы маем павялічэньне актыўнасьці ўсіх пластоў сяла, арганізаваную актыўнасьць беднаты ў раёнах, дзе праведзены былі сходы беднаты, узмацненьне блёку беднаты з серадняками, часам з перавагаю на баку беднаты там, дзе была праведзена партыйяй падга-

тоўчая работа, яшчэ большае прыбліжэньне да Савецкай улады сельскага настаўніка. Блёк кулака з серадняцкай верхавінкай, пры бліжэйшым удзеле процісавецкай інтэлігенцыі, былых людзей (духавенства), пры скарыстаньні хуліганячага элемэнту; максымальную актыўнасьць кулака і блёкуючыхся з ім пры перавыбарах у барацьбе супроць бядняцка-серадняцкага блёку (мобілізацыя на выбарах сваіх прыхільнікаў, подкуп і спойваньне беднякоў і сераднякоў, спробы да зрыву сходаў, выстаўленьне кандыдатур жанчын, асобных беднякоў і сераднякоў, якія знаходзяцца пад кулацкім уплывам для ўчыненьня расколу ў бядняцка-серадняцкім блёку і гэт. дал.). Прыкметны рост палітычнай актыўнасьц процісавецкай інтэлігенцыі, былых людзей, духавенства ў сяле ў справе арганізаваньня і афармаваньня процігарадзкіх, проціпролетарскіх і процісавецкіх тэндэнцый верхавінкі сяла (арганізаваны ўдзел у стварэньні кулацкага блёку з серадняцкай верхавінкай проці бядняцка-серадняцкага блёку; агітацыя супроць Савецкай улады, як улады гарадзкой, якая аграбляе сялян; процістаўленьне сялян рабочым; агітацыя за лёзунгі самаарганізаваньня сялян у свае саюзы; палітычнае афармленьне нездаволенасьці сялян асобнымі памылкамі, промахамі і злоўжыцьцямі нізавога савецкага апарату, шляхам абагуленьня і абгастрэньня, часта зусім правільных, папрокаў асобных сялян і гэт. дал.).

Нездаволенасьць сялян выяўляецца ў наступным: а) папрокі ў вострай форме на нізавы савецкі апарат (п'янства, цеганіна, бюрократычнасьць нядбайнасьць да справы, грубасьць, сувязь з кулакамі і залежнасьць ад іх, растраты, хабарніцтва, протэкцыянізм), слабасьць коопэрацыі (растраты), слабасьць камітэтаў узаемадапамогі; б) маруднасьць правядзеньня зямляўпарадкаваньня, маруднасьць лесаўпарадкаваньня, невыстарчальны водпуск лесаматэрыялаў, апалу, скаргі на лясьнікоў за зачыноўленасьць, хабарніцтва, протэкцыянізм, невыстарчальнасьць пашы і сенажаці; в) слабасьць культурна-асьветнай работы,—недахоп хат-чытален, невыстарчальнасьць школьнай сеці, падручнікаў, мэдыцынскай і вэтэрынарнай дапамогі; г) патрабаваньні аб дачы доўгачаснага крэдыту, пашырэньні крэдыту, спрашчэньні сыстэмы крэдытаваньня; скаргі беднякоў на вельмі малую дапамогу дзяржавы; д) высокія цэны на прамтавары і сельска-гаспадарчыя машыны, скаргі на недахоп прамысловых тавараў; е) мяккасьць карнай політыкі адносна да растрат, службовых праступкаў і хуліганства на сяле.

Асноўнымі контр-рэволюцыйнымі сіламі ў Беларусі зьяўляецца духавенства, затым — сіоністы. Мы лічым, што імі вядзецца арганізаваная плянамерная работа. Трэцяя контр-рэволюцыйная сіла — процісавецка настроеная інтэлігенцыя: былыя людзі, афіцэрства, якое не прымірылася са стратай мінулага і гэт. дал. Гэтая сіла розьніцца тым, што яна не арганізавана і дзейнічае паадзінцы. Яна небясьпечна тым, што ў выпадку нарастаньня якіх-небудзь ускладненьняў, можа абрастаць для таго, каб дзеяць проці нас больш актыўна.

Мы маем духавенства праваслаўнае і каталіцкае. Праваслаўнае ў значнай ступені згубіла свой аўторытэт у зьвязку з расколамі. Але гэта не азначае, што рэлігійныя настроі ў сяле зьбыты. Вакол кожнага папа ёсьць асаблівы актыў, які ў патрэбную хвілю яго абараняе. Царкву мала наведваюць, але гэта не зьяўляецца паказальнікам слабасьці рэлігійных настрояў. Вакол папа, як я ўжо казаў, ёсьць актыў, які, папершае, забясьпечвае папа матэрыяльна, падругое, клапаціцца аб дабрабыце царквы, патрэце, выступае актыўна ў абарону папа, калі яму што-небудзь пагражае.

Але шмат большую небясьпеку ва ўмовах Беларусі мае каталіцкае духавенства. Гэтае духавенства карыстаецца вялікім аўторытэтам сярод фанатычна настроенага насяленьня. Яно небясьпечна яшчэ і тым, што палітычна зьвязана з закардонам. Так, біскуп жыве ў Польшчы і ксяндзоў для Беларусі назначае адтуль.

### Інтэлігенцыя

Ва ўмовах Беларусі інтэлігенцыя зьяўляецца актыўнай сілай, асабліва ў нацыянальным руху. У вапошні час мы маем магчымасьць зазначыць значныя набліжэньні інтэлігенцыі да Савецкай улады і ідэй комунізму, хоць гэты процэс ідзе побач з далейшай крысталізацыяй нацыянал-дэмократычных настрояў і ідэй. Данае зьявішча мае для Беларусі тым большае значэньне, што настроі беларускай інтэлігенцыі знаходзяцца ў пэўным узаемадачыненьні з настроямі закардоннай інтэлігенцыі. Уцалку беларуская інтэлігенцыя пры агульна-савецкім настроі яе пераважнае большасьці, паводле сваіх палітычных поглядаў можа быць падзелена на наступныя групы: 1) група, якая прымае асноўную лінію партыі і працуе з ёю поруч; гэтая група набіраецца, галоўным чынам, з нізавой інтэлігенцыі; 2) група, якая прыхільна да супрацоўніцтва з Савецкаю ўладаю, але падпадае пад уплыў, часа даволі значны, нацыянальна-дэмократычных настрояў; 3) група палітычна пасыўная; 4) група, варожая нашай палітыцы, хоць часта прыкрываецца паказной савецкай лёйяльнасьцю

Асноўнымі момантамі формуючайся нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі зьяўляюцца: 1) адмаўленьне дыктатуры пролетарыяту, 2) імкненьне да палітычнага ўраўнаваньня сялянства з рабочай клясай і да так званай агульна-сялянскай улады, 3) стаўка на кулацкія элемэнты сяла, якая часта прыкрываецца замазваньнем клясавага расслаеньня ў ім, 4) імкненьне да ўплыву на дзяржаўны апарат, з мэтай зьмены яго соцыяльнай істоты, 5) правядзеньне беларускага шовінізму і наступальная лінія ў дачыненьні да нацыянальных меншасьцяй.

Нацыянал-дэмократызм у Савецкай Беларусі знаходзіць свой соцыяльны грунт у настроях буржуазнай верхавінкі сяла, палітычную ідэолёгію якога ён об'ектыўна прызваны прадстаўляць.

Будзе памылкаю перавялічваць памеры гэтай небясьпекі і прадстаўляць сабе такія настроі, як нешта зусім аформленае. Аднак, яшчэ боль-

шаю памылкаю зьявілася-б недаацэнка захаванай сілы нацыянал-дэмакратычнага руху, маючы на ўвазе няўхільнасьць далейшага расслаеньня сяла.

Настроі яўрэйскай, вялікарускай і невялікага кадру польскай інтэлігенцыі ўцалку адпавядаюць настроям беларускай інтэлігенцыі. Розьніца зьмяшчаецца ў тым, што нацыянал-дэмакратычны настрой яўрэйскай інтэліґенцыі выліваецца ў форму сіонізму, які павялічваецца цяжкім экономічным становішчам мястэчка. Сярод савецкай часткі яўрэйскай інтэлігенцыі заўважваецца спэцыфічная туга па яўрэйскай дзяржаўнасьці. Значная праслойка вялікарускай русыфікаванай інтэлігенцыі менш актыўна ў агульных палітычных пытаньнях. Сярод польскай інтэлігенцыі расьце савецкая актыўнасьць нізавых яе слаёў.

Для прыкладаў двухбаковага процэсу сярод інтэлігенцыі можна падаць шэраг фактаў. Увосень 1925 году ў Бэрліне адбыўся зьезд прадстаўнікоў беларускіх грамадзкіх і палітычных організацый, на якім было пастаўлена пытаньне аб адносінах да Савецкай Беларусі. Большасьць дэлегатаў, якая прадстаўляла найбольш сумленныя колы беларускай інтэлігенцыі за кардонам, вывучыўшая становішча Савецкай Беларусі, яе ўзаемадачыненьні з Савецкім Саюзам, прынцыпы і практыку нацыянальнай палітыкі Савецкай ўлады, прышла да вываду аб тым, што толькі Савецкая ўлада забясьпечвае экономічнае і культурнае разьвіцьцё Беларусі. Гэтая група, на чале якой стаяў А. Цьвікевіч, пастанавіла скасаваць Урад так званай Беларускай Народнай Рэспублікі, *перадаўшы поўнамоцтвы ўраду Савецкай Беларусі і прызнаўшы Менск палітычным, экономічным і культурным цэнтрам для ўсіх беларускіх тэрыторый.* Гэты факт сьведчыць аб тым, што процэс набліжэньня інтэлігенцыі да Савецкай улады ідзе ўпярод. Аднак, побач з гэтым, мы можам на прыкладзе так званай „лістападаўшчыны“ паказаць, што нацыянал-дэмакратычныя настроі, варожыя Савецкай уладзе, таксама выяўляюцца ў асобных прадстаўніках інтэлігенцыі, хоць у той-жа час мы можам сьмела заявіць, што „лістападаўскія“ настроі не знаходзяць сабе водгуку сярод шырокіх колаў беларускай інтэлігенцыі.

### Нацпалітыка Савецкай Беларусі

Агромністае значэньне ў замацаваньні савецкіх настрояў сярод розных груп насяленьня адыграла наша нацыянальная палітыка. Істота нацыянальнага пытаньня ў БССР вызначаецца наступнымі момантамі, якія характарызуюць агульнае становішча і задачы Беларусі:

1. Гаспадарчы заняпад і дэзорганізацыя Беларусі, якія стварыліся ўсёю дарэволюцыйнай гісторыяй краіны і паласою фронтаў, якая праходзіла праз краіну па некалькі разоў і якія ў значнай меры ўзмоцнены прыроднымі ўмовамі БССР.

2. Культурны заняпад, які, з аднаго боку, спадарожнічае з нізкім роўнем дабрабыту і быту насяленьня, а з другога, абумоўлен ўсёй палі-

тыкай царскага ўраду—прыдушэньня беларускай культуры, ганебнасьці на мову і літаратуру. Гэтае самае датычыць польскага і яўрэйскага насяленьня краіны.

3. Нацыянальнымі супярэчнасьцямі, якія зьмяшчаюцца ў тым, што нацыянальныя і соцыяльныя адзнакі, на моцы гістарычных умоў, шчыльна перапляліся, адклаўшы тоўсты пласт нацыяналістычных забабонаў, адрозьненасьці і варожасьці, і, што асабліва важна, аддзялілі горад ад вёскі шмат разчэй, чымся ў іншых раёнах.

Таму ўся работа ў БССР праводзілася ў трох асноўных кірунках: аднаўленьне гаспадаркі, культурнае разьвіцьцё і ўмацаваньне міжнацыянальных адносін.

Адзначаная вышэй характарыстыка гаспадарчых дасягненьняў у Беларусі зьяўляецца лепшым адказам аб рабоце ў кірунку аднаўленьня беларускай гаспадаркі пры дапамозе Савецкага Саюзу. У галіне культурнага будаўніцтва мы можам адзначыць шэраг вялікіх дасягненьняў. Беларуская мова паступова становіцца мовай выкладаньня ва ўсіх школах, дзе вучацца беларускія дзеці, а ва ўсіх іншых школах уведзена як абавязковы прадмет. Так, у гэтым годзе ва ўсіх школах соцыяльнага выхаваньня, у мясцовасьцях з пераважным беларускім насяленьнем, выкладаньне вядзецца ўжо ва ўсіх клясах на беларускай мове, а ў школах, мясцовасьцяй, далучаных у 1924 годзе—у першых трох групах, з выкладаньнем беларускай мовы ў іншых клясах.

Побач з гэтым ёсьць адпаведная колькасьць школ і іншых нацыянальнасьцяй. Апошнія паводле нацыянальнага характару разьмяркоўваюцца ў такім парадку:

| | Яўрэйскіх | Польскіх | Рускіх | Латыскіх | Нямецкіх | Эстонскіх |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Чатырохлетак | 134 | 96 | 34 | 16 | 1 | 1 |
| Сямілетак | 41 | 5 | 29 | 16 | — | — |
| Пэдтэхнікумаў | 2 | 1 | — | — | — | — |

Ува ўсіх пэдтэхнікумах выкладаньне прадметаў ідзе на роднай мове вучняў. Апроч гэтага, у гэтым годзе на пэдагогічным факультэце Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту 57 дысцыплін чытаецца на беларускай мове, што складае 252 гадавых гадзіны з агульнага ліку 650 гадзін (у мінулым годзе чыталася толькі 13 дысцыплін у 68 гадзін); у сваю чаргу, на яўрэйскім аддзяленьні факультэту частка прадметаў пачала чытацца на яўрэйскай мове (галоўным чынам мэтодыка).

Аналёгічны малюнак назіраецца і адносна рэшты асьветных установ. Так, на яўрэйскай мове працуе зараз 6 клюбаў, два рабочых Унівэрсытэты, тры вячэрнія партшколы, дзьве школы ЛКСМБ, 33 лікпункты, а

таксама ёсьць дзьве бібліотэкі; на польскай мове: 18 хат-чытальнь, 39 бібліотэк, 5 клюбаў, 44 чырвоных куткі і 43 лікпункты. Апрача гэтага, з восені прыступіць к рабоце адчыняемы ў Менску яўрэйскі дзяржаўны тэатр. Вывучэньне-ж культур нацыянальных меншасьцяй праводзіцца цераз адпаведныя сэкцыі Інстытуту Беларускае Культуры.

Ёсьць значныя дасягненьні і ў галіне задаваленьня падручнікамі і навучальнымі падсобнікамі школ нацыянальных меньшасьцяй. Вялікія вынікі ёсьць у рабоце Беларускага Дзяржаўнага Тэатру. Скончана праца па падгатоўцы двух драматычных студый—беларускай і яўрэйскай. Выпуск беларускай літаратуры, параўнальна з мінулым годам, павялічыўся на 150 проц., яўрэйскай—на 250 проц., польскай—на 366 проц. У складзе выбарных савецкіх органаў значна падняўся процант беларусаў: у акруговых выканаўчых камітэтах—з 48 да 63, у раённых выканаўчых камітэтах—з 75 да 80, у сельсаветах—з 84 да 91. Па лініі Чырвонай арміі ёсьць значныя дасягненьні па беларусізацыі ў Аб'яднанай Беларускай Школе каманднага і палітычнага складу і тэрыторыяльных дывізіях.

Выбарныя вучасткі па перавыбарах у Саветы вызначаліся дапасоўна да насяленьня нацыянальных меньшасьцяй. Арганізаваныя ж ў шмат якіх мясцох нацыянальныя выбарныя пункты далі насяленьню нацыянальных меншасьцяй магчымасьць удзелу ў перадвыбарнай кампаніі і паслаць сваіх прадстаўнікоў у Саветы.

Апроч існаваўшых да гэтага году 19 нацыянальных саветаў, арганізавана яшчэ 22 паводле намечанага пляну памяншэньня сельскіх саветаў і ўтварэньня местачковых.

У выбарах нацыянальныя меншасьці прымалі даволі выстарчальны ўдзел, асабліва ў выбары местачковых Саветаў, дзе галоўнай актыўнай сілай зьяўляецца саматужнік. Прычым выявілася, што нацыянальныя меншасьці ў часе перавыбараў у большасьці адстойвалі ў сваім складзе клясавыя інтарэсы поруч з бедняком і серадняком беларускай нацыянальнасьці. Прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяй выбіраліся прыблізна ў аднолькавай пропорцыі параўнальна з рэштай беларускага насяленьня. У гэту кампанію процант выбраных у Саветы палякаў і латышоў, у зьвязку з арганізаваньнем нацыянальных саветаў, хоць і нязначна, павялічыўся. Здараліся выпадкі, праўда адзінкавыя, нежаданьня слухаць даклад на роднай мове (у вадным яўрэйскім паселішчы Селіцкага сельсавету, Бабруйскай акругі і латыскім—Рудабельскага с/савету, гэтай-жа акругі).

Мы ўпаўне ўлічваем, што ў нашай рабоце ў галіне нацыянальнай палітыкі ёсьць яшчэ шмат недахопаў, але ўсё-ж можам зазначыць, што кірунак і тэмп работы намі ўзят правільна.

Трэба асобна адзначыць работу нараджэнца Кастрычнікавай Рэволюцыі—Інстытуту Беларускае Культуры, які зьяўляецца ў нас асновай для будучай Беларускай Акадэміі Навук.

Інстытут Беларускае Культуры, на чале якога стаіць У. М. Ігнатоўскі, арганізаваўся ў 1921 годзе, як навукова-тэрмінолёгічная камісія ў

складзе 18 працаўнікоў. У 1922 годзе Інстытут ўжо існуе ў складзе дзьвёх камісій: мовазнаўчай і прыродазнаўчай. У 1925 годзе Інстытут разгарнуўся да сучаснага яго становішча і набыў да 100 працаўнікоў. З 1926 г. Інстытут Беларускае Культуры афармляецца як установа, якая лічыцца пры Савеце Народных Камісараў, атрымлівае сталы бюджэт і гэтым забясьпечвае выпаўненьне пастаўленых перад сабою задач. З гэтага мы бачым, як Інстытут даводзіць сваю жыцьцёвасьць на рабоце, паступова яе разгортваючы і займаючы больш выдатнае месца ва ўсёй сыстэме устаноў БССР. Зараз Інстытут Беларускае Культуры зьяўляецца прызнанай у Беларусі ўстановай, у задачы якой уваходзіць навукова-плянавае дасьледваньне Беларусі, яе прыроды, экономікі, этнографіі, мовы, літаратуры, гісторыі і г. д. Сэкцыямі і камісіямі Інбелкульту ўжо пастаўлена вывучэньне прыроды і гаспадаркі, гісторыі, мовы і літаратуры. Некалькі слабей пастаўлена і організуецца вывучэньне штукі, этнографіі, экономікі і права. Вялікае значэньне і месца ў рабоце Інбелкульту займаюць нацыянальныя аддзелы—яўрэйскі і польскі. Асабліва шырока разгарнуў сваю работу аддзел яўрэйскай культуры. Мяркуецца організаваць яшчэ і латыскі аддзел. Інбелкульт зараз складаецца: з 77 сталых членаў, 69 членаў-супрацаўнікаў і 60 членаў-дапісчыкаў. Паводле нацыянальнага складу працоўнікі Інстытуту разьмяркоўваюцца так: беларусаў—120, яўрэяў—40, палякаў—22, рускіх і іншых—24.

Вялікай асаблівасьцю Інстытуту Беларускае Культуры зьяўляецца яго сувязь з шырокімі масамі працоўных. Так, краязнаўчае бюро, якое працуе на правох камісіі Інбелкульту, яднае вакол сябе каля 4.500 членаў, якія працуюць галоўным чынам на сяле. Аб'яднаньне беларускіх пісьменьнікаў „Маладняк“ таксама налічвае каля 500 чалавек, якія паходзяць з рабочых і сялянскіх мас. Усё гэтае сьведчыць аб тым, што Інстытут Беларускае Культуры глыбока пусьціў карэньні ў Беларусі, і што асноўны характар і зьмест яго работы вядуць да далейшага разгарненьня і афармаваньня яго ў выглядзе Беларускай Акадэміі Навук.

Работа і дасягненьні Савецкай Беларусі выклікаюць вялікую цікавасьць за рубяжом, асабліва сярод беларускіх палітычных і грамадзкіх організацый. Асабліва шмат увагі надаецца факту пашырэньня Беларусі. Гэты палітычны факт выклікаў зрушэньне ў настроях беларускай зарубежнай інтэлігенцыі і прывёў яе лепшую частку да Бэрлінскай конфэрэнцыі і скасаваньня Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі. Нават група клерыкалаў, якая яднаецца вакол тыднёвіка „Крыніца“ і на чале якой стаіць ксёндз Станкевіч, адзначыла гэты факт, як станоўчы. Але трэба сказаць, што сярод варожых Савецкай уладзе элемэнтаў беларускіх нацыяналістых і зараз яшчэ лічыцца невыстарчальным зробленае пашырэньне, бо, па іх думцы, у склад Беларусі павінны ўвайсьці толькі па нацыянальнай адзнацы яшчэ і некаторыя іншыя тэрыторыі на ўсход ад сучасных граніц Савецкай Беларусі. На гэтым яны будуюць сваю палітыку

організаваньня сіл супроць Савецкай улады, разумна маўчучы, тым часам, аб тым, што робіцца ў мэтах дэмократычных дзяржаў, якія іх прытулілі. Зразумела, усе гэтыя варожыя нам групоўкі ніякіх уплываў на масы рабочых і сялян ня маюць, а таму небясьпекі для Саветаў не прадстаўляюць, і з імі прыходзіцца лічыцца толькі пастолькі, паколькі яны могуць быць скарыстаны імпэрыялістымі рознай масьці ў іх барацьбе супроць Савецкага Саюзу. Нам здаецца, што жыцьцё і разьвіцьцё Савецкай Беларусі, самы факт існаваньня ўлады рабочых і сялян зьяўляецца лепшым аргумэнтам у нашай барацьбе за аўладаньне масамі. Як ні стараліся-б нашы праціўнікі, колькі-б організацый яны не закладалі, якія-б субсыдыі ад сваіх апякуноў яны ні даставалі,—ім ня бачыць у сваіх ног працоўных Беларусі, як ня ўгледзець і сваіх вушэй.

### Савецкая Беларусь і Савецкі Саюз

Савецкая Беларусь спакойна і пераконана глядзіць у будучыну. Яе адносіны да Савецкага Саюзу і ўсіх Савецкіх Рэспублік будуюцца на грунце аховы ўзаемнага сувэрэнітэту, а таксама ўзаемнага падтрыманьня ў змаганьні і будаўніцтве. Беларусь уваходзіць цяпер, таксама як увесь Савецкі Саюз, у такую паласу, калі яна ад процэсу аднаўленьня павінна стаць на шлях шырокага соцыялістычнага будаўніцтва. Для забесьпячэньня посьпеху гэтай работы зараз пастаўлена і вырашаецца пытаньне аб экономічным раёнаваньні БССР, а таксама аб упарадкаваньні экономічна-нацыянальных граніц паміж БССР і РСФСР, што закранае тэрыторыі былых Віцебскай і Гомельскай губэрань. Гэтыя пытаньні ва ўмовах буржуазнай дзяржаўнасьці зьяўляюцца заклятымі, неразьвязнымі пытаньнямі, а калі яны вырашаюцца, то толькі сілаю зброі. Ва ўмовах Савецкай дзяржавы гэтыя пытаньні вырашаліся, вырашаюцца і будуць вырашацца на грунце ўважлівага і глыбокага вывучэньня экономічных і нацыянальна-культурных асаблівасьцяй Рэспублік, іх узаемных адносін, а таксама экономічных, культурных і політычных задач, якія стаяць перад намі. Гэтыя прынцыпы пакладзены таксама і ў грунт вырашэньня пытаньня аб экономічным раёнаваньні БССР і забясьпечваюць правільнае і мэтазгоднае вырашэньне гэтага важнейшага ў далейшым будаўніцтве Савецкай Беларусі пытаньня.

# АБ МЯСЦОВАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ

М. Карклін

Таварны голад у Беларусі ня менш зацяжны, чымся ва ўсім Саюзе. Зьнішчаць яго прыходзіцца агульнымі сіламі цэнтру і месц. Дзеля таго, што ў далейшым разьвіцьцё буйнай дзяржаўнай прамысловасьці натыкаецца ў сучасных умовах на цэлы шэраг труднасьцяй, дык асаблівае значэньне здабывае мясцовая прамысловасьць. Прысутнасьць вольных працоўных рук на Беларусі, рост гарадзкога і кватэрнага будаўніцтва таксама спрыяюць разьвіцьцю мясцовай прамысловасьці. Асаблівае месца ва ўмовах Беларусі павінна займаць тая дробная прамысловасьць, якая зьвязана з абслугоўваньнем сельскай гаспадаркі. Усё гэта цяпер ставіць перад намі рубам пытаньне аб нашай мясцовай прамысловасьці—раённай і акруговай.

Аб значэньні дробнай і саматужна-рамесьніцкай прамысловасьці можна судзіць па даных, якія апублікаваны ў контрольных лічбах Дзяржпляну Саюзу. Аб'ём вытворчасьці дробнай прамысловасьці, уключаючы рамесьніцка-саматужную, прыблізна падлічаецца для 1925-26 году ў 1.370 міл. руб., у параўнаньні з 1.050 міл. руб. у 1924-25 г. і 1.390 міл. руб. у 1913 годзе. Значэньне гэтых лічбаў выяўляецца з параўнаньня агульнай сумы прамысловай вытворчасьці, якая ацэньваецца Дзяржплянам СССР у 6.650 міл. руб. для 1925-26 г. ў параўнаньні 5 мрд. руб. 1924-25 году і 7 мрд руб. у 1913 годзе (усе лічбы ў даваенных рублёх).

Калі прыняць пад увагу ўнясеньне цэлага шэрагу зьмен у наш плян разьвіцьця буйнай прамысловасьці, зьвязаных з сучаснымі труднасьцямі, дык адносіны між дробнай і буйнай прамысловасьцю пераменяцца ў карысьць дробнай прамысловасьці.

Усё гэта гаворыць за тое, што ў нашым агульным прамысловым балянсе дробная і мясцовая прамысловасьць іграюць вялікую ролю. Досыць сказаць таго, што яе валавы зварот складае 1.370 з лішкам міл. даваенных руб.

Прамысловасьць Беларусі дзеліцца на дзяржаўную, якая знаходзіцца пад кіраўніцтвам ВСНГ, і мясцовую. Як тая, так і другая падтрымоўваюцца мясцовым сырцом, мясцоваю рабочай сілай і мясцовым збытам (мясцовым рынкам). Гэткім чынам, спрыяючыя ўмовы разьвіцьця Дзяржаўнай і мясцовай прамысловасьці ў БССР аднолькавыя. Разьвіцьцё ва

ўмовах БССР мясцовай прамысловасьці, апрача вялізарнага экономічнага значэньня, яшчэ каштоўна з політычнага боку дзеля таго, што рост прамысловасьці—ёсьць рост грунту пролетарыяту. І па экономічным і політычным абмеркаваньням высоўваецца вострае пытаньне аб мясцовай прамысловасьці, як адзін з важнейшых момантаў нашай працы.

Мясцовая прамысловасьць БССР з організацыйнага боку выяўляе, сабою масу параскіданых прадпрыемстваў. Частка іх знаходзіцца пад кіраўніцтвам Акрвыканкомаў, частка ў веданьні Райвыканкомаў, частка—у коопэрацыі—спажывучай і сельска-гаспадарчай, частка—у Сельгастрэсьце некаторыя прадпрыемствы знаходзяцца пад эксплёатацыяй НКПС і розных цэнтральных трэстаў. Урэшце, мы маем працколектывы, саматужнікаў і прыватныя прадпрыемствы. З гэтага відаць, што адзінага кіраўніцтва над мясцовай прамысловасьцю няма. Мясцовая прамысловасьць яшчэ не аб'яднана ў цэлым, прынамсі, да гэткай ступені, якой бы выстарчала для таго, каб поўнамерна мець уплыў на яе разьвіцьцё. Яна пакуль што знаходзіцца ў раскіданым становішчы.

Матэрыялы, якія характарызуюць становішча прамысловасьці БССР занадта бедныя, дзеля гэтага прыходзіцца опэраваць лічбамі 1925 году, якія мае ЦСУ Беларусі і некаторымі матэрыяламі аб мясцовай прамысловасьці паводле зьвестак з акруг. Мушу адзначыць, што падлічэньні знаходзяцца далёка не на вышыні. Напрыклад, Бабруйскі Акрвыканком піша наступнае: „Першы недахоп, які перашкаджае магчымасьці ахарактарызаваць і даць падрабязны малюнак становішча мясцовай прамысловасьці, зьяўляецца адсутнасьць падліку". Менская акруга піша: „Ня гледзячы на вялізарнае значэньне саматужнай прамысловасьці, з пункту погляду аблягчэньня вясковаму беспрацоўю, з пункту погляду перапаўненьня сялянскага рынку промтаварамі,—гэта галіна нашай гаспадаркі была зусім яшчэ незразумелай для нас. Дзеля гэтага аб ёй можна судзіць толькі па прыблізных даных". Барысаўская акруга паведамляе: „У даны час Акрплян заняты распрацоўкай мэтодаў і способу падлічэньня мясцовай прамысловасьці. Не жадаючы даваць шкодных для справы галаслоўных вестак, Акрвыканком не паведамляе аб лічбах, якія характарызуюць мясцовую прамысловасьць". Лічбаў ад Барысаўскай акругі мы так і не атрымалі. Усё гэта гаворыць за тое, што нашы веды аб мясцовай прамысловасьці надта абмежаваны.

Вось агульны малюнак становішча падлічэньня нашай прамысловасьці. Тое-ж самае можна сказаць наогул адносна зруйнаваньня нашай мясцовай прамысловасьці ў цэлым. Я ня мог з усіх акруг падабраць даных аб тым, якія зруйнаваньні маюцца ў мясцовай прамысловасьці.

Прывяду даныя толькі з дзьвёх акруг, напрыклад, Аршанскай і Менскай. У Аршанскай акрузе да вайны было 22 картапляных заводы з 2 тыс. рабочых, цяпер толькі 2 заводы з 146 рабочымі; бравароў было 21 з 420 рабочымі, цяпер—4 з 80 рабочымі; быў хэмічны завод з 260 ра-

бочымі, які цяпер не працуе; была шкляная гута з 100 рабочымі, цяпер разбураная; была шкляная гута з 300 рабочымі, цяпер ліквідавана і г. д. У Менску такое-ж самае становішча: да вайны было 7 цагелянь, якія выраблялі 15 міл. штук цэглін, цяпер працуюць толькі 2 цагельні, якія даюць $5^1/_2$ міл. штук цэглы; было 6 мэталяапрацовачных заводаў, ад якіх цяпер засталіся толькі адны сьцены; было 6 шпалерных фабрык, цяпер працуе толькі адна. Агульны малюнак такі: чым бліжэй да граніцы, тым больш спатыкаем руйнаваньня.

Пяройдзем цяпер да характарыстыкі сучаснага становішча мясцовай прамысловасьці. Ніжэйпаказаная табліца сьведчыць аб колькасьці прадпрыемстваў і занятай у іх рабочай сілы.

*Табліца № 1.*

| | Агульны лік установаў. | У іх знаходзіцца мэханічных рухавікоў. | Усяго занятых асоб. | Групоўка па ліку занятых асоб. 1 | 2 | | 3-5 | | 6-10 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Лік установаў і занятых асоб. | Лік установаў. | Занятых асоб. | Лік установаў. | Занятых асоб. | Лік установаў. | Занятых асоб. |
| Дзяржаўных | 290 | 148 | 2.788 | 45 | 71 | 142 | 83 | 306 | 41 | 297 |
| Коопэрацыйных | 302 | 113 | 1.722 | 63 | 74 | 148 | 100 | 385 | 42 | 310 |
| П/колект. | 11 | 14 | 2.757 | — | 1 | 2 | 35 | 125 | 28 | 215 |
| Прыватных | 37.643 | 2.491 | 48.613 | 32.408 | 4.601 | 9.202 | 1.438 | 4.871 | 159 | 1.123 |
| УСЯГО | 39.348 | 2.766 | 55.830 | 32.516 | 4.747 | 9.494 | 1.656 | 5.687 | 270 | 1.945 |

| | Групоўка па ліку занятых асоб. 11-15 | | 16-30 | | 31-70 | | 71-100 | | 101-200 | | зв. 200 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік установаў. | Занятых асоб. | Лік установаў. | Занятых асоб. | Лік установаў. | Занятых асоб. | Лік установаў. | Занятых асоб. | Лік установаў. | Занятых асоб. | Лік установаў. | Занятых асоб. |
| Дзяржаўных | 8 | 100 | 22 | 506 | 11 | 485 | 6 | 499 | 3 | 408 | — | — |
| Коопэрацыйных | 12 | 150 | 5 | 131 | 4 | 165 | — | — | 1 | 131 | 1 | 239 |
| П/колект. | 14 | 179 | 14 | 293 | 14 | 693 | 2 | 173 | 3 | 736 | 2 | 697 |
| Прыватных | 28 | 481 | 3 | 83 | 4 | 222 | 1 | 89 | 1 | 134 | — | — |
| УСЯГО | 62 | 910 | 44 | 1.013 | 33 | 1.565 | 9 | 765 | 8 | 1.049 | 3 | 936 |

Такім чынам, усяго ўстаноў мясцовай прамысловасьці маецца каля 40 тыс., у якіх працуе 56 тыс. чалавек. Але калі выкінуць усе дробныя

і ўзяць толькі больш буйныя, дык мы атрымаем усяго 6 тыс., прыблізна, буйных установ. Рэшта-ж зьяўляюцца саматужна-рамесьніцкімі з 1-2 чал. Больш буйных прадпрыемстваў з лікам рабочых больш 31-70—мы маем 30, а з лікам рабочых звыш 200—мы маем толькі 3. Наша прамысловасьць у сваёй масе можа быць аднесена да дробнай прамысловасьці, абслугоўваючай, галоўным чынам, сельскую гаспадарку. Але гэта прамысловасьць мае вялізарнае значэньне ў справе папаўненьня рынку таварамі, што можна бачыць хаця-ж бы з табліцы, якая характарызуе мясцовую прамысловасьць у галінах вытворчасьці.

Для таго, каб высьніць, якія галіны вытворчасьці больш усяго ўжываюцца мясцовай прамысловасьцю, патрэбна-б было ўсе прадпрыемствы раскласьці па групах вытворчасьці. Гэтая работа зроблена ЦСУ, але ня выведзены асобна рамесьнікі, якія працуюць на заказ і якія ніяк ня могуць падыйсьці пад „рубрыку“ ўстановы прамысловасьці.

*Табліца № 2.*

**Мясцовая прамысловасьць БССР у 1925 годзе**

| Назва вытворчай групы | Лік установ | Лік занятых асоб |
|---|---|---|
| Рыбацтва і паляўніцтва | 237 | 369 |
| Апрацоўка мінэраляў | 9.92 | 18.90 |
| „ мэталяў і вытворчасьць машын | 7.195 | 9.494 |
| „ дрэва | 7.169 | 8.812 |
| Хэмічная прамысловасьць | 148 | 258 |
| Апрацоўка харчовых продуктаў | 4.080 | 8 314 |
| „ цьвёрдых рэчаў (жывога пахаджэньня) | 32 | 122 |
| Гарбарная вытворчасьць | 2.651 | 4.023 |
| Апрацоўка шэрсьці | 800 | 1.130 |
| „ бавоўны, ільну, пянькі | 63 | 714 |
| Вытворчасьць вопраткі і абуцьця | 15.400 | 18.803 |
| Апрацоўка паперы | 24 | 175 |
| Паліграфічная прамысловасьць | 160 | 807 |
| Мастацкая і навуковая прамысловасьць | 375 | 419 |
| Вытворчасьць інструмэнтаў, машын і апаратаў | 22 | 488 |
| Усяго | 39.348 | 55.880 |

З табліцы мы бачым, што выпрацоўкай мэталяў і вытворчасьцю машын заняты 7.195 устаноў з 9.494 рабочымі, апрацоўкай дрэва—7.169 з 8.812 рабочымі, апрацоўкай харчовых продуктаў заняты каля 4.080 устаноў з 8.300 рабочымі. Гарбарная вытворчасьць мае 2.650 устаноў з 4.000 рабочымі; вытворчасьць адзеньня і абуцьця—15.400 устаноў з 18.800 рабочымі ў іх. Гэтыя ўсе ўстановы і рабочыя рукі выкідаюць штодзенна пэўны лік тавараў на рынак.

### Цэнзавая дробная прамысловасьць

Калі ўзяць выключна цэнзавую прамысловасьць, дык з усіх гэтых 40 тыс. устаноў, падлічаных Статуправай, цэнзавых прадпрыемстваў мясцовага значэньня можна налічыць толькі 119 з 5 тыс. рабочых у іх.

Вось аб гэтых 119 цэнзавых прадпрыемствах мясцовай прамысловасьці можа быць пастаўлена пытаньне больш паважна. Значэньне іх відаць ужо з таго, што ў 1924-25 годзе ўся валавая продукцыя ўсёй нашай цэнзавай прамысловасьці складала 51.311 тыс. чырв. руб., а на долю астатніх прамысловасьцяй заставалася, прыблізна, 18.677 тыс. чырв. руб. Пэўная частка з гэтае сумы (каля 3 міл. руб.) адыходзіць на саюзныя трэсты, якія маюць у БССР некаторыя прадпрыемствы. Выходзіць, такім чынам, што продукцыя цэнзавай і мясцовай прамысловасьці азначаецца ў суме 15 міл. рублёў, што да ўсёй валавой продукцыі мясцовай прамысловасьці (акруговай і раённай) складае больш 30%. Гэта лічба досыць значная, абавязкова патрэбна на яе зьвярнуць сур'ёзную ўвагу.

У чыіх-жа руках знаходзіцца ўся гэта продукцыя, якая складае больш 30% усёй валавой продукцыі нашай цэнзавай прамысловасьці?

На гэта пытаньне адказвае наступная табліца:

Каштоўнасьць продукцыі (у тыс. руб.)

| | Доля к агульнаму ліку |
|---|---|
| Дзяржаўныя | 8.852—56,4 |
| Коопэрацыйныя | 1.552—10,0 |
| Працколектыўныя па цэнзавых прадпрыемствах | 2.397—15,3 |
| Прыватныя | 2.875—18,3 |
| Усяго | 15.676—100 |

Адгэтуль мы бачым, што 56 проц. акруговай і раённай прамысловасьці належыць дзяржаўным установам, г. зн. акруговым і раённым выканкомам; 10 проц. знаходзіцца пад кіраўніцтвам коопэрацыі; 15,3 проц. складаюць працколектывы (таксама лічацца дзяржаўнымі), а ў прыватных руках знаходзіцца 18,3 проц.

Усе гэтыя лічбы, якія характарызуюць, прыблізна, магутнасьць, валавую продукцыю цэнзавых прадпрыемстваў і іх прыналежнасьць, даволі дакладны, дзеля таго што яны аснованы на вылічэньнях, зробленых у розных мясцох і супадаючых паміж сабою.

### Асобныя галіны мясцовай прамысловасьці

Пяройдзем цяпер да *характарыстыкі асобных галін* мясцовай прамысловасьці. Перш усяго затрымаемся на нашай млынарнай прамысловасьці (млыны, крупадзёркі, маслабойні), якая абслугоўвае, галоўным чынам, сялянства.

У БССР налічваецца 2.629 млыноў, крупадзёрак і маслабойняў, з іх 2.470 знаходзіцца ў прыватных руках, што сьведчыць аб рэзкай пераважнасьці прыватнага капіталу ў млынарнай справе (з 188 крупадзёрак у прыватных руках знаходзіцца 185, з 190 маслабойняў у прыватных асоб—181). На гэтае зьявішча патрэбна больш зьвярнуць увагі. Мы з практыкі Саюзу ведаем, што хлебная справа была некалькі сарвана дзеля таго, што млынарнае пытаньне ня было пастаўлена належным спосабам.

У Беларусі-ж панаваньне прыватніка ў млынарнай справе яшчэ больш паслабляе ўрэгуляваньне. Як дырэктывы зьверху, так і наша практыка дыктуюць нам патрэбу на гэтыя млыны зьвярнуць асаблівую ўвагу. Млынарныя прадпрыемствы павінны быць аб'яднаны ў самастойныя акруговыя трэсты, якімі павінен кіраваць Наркамунутгандаль.

Нашая палітыка павінна быць накіравана да скарачэньня ліку гандлёвых млыноў, якія знаходзяцца ў арэндзе прыватных асоб. Побач з гэтым, прыдзецца ўзяць рашучыя меры па пабудаваньні новых таварных млыноў там, дзе яны адсутнічаюць. Далей, патрэбна будзе праверыць падатковую сыстэму, наколькі яна адпавядае інтарэсам млынарнае справы. Млыны наогул маюць вялікае значэньне, наўкола іх магчыма было-б аб'яднаць сялянства. А між тым, яны знаходзяцца амаль што выключна ў руках прыватных асоб. На гэтую акалічнасьць нам прыдзецца цяпер зьвярнуць увагу.

### Працколектывы

За апошні пэрыод у нас разьвіўся яшчэ адзін від прадпрыемстваў, якія стварыліся ў выніку беспрацоўя і таварнага голаду—гэта *працколектывы*.

Па даных Наркампрацы, усяго налічваецца каля 100 працколектываў з лікам рабочых звыш 4 тыс. (тут маюцца больш позныя даныя). Сярод іх ёсьць досыць буйныя прадпрыемствы і час аб іх падумаць, дзеля таго што ўся валавая продукцыя ў 1924-25 годзе складала суму ў 3,6 міл. руб. з лішнім, а на 1925-26 год—яшчэ больш. Ёсьць сярод колектываў досыць буйныя прадпрыемствы, якія працуюць ня толькі для таго, каб паменшыць беспрацоўе, але і для таго, каб павялічыць таварную масу рынку. І цяпер прыходзіцца нам ставіць так пытаньне, што колектывы, больш наладжаныя, трэба перадаць ВСНГ або ў мясцовую прамысловасьць, ствараючы ім, такім чынам, цьвёрдую гаспадарчую базу.

Ня буду спыняцца на прыбытках, але працколектывы пры цяперашніх цяжкіх умовах спадзяюцца атрымаць досыць вялікі прыбытак.

За апошні год па працколектывах дапускаецца, што будзе прыбытку ў 1/2 міл. рублёў

### Комунальная прамысловасьць

Трэцяя галіна мясцовай прамысловасьці—гэта гарадзкая *комунальная прамысловасьць*. Лічбы паказваюць, што комунальная прамысловасьць складаецца з 773 адзінак, прычым 649 знаходзіцца ў прыватнай арэндзе. Цяпер, праўда, справа ўжо некалькі мяняецца дзеля таго, што мясцовыя органы ўжо стараюцца ўзяць пад сваю ўладу шэраг заводаў, майстэрань, якія да гэтага часу знаходзіліся ў арэндным карыстаньні. У кожным выпадку трэба заўважыць той факт, што амаль уся комунальная прамысловасьць, якая аб'яднае каля 3 тыс. рабочых, да гэтага часу знаходзілася ў руках прыватных асоб. Цяпер, калі павялічваецца попыт на тавары, прад Горсаветамі, натуральна, паўстае пытаньне забраць усю гэтую прамысловасьць пад сваё кіраўніцтва, разьлічыўшы так, каб гэта не пашкодзіла далейшаму росту і ўздыму нашай гаспадаркі. Мы павінны беспасрэдна кіраваць усёй тэй прамысловасьцю, з якой мы зможам уласнымі сіламі справіцца, якая палітычна для нас важна і наўкол якой мы зможам сконцэнтраваць справы сялянства і рабочых таго раёну, дзе даныя прадпрыемствы знаходзяцца.

### Грашовае становішча

*Аб грашовым становішчы* мясцовай прамысловасьці можна судзіць па вытворчаму каштарысу прадпрыемстваў мясцовай прамысловасьці васьмі акруг, якія маюцца ў джяржпляне Беларусі. Па гэтых даных мы бачым, што паступова павялічваецца колькасьць прадпрыемстваў, якія эксплёатуюцца комхозамі, замест конак, бойняў, трамваяў, вадаправодаў і інш. прадпрыемстваў, якія да гэтага часу знаходзіліся ў веданьні комхозу, мы цяпер бачым, што комхозы маюць цагляныя і лесапільныя заводы, млынавыя прадпрыемствы, друкарні, мэталяапрацоўчыя прадпрыемствы і г. д. Асабліва большага разьвіцьця дасягае комунальная прамысловасьць у Менску, Віцебску, Слуцку, Барысаве і Бабруйску. Па програме 1925-26 году продукцыя мясцовай комунальнай прамысловасьці складае 10 проц. сабекаштоўнасьці продукцыі прамысловасьці ВСНГ. Аднак-жа, калі прыняць пад увагу, што каштарыс складзены ня досыць дакладна і ў ім не прадугледжаны ўсе моманты, якія прымаюцца пад увагу ВСНГ, дык можна па грубых орыентыровачных даных і па думцы спэцыялістых лічыць, што продукцыя мясцовай комунальнай прамысловасьці будзе раўняцца, прыблізна, 50 проц. прамысловасьці ВСНГ.

Аб росьце нашай мясцовай прамысловасьці можна яшчэ судзіць па даных аб сабекаштоўнасьці продукцыі ўсіх прадпрыемстваў, якія знаходзяцца ў веданьні комхозу. У параўнаньні 1924-25 году тут маецца павялічэньне, прыблізна, на 30 проц., прычым процант гэты хістаецца, падымаючыся ў Барысаве і Слуцку да 100, у Менску—да 25. Орыентыровачна можна сказаць, што рост продукцыі будзе ў мясцовай прамысловасьці, прыкладам, на 40 проц. Лік рабочых павялічыўся, у параў-

наньні з 1924-25 годам, на 20 проц. і складае цяпер, прыблізна, 14 проц. ліку рабочых, занятых у прамысловасьці ВСНГ. Асноўны капітал павялічыўся на 12 проц. і складае, прыкладам, 15 проц. асноўнага капіталу прамысловасьці ВСНГ. Капітальныя затраты, судзячы па гэтых вытворчых плянах, разьлічаны на 2 міл. руб., што складае каля 30 проц. асноўнага капіталу. Так што ўсё гэта гаворыць аб тым, што ўзрост, хоця-ж паволены, але пэўны, усё-ж такі маецца.

Зваротных сродкаў маецца надта мала. У нашай практыцы тут быў няправільны шлях; з прычыны слабасьці мясцовага бюджэту значная колькасьць сродкаў бралася з мясцовай прамысловасьці для пакрыцьця іншых мясцовых выдаткаў. Цяпер гэтае пытаньне прыдзецца пераглядзець.

Тэхнічнае становішча мясцовых прадпрыемстваў дужа незавіднае: катлы, машыны і г. д. надта абношаны, дзеля таго што капітальных рэмонтаў за ўвесь час амаль што нідзе не рабілі (добрых катлоў маецца толькі 19 проц. з абгледжаных 595). Гэта гаворыць аб тым, што ў будучыне прыдзецца прадугледзець вялікія выдаткі на палепшаньне тэхнічнага становішча прадпрыемстваў.

### Пытаньне раёнаваньня

*Пытаньне раёнаваньня* нашай прамысловасьці патрабуе конкрэтнага разгляду. Я маю на мэце момант, які можна наглядаць у Мазырскім раёне, дзе сяляне, зацікаўлены ў млынох, якія знаходзяцца на адлегласьці ад 25-40 вёрст; дзякуючы гэтаму, памольная плата моцна павялічваецца; Тое-ж самае можна сказаць і аб другіх прадпрыемствах, як, напрыклад, лесапільных заводах і інш. Цана за памол, за расьпілоўку і г. д.— у кожным раёне розная, а гэта прыдзецца скасаваць.

### Электрыфікацыя і мэханізацыя

У галіне *электрыфікацыі і мэханізацыі* за пэрыод рэволюцыі, апрача Менскай і Бабруйскай станцыі, нічога асаблівага ня было зроблена.

Становішча нашай электрагаспадаркі застаецца нездавальняючым, напр., у Віцебску маецца больш 10 маленькіх электрастанцый і ні аднэй буйнай; дзякучы гэтаму, сабекаштоўнасьць кілёват гадзіны настолькі вялікая, што мясцовая прамысловасьць адмаўляецца ад электрычнай энэргіі. Тут не скарыстаны ўсе магчымасьці да концэнтрацыі нашай сілавой гаспадаркі шляхам пабудаваньня больш буйных электрастанцый. Цяпер у Віцебску пачалі будаваць адну станцыю, рачаіснасьць ажыцьцяўленьня якой забясьпечана. За пабудову і разьвіцьцё існуючых электрастанцый узяліся цяпер і іншыя акругі. Характэрна тое, што імкненьне пабудаваць электрастанцыі зьявілася і на мясцох, але пакуль што мы мелі толькі адмоўныя факты. Ёсьць „дутыя“, надуманыя пляны, што мы бачым з прыкладу Тураўскай электрастанцыі, да пабудаваньня якой была прыцягнута коопэрацыя. Гэтае прадпрыемства

аказалася ўрэшце дэфіцытным і ўсе тыя органы, якія ўлажылі ў яго грошы, таксама панесьлі страту. У гэтае прадпрыемства прыцягнуты былі такія коопэратывы, якія знаходзіліся на адлегласьці 20-30 вёрст. Гэткія проекты ўзьнікла ў некалькіх мясцох навальна і ўсюды яны ня збыліся, хоць і гэтыя програмы падтрымліваліся нават акрвыканкомамі, а ня толькі райвыканкомамі. У выніку абсьледваньняў РСІ усе згодзіліся, што гэта была „авантурная“ справа. У будучыне патрэбна ўнікаць гэткіх памылак, каб не нажыць няпрыемнасьцяй і ня скомпромэтаваць сябе прад мясцовым жыхарствам. Мы павінны ўважліва правяраць усе пляны і проекты, ні адно новае мерапрыемства не павінна праводзіцца бяз санкцыі цэнтру.

### Сабекаштоўнасьць продукцыі

У параўнаньні з сабекаштоўнасьцю продукцыі ВСНГ, *сабекаштоўнасьць* продукцыі мясцовай прамысловасьці шмат вышэй. Тое-ж самае з заработнай платай; бывае, што па мясцовай прамысловасьці адзін і той-жа самы работнік атрымлівае больш, чымся ў прамысловасьці ВСНГ, а самай продукцыі атрымліваецца менш; з спэцыялістымі мы бачым адваротнае зьяўленьне—мізэрную плату спэцыялістых у мясцовай прамысловасьці поруч з высокай платай па ВСНГ, што, бязумоўна, мае ўплыў на якасьць мясцовай прамысловасьці. Заўважваецца яшчэ няпоўная загружанасьць мясцовай прамысловасьці, што таксама адбіваецца на сабекаштоўнасьці.

Адносна *крэдытнага падтрыманьня* можна сказаць, што крэдыт, праўда, яшчэ малы, але ўмовы для яго пашырэньня маюцца; цяпер толькі патрэбна, каб ён быў як мага больш экономна скарыстаны па цьвёрда назначаных плянах.

Яшчэ адзін буйны недахоп у нас маецца—гэта тое, *што ў нас усё-ж такі няма адпаведнага органу, які-б стала займаўся мясцовай прамысловасьцю.* ВСНГ рэгулюе толькі больш буйную прамысловасьць і не рэгулюе мясцовай прамысловасьці. Мясцовыя-ж комунальныя аддзелы цікавяцца толькі сваімі комунальнымі прадпрыемствамі, а ўстановы, якія-б кіравалі ўсёй мясцовай прамысловасьцю, у нас пакуль што не існуе. Я лічу, што нашы комунальныя аддзелы павінны быць перайменаваны ў аддзелы мясцовай гаспадаркі, якія павінны мець пад'аддзелы мясцовай прамысловасьці, якія па некаторых пытаньнях былі-б зьвязаны з ВСНГ, атрымліваючы ад яе дырэктывы ў справе кіраўніцтва мясцовай прамысловасьцю. Пры такім становішчы мы зможам, прынамсі, патрабаваць што-колечы ад ВСНГ, а цяпер гэта немагчыма, дзеля таго што ў даны час, нават, Галоўкомгас, які знаходзіцца пры Наркамунутспраў, нічога ня можа зрабіць у справе мясцовай прамысловасьці, бо пад яго кіраўніцтва ўваходзіць толькі комунальная справа. Мне думаецца, што такая рэорганізацыя, нават, ня выкліча павялічэньня штату, а толькі дасьць магчымасьць наладзіць справу як належыць.

Трэба адзначыць яшчэ, што, у зьвязку з таварным голадам, пачынае праяўляцца цікавасьць да мясцовай прамысловасьці ня толькі з боку коопэрацыі, але і з боку самога сялянства і прыватных асоб, якія прапануюць свае грашовыя сродкі ў мясцовую прамысловасьць. Мы лічым, што патрэбна прыцягваць прыватны капітал для адбудаваньня прадпрыемстваў мясцовага значэньня.

Гэты капітал нам прыдзецца прыцягнуць, але ўжо тады, калі мы ўбачым, што самі мы зрабіць пакуль што ня здужаем. Наогул, наша задача стварыць наўкол дробных прамысловых адзінак агульную ініцыятыву і выкарыстаць яе.

### Рамесьніцка-саматужная прамысловасьць

Спынімся яшчэ *на рамесьніцка-саматужнай прамысловасьці.* З выш 35 тыс. установаў з паказаных у вагульнай табліцы аб мясцовай прамысловасьці належыць да рамесьніцка-саматужнага тыпу. У іх працуе больш 45 тыс. саматужнікаў. Для БССР рамесьніцка-саматужная справа зьяўляецца ня толькі фактам, які павялічвае таварную масу на рынку (асабліва на сялянскім), але і фактарам, які палягчае беспрацоўе, асабліва ў мястэчках.

Організаваны нядаўна Беларускі саюз саматужна-прамысловай коопэрацыі, хаця-ж і з вялікімі труднасьцямі, але ўсё-ж такі з значным посьпехам ён спраўляецца са сваёю задачаю. Дзяржаўная дапамога, праўда, яшчэ досыць малая, але ўсё-ж пхае рамесьнікаў і саматужнікаў да аб'яднаньня ў вытворчыя таварыствы.

Наша задача не павінна абмяжоўвацца толькі організацыяй таварыстваў, мы павінны ісьці далей, г. зн. рэгуляваць збыт продукцыі саматужнай прамысловасьці, устанавіць сталую падмогу ў даставе сырцу і г. д. Але, на вялікі жаль, трэба сказаць, што, ня гледзячы на цэлы шэраг пастаноў, апошняя работа слаба выконваецца. Цяпер гэтае пытаньне трэба прыняць пад увагу ў нашай штодзеннай практычнай працы, што павінны зразумець ня толькі рэспубліканскія ўстановы, але і саюзныя трэсты і сындыкаты.

### Вывады

Цяпер перайду *да вывадаў.* З тых пэрспэктываў, якія ў нас маюцца і якія мы можам вызначыць, можна зрабіць вывад адносна далейшых задач, якія стаяць прад мясцовай прамысловасьцю. Перш усяго, таварны голад у нас будзе ў пэрспэктыве насіць даволі працяглы характар, а з другога боку, будзе павялічвацца кватэрнае будаўніцтва і попыт на будаўнічыя і іншыя матэрыялы. Наша-ж мясцовая прамысловасьць зьвязана з вытворчасьцю рэчаў шырокага карыстаньня, будаўнічых матэрыялаў і г. д.

Крэдыты для мясцовай прамысловасьці мы павялічваем. Досыць успомніць, што летась ня было амаль ніякіх крэдытаў, а ў гэтым годзе крэдыт ужо ёсьць. Што-ж датычыць рабочых рук, дык тут патрэбна мець на ўвазе, што, пры нашай аграрнай перанасельнасьці, рабочых у нас будзе заўсёды і ўсюды даволі. Што-ж датычыць сырцовай базы для мяс-

цовай прамысловасьці, дык сырцом гэта прамысловасьць таксама забясьпечана як і ў сэнсе лесу, так і ў сэнсе мінэральных матэрыялаў, патрэбных для выпрацоўкі цэглы і г. д. Асабліва трэба адзначыць, што вялікае значэньне здабывае цагляная вытворчасьць, якая ў нас можа быць асабліва моцна разьвіта, бо запатрабаваньне цэглы сёлета дасягае, прыблізна, 30 міл. штук, у той час як мы цяпер можам даць толькі 17 міл. Некалькі горш будзе абстаяць справа даставы сырцу мэталяапрацоўчым прадпрыемствам, але з прычыны таго, што мы ня будуем буйных мэталязаводаў, а ў нас маюцца толькі такія, што займаюцца рэмонтнымі і іншымі дробнымі работамі, дык трэба лічыць, што і сырцом яны будуць забясьпечаны.

Адносна ўвагі з боку мясцовых установ, крэдытных органаў, Саўнаркому і г. д, трэба сказаць, што ўжо ўхвалена стварыць некаторы фонд з сродкаў каштарысу для нормальнага крэдытаваньня мясцовай прамысловасьці. Трэба яшчэ дадаць, што даволі важныя конкрэтныя пастановы вынесены Саўнаркомам. Частка сродкаў, якія ня былі адпушчаны па мясцоваму бюджэту на школьную справу, на больнічнае будаўніцтва і г. д., перадаецца мясцовай прамысловасьці. Затым выдзелены на мясцовую прамысловасьць (акруговую і раённую) доўгатэрміновы комунальны крэдыт на 3-5 год. У лік зьявіўшыхся за апошні час ў Саўнаркоме дадатковых гаспадарчых прыбыткаў 900 тыс. руб. асыгноўваецца на прамысловасьць акруговага значэньня і 100 тыс. руб.—на прамысловасьць раённага значэньня. На разьвіцьцё крухмальнай прамысловасьці, на будаваньне маслабойных і сыраварных заводаў, млыноў, крупадзёрак асыгнавана 370 тыс. руб. Так што гэту ўжо частку сродкаў наша мясцовая прамысловасьць атрымлівае, і яе задача, як можна правільней скарыстаць гэтыя сродкі.

Не малаважнае месца займае апошняя пастанова Саюзнай Сэсіі ЦВК'у аб павялічэньні прыбыткаў па мясцоваму бюджэту на 120 тыс. руб. На нашу долю ў 1926-27 годзе ў зьвязку з гэтым будзе прадстаўлена таксама значная сума, між іншым, прадугледжваецца павялічэньне адлічэньня на 10 проц. ад лясоў і г. д. Усё гэта дасьць ужо некаторы грунт нашаму каштарысу з новага бюджэтнага году.

На падставе вышэй усяго сказанага мы цяпер можам паставіць прад райвыканкомамі задачу павялічэньня экономічнай працы. Да гэтага часу (як гэта відаць з даных абгляду РСІ і спэцыяльных камісій) адміністрацыйная работа ў раёнах была галоўнай, а экономічная праводзілася між іншым. Такое зьявішча было толькі дзякуючы таму, што ня было адпаведных умоў для разьвіцьця гаспадарчай дзейнасьці ў раёне. Прымаючы-ж пад увагу пэрспэктыву росту сельскае гаспадаркі, попыт рынку, рост гарадзкой гаспадаркі і г. д., мы можам *патрабаваць ад акруг і раёнаў (асабліва апошніх), каб удзельная вага экономічнай працы ў іх дзейнасьці стала значна большай, чымся да гэтага часу.*

# МАРКСЫЗМ І ФІЛЁЗОФІЯ

Б. Быхоўскі

Філёзофія—гэта пазнаньне таго, *што ёсьць*. Пазнаць і мысьліць рэчы і істоты, *як яны ёсьць*—вось вышэйшы закон, вышэйшая задача філёзофіі.

*Л. Фэйербах.*

Марксызм—ня мёртвая догма, не якое-небудзь закончанае, гатовае, нязьменнае вучэньне, а жывое кіраўніцтва да дзеяньня.

*Н. Ленін.*

Проблема філёзофіі ў марксызьме такая-ж старая, як і рэвізыянізм. „У марксызму няма сваёй філёзофіі, сваёй тэорыі пазнаньня, марксызм уяўляе з сябе толькі соцыолёгічнае і экономічнае вучэньне,“ „экономічны“ матэрыялізм, „гістарычны“ матэрыялізм, звычайныя мотывы рэвізыянізму. А таму: можна захаваць соцыолёгічнае вучэньне Маркса і адмовіцца ад дыялектыкі“, або—„трэба падвесьці гносэолёгічны фундамант пад марксыцкую соцыолёгію“. Адгэтуль расьце філёзофскі нэўтралізм, адсюль узьнімаюцца сьцягі з лёзунгамі: „Назад да Канта“, „уперад да Маха“ etutti quanti. Усякаму, хто і ня вучыўся ў сэмінарыі, вядома, што падобныя тэндэнцыі ў марксызьме і соцыял-дэмократыі нязьменна спатыкаліся заядлай контр-атакай марксыцкай ортодоксії. Рэволюцыйны марксызм ня толькі лічыў заўсёды сваім абавязкам даць адпор падобным спробам, але і нязьменна выкрываў опортуністычныя карэньні іх. Не баючыся перабольшыць, можна сказаць, што барацьба з падобнымі тэндэнцыямі складае дзевяць дзесятых зьместу ўсіх філёзофскіх прац першага пакаленьня марксыстых. Аб гэтай асаблівасьці клясычнай нашай літаратуры (Плеханов, Ленін і іх бліжэйшыя вучні) варта было-б памятаць цяперашнім „касавальнікам“ марксыцкай філёзофіі.

Зрэшты, калі ранейшыя „крытыкі“ сьцьвярджалі, што філёзофіі марксызму няма (гл., напр., „Осн. вопр. марксизма“), то цяперашнія ўздыхаюць: „Лепш-бы яе ня было“. Вось такі ўра-нігілізм тав. Мініна, сарамяжы нігілізм тав. Лядава і г. д. Для гэтых таварышаў характэрна процістаўленьне філёзофіі навуцы і патрабаваньне вызваленьня апошняй ад путаў філёзофіі. Тав. Караў зусім мае рацыю, калі абвяргае гэтае галоўнае палажэньне філёзофскага нігілізму, зазначаючы, што „лёзунг—навука і толькі навука“ гэта ня што іншае, як вельмі шкодны *фэтышызм навукі*. Абвяшчаючы філёзофію буржуазнай, ён відочна затушоўвае буржуазны характар навукі нашых дзён у яе тэорэтычных пабудаваньнях... Эмпірычная

навука зусім ня ёсьць нешта адзінае ва ўсіх сваіх частках. Навука—гэта барацьба навукі з не-навукай у яе ўласнай сфэры. „Сучасная навука" ў гэтым сэнсе... уяўляе з сябе стракатую сумесь ведаў і веры, практычных дасягненьняў у зваяваньні прыроды і тэорэтычнага слугаваньня пануючым клясам. Сама навука робіцца навуковай усяго пастолькі, пакольні яна праймаецца дыялектычным матэрыялізмам, г. ё. марксыцкай філёзофіяй. Затуманьваць гэта—значыць слугаваць самаму рэакцыйнаму з усяго таго, што ёсьць у сучаснай навуцы" („Проблема философии и марксизм").

На маю думку, у пісаніне нашых „касавальнікаў" трэба адрозьніваць два бакі. Папершае, здаровую рэакцыю супроць схолястычных ухілаў некаторых марксыстых, талмудычных адносін да Гегеля, эквілібрыстыкі цытатамі замест рэальнай аргумэнтацыі. Але гэтая рэакцыя не абмяжоўваецца барацьбой з *ухіламі* некаторых марксыстых філёзофаў, яна выкідае з вадою і дзіцянё—саму філёзофію. І тут сказваецца другі бок нашага нігілізму—упрашчэнства, грэбаваньне тэорыяй, агіда да абагульненьняў, абстракцыі. Нашыя гады—гады рэволюцыйных будняў, гады маруднага соцыялістычнага назьбіраньня, упартага соцыялістычнага будаваньня. Наш час вымагае ад працаўніка дзельнасьці, ашчаднасьці, гаспадарчай кемнасьці, практычнай выкрутлівасьці, сваясабістага амэрыканізму. З гэтага пункту гледжаньня зразумела, чаму наш час спрыяе ўзьнікненьню поглядаў аналёгічных, mutatit mutandis, амэрыканскаму прагматызму. Вось чаму погляды накшталт адмаўленьня ад філёзофіі маюць шансы на прыхільнасьць з боку ня горшых будаўнікоў нашай соцыялістычнай гаспадаркі і культуры. Аднак, як неаднакроць зазначалі кіраўнікі нашай партыі, эпоха соцыялістычных будняў хавае ў сабе небясьпеку страты соцыялістычнай пэрспэктывы. Нашая марудная штодзенная праца толькі тады сябе выпраўдае, калі яна кіруецца нашай самай апошняй мэтай, ня выпушчае з-пад увагі пэрспэктывы міжнароднага рэволюцыйнага руху, для якой самая апошняя мэта не ператвараецца ў нішто, а рух да яе, штодзенная практыка—ува ўсё. Адмаўленьне ад соцыялістычнай пэрспэктывы ў капіталістычных краінах, якое мела сваім ідэолёгічным адбіткам адмаўленьне ад ортодоксальнай марксыцкай тэорыі, няўхільна прыводзіла да згодніцтва і рэформізму, адпаведнае зьявішча ў савецкай краіне можа прывесьці да „перараджэньня рэволюцыйнай тканкі". „Амэрыканскае дзельніцтва мае ўсе шансы вырадзіцца ў вузкое і беспрынцыповае дзельніцтва, калі яго ня злучыць з расійскім рэволюцыйным размахам. Каму невядома хвароба вузкога практыцызму і беспрынцыповага дзельніцтва, якое прыводзіць досыць часта некаторых „бальшавікоў" да перараджэньня і да адыходу іх ад справы рэволюцыі?.. Ніхто так едка ня кпіў з гэтай дзельніцкай хваробы, як Ленін. „Вузкалобы практыцызм", „безгаловае дзельніцтва"—так зьневажаў гэтую хваробу Ленін" (Сталін). Страта рэволюцыйнай пэрспэктывы—вось якая, об'ектыўна, соцыяльная небясьпека тэорэтычнага ўпрашчэнства.

Вось чаму канечна патрэбна ўразуменьне і пропаганда марксыцкай філёзофіі і, для гэтага, удакладненьне свайго разуменьня ролі філёзофіі ў нашым сьветапаглядзе, яе месца сярод навук, яе мэтодаў.

---

Прэтэнцыёзны руйнавальнік гісторыка-філёзофскіх легенд тав. Барычэўскі піша: „Навукі чыстага мысьленьня (лёгіка і матэматыка) (я пакідаю на сумленьні аўтара формальнае разуменьне матэматыкі—Б. Б.) раскрываюць *унутранае* адзінства і ўнутраную магутнасьць навуковай мысьлі; навукі досьледныя ўсімі сваімі дасягненьнямі выпраўдваюць яе ўнутранае адзінства і забясьпечваюць яе неабмежаваную *знадворную* магутнасьць. Навука ў яе ўсеахопным цэлым самаважкая; яна сама ўстанаўляе сваю філёзофію, сваю *тэорыю пазнаньня*, сваё *вучэньне аб існым*, сваё *вучэньне аб вышэйшым дабры*. Усякая сапраўдная філёзофія навукі *ўнутрынавукова*, і ані ня мае патрэбы ў дадатковых паслугах рэлігіі і мэтафізыкі. Аднак, навука ня толькі ня мае патрэбы ў звышнавуковых галінах—яна выключае самае іх існаваньне („Введение в философию науки“). „Мы павінны адрозьніваць дваякую „філёзофію“. Або гэта сапраўды філёзофія *навукі*, іншымі словамі, само-ж становучае веданьне, узятае ў яго *вузкім*, у тым, што вечна разьвіваецца і ўскладняецца, адзінстве зборнай творчасьці самой навукі. Або-ж гэта „філёзофія“ ў хадзячым, школьным сэнсе слова, уяўная навука ў сабе, а ў сапраўднасьці—адна з горшых адмен *па-занавуковага* мысьленьня, якое ствараецца водаль ад жывога веданьня безадказнымі ідэолёгамі; у лепшым выпадку—філёзофія *калянавуковая*, больш ці менш няўдалая эклектычная юшка з напоўструхлелых філёзофскіх догмаў і некалькіх выпадковых абрыўкаў сапраўднай навукі... Першую плынь можна назваць *унутрынавуковай*: для яе кроўных прыхільнікаў рэволюцыйны марксызм ёсьць ня што іншае, як адно з гранічных абагульненьняў самой-жа становучай навукі, узятай у яе цэлым і, перш з ўсё, у жывым саюзе дакладнага прыродазнаўства з тым, што ідзе па яго сьлядох, рэволюцыйным грамадазнаўствам“. (Прамова на дыспуце ў Ціміразеўскім Інстытуце).

Пакідаючы ў баку разбор уласнай „унутрынавуковай філёзофіі“ т. Барычэўскага, трэба згадзіцца з гэтым (вельмі, аднак, паважнага ўзросту) разьмежаваньнем філёзофіі, і, прыступаючы да выясьненьня задач і мэтодаў нашай філёзофіі, памятаць, што гутарка можа ісьці не аб тэй філёзофіі, якая стаіць па-за і над навукамі, філёзофіі з спэцыфічнымі „філёзофскімі“ мэтодамі пазнаньня (імя ім: схолястыка і інтуіцыя), а аб *навуковай* філёзофіі, філёзофіі якая зьяўляецца зьвяном у нашым навуковым сьветаразуменьні. Калі мы „адважыліся глядзець на сапраўдны сьвет—на прыроду і на гісторыю—без ідэалістычных акуляраў і бачыць у ім толькі тое, што ён з сябе ўяўляе... бяз усякага жалю адмовіцца ад усіх ідэалістычных поглядаў, нязгодных з зьявішчамі сапраўднага сьвету, узятымі ў іх сапраўднай, не фантастычнай вувязі“ (Энгельс), то аб ніякай „усёратуючай“ звышнавуковай філёзофіі мы гаварыць ня можам. Мы

ня маем патрэбы ў звышнавуковых „філёзофскіх акулярах“, дзеля таго што „матэрыялістычны сьветапогляд абазначае проста разуменьне прыроды такой, якая яна ёсьць, бяз усякіх староньніх дадаткаў“ (Энгельс), не фэтышуючы навукі, разумеючы, што навука сама можа быць ненавуковая і ахінутая тэолгёічнымі і мэтафізычнымі, абалонкамі, мы, аднак, не процістаўляем філёзофіі навуцы, а маем на ўвазе філёзофію навуковую, якая зьяўляецца продуктам шматвяковага разьвіцьця навукі, увабрала ў сябе яе дасягненьні і займае азначанае месца *сярод* іншых навук.

---

Адсуваючы тую філёзофію, якая прэтэндуе на ненавуковы спосаб пазнаньня, мы ня прымаем і тэй філёзофіі, якая лічыць сябе дасканалай сыстэмай веданьня, якая прабуе даць канчатковы малюнак сьвету. Для дыалектычнага матэрыялізму абсолютная ісьціна, „ісьціна ў апошняй інстанцыі“, ёсьць тая, што вечна набліжаецца, але і вечна не дасягаецца, граніца. Ісьціна „складаецца з сумы адносных ісьцін. Кожная ступень у разьвіцьці навукі дадае новыя калівы ў гэтую суму абсолютнай ісьціны, але граніцы ісьціны кожнага навуковага палажэньня адносны, бо яны то рассоўваюцца, то звужваюцца далейшым ростам веданьня“ (Ленін). Граніцы набліжэньня нашых ведаў да абсолютнай ісьціны гістарычна ўмоўны, і ўсякая спроба даць законченую сыстэму сьвету і жыцьцяразуменьня ня можа быць прынята для дыалектычнага разуменьня процэсу пазнаньня: „Калі-б у які-небудзь момант разьвіцьця чалавецтва была-б складзена падобная сыстэма, зусім ахапляючая ўсе суадносіны зьявішчаў сьвету як фізычных, так і духоўных і гістарычных, то тым самым разьвіцьцё чалавечага пазнаньня было-б закончана, і ўсякае далейшае чалавечае разьвіцьцё прыпынілася-б у той момант, калі грамадзтва організавалася-б у вадпаведнасьці з гэтай сыстэмай, што было-б абсурдам, чыстай бязглуздзіцай“ (Энгельс).

Асноўныя філёзофскія працы Энгельса зьмяшчаюць рашучую крытыку спроб Гегеля і Дюрынга стварыць філёзофскія сыстэмы. І калі Энгельс піша аб канцы філёзофіі, ён мае на ўвазе філёзофскія сыстэмы. „З Гегелем, наогул, заканчваецца філёзофія, з аднаго боку, таму, што яго *сыстэма* ёсьць вялічны вынік усяго папярэдняга разьвіцьця, а з другога— таму, што ён сам, хоць і несьвядома, паказвае нам шлях, які вядзе *з лябірынту сыстэм* да сапраўднага і становучага пазнаньня сьвету“ (Энгельс. Курсіў мой. Б. Б.). Закончаная сыстэма філёзофіі магчыма толькі *наўпрэкі* асноўным прынцыпам дыалектычнага матэрыялізму. Дыалектычны-ж матэрыялізм патрабуе бязупыннага абнаўленьня, бязупыннага перагляду сваіх даных. „Рэвізія „формы“ матэрыялізму Энгельса, рэвізія яго натур-філёзофскіх палажэньняў ня толькі не замыкае ў сабе нічога „рэвізыяніцкага“ ў зазвычаеным сэнсе слова, наадварот, канечне патрабуецца марксызмам“ (Ленін).

Але ці ня трэба ў такім выпадку разумець філёзофію, як *сынтэз* вынікаў *сучаснай ёй* навукі? Бо-ж такое разуменьне філёзофіі вольна ад

пераацэнкі данага „сынтэзу“, яно разумее яго гістарычную ўмоўнасьць і адноснасьць. На жаль, такі сынтэтычны пагляд на філёзофію вельмі пашыраны сярод марксыстых. Паглядзім, як адносіўся да „сынтэтычнай“ філёзофіі закладальнік марксызму і ці сапраўды роля філёзофіі—звадзіць у вадно вывады раздробненых навук, парадчыць іх, формуючы, хоць і адносна-праўдзівы, малюнак сьвету.

Паколькі ў кожнай асобнай навуцы ставіцца патрабаваньне выясьніць сваё становішча ў адносінах да агульнай сувязі зьявішчаў і ў сфэры іх пазнаньня, усякая асобная навука аб гэтай сувязі робіцца лішняй“ (Энгельс). „...Можа, зрэшты, здарыцца, што прогрэс тэорэтычнага прыродазнаўства зробіць большую частку маёй працы або ўсю яе зусім лішняй... Тэорэтычнае прыродазнаўства вымушаецца простай неабходнасьцю сыстэматызаваць масу тых, што награмаджаюцца, чыста эмпірычных вынаходак“... (Энгельс). „Эмпірычнае прыродазнаўства дасягло такога аб'ёму і дабілася такіх надзвычайна добрых вынікаў, што ня толькі зрабілася магчымай поўная перамога мэханічнай аднабокасьці XVIII веку, але й само прыродазнаўства, дзякуючы доваду існаваньня ў прыродзе залежнасьцяй і сувязяй паміж рознымі галінамі дасьледаваньня...ператварылася з эмпірычнай навукі ў тэорэтычную, робячыся, дзякуючы абагульненьню атрыманых вынікаў, *сыстэмай матэрыялістычнага пазнаньня прыроды*“ (Энгельс. Курсіў мой. Б. Б.). „...Фэйербах быў выдатным філёзофам, але ён... не пасьпеў пераступіць за граніцы філёзофіі, удаваўшай сябе за нейкую *навуку навук, якая лунае над усімі галінамі веданьня і зьвязвае іх у вадно*“ (Энгельс). „Цяпер-жа, калі нам досыць зірнуць на вынікі вывучэньня прыроды *дыялектычна*, г. ё. з пункту гледжаньня іх уласнай узаемнай сувязі, каб скласьці задавальняючую для нашага часу „*сыстэму прыроды*“, і калі адзнаньне дыялектычнага характару гэтай сувязі сілком праходзіць нават у мэтафізычныя галовы дасьледчыкаў прыроды,—цяпер філёзофія прыроды пахавана навекі. Усякая спроба адкапаць яе ня толькі была-б лішняй, але абазначала-б *крок назад*“ (Энгельс. Курсіў аўтара).

З гэтых цытат ясна відаць, што з прогрэсам прырода-навуковых ведаў, з награмаджэньнем імі эмпірычнага матэрыялу, тэорэтычнае абагульненьне робіцца ўнутранай патрэбай самога прыродазнаўства, таксама як і ўстанаўленьне сувязяй і падзяленьне задач з сумежнымі галінамі прыродазнаўства. З другога боку, сучаснае прыродазнаўства знаходзіцца ўжо на такім высокім узроўні разьвіцьця, што дыялектыка зрабілася неабходным мэтадам сучаснага дасьледчыка прыроды. Няма патрэбы ў прынясеньні яе знадворку, яна „выпірае“ з іманэнтнага разьвіцьця прыродазнаўчых навук. Гісторыя прыродазнаўства зрабілася і гісторыяй сынтэзу яго асобных галін. Пры цяперашнім стане навук аб прыродзе, іх ахопе, дыфэрэнцыяцыі і інтэграцыі, усякая спроба „калянавуковага“ сынтэзу іх зьяўляецца альбо ўтопіяй, навеянай даўно мінулымі часамі ахопу філёзофіяй усяго навуковага веданьня сваёй эпохі, альбо...

імкненьнем узьвесьці ў прынцып верхаглядзтва і „пенказьніманьне“. Сапраўды, якая мізэрная роля прызначаецца філёзофіі яе сынтэтычнымі інтэрпрэтарамі—роля не царыцы навук, а гандляркі ўзятым на пракат больш ці менш сьвежым таварам, роля крахабора, у лепшым выпадку—роля популярызатара-пропагандыстага.

Сказанае аб філёзофіі прыроды цалком адносіцца і да „філёзофіі гісторыі“. З таго часу, як грамадзкае жыцьцё робіцца об'ектам навуковага разуменьня, яно робіцца і „само сабе філёзофіяй“. „Гістарычныя погляды Маркса наносяць філёзофіі сьмяротны ўдар у галіне гісторыі, якраз таксама, як дыалектычны погляд на прыроду робіць непатрэбнай і немагчымай усякую філёзофію прыроды“ (Энгельс). „Задача дыалектычнага матэрыялізму была, такім чынам, вызначана загадзя. Філёзофія, якая зрабіла ў мінулыя стагодзьдзі вялізныя паслугі *прыродазнаўству*, павінна была цяпер вызваліць *соцыяльную навуку* з лябірынту яе супярэчнасьцяй. Пасьля выкананьня гэтай задачы, філёзофія здолее сказаць: „*Я зрабіла сваю справу, я магу пайсьці*“, дзеля таго што ў будучым *дакладная навука* павінна зрабіць бескарыснымі *гіпотэзы філёзофіі*“ (Плеханов. Курсіў аўтара). Дасканалае пазнаньне законаў, уласьцівых соцыяльна-гістарычнаму процэсу, адсувае аднабокае дасьледаваньне, называемае філёзофіяй права... Вось такі выпадак і з „Капиталом“ Маркса (А. Лябрыоля. Ліст да Энгельса ад 13 чэрвеня 1894 г.).

Кожны, хто паважае і філёзофію і навуку, ня можа ў сур'ёз гаварыць у цяперашні час ні аб філёзофіі прыроды, ні аб філёзофіі гісторыі, ні наогул аб філёзофіі, як сынтэзе, сыстэматыцы дасягненьняў навук зводцы вынікаў спэцыяльных дасьледаваньняў.

Шмат якія марксыстыя лічаць нашую філёзофію матэрыялістычнай гносэолёгіяй. На іх думку, тэорыя пазнаньня складае галоўную проблему філёзофіі, і значэньне апошняй азначаецца, як тэорэтыка-пазнавальнага фундаманту ўсякай навукі. Г. В. Плеханов быў іншага погляду. „Не належачы, аднак, да прыхільнікаў гэтак моднай у цяперашні час тэорэтыка-пазнавальнай схолястыкі, я ня меў жаданьня падрабязна спыняцца на гэтым зусім другарадным пытаньні“. Пры больш старанным вывучэньні данай проблемы і аналізе ўласна-марксыцкай „гносэолёгіі“, гносэолёгічнае разуменьне філёзофіі таксама выходзіць непраўдзівым, неадпаведным асноўным прынцыпам дыалектычнага матэрыялізму.

Сапраўды, гносэолёгія, як самастойная проблема, была „зьнята“ яшчэ Гегелем. Тэрмін „зьняцьце“ (aufheben) мае, як вядома, спэцыфічнае значэньне, як „скасаваць і адначасна захаваць“. Калі *тэорыя* пазнаньня касуецца, як самастойная проблема, яна захоўваецца, рашчыняючыся ў гісторыі пазнаньня. Гегель наступнай аргумэнтацыяй здымае гносэолёгію: „Усякае дасьледаваньне, датычнае веданьня, можа быць зроблена толькі пазнаючы, і што зьвярнуць сваё дасьледаваньне на гэты так званы струмант веданьня, значыць ня што іншае, як пазнаваць. Але хацець ведаць,

перш, чым узяцца за пазнаньне, гэта таксама недарэчна, як і разумны намер таго схолястага, які хацеў навучыцца плаваць перш, чым існці ў ваду“. Для Гегеля недарэчна самая *магчымасьць пастаноўкі* проблемы гносэолёгіі. Марксызм, пераняўшы іператварыўшы мэтод Гегеля, пераняў і матэрыялістычнаператварыў і яго крытыку гносэолёгіі. Для нас таксама ня можа быць прынятай пастаноўка самастойнай тэорэтыка-пазнавальнай проблемы і, у той самы час, пытаньне аб пазнаваемасьці і межах пазнаньня разьвязваецца гісторыяй чалавечай практыкі і навукі. Гносэолёгічныя проблемы, як выходзіць, перавышаны і захованы ў так званым сальтовітальным *мэтодзе* (апэляцыя да чалавечай чыннасьці). Энгельс у поўнай адпаведнасьці з вышэйпададчым, пярэчачы агностыкам, падае ў якасьці „гносэолёгічнага“ аргумэнту „The proof of the pudding is in the eating“. Пытаньне аб абсолютным і адносным пазнаньні рашчыняецца ў гісторыі пазнаньня. Пытаньне аб пазнаваемасьці сьвету здымаецца, як лёгічна недарэчнае і абвяргаемае ўсёй чалавечай практыкай і самым фактам нашага існаваньня. Гносэолёгія зводзіцца да *крытыкі гносэолёгіі*. Тэорэтыка-пазнавальны скэпсіс паглынаецца дыалектычным *мэтодам*, які разглядвае, замест ізоляванай мэтафізычнай абстракцыі чыстага пазнаньня, адарванага ад усяго чалавека, дыалектычны процэс гісторыі чалавечай грамады, зьвяном якога зьяўляецца і эволюцыя пазнаньня. Такім чынам, марксыцкая крытыка гносэолёгіі *сходзіць з гносэолёгічнай роўніцы* абмеркаваньня. „Каб даведацца, чаго можа дасягнуць нашае мысьленьне, няма зусім патрэбы праз сто год пасьля Канта вызначаць межы мысьленьня з крытыкі розуму, з дасьледаваньня прылады пазнаньня... Тое, чаго можа дасягнуць мысьленьне, мы бачым хутчэй з таго, чаго яно ўжо дасягло і яшчэ штодзенна дасягае. І гэтага зусім досыць як у сэнсе колькасьці, так і ў сэнсе якасьці“ (Энгельс).

Так званая „онтолёгічная“ проблема падпадае ў марксыцкай філёзофіі аналёгічнаму здыманьню. Успомнім, што ў адказ на патрабаваньне супраціўнікаў даць азначэньне матэрыі, марксыстыя з поўнай падставай адзначаюць *лёгічную* недарэчнасьць падобнага азначэньня. Дзеля таго, што матэрыя ёсьць гранічнае абагульненьне, то немагчыма і спроба даць яе азначэньне, г. ё. вызначыць яе род і відавыя адзнакі, якіх яна мець ня можа. Проблема здымаецца лёгікай.

Што-ж застаецца ад „матэрыялістычнай гносэолёгіі“? Нічога, бо самы *матэрыялізм ёсьць мэтод* навуковага пазнаньня. Зусім мае рацыю тав. Каров, калі зазначае, што „сам матэрыялізм, як і дыалектыка, адбіваючы матэрыяльную рачаіснасьць, мае і мэтодолёгічны характар, паколькі ён абасноўвае монізм і прыорытэт матэрыі ў дасьледваньні“ (цытаваная праца). Ідэалістычная *гносэолёгія* здымаецца матэрыялістычнай *мэтодолёгіяй*. Гносэолёгія рашчыняецца ў мэтодолёгіі. „Дыалектыка ў разуменьні Маркса, і згодна таксама Гегелю, улучае ў сябе тое, што цяпер завуць тэорыяй пазнаньня, гносэолёгіяй, якая павінна разглядаць свой прадмет роўным

чынам гістарычна, вывучаючы і абагульняючы пахаджэньне і разьвіцьцё пазнаньня, пераход ад няведаньня да пазнаньня“ (Ленін).

Але як быць з азначэньнем матэрыялістычнай філёзофіі, як вучэньня аб асноўных прынцыпах быцьця і мысьленьня, і які сэнс набывае клясычны падзел філёзофаў на два лягеры: матэрыялістых і ідэалістых, прычым да матэрыялістых залічаюцца тыя, якія лічаць матэрыю первястковай, а дух—другазначным?

Матэрыялістыя ў сваёй шматвяковай барацьбе з ідэалістымі пераможна баранілі і адбаранілі первястковасьць матэрыі ў процівагу баронеcнай ідэалістымі ўсіх гатункаў первястковасьці духу. Да чаго зводзілася гэтая барацьба, калі разглядаць яе з пункту гледжаньня сучаснай навуковай мэтодолёгіі (на гэтае пытаньне ёсьць яшчэ і соцыолёгічны пункт погляду)? Да абароны матэрыялістымі іманэнтных навуцы мэтодаў ад улучэньня ў яе чужых ёй па сутнасьці тэолёгічных элемэнтаў, якія параджаюцца ў адзнаньні адпаведнымі соцыяльна-экономічнымі формацыямі. Матэрыялізм быў барацьбой за права навукі вывучаць прыроду такой, якой яна ёсьць, бяз усякіх чужародных дадаткаў і скажэньняў. Вось такая была разглядаемая ў мэтодолёгічным аспэкце роля матэрыялістых з тых часоў, як ідэалізм выступіў у процівагу стыхійнаму матэрыялізму навукі старажытнасьці. На працягу ўсёй сваёй гісторыі філёзофія была барацьбой ідэалізму і матэрыялізму. Гэта значыць—барацьбой за і супроць улучэньня ў навуку чужых ёй мэтодаў, абхінаньня навукі тэолёгічна-ідэалістычнай абалонкай. Я зноў кажу, што пакідаю ў баку клясавую падкладку гэтай барацьбы. Думаю, што тожсамленьне тэолёгіі і ідэалізму ў даным контэксьце ня мае патрэбы ў апраўданьні. Напомню толькі, што яно абасноўваецца на тэй самай староцы Энгельсавага „Фэйербаха“, адкуль узяты і гэты, што разглядаецца, падзел філёзофаў.

Асноўны прынцып матэрыялістычнага сьветаразуменьня зьяўляецца продуктам усёй папярэдняй *гісторыі* навукі і філёзофіі. Але ці выходзіць з гэтага, што трэба тупаць на месцы вакол і каля гэтага прынцыпу? Зразумела, не. Яго гістарычная перамога зьяўляецца *адпраўным пунктам, умовай* існаваньня навуковай філёзофіі. Ня ўгрузьці ў гэтым асноўным прынцыпе, а, выходзячы з яго, вырасьці ў творчую навуковую філёзофію—вось наш адказ на пытаньне: што-ж далей? Калі хочуць формуляваць задачы філёзофіі, няма нашто формуляваць *зьдзейсьненыя* задачы. Гэта таксама неразумна, як абмяжоўваць задачы сучаснай хэміі крытыкай тэорыі флёгістона. Первястковасьць прыроды, зьяўляючыся продуктам усёй папярэдняй барацьбы за сапраўдную навуку, робіцца conditio sine qua non сучаснай навукі, перарастае ў навуковую мэтодолёгію.

Зрэшты, зноў і зноў варочацца да гэтых пытаньняў нас *вымушае эпігонства* сучаснай ідэалістычнай філёзофіі і самы факт існаваньня соцыяльнага грунту для яе вырастаньня. Сучасны ідэалізм уяўляе з сябе анархізм, мізэрнае паўтарэньне неаднакроць абвергнутых поглядаў, „паў-

(анархізм)

торны курс". Адзіна магчымы адсюль для марксыстага вывад — неабходнасьць вывучэньня *гісторыі* філёзофіі. „Тэорэтычнае мысьленьне зьяўляецца прыраджонай уласьцівасьцю толькі ў выглядзе здольнасьці. Яна павінна быць разьвіта, удасканалена, а для падобнай распрацоўкі ня існуе дагэтуль іншага способу, апрача вывучэньня *гісторыі філёзофіі*"... (Энгельс). Але-ж і гісторыю рэлігій карысна вывучаць. З усяго гэтага, зразумела, ня выходзіць, што ад філёзофіі павінна застацца толькі яе гісторыя. Рушачы ад апошняга пункту *гісторыі* філёзофіі, мы павінны распрацоўваць *сучасную навуковую* філёзофію.

---

Што-ж застаецца ад філёзофіі? — спытае няцямлівы чытач, калі ўспомніць, як рэзка ганіўся нігілізм у пачатку артыкулу. На гэтае пытаньне ясна і нядвусэнсоўна адказаў ужо Энгельс: „У філёзофіі, выгнанай з прыроды і з гісторыі, застаецца, паколькі застаецца, толькі галіна чыстай мысьлі: вучэньне аб законах процэсу мысьленьня, лёгіка і дыялектыка". „Прыродазнаўства, здавальняючыся адкідамі старой мэтафізыкі, усьлед за філёзофіяй цягнула яшчэ сваё ўяўнае існаваньне. Толькі калі прыродазнаўства і гісторыя ўбяруць у сябе дыялектыку, толькі тады *ўвесь філёзофскі хлам — за выключэньнем чыстага вучэньня аб мысьленьні* — зробіцца лішнім, рашчыніцца ў станоўчай навуцы" (Энгельс. Курсіў мой. Б. Б.). Чытач ня будзе наракаць, калі я падам доўгія выпіскі з „Диалектики природы", якія накіраваны супроць філёзофскага нігілізму і даводзяць адначасна, што нічога іншага, апрача лёгікі і дыялектыкі, Энгельс пад філёзофіяй ня меў на ўвазе. „Дасьледчыкі прыроды выабражаюць, што яны вызваляюцца ад філёзофіі, калі ігноруюць або лаюць яе. Але дзеля таго, што яны бяз мысьленьня ня могуць пасунуцца ні на крок, для мысьленьня-ж *неабходны лёгічныя азначэньні*, а гэтыя азначэньні яны неасьцярожна запазычаюць альбо з хадзячай тэорэтычнай уласнасьці так званых адукаваных людзей, над якімі пануюць рэшткі даўно мінулых філёзофскіх сыстэм і г. д... і вось людзі, якія старанна лаюць філёзофію, робяцца нявольнікамі самых дрэнных вульгарызаваных рэштак самых дрэнных філёзофскіх сыстэм" (Курсіў мой. Б. Б.). „Але, заняўшыся гэтым (сыстэматызацыяй матэрыялу і ўстанаўленьнем сувязі паміж асобнымі галінамі пазнаньня. Б. Б.), прыродазнаўства трапляе ў тэорэтычную галіну... а тут можа дапамагчы толькі тэорэтычнае мысьленьне... Тэорэтычнае мысьленьне кожнай эпохі, а значыць і нашай эпохі, гэта — гістарычны продукт, які набывае ў розныя часы вельмі розныя формы і атрымлівае дзеля таго вельмі розны зьмест. Значыцца *навука аб мысьленьні*, як і ўсякая іншая навука, ёсьць гістарычная навука, навука аб гістарычным разьвіцьці чалавечага мысьленьня... Але іменна *дыялектыка* зьяўляецца для сучаснага дасьледчыка прыроды самай правільнай *формай мысьленьня*, бо яна адна ёсьць *аналёгі, значыць мэтод* тлумачэньня тых процэсаў разьвіцьця, якія адбываюцца ў прыродзе для ўсеагульных су-

вязяй прыроды, для „пераходаў ад аднэй галіны дасьледваньня ў другую“ (Тамсама. Курсіў усюдых мой. Б. Б.). Такім чынам, паводле Энгельса, ад філёзофіі застаецца „чыстае вучэньне аб мысьленьні“, якое дае „неабходныя лёгічныя азначэньні“, „лёгіка і дыялектыка“; з іх апошняя зьяўляецца „самай правільнай формай мысьленьня“, „мэтодам тлумачэньня тых, што адбываюцца ў прыродзе, процэсаў“. „Ад усёй ранейшай філёзофіі астаецца яшчэ, у якасьці самастойнай навукі, вучэньне аб мысьленьні і яго законах — формальная лёгіка і дыялектыка. Усё іншае адносіцца да становучай навукі аб прыродзе і гісторыі“ („Анты-Дюрынг“).

Грунтоўней спынімся на пытаньні аб тым, як трэба разумець гэтую навуку аб мысьленьні, яе задачы і мэтоды, яе ўзаемаадносіны з іншымі навукамі.

---

Пачнем з таго, што для кожнага марксыстага відавочна неаднолькавая вартасьць двух складаючых філёзофію элемэнтаў — лёгікі і дыялектыкі. „Тэорыя законаў мысьленьня ня ёсьць зусім нейкая раз на заўсёды ўстаноўленая „вечная ісьціна“, як гэта зьвязвае са словам „лёгіка“ філістэрская мысьль. Сама формальная лёгіка зьяўлялася, пачынаючы з Арыстотэля і да нашых дзён, арэнай заўзятых спрэчак“ (Энгельс). З гэтых спрэчак некалі ўсемагутная лёгіка вышла даволі такі пакамечанай і пашарпанай. З аднаго боку, яе скідала з пасаду самая заядлая атака індукцыйнай мэтодолёгіі прыродазнаўства, якая пачалася з часаў Бэкона, і ў асобе Міляя і яго школы нанесла ганарыстаму сылёгізму самы моцны ўдар. З другога боку, новая калькуляцыйная лёгіка зьяўляецца продуктам усьвядомленай самымі лёгікамі нястаннасьці старой лёгікі ва ўмовах сучаснага становішча прыродазнаўства і матэматыкі. Абвяргаючы лёгічнасьць старой лёгікі ў сфэры лёгічнага формалізму, матэматычная лёгіка прынесла сваю ношку гальля на вогнішча, дзе паліцца некалі поўнаўладная навука. Сама-ж калькуляцыйная лёгіка касуе сябе, дзякуючы reductio ad abstrdum формалізму. Ня дзіўна дзеля гэтага, што лёгіка, якая так старанна ахоўваецца ад стыканьня з сьветам рачаісных зьявішчаў, робіцца няплоднай, як adданае богу дзявоцтва.

Трэці супроцьлёгічны фронт, фронт найбольш для нас важны, — крытыка сылёгістычнага формалізму Гегелем. Скарыстаю для ілюстрацыі гэтай ацэнкі цытаты з нядаўна апублікаванага Ленінскага конспэкту „Науки логики“. „Старая формальная лёгіка — гэта нібы дзяцінай забаўка — складаньне малюнкаў з кавалачкаў (in Verachtung gekommen)“ (38)... „Старая лёгіка прышла ў Verachtung (38). Патрабуе пераробкі“... „Нікчэмнасьць гэтых формаў (формальнай лёгікі) робіць іх вартымі „пагарды“ (19) і „кпін“ (20). Закон тожсамасьці, А=А, — нікчэмнасьць „unerträglich“ (19)... Як „безадносныя формы“, яны могуць быць „прыладамі памылкі і софістыкі“, ня ісьціны. „Лёгіка для Гегеля ёсьць недасканалая, элемэнтарная ў параўнаньні з дыялектыкай форма мысьленьня

і стасуецца да яе (дыалектыкі), як элемэнтарная матэматыка да вышэйшай. Зрэшты, несправядліва забывацца, што гэтыя катэгорыі „ihr Teld in der Frkenntnis haden worin sie gelten miissen“ (22). „...Лёгіка тольki тады атрымлівае сваю сапраўдную ацэнку, калі яна зьяўляецца ў выніку навуковага досьледу; яна ўяўляецца тады духу агульнаю ісьцінаю, якая стаіць ня *побач* з іншымі матэрыямі і рачаіснасьцямі, як *асобнае* веданьне, але складае сутнасьць усяго гэтага іншага зьместу“ (47) (цытавана па часопісі „ПЗМ“ № 1—2 за 1925 г.).

Гегелеўская крытыка формальнай лёгікі, якая даводзіць яе абмяжованасьць і элемэнтарнасьць, яе недахватнасьць, як формы пазнаньня і формалістычную нікчэмнасьць, перарастае, далей, у матэрыялістычную крытыку лёгічнага формалізму, у крытыку ідэалістычнага разуменьня лёгікі. Лёгіка,—заўважае Ленін, надаючы матэрыялістычны сэнс Гегелеўскай мысьлі,—ёсьць вучэньне не аб знадворных формах мысьленьня, а аб законах разьвіцьця „ўсіх матэрыяльных, прыродных і духоўных рэчаў“, г. ё. разьвіцьця ўсяго конкрэтнага зьместу сьвету і пазнаньня яго, г. ё. вынік, сума, вывад *гісторыі* пазнаньня сьвету“. Лёгіка—ня толькі больш прымітыўная і абмяжованая ў параўнаньні з дыалектыкай форма адзнаньня, але яна і небезапэляцыйная навука аб павінных формах адзнаньня, а абстрагаваная ў процэсе гісторыі пазнаньня форма іманэнтнага разьвіцьця самых рэчаў. Зрэшты, зноў кажам, форма недасканалая, перавышаная далейшай гісторыяй пазнаньня.

Бадай ня лішне будзе ў гэтым вельмі павярхоўным пералічэньні перамог, панесеных лёгікай, успомніць і аб даных шэрагу сучасных псыхолёгаў аб уяўнасьці значэньня формаў лёгікі ў рачаісным процэсе суджэньня, вываду. „Фактычныя формы мысьленьня (функцыянальны процэс пазнаньня адносін паміж данымі досьледу) нічога супольнага ня маюць з апрыорнымі правіламі лёгічнага розуму“ (Інжэньерас).

Вывад, да якога мы павінны прысьці,—сучасная філёзофія мусіць быць нічым іншым, як матэрыялістычнай дыалектыкай. „Такім чынам, дыалектыка—вось душа і жыцьцё марксыцкай філёзофіі“. Прычым, справядліва заўважае тав. Караў, „гэта ня чыста-формальная навука накшталт буржуазнай лёгікі, гэта—навукі *пазнаньня конкрэтнага* (Курсіў аўтара. Б. К.), якая дае *мэтод* (Курсіў мой. Б. Б.) для *гэтага* (Курсіў аўтара. Б. Б.) пазнаньня“. Такім чынам, мы няўхільна прыходзім да мэтодолёгічнага разуменьня марксыцкай філёзофіі. Дыалектыка—душа гэтай мэтодолёгіі.

„Проблема, якая стаяла перад Бэконам, была чыста *мэтодолёгічная*, і яго мэтод, як мы бачылі, быў разам з тым *матэрыялістычным мэтодам*“, пісаў А. М. Дэборын у сваім „Введении в философию диалектического материализма“. І крыху вышэй: „Бэкон—заснавальнік сучаснай філёзофіі—сходзіцца з Марксам, творцай сучаснай соцыолёгіі,—ня тольki ў разуменьні культурных задач навукі і ў прыстасаваньні „рацыяналь-

нага мэтоду да даных, якія дастаўляюцца знадворнымі пачуцьцямі". Абодвым мысьліцелям неўласьціва таксама імкненьне стварыць закончаную ўва ўсіх адносінах і абавязковую для ўсіх часаў *сыстэму*. Абодва яны бачаць сваю галоўную задачу ў вызначэньні правільнага навуковага *мэтоду*" (Курсіў усюды аўтара. Б. Б.). У папярэднім выкладаньні мы прабавалі пры дапамозе пачарговага выключэньня нязгодлівых з пункту гледжаньня марксызму трактовак прыйсьці да мэтодолёгічнага разуменьня філёзофіі, як адзіна магчымага і неабходнага. Але такое разуменьне філёзофіі было ўсьвядомленым для найбольш выдатных прадстаўнікоў марксызму. „Диалектика природы" страката думкамі аб неабходнасьці тэорыі, філёзофіі, для прыродазнаўства, прычым гэтыя разуменьні тожсамяцца з дыалектычным мэтодам. Чытач лёгка адшукае адпаведныя цытаты ў працы Энгельса. Для закладальніка марксызму матэрыялізм „ёсьць, галоўным чынам, *уводзінымі да вывучэньня*, а не падважнік конструкцыі на манер гегельянства" (ліст да Шмідта ад 5 жніўня 1890 г.).

У цытаваным вышэй лісьце выдатнага італьянскага марксыстага А. Лябрыолі да Энгельса ёсьць дасканалая формулёўка цікавячага нас пытаньня. „Вы зусім справядліва кажаце, што філёзофія, як нешта самаважкае, апрача лёгікі і дыялектыкі (што абазначае вучэньне аб формах пазнаньня), ахвярована на зьнікненьне. Аднак, не ў проціле жнасьць Вашаму сьцьверджаньню, а каб дадаць да яго, трэба адзначыць... пад імем лёгікі і дыялектыкі натуральна разумець усю спэцыяльную мэтодыку (мэтодолёгію? Б. Б.) асобных навук, іншымі словамі — формальнае веданьне акту і процэсу пазнаваньня і мысьленьня ў якіх-хаця адносінах з досьледам і наглядань нем. У гэтым, зрэшты, заўсёды і замыкалася сапраўдная роля філёзофіі, рэшта, г. ё. блытаніна сыстэм, залежала: а) або ад нясьпеласьці эмпірычнага веданьня (Грэцыя), в) або ад укараненьня тэолёгіі (сярэднія вякі), с) або ад бязладнасьці ў занятках філёзофаў пераходнага пэрыоду (Адраджэньне і XVIII век), д) або-ж ад уплыву эстэтыка-рэлігійных ідэалаў па-занавуковага характару (напр., Шэльлінг і часткай Гегель) і г. д. і г. д. Зьяўленьне соцыялізму адсувае ўсе прычыны, якія зацямнялі *ў грамадзкім адзнаньні* чалавека вартасьць навукі (або веданьня), і дзеля гэтага нам цяпер вядома, чым была філёзофія, чым яна больш не павінна быць і якімі сьціплымі граніцамі ёй трэба наперад абмежавацца". Гэтыя прыгожыя, глыбака абдуманыя радкі даюць ня толькі пасьлядоўную формулёўку мэтодолёгічнага разуменьня філёзофіі, але і схэму гісторыі філёзофіі з вышыні сучаснай мэтодолёгічнай філёзофіі, і, апрача таго, у вапошніх словах хаваецца сродак да разуменьня *бягучых задач* філёзофіі ў цяперашнюю *перадсоцыялістычную* эпоху. Але аб гэтым пазьней. У данай сувязі нам важна разуменьне філёзофіі А. Лябрыоляй, як марксыцкай мэтодолёгіі навук.

Характэрнай рысай матэрыялістычнай дыялектыкі, як мэтодолёгіі навук, зьяўляецца яе аформалізм. Нашая мэтодолёгія грунтуецца не на

аксыомах, іманэнтных „чыстаму розуму“, не на апрыорных прынцыпах, якія ўносяцца пазнаючым розумам у пазнаваемыя зьяўленьні, не на тых мэтодолёгічных постулятах, што зьявіліся, як deus ex machina, „Але адкуль мысьль бярэ гэтыя асноўныя палажэньні? З сябе самой? Не... Лёгічныя схэмы могуць адносіцца толькі да формаў *мысьленьня*, у нас-жа гутарка йдзе толькі аб *быцьці*, аб знадворным сьвеце, а яго формы мысьль ніколі ня можа стварыць і вывесьці з сябе самой, але толькі з знадворнага сьвету... Прынцыпы зьяўляюцца не адпраўным пунктам дасьледваньня, а яго самым апошнім вынікам; яны не прыстасоўваюцца да прыроды і гісторыі чалавецтва, але абстрагуюцца з тэй і другой; ня прырода і сьвет чалавечы рушацца па прынцыпах, але прынцыпы справядлівыя ўсяго пастолькі, паколькі ўзгадняюцца з прыродай і гісторыяй“ (Энгельс). Дыялектыка—ня толькі форма адзнаньня, але і форма быцьця. Больш таго, дыялектыка таму зьяўляецца формай адзнаньня, што яна ёсьць форма быцьця. Разглядаць зьявы дыялектычна, значыць—разглядаць зьявы такімі, якія яны об‘ектыўна ёсьць, у іманэнтных ім формах існаваньня. Нашая мэтодолёгія, такім чынам, нічога ня выдумвае, а толькі адбівае. Матэрыялістычная мэтодолёгія ёсьць рэфлектар, асьвятляючы жыцьцё прыроды запазычаным ад яе-ж сьвятлом. Ідэальная мэтодолёгія ёсьць нішто іншае, як умельства бачыць процэсы прыроды ў іх сапраўдным сьвятле. Формы падыходу імкнуцца зрабіцца адэкватнымі формам існаваньня рачаіснасьцяй. Дзеля гэтага, навуковая мэтодолёгія можа разьвівацца толькі ў бязупынным узаемадзеяньні з разьвіцьцём усёй рэшты навук. Дасягненьні ў адзнаньні тых ці іншых процэсаў быцьця пры дапамозе недасканалых мэтодаў адзнаньня дапамагаюць удакладненьню самых мэтодаў пазнаньня. Апошнія, у сваю чаргу, дасканалячыся на аснове разьвіцьця навук, у геомэтрычнай прогрэсіі дапамагаюць далейшаму прогрэсу гэтых навук. Усебаковая унівэрсальная гнуткасьць разуменьняў, гнуткасьць, якая даходзіць да тожсамасьці процілежнасьцяй,—вось у чым сутнасьць. Гэтая гнуткасьць, ужытая суб‘ектыўна,=эклектыцы і софістыцы. Гнуткасьць, ужытая *об‘ектыўна*, г. ё. якая адбівае ўсебаковасьць матэрыяльнага процэсу і адзінства яго, ёсьць дыялектыка, ёсьць правільны адбітак вечнага разьвіцьця сьвету“ (Ленін). „Законы дыялектыкі былі адцягнены з гісторыі прыроды і чалавечага грамадзтва, але яны ня што іншае, як найбольш агульныя законы абедзьвюх гэтых фаз гістарычнага разьвіцьця, а таксама самога мысьленьня“ (Энгельс). Якая першая задача марксыцкай філёзофіі дыялектычнай мэтодолёгіі? „Над хаосам безьлічу зьмен у прыродзе пануюць тыя самыя дыялектычныя законы руху, што і над зданьнёвай выпадковасьцю гістарычных падзей; законы, якія праходзяць чырвонай ніткай праз гісторыю разьвіцьця чалавечай мысьлі і паступова пранікаюць у адзнаньне мысьлячых людзей; законы, якія ва ўсеахопнай, хоць і містычнай форме, упяршыню былі разьвіты Гегелем і якія нам хацелася—такая была адна з нашых задач—вызваліць ад гэтай містычнай формы і падаць адзнаньню ўва ўсёй іх простасьці і ўсеагульнасьці“ (Энгельс).

З об'ектыўнага пахаджэньня і об'ектыўнай значымасьці нашай мэтодолёгіі відаць і характар узаемаадносін яе з рэштай навук. Вышэй я ўжо адзначыў іх цясьнейшую дыалектычную ўзаемазалежнасьць. Мэтодолёгія формуецца навукамі і ў сваю чаргу формуе навуковае пазнаньне. Досыць узяць у прыклад хоць-бы сучасную псыхолёгію. Усе псыхолёгі падзяліліся на два лягеры, нязгодліва-варожыя і ствараючыя дзьве зусім розныя навукі, з рознымі проблемамі, клясыфікацыяй, вынікамі. Што зьяўляецца вадападзелам паміж імі? Мэтод. Навукі, якія вывучаюць псыхіку, ужываючы адны—об'ектыўны, другія—суб'ектыўны мэтод дасьледваньня, прыходзяць да процілежных мэтодаў ня толькі на законамернасьць тых, што яны вывучаюць, зьяўленьняў, але й на самы об'ект вывучэньня. І рэактолёгі з поўным правам запярэчаць супроць залічэньня мною іх да вывучаючых псыхіку, бо яны вывучаюць трыманьне. Але, з другога боку, шырокае і карыснае прыстасаваньне об'ектыўнага мэтоду да вывучэньня рэакцый чалавека карэніцца ў прогрэсе экспэрымэнтальнай фізыолёгіі.

„Мэтод дыалектычнага матэрыялізму зьяўляецца вынікам усёй *скутнасьці* чалавечага веданьня. Дзеля гэтага ён ня можа быць абвергнуты *асобнымі выпадковымі* фактамі, якія самі падлягаюць крытычнай праверцы з пункту гледжаньня агульнай мэтодолёгіі" (А. Дэборын—Вступительные замечания к конспекту „Науки логики" Леніна"). „Самы шлях прыроδазнаўства быў-бы карацейшым, яно было-б ахована ад хібных крокаў, яго вынікі выйгралі-б у сэнсе яснасьці і карыснасьці, калі-б яно ўмела карыстацца дыалектыкай, як *кіраўнічым пачаткам* дасьледваньня і як прыладай для крытычнай апрацоўкі яго вынікаў, ня толькі *інстынктыўна, але і сьвядома, мэтодычна*" (А. Тальгеймер—„О некоторых основных понятиях теории относительности").

Існаваньне агульных навуковых мэтодаў, якія зьяўляюцца абагульненьнем з максымальна вялікага матэрыялу і служаць кіраўнічымі адпраўнымі прынцыпамі для ўсіх навук, не выключае існаваньня спэцыфічных мэтодаў асобных навук. Асобныя мэтоды паасобных навук зьяўляюцца конкрэтнымі формамі дапасаваньня агульна-навуковай мэтодолёгіі да тэй ці іншай групы зьяўленьняў; яны—нішто іншае, як відазьмены адзіных навуковых мэтодаў. Апрача таго, розныя навукі, у залежнасьці ад асаблівасьцяй об'екту свайго дасьледваньня, характарызуюцца рознай роляй асобных мэтодаў ува ўсёй мэтодолёгіі данай навукі. Нарэшце, мэтодолёгія абумоўлівае і спэцыфічныя тэхнічныя спосабы, мэтодыку дасьледваньня. Для разуменьня суадносін паміж філёзофіяй і асобнымі мэтодолёгіямі навук вельмі карысна добра ўразумець гегелеўскае вучэньне аб усеагульным, адзінкавым і асаблівым суджэньні.

Нашая філёзофія павінна, побач з вышэйадзначанымі функцыямі, іграць і коордынуючую ролю ў сыстэме навук. Побач з беспасрэдна мэтодолёгічным сваім значэньнем і дзякуючы яму, матэрыялістычная

дыялектыка ўстанаўляе, дакладней, выяўляе, адзінства навук. Гэта не знаходзіцца ў супярэчнасьці з вышэйпаданай крытыкай сынтэтычнага разуменьня філёзофіі, дзеля таго што гутарка йдзе аб мэтодолёгічным монізьме, аб сынтэзе на падставе адзінства мэтоду. Мэтодолёгія зьяўляецца насіцелем мэтодолёгічнага адзінства навук. Рознастайнасьць об'ектаў навукі характарызуецца аднастайнасьцю яе мэтодолёгічных асновапалажэньняў. Сынтэтычная і коордынуючая роля мэтоду можа быць параўнана з роляй нэрвовай сыстэмы ў організьме. Ня будучы ні конглёмэратам, ні квінтэсэнцыяй навук, а самастойнай навукай, філёзофія падобна нэрвовай сыстэме, уносіць функцыянальнае мэтодолёгічнае адзінства ў навукі, пранізвае іх чырвонай ніткай, коордынуючы раздробленыя шукальні і стыхійныя дасягненьні. Філёзофскі мэтод „ня зводзіцца да гатовых вынікаў, падрахункаў, вывадаў рэшты навук. Гэта—*мэханічны і назіральны* погляд на філёзофію. Філёзофія ня проста рэгіструе вынікі навуковага дасьледваньня, яна актыўна жыве ў ім, кіруе ім, сама, у сваю чаргу, запладняецца яго вывадамі... яна ня проста зводка заваёў навукі, а яе *мэтодолёгічны сынтэз*... Марксыцкая філёзофія—не навука навук, а хутчэй навука ў навуках“ (Караў).

---

Як трэба ставіцца да выклікаўшай гарачую дыскусію брошуры тав. Сьцяпанава з таго пункту погляду на марксыцкую філёзофію, які я бараню? Перш за ўсё, ці можна дапусьціць той спосаб выкладаньня, якога трымаецца тав. Сьцяпанаў? Зразумела, ня толькі можна выкладаць у популярных кніжках марксыцкую філёзофію не адцягнена, „an und fürsich“, а на ілюстрацыях—у яе прыстасаваньні да таго ці іншага шэрагу фактаў, але такі спосаб популярызацыі зьяўляецца мэтодычна, пэдагогічна надзвычайна ўдалым. Такога тыпу кніжка вельмі патрэбна і каштоўна. Той шэраг фактычных даных, на якіх ілюструе тав. Сьцяпанаў марксыцкі мэтод—эволюцыя сьветабудовы, наогул, і органічнага сьвету, у васобнасьці,—таксама ня можа быць палічаны няўдалым. Падлягае абмеркаваньню ня *спосаб выкладаньня* нашай мэтодолёгіі, а яе *разуменьне*. Спрэчка павінна йсьці не аб мэтодыцы, а аб прынцыпах. Як разумее тав. Сьцяпанаў марксыцкую мэтодолёгію? Пасьлядоўны марксысты прымае канчатковыя вывады навукі аб прыродзе, якія, па сутнасьці, якраз і складаюць тыя погляды, каторыя мы ахапляем словамі „філёзофскі матэрыялізм“. Так думае тав. Сьцяпанаў. Або ў другім месцы: „Гістарычны матэрыялізм *робіць далей* тую справу, якая ў аднэй сваёй частцы выканана філёзофскім матэрыялізмам, або, ужываючы больш ясны і просты выраз, выканана сучасным *прыродазнаўствам*“. „Высьвятленьне агульных суадносін паміж філёзофскім матэрыялізмам і гістарычным матэрыялізмам, або, што адно і тое, паміж мэтодамі сучастных навук аб прыродзе (сучаснага прыродазнаўства) і мэтодамі сучасных навук аб грамадзтве (сучаснага грамадзтвазнаўства, якім яго зрабілі працы

Маркса і Энгельса), вось асноўная задача нашай працы". Позыцыя тав. Сьцяпанава ясная. Для яго сучаснае прыродазнаўства і філёзофскі матэрыялізм—разуменьні роўназначныя, адэкватныя, пакрываючыя адно другое. У чым карэнная памылка гэтых формулёвак тав. Сьцяпанава? Ён пачынае з адрыву мэтодолёгіі прыродазнаўства ад грамадзтвазнаўства, уцісквае нашыя *ўнівэрсальныя* мэтодолёгічныя прынцыпы ў мэтодолёгію прыродазнаўчых навук, далей абмяжоўваючыся аднабокім аналізам мэханістычнага прынцыпу ў прыродазнаўстве, прабуе нанава зьвязаць мэтодолёгію грамадзтвазнаўства з мэханізаванай мэтодолёгіяй прыродазнаўства („філёзофскім матэрыялізмам"—тож). Па сканчэньні ўсёй гэтай процэдуры ў чытача застаецца ўражаньне аб мэханістычных тэндэнцыях сучаснага грамадзтвазнаўства, што і патрабавалася давесьці. Але досыць не дапусьціць першай маніпуляцыі (адрыву дыялектычнай мэтодолёгіі ад грамадзтвазнаўства), і мы прыдзем не да мэханістычнай мэтодолёгіі, а да дыялектычнай, якая ўлучае першую, але не супадае з ёй. У таварыша-ж Сьцяпанава мэханістычны мэтод паглынае дыялектычна-матэрыялістычны, вычэрпвае яго цалком і без астачы. Усё папярэдняе выкладаньне зразуменьня філёзофіі матэрыялізму яго творцамі даводзіць недапушчальнасьць абмежавана-натуралістычнага разуменьня дыялектычнага матэрыялізму. А калі не рабіць гэтага дапушчэньня, то мы ня прыдзем да генэралізацыі, да ўзьвядзеньня ў рангу адзінадзяржаўнага прынцыпу аднаго з мэтодаў прыродазнаўства, хоць і важнейшага. Тав. Сьцяпанаў ня вычэрпвае дыялектыкі і вульгарызуе яе ўжываньне ў грамадзтвазнаўстве, ствараючы яе на вобраз і падабенства прыродазнаўства. Мне здаецца, концэпцыя тав. Сьцяпанава навеяна тэй недаацэнкай навуковасьці сучаснай соцыолёгіі, якая звычайная ў прыродазнаўцаў, але ня можа быць прынятая марксыстымі. Зрэшты, *ня гледзячы* на яе памылковасьць, пастаноўка пытаньня тав. Сьцяпанавым ёсьць усё-ж такі крок наперад у параўнаньні з плоскімі, схолястычнымі поглядамі некаторых з яго „філёзофскіх" крытыкаў.

У гэтай сувязі дарэчы будзе спыніцца на зазвычаеным у нашай тэрмінолёгіі „гістарычным матэрыялізьме". Які сэнс мае гэты тэрмін? Ён стасуецца да тэрміну „дыялектычны матэрыялізм" (г. ё. уся наша філёзофія), як частка да цэлага. Калі разумець „гістарычны матэрыялізм", як мэтодолёгію грамадзкіх навук, гэта стварае разрыў адзінай марксыцкай мэтодолёгіі і пагражае ўсялякімі ўхіламі і зьвіхамі. Такіх небясьпек няма ў зразуменьні гістарычнага матэрыялізму, як марксыцкай соцыолёгіі, асобнай навукі з спэцыяльным об'ектам вывучэньня, але якая сьвядома кіруецца матэрыялістычнай мэтодолёгіяй, што і падкрэсьлівае яе назва. Але можна ўжываць гэты тэрмін у зусім іншым значаньні, якое супадае з тэрмінам „дыялектычны матэрыялізм". Для Энгельса „гістарычны" значыць ня „той, што адносіцца да чалавечай гісторыі", а эволюцыйны, асновань на прынцыпе разьвіцьця, дыялектычны. „Мы ведаем

толькі адну адзіную навуку, навуку гісторыі. Гісторыю можна разглядаць з двух бакоў і падзяляць на гісторыю прыроды і гісторыю людзей. Але нельга аддзяляць адзін ад аднага абудва гэтыя бакі: пакуль існуюць людзі, гісторыя прыроды і гісторыя людзей абумоўліваюць адна другую“ („Немецкая идеология“). Такой самай тэрмінолёгіі трымаецца і А. Лябрыоля, прапануючы ў памянёным лісьце назву „генетычнага“ мэтоду замест дыялектычнага. Відавочна, што калі выбіраць з гэтых трох назваў, усе перавагі будуць на баку „дыялектычнага“, як таму, што ён больш рэльефна характарызуе *наш* гістарызм у процівагу ўсякім іншым эволюцыйным тэорыям, так і таму, што ён зьяўляецца заслужоным рэволюцыйным сьцягам.

---

Обэр-лёкай нямецкай буржуазіі Рудольф Гільфэрдінг у 1909 годзе ў прадмове да „Финансового капитала“ даводзіў, што нельга ня прызнаць хібным той погляд, які бяз лішніх слоў тожсаміць марксызм з соцыялізмам... Але-ж адна рэч пазнаць, а зусім іншае аддаць сябе справе гэтай неабходнасьці“. „Лёгічнае разуменьне“, „навуковая сыстэма“, „прызнаньне неабходнасьці“—гэта адно, а „складаньне ацэнак“, „набываньне дырэктыў для практычнага трыманьня“—зусім што іншае. Пан Гільфэрдынг на прыкладзе ўласнай пэрсоны давёў справядлівасьць свайго сьцьверджаньня, што „зусім магчыма, што хто-небудзь праконан у канечнай перамозе соцыялізму—і, усё-ж, аддаецца справе барацьбы з ім“. І на думку Эдуарда Бэрнштэйна, які заслужона носіць мянюшку „бацькі сучаснага опортунізму“: „З мэтодам, са спосабамі політыкі марксызм мае столькі-ж супольнага, як фізыолёгія з мэтодамі і спосабамі лекарскага мастацтва“ („Das Blibende im Marxismus“. Цыт. па арт. Ц. Фрыдлянда „Живой труп“). Так думаюць і дзейнічаюць *яны*. А вось як думаем і дзейнічаем *мы*: „Матэрыялізм улучае ў сябе, так сказаць, партыйнасьць, абавязваючы пры ўсякай ацэнцы падзей проста і адкрыта ставаць на пункт гледжаньня азначанай грамадзкай групы“ (Ленін). Марксыцкая мэтодолёгія не назіральная і пасывіцкая, а мэтодолёгія творчага дзеяньня, мэтодолёгія барацьбы і рэволюцыйнага оптымізму. Для разуменьня нашай філёзофіі істотна разуменьне ня толькі дыялектычнага ўзаемапранікаваньня яе і рэшты навук, але і ўзаемапранікаваньня тэорыі і практыкі, тлумачэньня і перабудаваньня. Марксызм—прылада. Яго актыўная роля не абмяжоўваецца разуменьнем зьявішчаў, але няўхільна пераходзіць ва ўзьдзеяньне на іх. Вось чаму нашая навуковая мэтодолёгія ў той самы час і альгебра рэволюцыі. Вось чаму трэба вывучаць дыялектыку ў пристасаваньнях яе ня толькі да тэй ці іншай навукі, але і да політыкі, стратэгіі і тактыкі. Адрыў пазнаньня ад чыннасьці, які зьяўляецца ахілесавай пятой усякай гносэолёгіі, зьяўляецца ахілесавай пятой і буржуазнай і каля-буржуазнай мэтодолёгіі. „Сальтовітальная“ крытыка тэорыі пазнаньня—не шчасьлівая зігзага марксыцкай мысьлі, а органічна-ўласьцівы нашай мэтодолёгіі і неаддзельны ад яе прынцып.



Яскравым прыкладам актыўнасьці (действенности) нашай філёзофіі можа служыць концэпцыя, якую бароніць тав. Корш у брошуры „Марксизм и философия“. Тав. Корш лічыць аднэй з задач нашай ідэолёгічнай барацьбы зьніштажэньне філёзофіі, прытым, усякай філёзофіі наогул. „Падобна да таго, як Маркс і Энгельс ня толькі змагаюцца супроць пэўнай гістарычнай формы дзяржавы, але наогул гісторыка-матэрыялістычна тожсамяць дзяржаву з буржуазнай дзяржавай. (А дыктатура пролетарыяту? Б. Б.) і на гэтай падставе сьцьвярджаюць, што скасаваньне ўсякай дзяржавы зьяўляецца палітычнай, самай апошняй мэтай комунізму— так яны ня толькі змагаюцца супроць пэўных філёзофскіх сыстэм, але і хочуць урэшце ўсяго здолець і скасаваць сваім навуковым соцыялізмам філёзофію наогул“. „Неабходным вынікам іх (Маркса і Энгельса. Б. Б.) новага матэрыялістычна-дыалектычнага погляду зьяўляецца ня толькі скасаваньне буржуазнай ідэалістычнай філёзофіі, але *разам з тым* і скасаваньне філёзофіі, г.-ё. наогул усякай філёзофіі“. Неабходна зруйнаваць, зрэшты, ня толькі філёзофію, але і ўсю навуку. „Сапраўдная процілежнасьць навуковага соцыялізму Маркса ўсім буржуазным філёзофіям і *навукам* аснована выключна на тым, што ён ёсьць тэорэтычны выраз нейкага рэволюцыйнага працесу, які скончыцца поўным скасаваньнем гэтых буржуазных філёзофій і *навук*, калі будуць скасаваны ўсе матэрыяльныя адносіны, якія знашлі ў іх свой ідэолёгічны выраз“ (курсіў аўтара—Б. Б.). Але страшны сон, да міласьцівы бог. „Гэтак сама-ж неправамерна лічыць матэрыялістычную тэорыю Маркса больш не філёзофскай тэорыяй толькі на тэй падставе, што яна павінна выканаць не адну толькі чыста тэорэтычную задачу, але, у той самы час, практычна рэволюцыйную. Наадварот, трэба сказаць, што дэалектычны матэрыялізм Маркса і Энгельса ў тэй форме, у якой мы яго маем у 11 тэзах аб Фэйербахе і ў іншых недрукаваных і друкаваных творах гэтага часу, неабходна іменна ахарактарызаваць, як філёзофію,—іменна, як рэволюцыйную філёзофію“... Справа, як выходзіць, у тым, што тав. Корш атожсаміў у разнейпаданых цытатах філёзофію з назіральнай філёзофіяй і зусім лёгічна мкнецца да яе зруйнаваньня; але тую філёзофію, якая не адгараджваецца ад чыннасьці, а наадварот, зьяўляецца філёзофіяй гэтай чыннасьці, таварыш Корш гатоў вітаць. „Супроць буржуазнага адзнаньня, якое ў моц неабходнасьці процістаўіць сьвету сябе, як чыстую крытычную філёзофію і вольную ад прадпасылак навуку... павінна выступіць рэволюцыйная матэрыялістычная дыалектыка, філёзофія пролетарскае клясы, пакуль у канчатковым выніку гэтай барацьбы, разам з поўным практычным рэволюцыйным перататварэньнем усяго існаваўшага дагэтуль грамадзтва, улучаючы яго экономічны базіс, ня будзе таксама і тэорэтычна цалком здолена і скасавана гэтае буржуазнае адзнаньне. Вы ня можаце скасаваць філёзофію, ня зьдзейсьніўшы яе ў рачаіснасьці!“—гэтымі гарачамі словамі канчае тав. Корш сваю брошуру. У тав. Корша шмат памылковых

поглядаў, куды больш, чым правільных. Ён проціставіць раньняга Маркса позьняму, для яго марксыцкая тэорыя абмяжоўваецца сьветам соцыяльных зьяўленьняў і г. д. Але адна справядлівая думка наскрозь праходзіць усю яго працу—разуменьне рэволюцыйнага актыўнага характару нашай філёзофіі. Лепшая філёзофская крытыка—крытыка аружжам панаваньня клясы, якая параджае тую, што крытыкуецца, філёзофію. Да канца абмяркованая і ўжытая марксыцкая мэтодолёгія няўхільна прыходзіць да гэтага вываду. „Для практычнага матэрыялістага, г.-ё. для комуністага, справа йдзе аб тым, каб рэволюцыянізаваць існуючы сьвет, каб практычна абярнуцца супроць рэчаў, як ён застае іх, і зьмяніць іх" („Немецкая идеология"). Вось чаму марксызм заставаўся верным сабе, займаючыся дагэтуль ня столькі самаафармленьнем, сыстэматызацыяй, шліфоўкай сваіх азначэньняў, колькі крытыкай і рэволюцыйнай практыкай. Дыялектычны матэрыялізм няўхільна штурхае да барацьбы з непрыяцельскімі ідэолёгіямі, якая зьліваецца з клясавай барацьбой у цэлым. Адгэтуль—дэструкцыйны характар марксыцкіх філёзофскіх прац. Дэструкцыя буржуазнай філёзофіі для нас заўсёды была неабходным элемэнтам у конструкцыі пролетарскай рэволюцыі. І толькі з канчатковым зьніштажэньнем соцыяльных прычын, якія параджаюць сучасную эпігонскую ідэалістычную філёзофію і ідэалістычныя ўхілы спэцыялістых-вучоных, адамрэ і дэструкцыйнасьць нашай філёзофіі. Толькі ўмовы пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва ствараюць грунт для сконцэнтраваньня на далейшым удасканаленьні навуковай мэтодолёгіі.

Тут мы шчыльна падышлі да моманту, калі мэтодолёгія ператвараецца ў сьветапогляд.

---

Яснай і выразнай пастаноўкі пытаньня аб узаемаадносінах мэтоду і сьветапогляду ў марксыцкай літаратуры дагэтуль няма. Хадзячыя погляды вельмі туманныя і нявыразныя. Звычайна абыходзяцца з гэтымі разуменьнямі, як з супадаючымі, і ўжываюць іх ў переменку. У вапошні час зроблены спробы абаснаваць гэтае тожсамленьне, якія нельга прызнаць удалымі. Няма сумненьня, што марксыцкі сьветапогляд магчымы толькі пры ўладаньні марксыцкай філёзофіяй, а марксыцкая філёзофія ўвасабляецца ў адпаведны сьветапогляд. Гутарка можа йсьці не аб процілегласьці або неадпаведнасьці іх, а аб тэхнічным разьмежаваньні разуменьняў. Тав. Сараб'янаў у сваёй кніжцы „Основное в едином научном мировоззрении—методе" стараецца гістарычна абаснаваць тожсамасьць мэтоду і сьветапогляду ў пролетарскай ідэолёгіі. Для яго „марксызм—адзіны навуковы сьветапогляд—мэтод". На пытаньне, „ці можна тожсаміць сьветапогляд і мэтод, ці ня ёсьць гэта розныя разуменьні?" тав. Сараб'янаў адказвае станоўча, сьцвярджаючы, што ў папярэдніх клясаў звычайна мэтод і сьветапогляд не супадалі („сужыцьцё папоўскага сьветапогляду з матэрыялістычным мэтодам", Дэкарт, Бэкон, Пастэр), зрэшты, мела месца ў гісторыі і „спалучэньне мэтоду з сьветапоглядам"

(францускія матэрыялістыя XVIII веку). Гэта сьцьвярджэньне, па меншай меры, няўдалае, дзеля таго што з такім самым правам ўва ўсіх гэтых выпадках можна казаць (і кажуць) аб *унутраных* супярэчнасьцях сьветапогляду ці мэтодолёгіі, аб *непасьлядоўнасьці* таго ці іншага мысьліцеля; нарэшце, хіба сама гэтая супярэчнасьць не зьяўляецца характэрнай рысай сьветапогляду буржуазных вучоных? Але разьмежаваньне гэтых разуменьняў, якое здаецца адвольным, тлумачыцца своясабістым зразуменьнем тав. Сараб'янавым гэтых разуменьняў. Сьветагляд, сьветапогляд утвараюцца ад слова глядзець, пагляд. „Мысьлі, словы—адны, справы—іншыя". Супярэчнасьць паміж мэтодам і сьветапоглядам роўназначна супярэчнасьці паміж справай і словам. Тав. Сараб'янаў адвольна абмяжоўвае ўсякі сьветапогляд назіральнасьцю (параўнай вышэй аб Коршы), а ўсякаму мэтоду прыпісвае актыўнасьць (действенность). Зразумела, можна ўстанаўляць якую-хочаш тэрмінолёгію і надаваць словам якое-хочаш умоўнае значэньне, усё пытаньне ў тым—ці мэтазгодна даная тэрмінолёгія. З нашага пункту погляду, які адмяжоўвае разуменьне мэтоду ад яго вынікаў, вывадаў навук, такая тэрмінолёгія відавочна немэтазгодна, бо ня ўсякая мэтодолёгія навук перарастае ў актыўную мэтодолёгію, не заўсёды яна супадае з прынцыпамі практычнай чыннасьці людзей, не заўсёды адэкватна *ўсьведамляецца* (а сьветапогляд таксама, як і мэтодолёгія,—ідэолёгічныя зьяўленьні) чалавечая практыка; нарэшце, калі казаць аб мэтодзе, як аб практыцы, справе, то наогул ня было ніколі ў гісторыі чалавецтва іншага мэтоду, апрача матэрыялістычнага. Такая тэрмінолёгія не мэтазгодна, таму што яна адвольная, і ў яе сьвятле „ўсе кошкі шэрыя".

У вадпаведнасьці з разгледжанымі ў даным артыкуле ўзаемаадносінамі паміж мэтодолёгіяй і іншымі навукамі, для мяне мэтод ня ёсьць тожсамы з сьветапоглядам, а прызначае, формуе яго. Тожсамленьне мэтоду з сьветапоглядам ёсьць блытаньне мэтоду з яго вынікамі. „Нават формальная лёгіка зьяўляецца, перш за ўсё, *мэтодам* для адшуканьня новых *вынікаў*, для пераходу ад вядомага да невядомага; тым-жа самым толькі ў куды больш высокім сэнсе, зьяўляецца *дыялектыка*, якая, да таго-ж, прарываючы цесны кругавід формальнай лёгікі, утрымлівае ў сабе *зародак* больш шырокага *сьветапогляду*" (Энгельс. Курсіў мой. Б. Б.) Сьветапогляд улучае ў сябе мэтод, як організм нэрвовую сыстэму, як „vis vitalis" і „душу" мысьленьня і трыманьня. Сьветапогляд, г. ё. соцыяльна абумоўленая сыстэма поглядаў на зьявішчы сьвету—тлумачэньняў, ацэнак і імкненьняў—пранізаны адпаведнымі яму мэтодолёгічным прынцыпамі, якія, будучы ўсьвядомленымі і ўдасканаленымі, абумоўліваюць магчымасьць далейшага пашырэньня і паглыбленьня сьветапогляду (г. ё. сыстэмы поглядаў на зьяўленьні сьвету: тлумачэньняў, ацэнак і імкненьняў).

Характэрнай рысай усякага сьветапогляду, апрача іманэнтнай яму мэтодолёгіі, зьяўляецца концэнтрацыя ўвагі, сконцэнтраваньне інтарэсаў на тэй ці іншай сфэры дапасаваньня ўласьцівай сьветапогляду методолёгіі, карацей—азначаная *ўстаноўка* адзнаньня і імкненьняў, нейкі соцыяльна-псыхолёгічны акцэнт. Калі папрабаваць выпрацаваць стройную схэму асноўных пытаньняў усякага сьвету і жыцьцяразуменьня і спрабаваць укласьці сьветапогляды розных філёзофаў у парадак пытаньня данай схэмы, то мы не атрымаем правільнага выкладаньня ні аднаго філёзофскага сьветапогляду. Гэта тлумачыцца тым, што *месца* таго ці іншага пытаньня або групы пытаньняў у розных сыстэмах мысьлі рознае: акцэнт стаўляецца на розных частках схэмы, цэнтр, домінанта сыстэмы бязупынна мяняецца. Разьбіраючы некаторыя погляды, вылажаныя ў брошуры тав. Корша, мы бачылі, як увесь сьветапогляд концэнтруецца, упіраецца ў адзін яго пункт—неабходнасьць зруйнаваньня сучасных вытворчых адносін. Акцэнт паложаны на соцыялістычнай рэволюцыі, і бяз гэтага акцэнту „дыалектычны мэтод“ не ператварыўся-б у „комуністычны сьветапогляд“, як дасканала сказаў Энгельс. У гэтай формулёўцы Энгельса—сродак да ўразуменьня розьніцы паміж мэтодам і сьветапоглядам.

## ПОЛІТЫЧНЫЯ ПАРТЫІ І АБ'ЯДНАНЬНІ Ў СУЧАСНАЙ ПОЛЬШЧЫ*)

У. Каліноўскі

### Партыі і аб'яднаньні, якія ня маюць сваіх прадстаўнікоў у Сойме.

### А. „ПРАВІЦА"

**Монархічная партыя**

Польскія магнаты, памешчыкі і капіталістыя ўсё яшчэ песьцяць думку аб замене цяперашняга рэспубліканскага ладу ў Польшчы сталай монархіяй, якая-б перадавалася, як спадчына, наступнікам.

Тая частка польскай буржуазіі, якая афіцыяльна падтрымлівае і абараняе рэспубліканскі лад, бязумоўна, не зьяўляецца ідэёвай абаронцай гэтага ладу. Паміж польскай рэспубліканскай буржуазіяй і тэй, якая монархічна настроена, няма розьніцы ў політычнай ідэолёгіі, гэтыя часткі буржуазіі адрозьніваюцца адна ад другой толькі неаднолькавым разуменьнем і неаднолькаваю ацэнкаю сучасных політычных падзей.

У другой палове 1925 году польскія монархістыя легалізаваліся. У жніўні месяцы 1925 году яны паведамілі міністэрства ўнутраных спраў аб тым, што організуецца політычная монархічная партыя, якая афіцыяльна распачне сваю чыннасьць у сярэдзіне верасьня 1925 году, гэтая партыя будзе мець назву „Oboz Monarchistów Polskich" (лягер польскіх монархістых).

29 верасьня гэтага-ж году ў г. Торне адбылася організацыйная нарада монархічнай партыі; на гэтай нарадзе прысутнічала каля 500 чалавек. Актыўны ўдзел на гэтай нарадзе прымалі князь А. Друцкі-Любецкі і быўш. камандзір пазнанскага корпусу—генэрал Рашэўскі.

7 і 8 студзеня 1926 году ў Пазнані адбылося пасяджэньне галоўнага савету монархічнай партыі. У лік сяброў гэтага савету, між іншым, уваходзяць наступныя асобы: Немаеўскі, буйнейшы памешчык, генэрал Даўбор-Мусьніцкі, генэрал Рашэўскі, князь А. Друцкі-Любецкі, вельмі буйны памешчык і арыстократ Пуслоўскі, граф Ян Тышкевіч, рэдактар віленскай монархічнай газэты „Слова" Мацкевіч і інш.

---

*) Глядзі „Полымя" №№ 2 і 4 за бягучы год.

У канцы лютага месяца соймавая хрысьціянска-нацыянальная фракцыя або так званая, „Дубадэцыя“ заявіла аб тым, што яна солідарызуецца з польскай монархічнай партыяй. Такім чынам, організацыя, якая толькі офіцыяльна была да гэтага часу нелегальная, якая мэтай сваёй дзейнасьці ставіла заснаваньне монархічнага ладу, хоць монархіі покі што не заснавала, але затое дабілася легальнага „офіцыяльнага, дазволенага ўладай“ існаваньня, і набыла сабе ў Сойме фракцыю. Гэтая соймавая фракцыя таксама зараз адкрыта заявіла аб тым, што яна ў Сойме рэпрэзэнтуе польскіх монархістых.

Яшчэ да таго моманту, покі офіцыяльна не зьявілася монархічная партыя, у Вільні ўжо існавала монархічная газэта „Słowo“ (Слова). Зараз, у сувязі з далучэньнем, альбо, лепш кажучы, „са злучэньнем“ „хрысьціянска-нацыянальнай фракцыі“ з монархістымі, газэта сябра нацыянальнай фракцыі Стронскага „Warszawianka“ (Варшавянка) таксама зьяўляецца органам монархістых.

У сувязі з чуткамі аб узмоцненай дзейнасьці польскіх монархістых, ужо зьявіліся і прэтэндэнты на „польскі прастол“. Свае кандыдатуры ў польскія каралі выставілі герцог Сікст-Пармскі і граф Караль Поодэр. Апошні прыслаў з Вены ў рэдакцыю аднэй варшаўскай газэты ліст і сваю фотографічную картку. У гэтым лісьце граф Поодэр заяўляе, што ён зьяўляецца патомкам польскага караля Яна Сабескага па мужчынскай лініі, але гэтыя патомкі, як-бы з прычыны розных політычных меркаваньняў, былі змушаны захоўваць сваё пахаджэньне пад прозьвішчам гр. Поодэр.

Апрача гэтых кандыдатаў, ёсьць яшчэ ў самай Польшчы шмат асоб, якія прэтэндуюць, як патомкі быўшых польскіх каралёў, на польскі прастол. Вось, напрыклад, толькі ў Сойме склікаш1922 году, маецца 30 дэпутатаў, якія сваё пахаджэньне выводзяць ад польскай каралеўскай дынастыі „Пяста“. Польскія монархістыя выдаюць свае газэты і часопісі, напрыклад, „Monarchista Polski“, „Słowo Monarchistyczne“ і інш. Гэтыя газэты зусім адкрыта падбухторваюць да стварэньня монархіі.

### Партыя „Захаваўча“

„Stronictwo Zachowawcze“ (Консэрватыўная партыя) зьяўляецца самай правай, чорнасоценнай партыяй. Сябры гэтай партыі належаць да вышэйшай польскай арыстократыі, радавое і грашовае. Так званай працоўнай інтэлігенцыі ў „Захаваўчай партыі“ вельмі мала.

„Захаваўчая партыя“ па існасьці зьяўляецца партыяй монархічнай і ставіць сваёй мэтай заснаваньне монархічнага ладу.

Консэрватыўная захаваўчая партыя організавалася ў 1922 годзе. Ініцыятарамі ў організацыі партыі былі такія польскія арыстократы, як граф Сабаньскі М., граф Тарноўскі Іеранім, граф Боэль-Плятэр К. і шэраг іншых графоў і князёў.

Апрача палітычнага, „Захаваўчая партыя“ мае яшчэ, калі можна так сказаць, і свой прафэсыянальны твар. Прафэсыянальны „Саюз памешчыкаў“ (Związek Ziemian), які існуе ў Польшчы, па існасьці, зьяўляецца філіяй „Захаваўчай партыі“. Праўда, ня ўсе сябры гэтага саюзу памешчыкаў уваходзяць у склад „Захаваўчай партыі“, але не ўваходзяць яны не дзеля таго, што ідэёва разыходзяцца з партыяй, а дзеля таго, што графы і князі, сапраўдныя сябры гэтай партыі, ня кожнага памешчыка могуць прызнаць „сваім чалавекам“, бо ня кожны польскі памешчык мае славутую радаслоўную.

Каб ахарактарызаваць „Захаваўчую партыю“, зробім некалькі вынятак з праграмнае прамовы графа Тарноўскага, якую ён сказаў на адным з пасяджэньняў партыі. „Кожны консэрватар, кажа Тарноўскі, павінен усімі сродкамі эмагацца супроць закону аб зямельнай рэформе, бо гэты закон пярэчыць разуменьню аб недатычнасьці да праваўласнасьці і дзеля гэтага пагражае асновам грамадзянскага ладу“.

Грунтам свае праграмы „Захаваўчая партыя“ лічыць рэлігію, этыку, традыцыю і аўтарытэт. Згодна заявы таго-ж гр. Тарноўскага, „гэтыя чатыры разуменьні зьяўляюцца тым фундамантам, на якім консэрватызм засноўвае сваю структуру, гэтыя-ж самыя разуменьні зьяўляюцца і галоўнымі прынцыпамі, якія гэты-ж самы консэрватызм стараецца прывіць народу“.

Крытыкаваць гэтую ідэолёгію ня варта. У нашых умовах і без расшыфроўкі кожны можа зрабіць ёй належную ацэнку.

Лік сяброў „Захаваўчай партыі“ невялікі, усяго ня больш 1.000 чалавек, але ўплыў яе на польскі ўрад досыць значны. Партыя мае свае арганізацыі ў Варшаве, Пазнані, Кракаве і ў Львове. Органам кіраўніцтва партыі зьяўляецца „Zarząd“ (Праўленьне) і контрольная камісія.

Друкаваным органам партыі зьяўляецца „Biuletyń Stronictwa Zachowawczego“ (Бюлетэнь Захаваўчай партыі).

## Партыя нацыянальнай правіцы

Консэрватыўнай партыяй зьяўляецца таксама і „Stronictwo Prawicy Narodowej (Партыя нацыянальнай правіцы).

Партыя гэта ў сучасны момант зьяўляецца, галоўным чынам, арганізацыяй кракаўскіх чорнасоценцаў.

Гісторыя ўтварэньня гэтае партыі паходзіць ад гадоў польскага паўстаньня ў быўш. Расіі ў 1863 г.

У быўш. Аўстрыйскай частцы Польшчы гэтая партыя некалькі разоў перагрупоўвалася.

Пасьля рэстаўрацыі Польшчы партыя рэорганізавалася панованму. У 1919 годзе быў зацьверджан статут партыі, а ў 1922 годзе—праграма.

Добрая палова праграмы партыі „Правіцы нарадовай“ прысьвечана рэлігіі і касьцёлу. У галіне аграрнай—праграма лічыць магчымай зямель-

ную рэформу, але толькі такую, якая-б не парушыла „сьвяшчэннага" права на ўласнасьць.

Далей програма прадбачыць патрэбу для Польшчы мець моцную армію, „здольную змагацца з ворагамі на Ўсходзе (СССР) і на Захадзе (Нямеччына)".

У Сойме скліканьня 1922 году партыя ня мае сваіх прадстаўнікоў, але ўсё-ж такі ўплыў на грамадзянскую думку рэакцыйнай часткі насельніцтва мае досыць значны.

Структура партыі наступная: вышэйшы орган „Walne Zgromadzenie" (Агульны Сход), гэты сход выбірае выканаўчы аддзел і контрольную камісію, якія і кіруюць штодзённай працай партыі.

Старшынёй партыі зьяўляецца граф Тарноўскі, а віцэ-старшынёй граф Бадэні і ксёндз-канонік Сьвяйкоўскі. Офіцыяльным друкованым органам партыі зьяўляецца газэта „Czas" (Час), якая выдаецца ў Кракаве. Лічаць, што гэты друкованы орган робіць значны ўплыў, і з яго думкаю лічацца „ў вышэйшых сфэрах"

## Б. „ЦЭНТР"

### Аб'яднаныя Дэмократыі Ўсходніх Крэсаў (акраін)

У канцы марта месяца 1925 году ў горадзе Берасьці адбыўся організацыйны сход новай політычнай партыі „Zjebnoczenie Demokracji Kresów Wschodnich" (Аб'яднаньне Дэмократыі Крэсаў Усходніх).

Партыя гэта таксама, як і „Саюз Людовых Рад" і „Польска Організацыя „Вольнасьці", аб якіх будзе гаварыцца ніжэй, мае сваёю мэтаю апалячваньне заходняй Беларусі і Украіны.

Каб ахарактарызаваць партыю „Аб'яднанай Дэмократыі Ўсходніх Крэсаў", зробім выняткі з статуту гэтае партыі. У гэтым статуце гаворыцца, што заданьнем партыі зьяўляецца організацыя крэсавых грамадзянскіх дзеячоў, а таксама і паасобных грамадзян, якія цікавяцца крэсавым пытаньнем,—хоць яны можа і ня жывуць на крэсах, а жывуць у другіх частках Польшчы,—з тэй мэтай, каб апрацоўваць грамадзянскую думку ў кірунку шырокага дэмократызму па пытаньнях, якія датыкаюцца ўсходніх крэсаў; праводзіць працу па паляпшэньні тых выключна цяжкіх умоў, у якіх апынуліся „Ўсходнія Крэсы"; *замацаваць польскую дзяржаўнасьць на ўсходняй тэрыторыі Польшчы*...[1]); узаемна дапамагаць сябром гэтай організацыі.

Гэта-ж самая організацыя ставіць сабе мэтаю „зьбіраць і апрацоўваць матэрыялы, якія датыкаюцца становішча „Ўсходніх Крэсаў", паведамляць урадовыя органы аб сваёй думцы адносна гэтых пытаньняў, а таксама весьці пропаганду, як вусна так і ў друку, ва ўсёй дзяржаве".

З вышэйазначаных выняткаў можна ўбачыць, што „Аб'яднаньне Дэмократыі Ўсходніх Крэсаў" зьяўляецца профэсыянальным аб'яднаньнем

[1]) Курсіў аўтара артыкулу.

польскіх памешчыкаў і ня толькі тых, якія спакон веку душылі беларускае і украінскае сялянства, але і тых, якія хочуць душыць і эксплётаваць яго ў будучыне.

Гэтая новая крэсавая партыя ўзьнікла, як відаць, не бяз удзелу і не без дапамогі вядомага „КОК'у" (Камітэт Апэкі Крэсаў), які існуе ўжо некалькі год. На чале гэтага „КОК'у" стаіць цяперашні маршалак Сэнату—Войцех Трампчынскі. Гэты „КОК" ставіць мэтаю „злучэньне ўсходніх крэсаў з маткаю-айчызнаю—Польшчай".

### Польская мяшчанская партыя

„Polskie Stronnictwo Mieszczańskie", згодна § 1 свайго статуту мае на мэце ўтварыць з польскіх мяшчан арганізацыю моцную ня толькі з політычнага, але з матэрыяльнага і грамядзянскага пункту гледжаньня, а таксама абараняць інтарэс гарадоў і гарадзкога жыхарства,—як інтэлігенцыі, так і рамесьнікаў".

Польская мяшчанская партыя ўтварылася ў лютым месяцы 1925 г., шляхам аб'яднаньня „Zjednoczenia Mieszcańskiego" (Мяшчанскага Аб'яднаньня) з групаю сяброў быўшае „Unji Narodowo-Państwowej" (Нацыянальна-дзяржаўнай Вуніі).

Мяшчанскае аб'яднаньне было ўтворана, або, праўдзівей кажучы, пераўтворана ў 1919 годзе з „Poiskei Partje Postępowej", альбо „PPP" (Польская Прогрэсыўная Партыя). Гэтая-ж Польская Прогрэсыўная партыя была з'організавана сябрам першага, т. зв. ўстаноўчага" Сойму Дэ-Россэтам.

Народна-нацыянальная вунія ў знікла ў 1922 годзе шляхам пераорганізацыі дэмократычнай партыі, а гэтая апошняя ўтварылася шляхам злучэньня „партыі нацыянальнай незалежнасьці" з партыяй „Аб'яднаньне дэмократычных партый".

Дзеля таго, што польская мяшчанская партыя мае ў аснове, хоць і ў косках, але становы пачатак ды яшчэ, да гэтага, мяшчанскі стан, бязумоўна яна посьпеху ў краі ня мае, дый ня можа мець. Папершае, інтэлігенцыя польская будзе цурацца гэтае партыі, дзякуючы назьве „мяшчанская", а падругое, падзел жыхарства зараз адбываецца паводле клясавых прымет, а не становых. З гэтых прычын польскай мяшчанскай партыі суджана памерці натуральнай сьмерцю.

Програма партыі мае нацыяналістычны характар з ухілам у бок гарадзкога насельніцтва, галоўным чынам, так званых рамесьнікаў.

Організацыя партыі на мясцох пабудавана згодна адміністрацыйным падзелам дзяржавы. Вышэйшым органом партыі зьяўляецца агульны зьезд і абраная гэтым зьездам „Rada Naczelna" (Галоўны Савет).

### Саюз Рад Людовых (народных саветаў)

„Związek Rad Ludowyh" па існасьці зьяўляўся на палову ўрадавай організацыяй на ўсходзе Польшчы ў часе яе адраджэньня. У гэты час усходнія межы Польшчы былі яшчэ нявызна чаны, а імкненьне Польшчы,

каб пашырыць гэтыя межы, было аграмаднае. На тэй частцы беларускіх і украінскіх земляў, якія былі заняты палякамі зараз-жа пасьля адыходу немцаў, мясцовыя памешчыкі вельмі хутка пачалі організоўваць так званую „Straz Kresowa“ (Крэсавую Варту). У існасьці гэтая організацыя і была адміністрацыйным апаратам, а не політычнай організацыяй. Мэтай гэтай організацыі было: ахова на крэсах памешчыцкіх інтарэсаў і захаваньне за Польшчаю, як за дзяржавай, гэтых „крэсавых“, інакш кажучы, беларускіх і украінскіх земляў.

Паводле запатрабаваньняў моманту, патрэбна было стварыць нешта падобнае да „голасу народу“. І вось „Крэсавая Варта“ выяўляе сваю ініцыятыву і пачынае організоўваць у паветах „людовыя рады“. Гэтыя рады павінны былі зьяўляцца як-бы прадстаўніцтвам ад беларускага і украінскага насельніцтва.

Утвараліся людовыя рады звычайна такім парадкам: хэўра польскіх памешчыкаў з крэсавай варты залічала ў лік сваіх сяброў аднаго альбо двух мясцовых сялян—кулакоў-каталікоў і абвяшчала сябе прадстаўніцтвам ад усяго насельніцтва данае мясцовасьці (часьцей усяго, ад павету) „бяз розьніцы нацыянальнасьці і рэлігіі“.

Політычным заданьнем „людовых рад“ зьяўлялася сымуляцыя голасу і волі беларускага і украінскага сялянства. Гэтыя злыбедныя „людовыя рады“ павінны былі таксама быццам-бы ад імя жыхарства ўсяго краю вымагаць далучэньня да Польшчы пэўных тэрыторый, хваліць усё польскае і г. д.

Адным словам, „людовыя рады“ на беларускіх і украінскіх землях адыгрывалі ролю шырмы, за якой польскія памешчыкі і паны стараліся анэксаваць большую частку гэтых тэрыторый.

Часамі, калі гэта было патрэбна, скліканіся зьезды „людовых рад“. На гэтых зьездах прымаліся раней загатаваныя памешчыкамі пастановы аб абавязковым далучэньні пэўных тэрыторый да Польшчы і г. д.

Каб дэманстраваць „шчырасьць імкненьняў мясцовага жыхарства“ да злучэньня з Польшчай, на зьездах „людовых рад“ вылучаліся дэлегацыі, якім даручалася ня толькі ў Варшаве, але нават і заграніцаю агалошваць пажаданьні і патрэбныя для польскіх паноў дэкларацыі. Такім чынам, „людовыя рады“ ня былі партыяй у сапраўдным разуменьні гэтага слова. Па існасьці гэта былі бутафорныя організацыі, якія павінны былі выяўляць нешта накшталт мясцовага самаўраду.

Пасьля Рыскае ўмовы, калі ўсходнія межы Польшчы былі вызначаны, то патрэба ў „людовых радах“ мінавала, але заправілам гэтых рад было няцікава выйсьці, як кажуць, „у заштат“. Тады „людовыя рады“ пачалі перарабляцца на нешта падобнае да політычных партый.

У часе выбараў у Віленскі Сойм „людовыя рады“ правялі ў гэты Сойм даволі значны лік сваіх прадстаўнікоў. Калі Віленскі Сойм паставіў, што „зямля Віленская“ далучаецца да Польшчы, то ў польскі так званы Ўстаноўчы Сойм у Варшаве ўвашло з гэтага Віленскага Сойму ў

якасьці прадстаўнікоў ад Віленшчыны—5 дэпутатаў. Гэтыя дэпутаты і зьяўляліся ў Сойме прадстаўнікамі „людовых рад". У Варшаўскім Сойме яны аб'ядналіся ў асобную фракцыю.

У часе выбараў у другі Сойм у 1922 годзе „людовыя рады" не атрымалі ні аднаго мандату з тэй прычыны, што беларускае і украінскае насельніцтва, зрабіўшыся больш сьвядомым і пераканаўшыся на горкім вопыце, што „людовыя рады" і першапачатковая іх організацыя „Страж Крэсова" зьяўляюцца нічым іншым, як экспозытурай дэфэнзывы,—не пашло за гэтымі ваўкамі ў авечай скуры. Пасьля выбараў у Сойм „людовыя рады", пераканаўшыся ў сваім правале, прымушаны былі зьменшыць сваю дзейнасьць на „крэсах". У сучасны момант яны „працуюць" толькі на Валыні і Холмшчыне, узгадняючы сваю працу з саюзам „Маладой Польшчы". Аб гэтым саюзе будзе гаварыцца ніжэй.

Програма „людовых рад" пабудавана вельмі шаблённа. Адносна нацыянальных меншасьцяй програма прадугледжвае тыя-ж ільготы, што і констытуцыя, і бязумоўна, гаксама, як і констытуцыя—толькі на паперы.

Зямельную рэформу „людовыя рады" разглядаюць, галоўным чынам, як зьніштажэньне цераспалосіцы і сэрвітутаў.

Партыйная організацыя союзу „людовых рад" пабудавана так, як пабудаваны амаль што ўсе політычныя партыі ў Польшчы,—згодна адміністрацыйнаму падзелу краю.

Саюз „людовых рад" выдае ў Любліне газэту „Jedność Ludowa" (Народнае Адзінства).

### Саюз Маладой Польшчы

„Związek Młodej Polski" з'організаваўся ў 1918 годзе ў Пазнані. Спачатку гэтая організацыя была нелегальнай, але ўжо ў 1919 годзе яна, калі можна так сказаць, легалізавала сябе.

Гэтая партыя, альбо саюз вербавала сваіх сяброў, галоўным чынам, з колаў дробна-буржуазнай інтэлігенцыі, якая мае вузка патрыётычную і шовіністычную ідэолёгію. Саюз мае сваю програму. Зьмест гэтай програмы такі самы, як і ўва ўсіх політычных програмах буржуазных партый, але зрэдагаваны так, што саюз „Маладой Польшчы" лічыць сябе партыяй ня цэнтру, а нават цэнтра-лева.

Гэты саюз выдае ў Варшаве газэту: „Przegląd Poranny" (Ранішні Агляд) і двухтыднёвік „Sprawy Polskie" (Польскія Справы).

„Саюз Маладой Польшчы" покі што сіліцца пашырыць сваю дзейнасьць. У сучасны момант політычную працу вядуць нязначныя групы ў Вільні, Варшаве і Любліне.

## В. „ЛЯВІЦА"

### Польская Організацыя Вольнасьці (Свабоды)

„Polska Organizacja Wolności" зьяўляецца грамадзянска-політычнай організацыяй, якая галоўным заданьнем сваім ставіць „выхаваньне грамадзяніна, як жаўнера і жаўнера, як грамадзяніна".

„Польская Організацыя Свабоды“ прадоўжвае дзейнасьць „Polskiej Organizacji Wojskowej“ „POW“ (Польскай Організацыі Вайсковай), якая зьявілася ў канцы 1914 году у б. „Царстве Польскім“.

У 1914 годзе „ПОВ“ увашла ў контакт з легіёнамі Пілсудзкага. У той-жа час, гэта значыць, у канцы 1914 году з штабу Пілсудзкага быў прысланы штабны афіцэр, якому было даручана кіраваць ПОВ па ўсёй тэрыторыі тэй часткі Польшчы, якая знаходзілася пад уладай быўш. Расіі. „ПОВ“ пачала дзейнічаць ня толькі на тэрыторыі этнографічнай Польшчы, але і на Беларусі і Украіне. „ПОВ“ мела таксама свае організацыі ў Маскве і ў Петраградзе. Гэтая партыя мела сваім заданьнем ня толькі пропаганду за ўзброенае выступленьне разам з цэнтральнымі дзяржавамі супроць Расіі, але таксама вярбоўку і пераадпраўку добравольцаў у легіёны Пілсудзкага і здабываньне розных ведаў аб расійскай арміі усе здабытыя веды адпраўляліся ў легіёны Пілсудзкага. Пасьля „ПОВ“ організоўвала так званыя „Лятучыя атрады“. У заданьне гэтых атрадаў уваходзіла: напады на тыловыя ўстановы царскай арміі, узрывы мастоў і да г. п.

Калі Варшаву занялі нямецкія і аўстрыйскія войскі, то „ПОВ“ вышла з падпольля, але, з прычыны рэпрэсіі, хутка ізноў стала нелегальнай. Тады-ж быў заарыштаваны Пілсудзкі і адпраўлен у Магдэбурскую крэпасьць. У гэты-ж час „ПОВ“ распаўсюджвала сваю дзейнасьць ня толькі па ўсёй этнографічнай тэрыторыі Польшчы, Беларусі і Украіны, але пачала захапляць усё шырэй і глыбей тэрыторыю Расіі. На чале ўсёй організацыі „ПОВ“ быў пілсудчык—генэрал „Rydz-Smigły“ (Рыдзь-Сьміглы[1]).

Аднэй з галоўных сваіх заслуг „ПОВ“ лічыць разбраеньне окупацыйных нямецкіх і аўстрыйскіх войскаў і „барацьбу з бальшавікамі“.

Калі Польшча рэстаўравалася, як джяржава, то сябры „ПОВ“ добраахвотна перашлі ў армію. Але ўсе-ж такі ў тых мясцовасьцях, якія фактычна не належалі да Польшчы, але на якія Польшча вастрыла зубы, „ПОВ“ яшчэ існавала, як нелегальная організацыя. Заданьнем гэтай організацыі зьяўлялася падрыхтоўка і правядзеньне паўстаньняў. Вось гэтая організацыя і падрыхтоўвала ў свой час патрэбныя польскай політыцы „паўстаньні“ ў Пазнані, у Горнай Сілезіі, на Беларусі, на Украіне і ў Галіцыі. Яшчэ і да гэтага часу насельніцтва Соцыялістычных Савецкіх Рэспублік Беларусі і Украіны ня можа забыць аб актыўных „выступленьнях“ так званых „Пэовякоў“[2]).

У часе выбараў у Сойм і Сэнат у 1922 годзе „ПОВ“ не выстаўляла сваіх кандыдатаў, але ў выбарах прымала актыўны ўдзел і разам з паліцыяй тэрорызавала беларускае і украінскае насельніцтва „крэсаў“ і прымушала яго галасаваць за польскія партыі.

---

[1]) У сучасны момант генэрал Рыдзь-Сьміглы кіруе войскамі на тэрыторыі Заходняй Беларусі з штабам у гор. Лідзе.

[2]) „Пэовякі“—пачатковыя літары слоў: „Польская Організацыя Вайсковая“.

Сябры „ПОВ“ падзяляюцца на сапраўдных і ганаровых. Схэма іх організацыі наступная: самыя меншыя ячэйкі—кола; апошнія аб'ядваюцца ў абводы, абводы—у вакругі, а ўжо над акругамі стаіць цэнтральная організацыя. Вышэйшым органам зьяўляецца „агульны сход дэлегатаў“. На гэтыя агульныя сходы, апрача прадстаўнікоў ад акруговых організацый, кожнае „кола“ пасылае па аднаму прадстаўніку ад кожных 50 чалавек.

Агульны сход дэлегатаў абірае „Zarząd główny“ (Галоўнае Ўпраўленьне), Рэвізыйную Камісію і Ганаровы Суд.

Замест палітычнай програмы, „ПОВ“ мае сваю „Ідэйную Дэклярацыю“. На практыцы організацыя „ПОВ“ усімі сродкамі падтрымлівае Пілсудзкага.

### Конфэдэрацыя Людзей Працы

„Konfederacja Ludzi Pracy“ ўзьнікла ў 1924 годзе. Па істоце гэта ня партыя, а таксама як „ПОВ“ і „Рады Людовэ“ ёсьць грамадзянская палітычная організацыя. Мэтаю гэтай організацыі, згодна яе дэклярацыі, зьяўляецца „барацьба за трыумф працы над паразытызмам“. Экономічны крызіс, які ўжо даўно цягнецца ў Польшчы і паглыбляецца, па думцы некаторых недальнабачных дзяржаўных польскіх дзеячоў, ёсьць нішто іншае, як вынік чыіхсьці злачынстваў і інтрыг.

Вось пад уплывам псыхозу „экономічнага прасьледваньня“ і стварылася ў Польшчы „Конфэдэрацыя Людзей Працы“. Програма гэтае „Конфэдэрацыі Людзей Працы“ прадугледжвае, галоўным чынам, экономічнае аздараўленьне краю. „Конфэдэрацыя Людзей Працы“ добра разумее як тую ролю і значэньне, якое займаюць рабочы і селянін у прамысловай і сельскай продукцыі, так і актыўнасьць гэтых апошніх; і вось таму ў сваёй програме гэтая новапаўсталая партыя выслаўляецца як перад рабочым, так і перад селянінам.

Асноўнай адзінкай у „Конфэдэрацыі Людзей Працы“ зьяўляецца „Огніско“, якое складаецца, прыблізна, з дзесяці чалавек. Усе „Огніска“ аб'ядваюцца акруговаю ўправаю. Акруговыя ўправы пасылаюць сваіх прадстаўнікоў на агульны зьезд, а гэты зьезд выбірае цэнтральную ўправу.

Пры сучасным палітычным становішчы, калі адбываецца клясавая барацьба і клясавы падзел, „Конфэдэрацыя Людзей Працы“ ў сучасным сваім выглядзе наўрад ці зможа разьлічваць хоць на які-кольвек посьпех.

### Незалежная Соцыялістычная Партыя Працы ў Польшчы

„Niezależne Socjalistyczne Stronictwo Pracy w Polsce“ з'організавалася ў верасьні 1924 г. шляхам аб'яднаньня дзьвёх партый: „Партыі незалежных польскіх соцыялістых“ і соцыялістычнага саюзу „Праца“. Гэтая апошняя партыя зьявілася ў г. Вільні, дзякуючы расколу ў віленскай організацыі ППС.

Незалежная соцыялістычная партыя зьяўляецца чымсьці сярэднім паміж комуністычнай партыяй і ППС. У галіне аграрнай палітыкі пар-

тыя стаіць за надзел зямлёй бяз выкупу. Польскія шовіністыя стараюцца даняць „Незалежнай Соцыялістычнай Партыі Працы“ тым, што яна зьяўляецца ня польскаю, бо ў яе склад уваходзяць нямецкая партыя незалежных соцыялістых, яўрэйская быўшая Соцыял-Дэмократычная партыя і Рабочая яўрэйская партыя „Фэрэйнігтэ“.

Як бачым, свае ўласнае гісторыі „Незалежная соцыялістычная партыя працы ў Польшчы“ ня мае. Дзеля гэтага і зьвернемся да кароткай характарыстыкі тых партый, з якіх яна ўтварылася.

а) Партыя незалежных соцыялістых з'організавалася ў Кракаве ў 1923 годзе. У склад яе ўвашлі некаторыя сябры ППС, таксама і тыя комуністыя, якія былі выключаны з КП Польшчы за няправільнае разуменьне марксызму і нявытрыманасьць асноўнае лініі ў паводзінах партыі.

Першая конфэрэнцыя незалежных польскіх соцыялістых адбывалася ў Кракаве ў сакавіку месяцы 1922 году. На гэтай конфэрэнцыі быў абраны часовы выканаўчы камітэт, у склад якога ўвашлі Ф. Даніш, Ф. Кавалеўскі, Б. Дробнэр і іншыя. На гэтай конфэрэнцыі было пастаноўлена далучыцца да так званага Венскага Інтэрнацыяналу і прапанаваць незалежным нямецкім соцыялістым, якія знаходзяцца на тэрыторыі Польшчы, аб'яднацца з незалежнай польскай соцыялістычнай партыяй. І сапраўды, перад выбарамі ў Сойм і Сэнат у 1922 годзе ня толькі нямецкія незалежныя соцыялістыя, але і яўрэйская дэмократычная рабочая партыя „Фэрэйнігтэ“ аб'ядналіся з польскімі незалежнымі соцыялістымі.

У часе выбараў аб'яднаныя незалежныя соцыялістыя не атрымалі ні аднаго мандату.

б) Соцыялістычны саюз „Праца“ ўзьнік у красавіку 1924 г., дзякуючы расколу ў віленскай організацыі ППС, які вынік у спрэчках з-за мандатаў у Сойм. Частка сяброў, якая адкалолася ад ППС, назвала сваю групу Соцыялістычным саюзам „Працы“. Гэтая новая партыя ў сваёй дэклярацыі заявіла, што яна падзяляе прынцыпы II Інтэрнацыяналу і стаіць за стварэньне фэдэрацыі рэспублік.

Вышэй ужо зазначалася, што ў красавіку 1924 году абедзьве вышэйазначаныя партыі аб'ядналіся і ўтварылі адну партыю „Незалежных Соцыялістых Працы“. Гэтая партыя ў Польшчы легальная. Хоць дзейнасьць гэтае партыі польскай поліцыі вельмі не падабаецца, але „дзеля вышэйшых палітычных меркаваньняў“ польскі ўрад змушан даць ёй некаторыя льготы. Польскі ўрад думае, што тымі льготамі, якія даюцца партыі „Незалежных Польскіх Соцыялістых Працы“, ён зможа хоць колькі-небудзь паралiжаваць уплыў Комуністычнай Партыі на рабоча-сялянскія масы.

Структура партыі звычайная,—такая самая, як і ў ППС. Партыя мае свой легальны офіцыяльны орган „Socjalista“ (Соцыялісты), які выдаецца ў Варшаве.

## Нацыянальныя меншасьці, якія ня маюць сваіх прадстаўнікоў у Сойме.

### Беларуская Дэмократычная Рада

Польскі ўрад, устрывожаны ўзмацненьнем у Заходняй Беларусі нацыянальнага і клясавага руху, галоўным чынам, сярод сялянства, якое ў масе сваёй малазямельнае і безьзямельнае, прызнаў, што аднымі рэпрэсыўнымі паліцэйскімі сродкамі паралiжаваць гэты рух сярод беларускага жыхарства немагчыма. І вось польскае міністэрства ўнутраных спраў з'арганізавала так званую „казённую“ беларускую партыю. Заданьні гэтае партыі вось якія: дэкляраваньне час-ад-часу ад імя беларускага жыхарства „вернападданіцкага пачуцьця“ гэтага жыхарства да ўраду, які зараз існуе ў Польшчы, дэзорганізацыя беларускага жыхарства і выкананьне ўсіх заданьняў, якія даручае польскі ўрад з гэтаю мэтай дэзорганізацыі.

Пры дапамозе політычнай паліцыі ў 1924 годзе была сабрана група беспрынцыповых людзей, якія выдавалі сябе за беларусаў. Гэтая група назвала сябе „Сходам грамадзян-беларусаў“ і абрала „Тымчасовую Беларускую Раду“, якая павінна была весьці справы гэтай новай беларускай „партыі“ да таго часу, покі не адбудзецца зьезд яе прыхільнікаў і покі ня будуць абраны сталыя кіраўнічыя органы „партыі“. На чале гэтай „Тымчасовай Рады“ былі наступныя асобы: С. Валэйша, А. Паўлюкевіч, В. Більдзюкевіч, В. Сьвятаполк-Мірскі, Канапацкі і іншыя.

Галоўная роля ў „Тымчасовай Радзе“ належала Валэйшы. Апошні, як вядома, не адзін раз прыцягваўся да крымінальнай адказнасьці за падробку на грашовых дакумантах подпісаў і за другія падобныя да гэтага праступленьні. Калі опозыцыйная беларуская прэса ў Польшчы пачала голасна гаварыць аб гэтых праступленьнях Валэйшы, то польскі ўрад палічыў, што такі чалавек, як Валэйша, вельмі компромэтуе „сваю партыю“, і на яго месца палічылі патрэбным паставіць „доктара“ А. Паўлюкевіча.

Залішне гаварыць аб програме гэтае партыі, бо ў яе гэтае програмы, як у падначаленага польскай політычнай паліцыі органу, няма дый ня можа быць. Вось ужо ў працягу двох гадоў „доктар“ Паўлюкевіч ня можа склікаць проектуемага зьезду сваёй партыі. Справа ў тым, што ў Заходняй Беларусі цяжка знайсьці, нават і за грошы, выстарчаючы лік людзей, якія канчаткова страцілі гонар і сумленьне і згадзіліся-б выдаваць сябе за народных абраньнікаў-дэлегатаў ад беларускага насельніцтва. Нават у першапачатковым складзе „Тымчасовай Беларускай Рады“ знашліся такія асобы, якія, убачыўшы ня зусім чыстую політыку гэтай рады, вышлі з яе складу. У польскай газэце „Kurjer Wileński“ (Віленскі Кур'ер, № 92 ад 24/IX-25 г.) была зьмешчана адна з такіх дэклярацый, у якой зазначаецца аб выхадзе са складу „Рады“. Вось даслоўны тэкст гэтае дэклярацыі:

*Часоваму Беларускаму Савету.*
*Дэклярацыя.*

Прымаючы пад увагу:

1) Што Часовы Беларускі Савет, як грамадзянская організацыя, меў на мэце ахову праў беларускага народу ў межах Рэчы Паспалітай Польскай і рэалізацыю ідэі сяброўскага сужыцьця беларускага народу з народам польскім.

2) Што Часовы Беларускі Савет за ўвесь час свайго існаваньня ня толькі не дасягнуў сваёй мэты, але нават страціў значэньне і вартасьць у вачох польскага грамадзтва, ня ўмеючы належным чынам паставіць перад урадавымі коламі пытаньне аб ахове народнага нацыянальнага адраджэньня беларусаў, і нават ня змог атрымаць дазволу на адчыненьне беларускіх настаўніцкіх курсаў.

3) Што масавыя арышты і аблавы сярод беларускага сялянства канчаткова зьніштожылі магчымасьць несьці ў вёску ідэі Часовага Беларускага Савету, выяўляючы пры гэтым ва ўрадавых колах недахоп дзяржаўнай політычнай думкі ў адносінах да беларускага пытаньня.

4) Што старшыня Часовага Беларускага Савету п. Паўлюкевіч у часе гэтых арыштаў выявіў праступную бязьдзейнасьць, а ў сваёй працы зышоў з таго шляху, які вызначаецца асновамі грамадзкасьці; выступаючы, як самазванец, ён без пастановы Савету, вёў перамовы з украінцамі і зрабіў з імі без даручэньня і ўхваленьня Савету якіясьці ўмовы. У адносінах да асобных сяброў Савету дапасоўваў ганебныя мэтоды подкупу, не рабіў прэзыдыуму Савету дакладаў, справаздач аб сваёй дзейнасьці, не даваў справаздачы аб прыняцьці і выдачы грошай, ствараючы з грамадзянскай інстытуцыі—Савету сваё ўласнае прадпрыемства.

На падставе вышэйазначанага паведамляем аб нашым выхадзе з Савету; адначасова зварочваемся з просьбай, каб гэтую дэклярацыю надрукавалі ў „Грамадзкім Голасе" дзеля таго, каб не прымушаць нас зварочвацца за дапамогай да чужой прэсы.

*Падпісалі: А. Лаппо-Старжынецкі, Канапацкі, Бэкін.*

Калі мы прымем пад увагу тое, што дэклярацыя павінна была быць вельмі стрыманай у выразах для таго, каб яе надрукавалі нават у лявіцовай польскай прэсе, то зьмест яе дае нам поўную магчымасьць мець уяўленьне аб партыі са слоў былых яе сяброў.

Кіраўнік „Тымчасовай Беларускай Рады" Паўлюкевіч называе сябе доктарам, але усё-ж такі і гэта яго профэсія ёсьць самазванства. Паўлюкевіч родам з Случчыны, да вайны вучыўся на доктара, але ня скончыў вучэньня. У часе вайны Паўлюкевіч працаваў у шпіталях і, ужо ў часе рэволюцыі, нейкім шляхам там яму ўдалося дастаць дакумант, які сьведчыў аб тым, што ён доктар. У канцы 1918 году і ў пачатку 1919 г., калі з Беларусі адышлі немцы і асталявалася Савецкая ўлада, Паўлюкевіч працаваў ужо як „доктар" у Слуцкім Аддзеле Аховы Здароўя. Прысвоіўшы досыць знач-

ную суму грошай, Паўлюкевіч зьбег у Польшчу і зараз там зьявіўся, як палітычны дзеяч.

Уплыву на насельніцтва партыя Паўлюкевіча ня мае абсолютна ніякага.

Органам „Тымчасовай Беларускай Рады“ была газэта „Грамадзкі Голас“. Нядаўна, з прычыны сьмерці рэдактара гэтай газэты—Салаўя, які нікому не перадаў сваіх рэдактарскіх праў, газэта павінна была зьмяніць сваю назву, і зараз выходзіць пад назвай „Беларускае Слова“.

**Украінская Хрысьціянска-Грамадзянская партыя**

Гэтая партыя толькі па назьве украінская. У супраўднасьці яна з'арганізавана каталіцкім духавенствам, каб апалячваць насельніцтва Галіцыі.

Галоўным арганізатарам гэтай партыі быў кардынал Сембрашовіч, а кіраўнікамі гэтае партыі ў далейшым зьяўляюцца профэсары Барвінскі, Студзінскі і інш.

Уплыву на украінскае насельніцтва гэтая партыя ня мае абсолютна ніякага і існуе толькі на паперы.

**Украінская Народная Працоўная партыя**

Гэтая партыя з'арганізавалася ў 1889 г. ў Галіцыі. Яна імкнецца да таго, каб Украіна ў межах Польшчы атрымала аўтономію. Гэтая політыка партыі выклікала ўнутры партыі раскол. Больш радыкальная частка партыі пад назвай „незалежнай фракцыі“ партыі выдае нават сваю газэту „Наш Прапор“, а правая частка партыі, якая вядзе „ўгадоўскую“ політыку, выдае газэту „Діло“.

**Украінская Радыкальная партыя**

Заданьнем гэтае партыі зьяўляецца абарона інтарэсаў працоўных, а мэтай—незалежная аб'яднаная Украіна з дробным буржуазным ладам.

З'арганізавалася гэтая партыя ў 1890 годзе ў Галіцыі. Дзякуючы таму, што існуе Украінская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка і украінскія працоўныя масы імкнуцца да аб'яднаньня з УССР, паступова Украінская Радыкальная партыя трациць свой уплыў і значэньне.

**Украінская Народная партыя**

Украінская Народная партыя з'арганізавалася ў 1902 годзе. Пасьля рэволюцыі партыя падтрымлівала украінскі урад Скарападзкага, а потым у першыя часы падтрымлівала Пятлюру. Калі-ж Пятлюра выявіў сваё пажаданьне абаперціся на Украінскую соцыял-дэмократычную партыю, то Украінская Народная партыя заняла ў адносінах да Пятлюры няспрыяючую апошняму позыцыю.

Ставячы сваёй мэтай фэдэрацыю Украіны з Польшчай, гэтая партыя стараецца ўгадзіць польскай буржуазіі і таму ня мае ўплыву на масы.

Кіраўнікам гэтае партыі зьяўляецца Аскілка Ўладзімер [1]). Дзейнічае гэтая партыя, галоўным чынам, у Заходняй Украіне, г. ё. на Валыні.

[1]) Увага рэдакцыі: Пятлюра ў чэрвені бягучага 1926 г. забіты ў Парыжы, а праз некаторы час у Заходняй Украіне быў забіты і Аскілка.

### Украінская Соцыялістычная партыя

Украінская Соцыялістычная партыя з'арганізавалася ў 1925 годзе. Як вядома, у 1924 годзе Украінская Соцыял-дэмократычная партыя пастанавіла злучыцца з Комуністычнай партыяй. Некаторыя асобныя сябры УСДРП не згадзіліся з гэтай пастановай і ўтварылі Украінскую Соцыялістычную партыю. Гэтая партыя выдае ў Львове газэту „Робітнік".

### Украінская партыя соцыялістых-рэволюцыянэраў

Гэтая партыя скарочана называецца эсэраўскай. Партыя сіліцца знайсьці сваіх прыхільнікаў сярод украінскага насельніцтва Польшчы. Польскі ўрад падтрымлівае украінскіх эсэраў таму, што гэтыя эсэры варожа адносяцца да УССР.

### Расійская народная організацыя

Партыя гэта заснавалася і існуе ў Галіцыі. У сучасны момант партыя па програме сваёй быццам-бы набліжаецца да эсэраў. Адзнакаю яе ад эсэраў зьяўляецца тое, што жыхароў Галіцыі, так званых старарусінаў, яны лічаць не украінцамі, а часткай „адзінага рускага народу".

Гэтая партыя існавала ўжо да вайны і ў 1911 годзе нават выдавала сваю газэту „Прыкарпацкая Русь". У 1919 годзе партыя мяняе сваю назву на „Галіцка-руская організацыя". У склад гэтай організацыі ўвашла група так званых „галіцка-рускіх соцыялістых". Організацыя трымае сябе вельмі опозыцыйна ў адносінах да сучаснага польскага ўраду.

У 1921 годзе Галіцка-руская організацыя раскалолася і з яе ўтварыліся дзьве партыі: „Руска-народная організацыя" (старарусінаў) і „Соцыялістычная сялянская партыя", ці так званая партыя „Народнай Волі".

### Яўрэі-асымілятары

Асымілятары зьяўляюцца яўрэйскай групай, альбо партыяй, якая мае на мэце асыміляваць яўрэяў з палякамі. На розных зьездах гэтая група яўрэяў прымала і розныя назвы. Напрыклад, у 1919 годзе група яўрэяў-угадоўцаў, якія сабраліся ў Варшаве на зьезд, пастанавіла даць сваёй групе наступную назву: „Zebnoczenie Polaków Wyznania Mojżeszowego Ziem Polskich" (аб'яднаньне палякаў майсеевага вызнаньня з усіх польскіх земляў).

Апрача гэтага „аб'яднаньня", у Польшчы таксама існуюць групы яўрэяў-асымілятараў, якія маюць назву: „Stowarzyszenie Niezawisłych Żydów Polskich" (аб'яднаньне незалежных польскіх яўрэяў) і „Koło patrjotów Polskich Wyznania Mojżeszowego" (кола патрыётаў польскіх майсеевага вызнаньня).

Колькасьць яўрэяў-асымілятараў у Польшчы і ўплыў гэтае групы на яўрэйскае насельніцтва—зусім нязначны. Нават сярод яўрэйскай буржуазіі амаль што зусім няма прыхільнікаў да гэтага напрамку, аб працоўных-жа яўрэях ужо і гаварыць няма чаго.

## Сыёністыя

Млада-сыёністыя ў Польшчы складаюць частку агульнаяўрэйскай буржуазнай сусьветнай сыёніцкай організацыі і носяць назву „Цэірэй-Цыён“[1]). Програма гэтай партыі нацыяналістычная з некаторай радыкальнай ахварбоўкай. Партыя „Цэірэй-Цыён“ выдае ў Польшчы газэту „Фрэйгайт“[2]).

Апрача гэтай нацыяналістычнай сыёніцкай партыі, альбо групы, у Польшчы таксама існуюць яшчэ групы: млада-мізрахістых і млада-ортодоксаў—„Цэірэй-Мізрохі“ і „Цэірэй Эмунэ-ізроэл“[3](. Апошняя група кожны месяц выдае дзьве часопісі „Ортодоксішэ Блэтлэх“[4]) і „Дыглейне“[5]).

## Паалей-Цыён

„Паалей-Цыён“ зьяўляецца яўрэйскай соцыял-дэмократычнай рабочай партыяй у Польшчы, якая ўваходзіць у вагульна-эўропэйскую організацыю Паалей-Цыён. Партыя гэта прызнае клясавую барацьбу, як сродак да зьдзейсьненьня сваіх ідэалаў. У Польшчы Паалей-Цыён зьявілася ў 1905 годзе.

Паалей-Цыён вядзе полеміку і нават барацьбу з партыяй „Бунду“. У часе вайны Паалей-Цыён заняла антымілітарыстычную позыцыю, салідарызуючыся з вядомымі па гэтым пытаньні пастановамі, якія былі ў Кінтале і Цімэрвальдзе.

Партыя Паалей-Цыён ў Польшчы ў 1920 годзе на партыйным зьезьдзе раскалолася на правую і левую. З левай часткі Паалей-Цыён утварылася комуністычная фракцыя, якая праз нейкі час зьлілася з польскай комуністычнай партыяй. У сучасны момант часткі Паалей-Цыён змагаюцца паміж сабой за ўплыў над рабочымі яўрэйскімі масамі, прычым правая частка вядзе т. зв. згодніцкую ці ўгадоўскую політыку.

## Бунд

Політычная яўрэйская рабочая організацыя „Бунд“ зьявілася на тэрыторыі сучаснай Польшчы ў 1897 годзе. Зьяўляючыся соцыял-дэмократычнай рабочай партыяй Бунд, уваходзіў у расійскую соцыял-дэмократычную рабочую партыю. З прычыны рознагалосьсяў адносна програмы, Бунд на нейкі час вышаў з расійскай соцыял-дэмократычнай партыі, але ў 1906 г. на аб'яднаным зьезьдзе соцыял-дэмократычнай партыі, які адбыўся ў Стокгольме, ізноў увашоў у РСДРП. У быўш. Расіі Бунд увесь час быў нелегальнай партыяй.

---

[1]) Цэірэй-Цыён—маладыя сыёністыя.

[2]) Фрэйгайт—свабода.

[3]) Эмунэ-ізроэл—яўрэйская вера (рэлігія).

[4]) Блэтлэх—рэлігійныя лісты.

[5]) Дыглейне—нашыя веды.

На II конгрэсе Бунду ў сьнежні 1921 году ў Варшаве абгаварвалі-ся так званыя 21 пункт, якія абавязкова патрэбна было прызнаць, каб уступіць у III Комуністычны Інтэрнацыянал. Рэзолюцыя за прыняцьце гэтых пунктаў не атрымала большасьці. Частка бундаўцаў, якая была на гэтым зьезьдзе, вышла з Бунду і ўступіла ў Комуністычную партыю.

Хоць Бунд і сіліцца давесьці сваю радыкальнасьць, але ўсё-ж такі гэтага фактычна давесьці ня можа, бо да гэтага часу ў партыі пануе яшчэ опортунізм. Унутрыпартыйная барацьба разьбіла Бунд на 3 часткі: „правіцу", „цэнтр" і „лявіцу", прычым у „лявіцы" маецца комуністычнае крыло. У канцы 1924 г. ў Варшаве адбыўся III конгрэс Бунду. Гэты конгрэс замаў нэўтральную позыцыю, як у адносінах да III Інтэрнацыяналу, так і ў адносінах да так званага Лёндонскага Інтэрнацыяналу.

Бунд выдае ў Варшаве газэту „Унзэр Фольксцэйтунг".

**Вучнёўскія аб'яднаньні**

Моладзь Польшчы ў значнай меры прымае ўдзел у палітычнай барацьбе краю. Частка польскай буржуазнай моладзі, так званыя „маменькіны сынкі" ў існасьці зьяўляюцца баявой організацыяй польскіх фашыстых, і ў той час, як комсамол Польшчы шчыра дапамагае польскаму пролетарыяту змагацца з прыгнятацелямі, частка польскага студэнцтва і вучні старэйшых кляс сярэдніх школ, якія паходзяць з буржуазных сямей, зьяўляюцца паслухмянай прыладай у руках польскай ахранкі. Патрэбна азначыць, што польскае студэнцтва вельмі моцна дэморалізавана. Сярод польскага студэнцтва ёсьць ня мала такіх асоб, якія зусім офіцыяльна супрацоўнічаюць у політычнай паліцыі.

Ня маючы магчымасьці больш падрабязна ахарактарызаваць у гэтым артыкуле ўсе аб'яднаньні вучнёўскай моладзі ў Польшчы, абмяжуемся толькі пералічэньнем галоўных організацый і аб'яднаньняў.

1) „Młodzież Wszechpolska" (Усяпольская Моладзь) зьяўляецца політычнай організацыяй вучняў, якія ў сваіх політычных пераконаньнях згаджаюцца з партыяй народна-нацыянальнага саюзу.

2) „Młonzież Monarchistyczna" (Монархічная Моладзь). Сама назва гэтага аб'яднаньня кажа аб ідэолёгіі гэтай групы моладзі. У зьвязку з узмацненьнем дзейнасьці ў Польшчы монархістых, узмацняецца значэньне і дзейнасьць монархічнай моладзі.

3) Stowarzyszonie Chrześcjańskiej Młodzieży Akademicznej «Odrodzenei» (Аб'яднаньне Хрысьціянскай Вучнёўскай Моладзі „Адраджэньне"). Гэтае політычнае аб'яднаньне вучнёўскай моладзі мала чым адрозьніваецца ад дзьвёх вышэйазначаных організацый. У васнове ідэолёгіі гэтага аб'яднаньня моладзі ляжыць каталіцкі фонатызм і польскі шовінізм.

Апрача пералічаных трох політычных організацый моладзі, якія падтрымліваюцца ўрадам, у Польшчы існуе яшчэ восем політычных аб'яднаньняў яўрэйскай моладзі, пяць—украінскай і два—польскай.

Асобна ад гэтых палітычных арганізацый у Польшчы знаходзіцца комуністычны саюз моладзі. Дзеці рабочых складаюць большасьць гэтага саюзу. Аб'яднае іх ня тая ці іншая школа або нацыянальнасьць, а ўласьцівая моладзі гарачая адданасьць ідэі комунізму, пад сьцягам якога на ўсім сьвеце праца вызваліцца з-пад прыгону капіталізму.

---

Зробленае пералічэньне палітычных груповак вучнёўскае моладзі, якія знаходзяцца ў Польшчы, усё-ж такі ня вычэрпвае іх колькасьці. Не зазначан, напрыклад, цэлы шэраг палітычных, акадэмічна-палітычных і нацыянальных аб'яднаньняў вучнёўскай моладзі. Зроблена гэта да некаторай ступені нарокам. Справа ў тым, што кожнае аб'яднаньне вучнёўскай моладзі адбівае палітыку тэй ці іншай палітычнай партыі, якія існуюць у Польшчы, і вучнёўскія аб'яднаньні толькі папаўняюць адпаведныя партыі. Гэтае мы можам уявіць хоць-бы з паданага вышэй кароткага агляду фашыцкіх студэнцкіх арганізацый.

Адносна палітычных партый, якія існуюць у Польшчы, трэба зазначыць наступнае.

У зьвязку з тым, што надыходзяць выбары ў Сойм і Сэнат, і што гэтыя выбары адбудуцца, можа, раней, чым гэта патрэбна, польскі ўрад, ці, праўдзівей, польская буржуазія, стараецца стварыць для выбараў такія ўмовы, якія-б перашкодзілі працоўным масам Польшчы выбраць сапраўдных сваіх прадстаўнікоў. Хоць кіруючыя клясы Польшчы падрыхтоўваюць умовы для выбараў вельмі ўпарта і ўважна, усё-ж такі яны ня ўпэўнены ў тым, што атрымаюць хоць адносную перамогу. Дзякуючы такому палажэньню, сярод польскіх партый ствараецца ажыотаж у падрыхтоўцы мерапрыемстваў, каб „лавіць“ выбаршчыкаў.

Некаторыя з палітычных дзеячоў нацыянальных меншасьцяй, дзякуючы агульнаму палажэньню, прадбачаць адміністрацыйна-паліцэйскі ўціск падчас выбараў, а таксама прымаюць пад увагу сілу асабістага захапленьня дэпутацкім мандатам, і таму трымаюць сябе перад польскай буржуазіяй так, што, як кажуць, „каб у іх быў хвост, дык было-б відаць, як яны ім вілялі-б“.

Партыі ўтвараюцца, аб'ядноўваюцца, расколваюцца і зьмяняюць свае назвы.

Вельмі шмат зараз зьявілася *сялянскіх* партый.

Гэткае палажэньне адносна палітычных груповак кожны дзень можа даваць што-небудзь новае. Так, напрыклад, зусім нядаўна ў польскіх газэтах апавяшчалі аб тым, што украінскі дэпутат Павел Васынчук арганізуе нейкую новую украінскую партыю пад назвай „Сялянскі Саюз“. Бязумоўна, новага ў гэтай партыі нічога няма, дый быць ня можа; такую-ж самую партыю і нават з такой-жа назвай, магчыма, што і з тэйжа мэтай, ужо з'арганізавалі *для сябе* беларускія дэпутаты Ярэміч і Рагуля. Ідэолёгія палітычных партый, якія існуюць у Польшчы, пачынаючы

з крайніх правых і канчаючы нават социялістымі, альбо т. зв. ППС— адзіная па свайму зьместу, і толькі эгоістычныя імкненьні т. зв. лідэраў і маемасны інтарэс сяброў партый уносяць у політычнае жыцьцё гэтых партый нейкую рознастайнасьць і ствараюць як-бы нейкую політычную барацьбу паміж гэтымі партыямі.

У сапраўднасьці ўсе гэтыя партыі ідуць адзіным фронтам супроць комуністычнай партыі, якая бязупынна пашырае і ўзмацняе свой уплыў на рабочых і сялян.

Небясьпека з боку комуністычнай партыі прымушае ўсе дробна-буржуазныя партыі аб'яднацца наўкола буйнай буржуазіі для таго, каб захаваць хоць на нейкі час сваё існаваньне.

Пры гэтым польскія социялістыя, альбо т. зв. ППС, граюць здрадніцкую ролю ў адносінах да тых працоўных мас, якія яшчэ вераць ППС і інтарэсы якіх ППС як-бы абараняе.

Вярбіцкі—прадстаўнік буйных лідэраў польскай буржуазіі—на пасяджэньні камісіі па ахове працы 8-га лістапада 1925 году вось як ахарактарызаваў ролю ППС:

„*Покуль у Эўропе існуе соцыял-дэмокаатыя—Польшча павінна мець сваю ППС*[1]). Яна павінна дазволіць сабе гэта, і ў сьвет павінна зьяўляцца вядомая колькасьць палякаў, якія будуць верыць у ідэолёгію міжнароднай соцыял-дэмократыі".

Пра ППС можна сказаць, што яны ня толькі зьяўляюцца „сваімі" ў польскай буржуазіі, але што ў іх няма нават намёку на тую „веру", аб якой зазначыў Вярбіцкі.

Не дарма-ж польскіх соцыялістых называюць „соцыялістымі без соцыялізму".

Політычныя партыі і групоўкі, якія існуюць у Польшчы, ёсьць нішто іншае, як „эпізоды", праўда, можа цікавыя і паказальныя ў грамадзкай барацьбе, якая ўжо надыходзіць.

Аднак, цэнтр вагі зараз знаходзіцца ў тым, на колькі сазрэў пролетарыят Польшчы, як кляса, і наколькі тая значная частка насельніцтва Польшчы, якая не належыць да польскай нацыі, уявіла сабе, што нацыянальнае вызваленьне можна зьдзейсьніць толькі разам з вызваленьнем працоўных.

---

[1]) Курсіў аўтара гэтага артыкулу У. К. (увага рэд.).

# ДЭКАБРЫСТЫ М. С. ЛУНІН

## Д. Жарынаў

„Гарматы 14 сьнежня разбудзілі цэлае пакаленьне"—сказаў Гэрцэн, і гэта прабуджанае 14-м сьнежня гэрцэнаўскае пакаленьне натуральна пакінула нам у спадчыну раней за ўсё інтарэс да розных акалічнасьцяй сьнежаньскага ўзброенага паўстаньня. Але час ішоў, і добрыя адносіны да памяці дэкабрыстых, як беспасярэдных герояў сьнежаньскіх здарэньняў, зьмяніліся дасканалым і ўсебаковым вывучэньнем усяго руху 20-х гадоў XIX сталецьця ў яго цэлым. Сучасная гістарычная навука лічыцца ўжо не з аднымі здарэньнямі на Сэнацкай плошчы або ў Кіеве, але ўводзіць у межы свае ўвагі і ўсю тую гаму настрояў і перажываньняў, якая характарызуе перадавую расійскую інтэлігенцыю пачатку XIX ст., а па свайму зьместу—зьвязваецца з напалеонаўскімі войнамі, бліжэйшым дачыненьнем Расіі да Заходняй Эўропы і неабходнасьцю для расійскага дваранiна-ўласьніка дакладней і свабодней вызначыць свае адносіны да гандлёвага і прамысловага капіталу.

На фоне такога болей усебаковага і глыбокага падыходу да руху дэкабрыстых выясьняецца важная гістарычная роля і некаторых яго ўдзельнікаў, не адзначаных тэй ці іншай актыўнай роляю ў здарэньнях сьнежня. Да такой катэгорыі дзеячоў належыць і дэкабрысты Міхайла Сяргеевіч Лунін.

Найноўшыя, галоўным чынам, краязнаўчыя назіраньні над сувязьзю руху дэкабрыстых з мясцамі дазваляюць устанавіць, што рух гэты ўвогуле значна болей абхапляў дваранства заходніх губэрань тагачаснай Расіі, чым цэнтральных і ўсходніх. Вынікае пытаньне—ці ня было сярод дэкабрыстых беларусаў? Калі ёсьць сякія-такія падставы дапушчаць беларускае пахаджэньне для некаторых дэкабрыстых, якія ўладалі маёнткамі ў Смаленскай губэрні, то бязумоўна з значна большай падставаю можна зрабіць такое дапушчэньне для Луніна. Роданачальнік Луніных, Лук'ян Данілавіч Мечнянінаў, выехаў у XV ст. з Польшчы. У рукапісах Маскоўскай Дзяржаўнай Бібліотэкі ёсьць гаспадарчы наказ аднаго памешчыка Луніна, быўшага пры Кацярыне II полацкім губарнатарам, а потым пераведзенага ў глыб Расіі. Погляды гэтага Луніна XVIII ст. адзначаюцца некаторай прогрэсыўнасьцю і як-бы адпавядаюць тым інта-

рэсам да вёскі і традыцыям гуманнага абыходжаньня з прыгоннымі, якія, як відаць, панавалі і ў сям'і Луніна-дэкабрыстага. Луніны лічацца і ў сьпісе дваран Смаленскай губэрні, па Вяземскаму і Юхнаўскаму паветах. Але і ў межах Беларусі, у Пінскім Палесьсі ёсьць вёска Луніно, якая належала калісьці князём Любэцкім і дала свае імя суседняй чыгуначнай станцыі (Лунінец). Ёсьць сякія-такія рысы ў біографіі Луніна, якія дазваляюць дапушчаць у ім беларуса. Ужо з самага дзяцінства ён прыняў каталіцтва. Далей, пакінуўшы кавалергардзкі полк, ён прымаецца на службу ў лейб-гвардыі Горадзенскі гусарскі полк, быўшы ў складзе Літоўскага корпусу: паміж тым як у палкі гэтага корпусу—у армію выключна, а ў гвардыю—як можна дапусьціць, пераважна прымаліся паляк і літвіны, г. зн., па тагочаснай тэрмінолёгіі, і беларусы. Трэба, нарэшце, прыгледзіцца і ў портрэты Луніна, пісаныя ў Сібіры: усе яны аднолькава выяўляюць прад намі ў значна большай меры беларускі, чым вялікарасійскі тып. Месцам нараджэньня Луніна ўсё-ж была, як відаць, не Беларусь, а цэнтральная Расія. Прынятую да гэтых часоў дату нараджэньня прыходзіцца на падставе новых дасьледзін перанесьці з 1783 г. на 1787 г. Дзяцінства будучага дэкабрыстага прашло ў абставінах, з аднаго боку, тыповых для свайго часу, а з другога—надзвычай добрых для тэй грамадзкай ролі, якую яму суджана было адыграць. Дзядзькам Луніна па мацеры быў першы куратар Маскоўскага унівэрсытэту, вядомы тады літаратар Міхаіл Нікіціч Мураўёў. Маленькага Мішу акружалі настаўнікі чужаземцы: ангелец, два французы, швэд і швайцарац. Галоўная ўвага была зьвернута на політычныя прадметы, а таксама на мовы ня толькі новыя, але і старыя. Калі наогул атрыманая Луніным адукацыя ня была глыбокай, то ўсё-ж яна адчыняла досыць шырокія далягляды ў галіне літаратурнай і грамадзкай думкі і навучыла свабодна карыстацца кнігамі. Папаўненьне адукацыі з дапамогаю самастойнага чытаньня і набыло потым у жыцьці Луніна вялікае значэньне. З дзяцінства запісаны ў гвардыю, Лунін-юнак—бліскучы кавалергардзкі афіцэр. У сьвецкіх колах яго зразу заўважылі—ён надта выразна і рэльефна адбіваў у сваёй асобе ідэал сьвецкага чалавека гэтай авеянай байронізмам романтычнай эпохі. Дуэлі і гульні, нястрыманае жыцьцё-гульня і—разам з ім—скажэньне ісьціны ў масонстве, заўсёдныя даўгі і романтычныя мары аб рыцарскіх учынках,—усё гэта захапіла Луніна, як і цэлы шэраг яго сучасьнікаў. Але ён вылучаўся сярод іх значнай дозай унутраной сталасьці, уменьнем уладаць сабой і прыводзіць у парадак свае думкі ўсякі раз, як жыцьцё, здавалася, гатова было іх перайначыць у хаос. У Луніне, паводле слоў яго прыяцеля Іпполіта Ожэ, адчувалася моцная воля, хоць „яна не праяўлялася з адштурхоўваючай суровасьцю, як гэта бывае ў людзей моцных, якія абавязкова жадаюць кіраваць другімі". У спрэчках Лунін перамагаў праціўніка, утвараючы раны, якія ніколі не загойваліся: лёгіка яго довадаў была таксама неперaможнай, як і колькасьць жартаў. Варочаючыся сярод

грамадзтва, Лунін, як і Пушкін, ня мог задаволіцца ім: „Грамадзтва Расіі,—піша ён пасьля ў запіснай кніжцы,—набывае аднастайнае відавішча дробных асоб, дробных інтрыг і нікчэмных вынікаў“.

Пачаліся ўскалыхнуўшыя ўсю Расію напалеонаўскія войны. Пад Аўстэрліцам Лунін—ордынарац Аляксандра I, і ўсё суліць яму бліскучую кар‘еру. Але гэта эпоха, хутка прабудзіўшая ў Расіі грамадзкую самасьвядомасьць, завастрае разам з тым і ў Луніне опозыцыйны настрой. Жыцьцё Луніна гэтага часу характарызуецца шэрагам анэкдотаў, якія хадзілі аб ім у грамадзтве і прыватна, можа быць, апіраліся на сапраўдныя факты. Вось Лунін на вучэньні сваёй няўважлівасьцю выклікае заўвагу генэрала Дэпрэрадовіча: „Штаб-ротмістр Лунін, вы сьпіцё!“—„Вінават, ваша прэвасхадзіцельства, спаў, і бачыў у сьне, што вы гаворыце з гарачкі!“—адказваў Лунін. Цэсарэвіч Канстантын Паўлавіч чуць не засек аднаго афіцэра кавалергардзкага палка, а потым, просячы прабачэньня перад яго афіцэрамі, заявіў, што калі каму мала прабачэньня, ён гатоў біцца на дуэлі. Усе змоўклі, толькі Лунін выказаў пажаданьне прыняць выклік. Расказваюць далей, што папаўшы ў 1812 г. пад арышт за тое, што езьдзіў у лодцы каля Кранштадзкіх умацаваньняў і здымаў з іх плян, Лунін у васабовым тлумачэньні цару спасылаўся на свой асаблівы інтарэс да Вобана і на жаданьне параўнаць яго сыстэму пабудаваньняў з сыстэмай расійскай. Не забудзем, што ў адным з лістоў Сьперанскага гэтай эпохі ёсьць калямбур па адрасу Аляксандра—„Наш Вобан—наш Vean-Blanc“,—адсюль, можа быць, і ўспамінаньне аб Вобане з боку Луніна гучэла для сучасьнікаў, дый для самога Аляксандра, асабліва задзёрыста. Канчаткова сапсуў сваю кар‘еру Лунін тым, што аказаўшыся ў Парыжы, пасьля 100 днёў, публічна асудзіў урад Людовіка XVIII за кару Нэя і Лабэдоайера. Па сканчэньні паход, цар адмовіўся праізьвесьці Луніна ў палкоўнікі, у парадку старшынства, якое належала яму. Каб не перашкаджаць утварэньню наступных за ім афіцэраў, Лунін падаўся ў адстаўку. „Гэта самае лепшае, што ён можа зрабіць“,—заўважыў па гэтаму выпадку Аляксандар. Некаторы час цягнецца для Луніна тое самае неспакойнае сьвецкае жыцьцё. Але ўжо ў ім узмацняецца опозыцыйны настрой, і ад лібэральных слоў хочацца перайсьці да справы. З 1808 г. ідзе рэволюцыйны рух у Паўднёвай Амэрыцы: Лунін думае паехаць у Амэрыку для падтрыманьня „тамошніх маладцоў“, але лёс судзіў іначай. Зблізіўшыся з французам, афіцэрам расійскае службы, Іпполітам Ожэ, Лунін замест Амэрыкі апынуўся ў Парыжы.

Гэта другая пабыўка Луніна ў Парыжы ў 1816 г. адыграла надзвычай важную ролю ў канчатковым аформленьні яго сьветапогляду.

Парыж другога дзесяцілецьця XIX веку—гэта горад часткай містычных настрояў, належачых да Шатобрыяна і Жозэфа Дэмэстра, часткаю політычнае опозыцыі, якая ажыцьцяўлялася, паміж іншым, і праз частковы контакт з карбонарызмам. Высоўваліся і соцыяльныя пытаньні. С.Сы-

мон „пасьпеў“ выпусьціць у сьвет „Письма Женевского обитателя“, „Всеобщее тяготение“, „Очерки нации науки о человеке“. Бютэ рабіў свае нарады і закладваў фундамант сваіх ідэй удасканаленьня грамадзтва і навукі на падставе каталіцкага веранавучаньня. І ў гэтым-жа Парыжы, які толькі што скончыў вайну з Расіяй і яшчэ не астыў ад успамінаў аб паходах Напалеона ў славянскія землі, ёсьць некаторы інтарэс да славянства і яго гісторыі. Кухэльбэкэр, таксама будучы дэкабрыстым, у 1825 г. чытае ў Парыжы публічную лекцыю па гісторыі славянскае літаратуры, падкрэсьліваючы благатворны ўплыў на старажытную Русь Ноўгарадзкай свабоды з яе вечам. Лунін у 1816 г. жвава і ўдумліва адгукваецца на ўсе абкружаючыя яго плыні францускай сталіцы, падрыхтаваны да гэтага і сваёй першай пабыўкай у Парыжы, у 1814 г. калі, паводле слоў Іпполіта Ожэ, вывучаў парыскае жыцьцё, „імкнучыся ўсё зразумець і аддаць сабе справаздачу ў тым, што завецца цывілізацыяй“. Пры гэтым яго ўвагу аднолькава прыцягвалі як асобы, стаяўшыя на чале кіраўніцтва, так і ніжэйшыя клясы народу. Луніна трывожыць думка, што ён жыве на гатовыя сродкі, яму хочацца жыць сваёю працаю, ён адчувае ў сабе заклік да шырокай літаратурнай і грамадзкай дзейнасьці. Некалькі меткіх заўваг, зробленых ў гэты час Луніным па поваду францускай літаратуры, францускай і італьлянскай музыкі, выказваюць у ім і арыгінальнасьць эстэтычнага разуменьня, і ўменьне ахапіць рэальную грамадзкую аснову мастацкае творчасьці: насьпяваючы дэкабрысты праз грань дзесяцілецьцяў як-бы працягвае руку нашым пазьнейшым крытыкам. Калі Кюхэльбэкэра цікавіць эпоха Ноўгараду і яго веча, то Луніна ў расійскай гісторыі цікавіць больш бурны і палітычна рознакалёрны пэрыод—эпоха Смуты. З гэтай эпохі Лунін пачынае пісаць пафранцуску вялікі раман, выняткі з якога прыводзяць у захапленьне Іпполіта Ожэ.

Але грамадзкія інтарэсы і сучаснасьць не даюць Луніну аддаць увагу выключна гістарычнаму раману: у салёне m-me Рожэ будучы дэкабрысты сустракаецца і з модным захапленьнем містыкай, і з такім размоўцамі як С. Сымон і Бютэ. Што соцыялістычныя ідэі ня былі чужымі дэкабрыстым, на гэта паказвае той факт, што, напрыклад, Ф. Шахоўскі ўзяў з сабою ў казэмат творы Оўэна. Лунін не адзін раз бачыцца з Бютэ—і апошні ўспамінае потым аб гэтых спатканьнях і гутарках. Магчыма, што думка Бютэ аб вялікай культурнай ролі каталіцызму прымусіла Луніна яшчэ раз пераглядзець і перадумаць свае рэлігійныя погляды і канчаткова ўзмацніла яго ў тым схіленьні перад каталіцкай царквою, якое яго так блізка робіць сваяком затым з Чаадаевым і з Ул. Пячорыным.

Раптоўная сьмерць бацькі патрабавала тэрміновага ад'езду Луніна з Парыжу. „Цяпер я зрабіўся багатым, але гэта багацьце ня радуе мяне,— кажа Лунін.—Іншая справа, калі-б я сам разбагацеў сваёю працаю, сваім розумам, тады-б я ганарыўся сабою“. Зьвярнуўшыся ў Расію, Лунін

не пасяліўся ў сваіх маёнтках: узьнікшыя таемныя таварыствы цягнуць яго к сталіцам. Спачатку ён уступае ў Саюз Збавеньня, дзе, паводле слоў Мацьвея Мураўёва-Апостала, прапаноўвае забіць цара на Царска-Сельскай дарозе і дзе, паводле паказаньняў Рылеева і Абаленскага, быў прызначаны Пэстэлем у правадыры асобнага сьмертазабойнага атраду—„cohorte perdue". Пасьля зачыненьня Саюзу Збавеньня малады лібэрал зьяўляецца ў ліку тых, якія арганізоўваюць Саюз Благоденствия, а потым—у Паўночным Таварыстве. Дзейнасьць Луніна ў таварыствах набывае некаторую вядомасьць, хоць і расцэньваецца розна. Пушкін потым, у закрэсьленых строфах Анегіна, прабуючы ў накіданых чатырох радкох даць малюнак Луніна, характэрна хістаецца ў эпітэтах, піша то „Лунин *резкий* предлагая", то „Лунин *дерзко* предлагая", то „свои *решительные* меры", то „свои *губительные* меры". Можна думать, што ў таемных таварыствах, якія да канца свайго існаваньня ня вышлі яшчэ з процэсу організацыі, ня ўсё задаволіла Луніна; і, як відаць, ня толькі дзеля таго, што гэта было патрэбна ў інтарэсах таварыства, але і ў мэтах удаленьня ад яго, Лунін у 1823 г. зноў паступае на службу—на гэты раз у Горадзенскі гусарскі полк, і едзе к месцу стаянкі яго—у Варшаву. Горадзенскі полк уваходзіў у склад Літоўскага корпусу. К ранейшым нашым меркаваньням аб значэньні гэтай акалічнасьці для пытаньня аб пахаджэньні Луніна дадамо, што для апальнага Луніна аказаўся, можа быць, зачыненым доступ у іншыя гвардзейскія палкі, і калі ён папаў у Горадзенскі полк, то якраз па свайму „літоўскаму пахаджэньню".

У Варшаве мы бачым Луніна на ўплывовым пасту ад'ютанта вялікага князя Канстантына Паўлавіча, пры якім ён крыха-па-крысе становіцца даверанай асобай. Варшава 20-х гадоў, у сваю чаргу, была напоўнена рэволюцыйнымі думкамі. Пасьля разбурэньня польскіх масонскіх лёж па загаду 6 лістапада 1821 г. цэнтрам руху зрабілася Народнае Патрыётычнае таварыства, на чале якога стаяў Валер'ян Лукасінскі, а пасьля яго ссылкі—Станіслаў Солтык. Ад падзелу таварыствы меліся і ў Беларусі, і ў правабярэжнай Украіне. У вапошняй памешчык Сабаньскі дзейнічаў па трох „провінцыях"—Падоліі, Валыні і Кіеўшчыне, маючы галоўны апорны пункт у Кіеўскіх „контрактах". Ёсьць падставы дапушчаць, што Лунін у Варшаве ўваходзіць у зносіны з Патрыётычным таварыствам; а калі Польскае Патаемнае таварыства ўступае ў зносіны з Паўднёвым таварыствам і польскія ўпоўнаважаныя просяць Пэстэля паказаць якога-небудзь рускага ў Варшаве, які мог-бы служыць пасярэднікам у зносінах таварystваў,—то Пэстэль называе Луніна. Лунін паміж іншым ідзе сваім шляхам і ня зьвязвае сябе шчыльна ні з Паўночным, ні з Паўднёвым таварыствам. Як відаць, яшчэ да сьмерці Аляксандра некаторыя дэкабрыстыя ўскладаюць свае надзеі на Канстантына, і Лунін далучаўся да гэтай групы і лічыў найбольш удалай і рэальна

дасягаемай формай аднаўленьня Расіі констытуцыйную монархію, ухваленую Канстантынам. У сьнежаньскіх паўстаньнях ні ў пецярбурскім, ні ў паўднёвым Лунін ня прымае ўдзелу. Калі яго прыцягнулі да сьледзтва па справе дэкабрыстых, ён адмовіўся пакарыстацца замежным пашпартам, пераданым яму Канстантынам, і адважна паехаў у Пецярбург, каб разьдзяліць лёс таварышоў. „Я разьдзяляў іх пераконаньні.—сказаў ён,—разьдзялю і кару“.

Выклікаючыя і рэзкія адказы абуралі камісію супроць Луніна, і яго аднесьлі да другога разраду поаступнікаў, са ссылкай на катаржную працу і на пасяленьне. У Чыту Лунін прыбыў пазьней другіх, у канцы 1829 г. Катаргу адбываў у Нэрчэнскім і Пятроўскім заводах, у ліпні 1836 г. быў пераведзены на пасяленьне ў слабаду Урык (у 15 вярстах ад Іркуцку). а потым—за распаўсюджаньне запіскі з крытычным разглядам сьледчае справы, адасланы ў мрачную і сырую Акатуеўскую капальню, дзе ў 1845 г. і памёр ад разрыву сэрца.

Такі агульны нарыс жыцьцяпісу Луніна, а ў яго асобе аднаго з таленавітых і сымпатычных прадстаўнікоў сваёй эпохі. Але мы, зразумела, адтрымалі-б толькі вельмі нявыразнае і павярхоўнае ўяўленьне аб Луніне, калі-б абмежаваліся сказамі і не перашлі да агляду невялікае, але ў вышэйшай ступені цікавае літаратурнае спадчыны, якую пакінуў Лунін. У гэтай спадчыне—шэраг яскравых бляскаў, яны асьвятляюць усё жыцьцё Луніна ў Сібіры, і здаецца, што ў іх гармонічна злучаюцца найбольш буйныя і каштоўныя рысы шэрагу лепшых прадстаўнікоў расійскае інтэлігенцыі 20-х гадоў: і жыцьцярадаснасьць Пушкіна, і гумар Грыбаедава, і філёзофска-рэлігійны крытыцызм Чаадаева, і пераконанасьць Пэстэля, і ўдумлівая назіральнасьць Н. Тургенева.

Арышт і ссылка не зламалі Луніна. Ён ведаў сябе, калі яшчэ задоўга да 14 сьнежня пісаў Іпполіту Ожэ: „Я змагу перанесьці няпрыемнасьці: і ў шчасьці, і ў няшчасьці я заўсёды аднолькаў“. Цэльнай, зусім унутрана ўроўнаважнай і сябе ўсьвядоміўшай асобаю выступае прад намі Лунін і з старонак сваіх твораў. У Сібіры, думае ён, пачалася сапраўдная жыцьцёвая арэна дэкабрыстых, тут яны былі закліканы словам і прыкладам служыць справе, якой сябе прысьвяцілі. Літаратурная чыннасьць і зьяўляецца для Луніна службай справе, дзе слова адбівае толькі тое, што аўтар, па меры сваіх сіл, імкнецца правесьці ў жыцьцё сваім прыкладам.

Ад Луніна да нас дашлі наступныя творы: 1) нарысы ў запісной кніжцы; 2) лісты з Сібіры—галоўным чынам, да сястры Луніна Е. С. Ушаковай; 3) лісты з Акатуя—княгіні М. Н. і кн. С. Г. Валконскім; 4) „Погляд на расійскае патаемнае таварыства з 1816 г. да 1826 г.“; 5) Разгляд даносу, прадстаўленага расійскаму імпэратару Патаемнай Камісіяй у 1826 г.; 6) розыск гістарычны—нарысы па гісторыі, якія адчыняюць патрэбу ўвядзеньня констытуцыі ў Расіі і 7) погляды на справы Польшчы 1840 г.

Як выявілася асоба Луніна ў гэтых творах?

Гуманізм і эстэтызм, унутраная ўроўнаважнасьць, усьвядомленьне вялікага значэньня і праўдзівасьці тэй справы, якой аддана жыцьцё,— вось той унутраны сьвет, якім на нас, раней за ўсё, вее ад твораў Луніна. „Мстительные страсти“ ў Сібіры яму чужыя, і ён ужо не шкадуе ні аб аднэй з сваіх страт. Нават у лістох з Акатуя мы сустракаем той самы ўпэўнены і ўроўнаважны погляд на жыцьцё. Праўда, гэта жыцьцё ў выгнаньні, без мастацтва, перайначваецца ў мэханізм, які морыць Луніна, але ён адчувае агульнае прыгоства сьвету, прыгоства акружаючай прыроды, абцягнутых дымкай тугі ўспамінаў мінулага „старасьвецкага замку з зубчатымі вежамі, маладое ўладаркі замка з блакітным поглядам і разгорнутым у паветры белым пакрываламˮ. Эстэтычна ўроўнаважны падыход да сьвету служыць для Луніна цёплым і мяккім фонам, на якім усе рэзкія словы і думкі атрымліваюць характар не выпадковых абурэньняў раздразьненага чалавека, а прадуманых заключэньняў. Луніна ні на хвіліну не пакідае сузнаньне сьвятасьці і праўдзівасьці тэй справы, якая яго прывяла ў Сібір. Урад на працягу цэлага сталецьця ня ўмеў задаволіць самыя безадкладныя патрэбы народу— і кіруемыя па няволі павінны былі прыбегнуць да ўласных сродкаў, каб дасягнуць мэты. І моральная перамога, па думцы Луніна, на баку дэкабрыстых: праз некалькі гадоў іх думкі стануць „неабходнай умовай грамадзянскага жыцьцяˮ. Аб патаемным таварыстве часова забылі, але „паступова пасьпяваючая расійская грамадзкая думка, бязумоўна, паставіць яго зноў у коле свае ўвагіˮ.

Лунін адмаўляе ідэю аб найвышэйшай уладзе народу, называючы яе „нікчэмнай марай у шэрагу іншых хімэр“ і разумеючы пад ёю, як відаць, беспасярэднае народаўладзтва. Але прызнаваючы патрэбу ў асобным ад народу ўрадавым апараце, Лунін усё-ж лічыць, што „асновы грамадзкага парадку, бясьпекі і спакою заключаюцца ў народзе, а не ва ўрадзе“, кола дзеяньняў якога „больш абмежавана, чым ён мысьліць сабеˮ. У грамадзкім разьвіцьці дзейнічае ня воля монархаў, а строгая законамернасьць—„здарэньні выцякаюць з законаў лёгікіˮ. У васнове грамадзтва ляжыць „дагаворˮ. Урады звычайна парушаюць гэты дагавор, „падаюць прыклад якраз тых паступкаў, за якія прызнаюць сваіх падданых заслугоўваючымі сьмяротнай карыˮ. А парушэньне дагавораў нямінуча вядзе да зьнішчэньня ўраду. „Палітычныя ідэі ў паступовым разьвіцьці маюць тры віды. Спачатку зьяўляюцца, як адцягненьне, і тоўпяцца ў некаторых галовах і кнігах, потым робяцца народнай думкаю і пераліваюцца ў гутарках; нарэшце, робяцца народным пачуцьцём, патрабуюць абавязковага задаваленьня і, сустракаючы супраціўленьне, вырашаюцца рэволюцыяміˮ. Падлічаючы існаваньне грамадзкіх кляс, Лунін лічыць, што яны не падзелены непраходнай перагародкай, і парушэньне інтарэсаў аднэй клясы можа выклікаць супроцьдзеяньне з боку

другое; погляд зусім зразумелы ў той час, калі прогрэсыўная частка дваранства сапраўды была ў нас солідарна з буржуазіяй.

Спыняючыся на працы ўласна патаемнага таварыства, Лунін азначана далучаецца да пункту гледжаньня Паўночнага таварыства і асабіста даваў перавагу констытуцыйнай монархіі, лічыў зусім правільнай думку вырашэньня пытаньня аб кіраваньні зборам прадстаўнікоў. Разам з тым, у творах, напісаных у Сібіры, Лунін больш сур'ёзна і грунтоўна падыходзіць да пытаньня аб царазабойстве, лічыць на падставе нашае гістарычнае практыкі, што царазабойства—гэта толькі палацавая рэволюцыя, якая „нават пад кіраўніцтвам насьледніка прастолу ня прыносіць у нас ніякай карысьці“. Значна важней насадзіць у бацькаўшчыне ўладаньне законаў. Расія пры гэтым павінна застацца адзінай,—гэтаму прынцыпу не супярэчыць, па думцы Луніна, і констытуцыя Н. Мураўёва,—краіны хоць і кіруюцца самі сабою, але падуладны цэнтру. Паншчына вельмі абурае Луніна. Апісваючы лёс свайго служкі, былога прыгоннага, Лунін як-бы раней за Тургенева стварае вобраз Сучка з „Льгова“. Прыгоннае права павінна быць зьнішчана—бо „сучаснае і наступнае дабро кожнага залежыць ад уласнага лёсу“. Рэорганізацыя Расіі павінна, зразумела, узвысіць яе, і Лунін, уладаўшы чужаземнымі мовамі лепей чым расійскай, вітае ўзвышэньне Расіі, як патрыёт. Ведаючы аб недахопах Расіі, ён усё-такі любіць яе, як шмат хто з яго сучасьнікаў, як любіў, напр., Лермантаў, ня зусім для самога яго зразумелай „странною любовью“. „Мы зноў злучымся і паедзем у мілую Расію, якую я ўсё-ткі люблю, ня гледзячы ні навошта“,—піша Лунін да Ожэ яшчэ ў 1816 годзе, жывучы ў Парыжы. Ідучы па шляху славянафільства, якое пачало нараджацца, Лунін вельмі цікавіцца ўсходнім пытаньнем, ставячы яго на першы плян нацыянальнай знадворнай політыкі: кожны крок на поўнач прымушае нас ўваходзіць у зносіны з эўропэйскімі дзяржавамі; кожны новы крок на поўдзень прымушае гэтыя дзяржавы ўваходзіць у зносіны з намі. У політычных адносінах узяцьце Ахалцыка важней узяцьця Парыжу“.

Цікавы адносіны Луніна да польскага пытаньня. Экономічна Польшча шчыльна зьвязана з Расіяй; польскі гандаль „падтрымліваўся толькі пры папамозе транзіту, дарованага ва ўшчэрбак гандлю Расіі“, польская прамысловасьць „разьвівалася толькі пры дапамозе чужаземных спэкулянтаў, прыцягнутых прэміямі і перавагамі данага моманту“. Натуральна, што пры такіх умовах паўстаньне 1831 году ня мела пад сабой рэальнай глебы. „У варшаўскім паўстаньні нельга знайсьці ні азнакі, ні засьведчаньня народнага руху. Яно не нарадзіла ніводнага выдатнага характару, ніводнага выдатнага законадаўцу, адміністратара альбо вайсковага. Яно ня высунула наперад ніводнай органічнай ідэі, ніякага грамадзкага інтарэсу, і наогул прадстаўляе толькі бледнае перайманьне мінулага польскай гісторыі і сумны адбітак заснаванай на паданьнях цывілізацыі.

„Мяне празываюць у афіцыяльных паперах: „дзяржаўны праступнік, які знаходзіцца на пасяленьні“,—піша Лунін да сястры,—у Англіі сказалі-б: Лунін—член опозыцыі. Бо такое ў сутнасьці маё палітычнае значэньне“. У якасьці члена опозыцыі Лунін у Расіі абмяжоўваецца тым, што,—ведаючы аб ускрываньні сваіх лістоў у III-м аддзяленьні, а разам з тым і шырокім распаўсюджаньні іх у грамадзтве,—нарочна „дразнит медведя“, сьмела крытыкуе ўрадавы лад, бічуючы яго цёмныя бакі ўсёй сілай свайго сарказму, які дзейнічае „як тапор палача“. „У Расіі два павадыры: язык—да Кіева, а пяро—да Шлісэльбургу,—шуткуе Лунін.—Выдатныя людзі эпохі знаходзяцца ў нас у глыбокай ссылцы, пасрэднасьці—на чале кіраўніцтва“. Урад непакоіцца галоснасьці і свабоды слова, але, нарэшце, гэтым толькі выяўляе сваю слабасьць, нястачу довадаў на карысьць абаранямай позыцыі. Уся сыстэма нашага кіраўніцтва, народная асьвета, суд, адміністрацыя, блізарукая політыка ў толькі што заваяваных акраінах,—усё гэта выклікае такія водгукі Луніна, якія па сваёй сіле і выразнасьці маглі-б атрымаць належнае месца на старонках „Горе от ума“. „Хто ў нас утварае суд? Кавалерыстыя, якія ня ўседзяць ужо вярхом, маракі, якія ня могуць вынесьці качку, чужаземцы, якія не разумеюць расійскай мовы; усе, якіх няма куды дзяваць, знаходзяць мяккае крэсла ва ўрадавым сэнаце“. Удзельнікі сьнежаньскага руху, якія прымірыліся альбо шукаюць прымірэньня з урадам, выклікаюць з боку Луніна ці насьмешку, ці асуджэньне. Адны, паводле яго слоў, бяруць на сябе ролю прыгнечаных патрыётаў і выклікаюць да сябе зьдзіўленьне ў сваім акалодку выданьнем кніг, якіх ніхто ня чытае, і куратарствам над школамі малярства. Іншыя, заняўшы вышэйшыя месцы, трацяць урад сваёй няздольнасьцю—ці парывам адступніка, які раздразьняе розум. „Гэтыя людзі,—заключае Лунін,—наогул заслугоўваюць жальбы і забыцьця. Зрываю з іх абалочку, каб паказаць іх маім пляменьнікам падобна да таго, як выстаўлялі на паказ п'яных ілотаў перад спартанскаю моладзьдзю“. Мы ўжо адзначылі, што рэлігійнасьць Луніна ніколькі не адрывала яго ад зямлі і яе рэальных інтарэсаў. Лунін у Сібіры аддаў увагу і таму інтарэсу да рацыянальнай пастаноўкі сельскай гаспадаркі, якая так захапляла яго сучасьнікаў-дваран у цэнтральнай Расіі. „У 8 месяцаў,—пералічае ён у лісьце да сястры 1836 г.,—мною зроблена: зямля балотняя, неапрацованая, цярністая асушана, агароджана, перавернута ў сенажаці і пахаці. Пасярод ангельскі садок з пескавымі дарожкамі, альтанкай і мноствам кветак, далей дзьве левады, агарод і, нарэшце, пекны домік з прыбудоўкамі“.. У 1837 г. Лунін, паводле сваіх вылічэньняў, атрымаў чыстага прыбытку 141 руб. 75 к., апрача азімых збожжаў, якія падавалі таксама добрую надзею. Сродкі на гаспадарчыя выдаткі Лунін атрымаў ад сястры.

Але гаспадарчыя клопаты значна засланіліся ў Луніна яго навуковымі заняткамі. У бібліотэцы дэкабрыстага налічвалася 406 загалоўкаў, прычым усе чужаземныя кнігі ён лічыў прынцыпова патрэбным чытаць

у орыгінале: пераклад—гэта хэмічны прэпарат, які штучна аднаўляе пах розы. Калі мы выпусьцім заняткі багаслоўскімі навукамі, якіх, як відаць, ніколі ня кідаў Лунін, то ў галіне сьвецкіх навук для Луніна набывала найбольшы інтарэс вывучэньне сучаснай палітыкі і гісторыі. У вадным з лістоў да Ушаковай мы знойдзем шэраг заўваг па поваду ўтварэньня Міністэрства Дзяржаўных Маемасьцяй; далей Луніна займае гістарычны агляд кодыфікацыі расійскіх законаў, з папутным абсьледаваньнем законадаўчай і судовай гісторыі Ангельшчыны; расійскае прыгоннае права супроцьстаўляецца ў Луніна з вывучэньнем грэцкага нявольніцтва. Па расійскай гісторыі Лунін пакінуў нарыс пад загалоўкам „Розыск исторический“. Тут паміж іншым сустрачаем адну характэрную заўвагу, зразумелую ў вуснах беларуса і, наадварот, не сустракаўшую сабе роўналежнай ў тагочаснай расійскай гісторыяграфіі: „Князі літоўскія, а не патомкі Рурыка палажылі пачатак вызваленьню (разумеецца Расіі, ад татар). Яны адабралі заходнія часткі краю і далучылі да сваіх уладаньняў. Па іх шляхох пашлі князі маскоўскія, якія ўзмоцніліся ў часе смуты“.

Усе зьвесткі аб жыцьці Луніна ў Сібіры, якія можна атрымаць з яго твораў і з іншых крыніц, сьведчаць аб тым, што, карыстаючыся сымпатыямі з бакоў усіх асоб, з якімі меў дачыненьне, ён разам з тым зьявіўся праваднікам новых ідэй у невялікую жменьку тагочаснай сібірскай інтэлігенцыі. З Луніным бачыліся і гутарылі золаташукальнікі Яўхім і Мікола Кузьняцовы, настаўнік Іркуцкай гімназіі Жураўлёў, настаўнік з Кяхты Крукаў; апошні паказваў Луніну свае пэдагогічныя творы і вершы. Артыкулы і нарысы Луніна, пісаныя пафранцуску і паангельску, перакладаліся і перапісваліся, чыталіся настаўнікамі і сьвяшчэньнікамі. „Праходзячы праз натоўп,—піша ў адным месцы Лунін,—я сказаў, што трэба было ведаць маім саайчыньнікам. Пакідаю пісьмены мае законным насьледнікам мысьлі, як прарок пакінуў свой плашч вучню, што замяніў яго на берагох Іордану“. Лунін, як Пушкін, адчуваў як-бы сваю блізкасьць да біблейскага прарока...

Жыцьцё ў Сібіры было для Луніна толькі працягам і паглыбленьнем барацьбы за ідэі, якія яго прывялі ў Сібір. І ў гэтай барацьбе бесьперарыўнай з людзьмі і акалічнасьцямі ён крыха-па-крысе прывучае сябе да мысьлі, што сьмерць—гэта ціхая прыстань, якая дае пажаданы спакой. „Цудная прадаўжаецца паступовасьць,—піша ён на вялікдзень 1838 г.:—чым бліжэй я да мяжы майго напрамку, тым папутней становяцца вятры“.

Душэўны спакой Луніна парушылі арышт у Урыку і новая ссылка ў Акатую. Але ён нядоўга і пражыў у Акатуі, даставіўшы, можа быць, сваёй сьмерцю ў 1845 годзе значнае задаваленьне III-му аддзяленьню і яго клеўрэтам.

Пасьля Луніна застаўся духоўны тэстамэнт, напісаны яшчэ да ссылкі ў 1819 годзе. Па гэтаму тэстамэнту ён перадае свае маёнтк

стрэчнаму брату Мікалаю, пад умовай штогоднага ўжываньня 10.000 руб. асыгн. на ўтрыманьне „вольнага народнага вучылішча“, якое павінна было быць заснавана ў адным з маёнткаў, і вызваленьня сялян ад прыгоннага права на працягу 5 гадоў, „не датыкаючыся пры гэтым зямель, лясоў, будынкаў, маемасьцяй наогул і іншых ужыткаў“. Апошнія радкі паказваюць нам на безьзямельнае вызваленьне, г. зн., што ўся зямля і інш. застаецца за памешчыкам. Але з гэтым трэба параўнаць п. II тэстаманту, які патрабаваў такіх умоў вызваленьня, што склалі-б шчасьце сялян і зрабілі-б для іх памятку Луніна сьвяшчэннай. Трэба думаць, што Луніну ў 1819 г. малявалася вызваленьне сялян прыблізна ў тым відзе, як Якушкіну, г. зн., што зямля будзе аддавацца сялянам у арэнду на якіх-небудзь для іх няцяжкіх умовах.

У Акутуі адзінока стаіць магіла Луніна з простым цагляным помнікам, агароджаным чыгуннымі кратамі. На надмагільнай пліце надпіс: „Незабвенному брату Михаилу Сергеевічу Луніну, скорбящая сестра Е. У.“.

Ці можам мы да гэтага жалю далучыцца, мы, сучасьнікі другога, значна больш бурнага рэволюцыйнага руху, чужыя тым плянам буржуазных рэформ, прыхільнікамі якіх былі дэкабрыстыя і ў тым ліку Лунін?

Кожнаму ўзроўню разьвіцьця адпавядае свая рэволюцыйнасьць. Дэкабрыстыя па сваёй ідэолёгіі былі перадавымі прадстаўнікамі сваёй эпохі,—што гэта было так, пацьвярждаецца шматлікавымі засьведчаньнямі аб спачуваньні ім народных мас. Рэволюцыйныя пакаленьні, зьмяняючы адно другое, кожны раз так ці іначай аглядваліся на рух дэкабрыстых.

Не магло на іх не азірнуцца і нашае пакаленьне.

Прыпамятаем адзін факт. У вядомым адказе дэкабрыстага Адаеўскага на пасланьне Пушкіна дэкабрыстым ёсьць радок: „Из искры разгорится пламя“. Гэты радок дэкабрыстага Адаеўскага даў імя і зрабіўся эпіграфам для тэй газэты „Искра“, якая пад кіраўніцтвам Леніна, на рубяжы XX-га веку, кінула рэволюцыйны кліч ужо ня толькі у імя барацьбы з самаўладзтвам, а і за клясавае вызваленьне ды братняе аб'яднаньне працоўных усяго сьвету.

# АБ ПАШЫРЭНЬНІ АКАНЬНЯ НА ЧУЖАЗЕМНЫЯ СЛОВЫ

**С. Некрашэвіч**

У вапошнія часы ўзьніклі досыць гарачыя спрэчкі па пытаньні аб пашырэньні прынцыпу аканьня на чужаземныя словы. Пры гэтым усе асобы, што цікавяцца гэтым пытаньнем, падзяліліся на два лягеры: прыхільнікаў оканьня ў чужаземных словах *(окаўцы)* і прыхільнікаў аканьня *(акаўцы)*. Гэтыя спрэчкі асабліва востры адбітак знашлі 12 красавіка гэтага году на пашыраным пасяджэньні Мовазнаўчай сэкцыі Інбелкульту, калі аўтарам гэтага артыкулу быў зроблены даклад аб пашырэньні прынцыпу аканьня і на чужаземныя словы і судаклад Я. Лёсікам аб захаваньні існуючага парадку рэчаў (оканьня).

Сягоньня мне давялося даведацца, што нібы Навуковая Рада Інбелкульту прыняла пастанову аб захаваньні ў ненаціскных складох малапашыраных чужаземных слоў *о*, заслухаўшы на гэту тэму адзіны даклад Я. Лёсіка (окаўца), і ў зьвязку з гэтым даручыла Правапісна-тэрмінальгічнай камісіі Інбелкульту апрацаваць слоўнік пашыраных чужаземных слоў, у якіх пішацца *а*.

Паколькі гэтая пастанова зьяўляецца бязумоўна важнай, бо яна датычыць усіх асоб, што пішуць пабеларуску, я-б лічыў, што яе прымаць пакуль што яшчэ было рана, тым больш, што 12 красавіка большасьць прысутных на сходзе Мовазнаўчай сэкцыі Інбелкульту, як членаў ІБК, гэтак і грамадзян, выказалася (у прамовах і галасаваньнем) якраз за адваротнае,—за пашырэньне прынцыпу аканьня і на чужаземныя словы. Пры гэтым трэба заўважыць, што за апошні прынцып выказаліся ўсе *спэцыялістыя мовазнаўцы* БДУ, вядома, апрача Я. Лёсіка. Дзеля гэтага. я лічу неабходным, каб гэта важнае ў нашым правапісе пытаньне атрымала сваё належнае высьвятленьне.

У сваім артыкуле я і хачу ўзьняць у друку гэтае пытаньне, выказаўшы тыя асноўныя тэзы, якія мною былі выстаўлены ў дакладзе 12 красавіка.

Перад гэтым некалькі слоў скажу аб прынцыпах правапісу наогул.

Правапіс, вядома, рэч умоўная. Добрым правапіс лічыцца тады, калі: а) *Напісаньне слова адпавядае яго жывому вымаўленьню.* Значыць, чым бліжэй правапіс да жывога вымаўленьня, тым ён лепшы. Вядома, абса-

лютнай блізкасьці тут быць ня можа, бо калі-б азначыць кожную гукавую асаблівасьць у мове, то гэта значна ўскладніла-б наш правапіс. Навука налічвае адных толькі галосных у некалькі разоў больш, чым гэта мы звычайна лічым. Дзеля гэтага, для пісьма мы бярэм найбольш характэрныя, асноўныя гукі, адкідаючы іх мадуляцыі. У зьвязку з гэтым знаходзіцца другое запатрабаваньне ад правапісу: б) Правапіс павінен быць, па магчымасьці, *просты*. Правапіс—агульны набытак народу, а таму ён так павінен быць пабудаваны, каб ім лёгка і проста кожны мог карыстацца; трэба, каб правапіс *мэханізаваў пісьмо*. в) Правапіс павінен ахапляць больш *пашыраныя ў мове зьявы*. Разглядаючы з гэтага боку правапіс, скажам, калі, прыкладам, большасьць нашага насельніцтва ў другім пераднаціскным складзе вымаўляе *е* (а ня *я*), то гэта зьява павінна знайсьці сваё месца і ў нашым правапісе. г) Правапіс, апрача гэтага, павінен адбіць найбольш *характэрныя і прыгожыя* моўныя зьявы данай мовы.

Зазначыўшы ў агульных рысах асноўныя запатрабаваньні ад кожнага правапісу, пераходжу цяпер да разгляду правапісу чужаземных слоў. Тут бадай ва ўсіх мовах пануе такі прынцып правапісу: чужаземныя словы пішуцца блізка да вымаўленьня і напісаньня таго народу, ад якога словы запазычаюцца. Вядома, тутака ёсьць многа ўхіленьняў: а) Кожны народ мае свае артыкуляцыі, і, запазычаючы слова ад іншай мовы, ён дапасоўвае яго да свайго прыроднага вымаўленьня. І калі мы, прыкладам, возьмем такое слова, як *дыван*, то вымаўленьне яго немцам і беларусам, дзякуючы ўласьцівым кожнаму народу артыкуляцыям, будзе рознае. Ухіленьні могуць быць утвораны па прычыне адсутнасьці ў мове тых ці іншых гукаў; напр., сярэдня-эўропэйскага l, нямецкага ü, гартаннага г і г. д. Тады народ субстытуе гэтыя гукі, замяняе іх блізкімі сваімі гукамі. б) Урэшце, ухіленьні бываюць і таму, што кожны народ падстаўляе да чужаземных слоў свае канчаткі (у скланеньнях і спражэньнях) і суфіксы. Такім чынам, і адносна правапісу чужаземных слоў блізкасьць можа быць толькі адноснаю, паколькі гэта *не супярэчыць прыроднаму вымаўленьню народу*.

Разглядаючы конкрэтна, як пішуцца ў чужаземных мовах пры запазычаньні ненаціскныя склады з *о*, трэба сказаць, што такія склады пішуцца праз *о*. Ды яно і зразумела. Для гэтых моваў (з *этымалягічным* правапісам) такія злучэньні натуральны, уласьцівы, бо яны адпавядаюць жывому вымаўленьню народу. Іншая рэч гэтыя злучэньні ў нашай мове (з *фанэтычным*, адносна галосных, правапісам). Тут ненаціскныя злучэньні з *о* будуць ненатуральныя, неўласьцівыя, бо ў народнай мове іх няма, для народнай мовы яны проста будуць дзікія. Беларуская мова ў ненаціскных складох ва ўсякім слове знае толькі *а*,—усё роўна, ці будзе гэта сваё слова, ці запазычанае, чужое. Праўда, з гэтым прыхільнікі оканьня і не спрачаюцца. Яны кажуць, што няхай народ у сваёй народнай мове і

ўжывае ў чужаземных словах толькі *а*, але ў *кніжнай*, літаратурнай мове, якая прызначаецца для адукаваных людзей, трэба пісаць *о*. Тутака, як бачыць чытач, беларускую мову падзяляюць на дзьве мовы: на мову народную і на мову кніжную (літаратурную). Вядома, тыя, хто дзеляць, за ўзор бяруць расійскую ці якую там іншую кніжную мову, вельмі далёкую ад жывой народнай мовы. Але з такімі поглядамі нам нельга згадзіцца. Мы ня толькі ня хочам падзяляць нашу мову на якіясь там дзьве мовы,—на мову адукаваных людзей, панскую, і на мову простую, мужыцкую,—а нават і думаць аб гэтым. Мы хочам, каб беларуская мова была адна. Мы павінны імкнуцца, каб простая мужыцкая мова разам з тым была і мовай кніжнай (літаратурнай). Нельга пры гэтым думаць, што беларуская мова будзе зьяўляцца якімсьці выключэньнем сярод іншых моваў. Даволі будзе сказаць аб сербскай народнай і літаратурнай мовах, якія супадаюць уваднэй мове. Гэтае адзінства народнай і кніжнай мовы павінна быць ідэалам пры разьвіцьці нашай мовы. Значыць, усё, што супярэчыць адзінству мовы, што падрывае яго, павінна быць адкінута, як шкодная для нормальнага разьвіцьця мовы рэч. А паколькі оканьне ў чужаземных словах, супярэчачы жывому вымаўленьню, зьяўляецца аднэй з прычын, што параджае падобнае дзяленьне, дык яно таксама мусіць быць адкінута.

Некаторыя кажуць, што для беларуса ня цяжка вымавіць ненаціскное *о*. Але гэтыя асобы ў большасьці судзяць па сабе: яны добра ведаюць расійскую, а можа польскую ці якую іншую чужаземную мову, дзе *о* ў ненаціскных складох—злучэньне натуральнае. Не, па сабе тут судзіць нельга. Тут трэба паставіць сябе на месца школьніка, які, апрача сваёй роднай мовы, ніякай іншай ня ведае. І можна быць пэўным, што такія словы, як *конвульсія*, *коордынацыя*, ён будзе вымаўляць *канвульсія*, *каардынацыя*. Нашто-ж тады мы будзем ламаць сваім школьнікам языкі, каб яны навучаліся вымаўляць ненаціскное *о*? Мусіць, толькі хіба на тое, каб можна было фарсануць сваёй вучонасьцю? Бо любіла-ж расійская арыстакратыя, што ўмела гаварыць пафранцуску, устаўляць французскае насавое *н* і ў зрусыфікаваныя французскія словы, напр. *ба***н***к*; а пераймаючы іх гаворку, некаторыя нават вымаўлялі пафранцуску *н* і ў расійскіх словах, напр. *ко***н***ка*, бо дзе-ж там звычайнаму сьмяротнаму разабрацца, якое тут слова будзе сваё, а якое—чужаземнае. Ня будзем-жа мы ім упадабляцца.

Некаторыя кажуць, што проста нейк брыдка пашыраць аканьне на некаторыя чужаземныя словы, як, напр., *ракако*, *сапрана*, і што ў гэтых словах мы абавязкова вымаўляем ненаціскное *о*: *рококо*, *сопрано*. Але, выбачайце, ваш пакорлівы слуга скажа толькі *ракако*, *сапрана*; ды ня толькі гэтак вымаўляю я—гэтак вымаўляе бадай усё беларускае грамадзянства. Варта толькі прыслухацца.

Некаторыя знаходзяць, што чужаземныя словы таму трэба вымаўляць блізка да вымаўленьня таго народу, ад якога слова запазычаецца, каб у гэтых выпадках лягчэй адзін народ зразумеў другога. Але для кожнага зразумела, што гэты довад—адна недарэчнасьць. Па адных словах, ня ведаючы цалком мовы другога народу, нельга яшчэ згаварыцца. Каб разумець мову другога народу, трэба яе вывучаць, і вывучыць ня толькі лексыку, а галоўным чынам граматыку мовы. Таксама зразумела, што калі народ запазычае слова з іншае мовы, а гэта бывае тады, калі не хапае свайго патрэбнага слова, то народ не задаецца мэтай, што хтосьці яго ці ён каго можа лягчэй зразумець. Народ запазычае слова для таго, каб выразіць ім пэўную ідэю і праз гэта ўзбагаціць сваю мову, і калі запазычанае слова дапасуецца да вымаўленьня народу, то яно ўжо робіцца словам яго мовы. У гэтым і заключаецца працэс разьвіцьця мовы.

Ёсьць і такія, што кажуць: „Вымаўляй, як хочаш, а пішы, як трэба“ (гэта значыць так, як напісана слова ў чужаземных мовах), каб слова па свайму напісаньню адпавядала напісаньню ў чужаземнай мове. А чаму? Ды таму, кажуць, што калі пашырыць аканьне на чужаземныя словы, то можа здарыцца, што два словы будуць мець аднакія напісаньні, напр.: *антолёґія*—літаратурны тэрмін (цьветаслоў) і *онтолёґія*—філязофскі тэрмін. Як-жа іх зразумець, калі напісаньні іх сальюцца ў адным слове *анталёґія*? На гэта я адкажу значэньнямі нашага слова *баба*. Слова *баба* мае гэткія значэньні: 1) старая жанчына; 2) ступень сваяцтва; 3) павітуха; 4) мужчына, падобны па характару на жанчыну; 5) прылада ў млыне; 6) доўбня, якой забіваюць палі, і інш.; або *бабка:* 1) у першых двох значэньнях; 2) вялікодная булка; 3) кавадла, на якім б'юць (кляпаюць) касу; 4) пастаўленая для прасушкі кучка снапоў і інш. Ня гледзячы на такую рознастайнасьць значэньняў слоў *баба* і *бабка*, мы добра разумеем значэньне кожнага слова, хоць яны маюць адно й тое-ж напісаньне (і вымаўленьне), бо значэньне кожнага слова выяўляецца толькі ў кантэксьце, незалежна ад яго напісаньня. Ды, урэшце, калі кіравацца запатрабаваньнем, што чужаземныя словы трэба пісаць так, як яны пішуцца ў мове таго народу, ад якога словы запазычаюцца, то ў гэтым выпадку чужаземныя словы трэ' было-б пісаць і адпаведнымі шрыфтамі: лацінскім, арабскім і да т. п., ад чаго, вядома, адмаўляюцца самі окаўцы.

Разгледзеўшы довады прыхільнікаў оканьня ў чужаземных словах мы бачым, што: 1) іх довады нягрунтоўныя і 2) што оканьне супярэчыць законам нормальнага разьвіцьця нашай мовы.

Цяпер застанаўлюся на самай галоўнай загане оканьня ў чужаземных словах: якія словы падлягаюць *оканьню*, а якія *аканьню*; іншымі словамі (па тэрміналёґіі окаўцаў), якія з запазычаных слоў зьяўляюцца кніжнымі, а якія—народнымі? Зрабіць падзел гэтых слоў—рэч проста немагчымая, а калі хто яго і зробіць, то выйдзе вельмі крыклівая штучнасьць, якая будзе залежаць ад пагляду тэй ці тых асоб, што будуць

рабіць гэткі падзел. Агульнай пагоджанасьці, чаго, вядома, патрабуе кожны правапіс, тут быць ня можа. Напр., словы *камуністы, камісар*—кніжныя ці народныя? Окаўцы кажуць, што народныя, бо народ іх ведае, а таму яны павінны пісацца праз *а*. А *камунізм, камуністычны, камунальны, камунікацыя, камісарыят, рэспубліка?* А гэта, кажуць,—словы кніжныя, а таму павінны пісацца праз *о*. Дзе-ж крытэры для такога падзелу? Адзін суб'ектывізм. Таму і зразумела, што ў нас пішуць *камітэт* і *комітэт, камісія* і *комісія, камісарыят* і *комісарыят* і г. д., нават іншы раз пішуць *о* там, дзе яно і непатрэба; напр., у слове *галюцынацыя* пасьля *г* пішуць *о*. Каб раз назаўсёды зазначыць, у якіх чужаземных словах трэба пісаць *а*, окаўцы знаходзяць патрэбным выдаць адпаведны слоўнік. Адносна ліку такіх чужаземных слоў, дзе пішацца *а*, гавораць розна: адны кажуць, што іх будзе некалькі дзесяткаў, іншыя—некалькі соцень, а некаторыя налічваюць і больш таго. Але згодзімся на мінуту, што такі слоўнік складзены і выпушчаны для шырокага карыстаньня ў сьвет. Будзе ў гэтым слоўніку ня менш 400—500 слоў. Значыць, каб умець граматна пісаць, трэба завучыць на памяць гэтыя 400—500 слоў (не насіць-жа заўсёды пры сабе слоўніка!). І тады ў нас выйдзе: „верно, редко, непременно, где, отменно, вне, совсем“ і г. д.; словам, у нас будзе нешта падобнае да таго кашмарнага расійскага „яць“, проці якога лепшыя пэдагогі вялі барацьбу на працягу ста гадоў, і якое толькі зьмяла пролетарская рэволюцыя. Але ў нас справа з оканьнем будзе яшчэ горай. У той час, як у расійскай мове лік слоў з „яць“ заставаўся адзін і той-жа, у нас лік чужаземных слоў з *о* будзе бясконца расьці, бо мова, як жывы организм, расьце і папаўняе свой лексыкон усё новымі і новымі словамі—сваімі і чужымі. Якіх-небудзь 7-8 год таму назад у нас зусім невядомы былі народнай мове словы *камуністы, савет* (окаўцы павінны пісаць *совет*), *камітэт*, цяпер-жа іх усюды ведаюць. Адсюль вынікае, што гэты слоўнік чужаземных слоў можна скласьці толькі на сягодняшні дзень. Праз год, праз тры гады, адным словам, па меры таго, як чужаземныя словы будуць рабіцца набыткам усяго беларускага народу, трэба будзе складаць новыя слоўнікі ці дапаўняць выданыя. Такім чынам, кожны граматны пабеларуску чалавек павінен або ўсё сваё жыцьцё вучыць беларускі правапіс, або застацца бязграматным. Будзе, вядома, апошняе, бо дзе-ж там знойдзеш часу пры познай працы службовага чалавека, каб заглянуць у слоўнік! Недарэчнасьць такіх слоўнікаў зразумела кожнаму.

Урэшце, ёсьць яшчэ адна не малая загана оканьня—як адрозьніць пашыранае ў мове слова ад малапашыранага. Возьмем хоць-бы такое слова, як *пампаваць*. Для паўднёва-заходніх гутарак гэтае слова будзе пашыраным, і яго напішуць праз *а*; для паўночна-ўсходніх-жа гутарак, дзе гэткага слова няма, яно будзе непашыраным, і, пішучы яго, тут ніхто ня ўсумніцца напісаць яго праз *о*, як *конструкцыя, конілёмэрат* да т. п. малапашыраныя ў мове словы. Скажуць, вядома, што трэба зазірнуць у

слоўнік. Але кожнае зазіраньне каштуе часу, а ўсіх слоў у слоўніку не запомніш, асабліва праз якіх 30—50 год, калі гэткіх „спрэчных" слоў можа набрацца некалькі тысяч. І выходзіць, што калі ня будзеш глядзець у слоўнік—будзеш рабіць памылкі; а калі будзеш глядзець у слоўнік—то будзеш марна траціць час, ня лічачы ўжо, вядома, таго, што ўсякі прыпынак перашкаджае *мэханічнасьці* пісьма, чаго добры правапіс заўсёды ўхіляецца.

Урэшце, я-б сказаў, што аканьне ў чужаземных словах парушае наш асноўны фанэтычны прынцып правапісу галосных, а праз гэта *псуе* нашу мову і пазбаўляе яе *характэрнай* асаблівасьці.

Такім чынам, усякае ненаціскное *о* ў чужаземных словах трэба пісаць праз *а*. Калі-ж хто мае патрэбу ў асабліва дакладнай перадачы чужаземнага слова, то, вядома, ён можа, як выключэньне, дапусьціць і оканьне, узяўшы слова ў лапкі (стыль „рококо") або нават напісаць гэтае слова лацінкай (forte o'adagio).

Канчаючы агляд правапісу адносна ненаціскнога *о* ў чужаземных словах, застанаўлюся яшчэ на некаторых, больш дробных пытаньнях, зьвязаных з правапісам гэтага гуку.

Сюды, перш за ўсё, падлягае правапіс ненаціскнога злучэньня лё (lo). Але паколькі лё=льо, г. зн. мяккаму *л* (ль)+*о*, то зразумела, што гэтае *о* ў злучэньні *лё* падлягае агульнаму правілу, і такім чынам трэба пісаць: *дыплямат, філязофія, аналягічны* і г. д. (а не *дыплёмат, філёзофія, аналёгічны*). Апошняе напісаньне супярэчыць законам нашага вымаўленьня. Ненаціскнога *ё* (jo або *йо*) у нашай мове няма. Яго мы знаходзім у паўночных гутарках расійскай мовы (*мёдовый, пётух)*, але толькі ня ў нашай мове. У нас кожнае ненаціскное *ё* дае *я* або *е*: *мядовы, кляновік* (кляновы сок).

Сюды-ж падлягае і ненаціскное злучэньне ў чужаземных словах *іо*, якое мусіць пісацца праз *ія*, а пасьля цьвёрдых—праз *ыя*: *бібліятэка, фізыяномія* (а не *біблiотэка, фізыономія*, як пішуць окаўцы). Асобы, якія слаба ведаюць беларускі правапіс і якія, значыць, кіруюцца ўласным чуцьцём мовы, таксама пішуць: *бібліятэка, фізыяномія*. Значыць, злучэньне *іо* павінна пісацца праз *ія (ыя)* таму, што яно адпавядае нашаму жывому вымаўленьню.

Каб даць больш грунтоўную падставу гэтай зьяве, разгледзім наогул чужаземныя злучэньні *іа, іе* (*іэ*), *іо*. Злучэньне *іа* ў нас перадаецца праз *ія* (ija або *ійа*), пасьля цьвёрдых зычных—праз *ыя* (ыja або *ыйа*). Такім чынам, чужаземнае злучэньне *іа* ў нашай мове пасьля *і* разьвівае j (*й*), дзеля чаго мы пішам: *філія, нацыя* (*філійа, нацыйа*). Такі-ж j (*й*) разьвіваецца і ў злучэньні *іе* (*іэ*): *гіена*, (*гійэна*), *Даніель* (*Данійэль*), *дыета* (*дыйэта*), бо *іе* (*іэ*)=ijэ або *ійэ*; а пасьля цьвёрдых зычных—ыjэ або *ыйэ*. Разьвіваецца ў нашай мове j (*й*) і ў злучэньні *іо* (але на пісьме *памылкова* не

перадаецца—пішуць *легіон, бастыон*), бо *іо* (пад націскам)=іјо або *ійо* а пасьля цьвёрдых зычных—*ыјо* або *ыйо*: міліён (мілійон), бастыён (бастыйон), а не *міліон, бастыон*. Калі-ж чужаземнае злучэньне *іо* зьяўляецца ненаціскным, то яно падлягае агульнаму правілу аканьня. Такім чынам, трэба пісаць: *бібліятэка*, (*з бібліјотэка*), *фізыяномія* (*з фізыјономія*) і да т. п.

Такім чынам мы бачым, што правапіс ненаціскнога *о* ў чужаземных словах, пры замене яго ў нашай мове на *а*, зьяўляецца вельмі простым і адпавядае жывому вымаўленьню, не парушаючы пры гэтым адзінства і характэрных асаблівасьцяй нашай мовы. Ня прыняць такі правапіс можа перашкаджаць толькі ўпартасьць і надмерная ў гэтым пытаньні консэрватыўнасьць.

Чаму-ж, пры ўсёй відавочнай дадатнасьці гэтага правапісу, яго ня хочуць прыняць прыхільнікі оканьня? Ды таму, кажуць яны, што правапіс *о* (у чужаземных словах?) цесна зьвязаны з правапісам *е* (*э*), і калі падпарадкаваць нашаму правапісу (аканьню) чужаземнае *о*, то чаму-ж тады не падпарадкаваць гэтаму-ж аканьню і чужаземнае *е* (*э*)? Вось самая цяжкая артылерыя, якую окаўцы выстаўляюць супроць акаўцаў.

Аднак правапіс ненаціскнога *о* ў чужаземных словах нельга зьвязаць з правапісам ненаціскнога *е* (*э*) у гэтых-жа словах. *О* і *е*—гукі розныя. У той час, як усякае ненаціскное *о* ў нашай мове, бязумоўна, пераходзіць у *а*,—пра *е* (*э*) гэтага сказаць нельга. Наш правапіс адносна пераходу *е* (*э*) у *а* (*я*) налічвае ня мала адхіленьняў: мы маем *е* (пасьля ј і мяккіх зычных) у другім складзе перад націскам (калі ў першым ёсьць *а* (*я*); маем *е* ў трэцім, чацьвертым і г. д. складох перад націскам, маем *е* ў закрытых складох пасьля націску; маем ненаціскное *е* ў некаторых словах у іх корані, нават у некаторых словах маем *е* (*э*) *і* ў першым складзе перад націскам (*запэўняць*). Пасьля цьвёрдых зычных хоць мы і пішам *а* (з *э*), але трэба заўважыць, што й тут адчуваецца ня зусім чысты гук *а*; гэта хутчэй будзе гук сярэдні паміж *а* і *э*, які ў навуковай транскрыпцыі азначаецца праз *а* з дзьвюма зьверху кропкамі (ä): ча э лавек, ра э ка, да э путат, пер э анесла, скаж э а (тут уплыў мае і аналёгія слоў, падобных да *цячэ*) і інш. А прынятае ў нашым правапісе *я* ў другім складзе перад націскам, калі ў першым няма *а* (*я*), напр.: *няпрыхільна, няпрыемна*, зусім не адпавядае жывому вымаўленьню і нават абурвае саміх-жа окаўцаў. Інакш кажучы, наш правапіс адносна *е* (*э*) *вельмі заблытаны* і патрабуе хуткага перагляду ў бок яго большай праўдзівасьці жывому вымаўленьню і, галоўным чынам, прастаты, з чым, я думаю, згодна ўсё наша грамадзянства. І вось пад гэты заблытаны правапіс нашага *е* окаўцы яшчэ хочуць падвесьці і правапіс чужаземнага *е*! Не, лепш не чапаць яго, каб не нарабіць яшчэ новых прыкрых памылак, якія-ж потым прыдзецца папраўляць.

На наш погляд, правапіс чужаземнага *е* покуль што трэба заставіць так, як у нас прынята: кожнае чужаземнае *е*=нашаму *э*, а пасьля *л, і, к*, ј—*е*. Але, не адкладаючы на доўгі час, нам трэба, на аснове вывучэньня народ-

ных гутарак, заняцца ўпрашчэньнем правапісу нашага *е* (*э*). І вось, калі дыялекталёгія нашай мовы скажа, што нам патрэбна так ці йначай зьмяніць прыняты ў нас правапіс *е* (*э*), то мы адпаведна гэтым зьменам будзем дапасоўваць і правапіс чужаземнага *е*, маючы пры гэтым на ўвазе адзінства беларускай мовы (народнай і кніжнай), прастату правапісу і адпаведнасьць яго да жывога вымаўленьня. І калі-б, прыкладам, дасьледваньне народных гутарак паказала, што нам патрэбна адносна чужаземнага *е* (*э*) правесьці поўнасьцю аканьне (пісаць: *празыдэнт*, *дапо*, *далягат*), то, я думаю, з гэтым ніхто спрачацца ня будзе. Але перш трэба вывучыць наша *е* (*э*) і ўпросьціць яго правапіс, а тады ўжо дапасоўваць да яго правапіс чужаземнага *е*, бо калі мы зробім адваротнае, то ўпадобімся таму чалавеку, які здаровую расьліну перасадзіў на хворую глебу, і якая праз гэта сама стала хворай.

Такім чынам, я прыходжу да наступных вывадаў:

1) Правапіс чужаземнага *о*, як нязьвязаны з правапісам *е*, трэба рэформаваць, згодна выкладзеным мной вышэй прынцыпам і матывам, зараз-жа.

2) З рэформай правапісу чужаземнага *е*, прымаючы пад увагу заблытанасьць і складанасьць правапісу *нашага е* (*э*), трэба часова ўстрымацца, аж покуль ня будуць выяўлены рэзультаты вывучэньня гуку *е* (*э*) у нашых народных гутарках.

# ГАЛОЎНЫЯ АСАБЛІВАСЬЦІ МОВЫ ЦІШКІ ГАРТНАГА

**Проф. П. Бузук**

Пад моваю таго ці іншага народу трэба разумець, з аднаго боку, злучнасьць усіх яе народных гутарак, з другога, літаратурную мову, г. зн. мову літаратуры, навукі і дзяржаўнага апарату. Апошняя заўсёды мае сваю паасобную, часамі даволі складаную, гісторыю. У васнову яе кладзецца звычайна якая-небудзь адна, дзьве гутаркі, але пазьней пісьменьнікі з іншых краін уносяць у вагульны скарб свае асаблівасьці, і такім чынам літаратурная мова пашыраецца, збагачаецца, а ў сувязі з гэтым і вышэйшым становіцца ровень разьвіцьця данага народу. Дзіця, сказаў адзін з мовазнаўцаў, якое размаўляе на багатай мове, значна разумней ад таго філёзофа, які думае на беднай мове. Так збагаціў украінскую літаратурную мову асаблівасьцямі заходніх гутарак Франко; так расійскі байкапісец Крылоў, які прыслухоўваўся да размоў гандлярак на рынку, унёс у расійскую літаратурную мову шмат яскравых асаблівасьцяй. Вось таму дасьледваньне мовы такіх пісьменьнікаў-рэформатараў становіць для мовазнаўца цікавы матэрыял, хоць, на жаль, яшчэ вельмі мала прац на падобныя тэмы. У расійскай лінгвістыцы ёсьць толькі некалькі артыкулаў Карскага, Буддэ і інш. аб мове Пушкіна, Гоголя, Мельнікава-Пячэрскага, у украінскай—аб мове Сковороды (проф. Сіняўскага, мой артыкул), Котлярэўскага, Шэўчэнка, у беларускай-жа навуцы яшчэ няма ніводнага артыкулу, прысьвечанага мове якога-небудзь з беларускіх пісьменьнікаў. Спыніўся я на дасьледваньні мовы Цішкі Гартнага, бо ў ёй знаходзім шмат цікавых дыялектычных асаблівасьцяй.

Цішка Гартны родам з м. Капыля, якое ляжыць у паўн.-заходнім кірунку ад Слуцку. Гутарку свае радзімы і суседніх вёсак, якія займаюць месца ў заходняй часьціне паўднёва-заходняе падмовы, Ц. Гартны і ведае добра. І вось таму зусім ясна, што ў яго мове мы знойдзем, з аднаго боку, рысы паўдн.-заходніх гутарак, а з другога боку, крыху больш сьлядоў блізкасьці і польскае мовы.

Для нашага дасьледваньня мы карысталіся і часткаю яго роману „Сокі цаліны“ (Бэрлін 1922), у якой больш усяго выявілася орыгінальнасьць і самабытнасьць яго мовы, а так-жа зборнікам яго апавяданьняў „Трэскі на хвалях“ (Менск, 1924). У 2-й частцы яго „Сокаў цаліны“,

якая нядаўна вышла ў Менску і якая прашла стылістычную рэдакцыю, бязумоўна, ужо няма тае „цаліннасьці“, якою адзначаецца 1-я частка гэтага роману. Дыялектычныя асаблівасьці знаходзім тут, галоўным чынам, толькі ў размове герояў. Ня ўсе адзнакі роднае гутаркі аўтара, аднак, адбіліся і ў тых творах, якімі мы будзем карыстацца, і вялікую часьціну іх зьнішчыла правапісная традыцыя, а ў „Трэсках на хвалях“ яшчэ і стылістычная рэдакцыя; але і таго, што мы знаходзім у зазначаных творах, будзе досыць, каб зрабіць некалькі пэўных вывадаў аб мове вядомага беларускага бэлетрыстага.

**У галіне фонэтыкі** знаходзім у яго такія адзнакі, якія будуць звычайнымі і для агульна-беларускае літаратурнае мовы: дзеканьне і цеканьне, моцнае аканьне, *дж*, *ч* са старых злучэньняў dj, tj (*гляджу*, *ураджай*, *хачу*), *ры*, *лы* замест злучэньняў *ръ*, *лъ* між галоснымі (*грымець*, *трыма*), зьмену *л* на *ў* (*воўк*), скарачэньне *і*, *у* пасьля галосных і інш. Таму мы на іх дакладна ня спыняемся. Значна больш характэрнага можна адшукаць у мове Ц. Гартнага *ў галіне морфолёгіі*.

Дав. мн. л. мужч. р. канчаецца на—*ом: бацьком*—С. ц., 46, 74, 91 і інш., Тр., 6[1]); месн. скл. мн. л. канчаецца на—*ох*: *гадох*—С. ц., 26 *паплавох*—С. ц., 69; *кустох*—С. ц., 84; *сватох*—С. ц., 121; *па рачох*—Тр., 8.

Ф. клічн. скл. адрозьніваюцца ад ф. назоўн скл.: *госьцю* мой—С. ц., 38; *таварышу*—С. ц., 94; *сваце*—С. ц., 143; *браце*—Тр., 17, 32 і інш. Захоўваюцца вядомыя формы парн. л., ня толькі вачыма (і вачмі), але і ў *ваччу* (месн. скл.), розн.—*ваччу*, у вушшу (у Сок. цал. часта пішуцца гэтыя словы з адн. *ч* і *ш*). Побач з формамі *мацеры*, *мацеру*, *мацераю* знаходзім і нескланяльную форму *маці*.

У скланеньні прыметнікаў трэба адзначыць вельмі пашыраную скарочаную форму, якая часта сустракаецца ў народнай поэзіі: *адвароцен*—С. ц., 6, 133; *агонь сцішан*—С. ц., 62; *сярдзіт*—С. ц., 74, 115; *ўтомлен*—С. ц., 79; *ўбран*—С. ц., 81; *бязволен*—С. ц., 88; *здаволен*—С. ц., 192, *сьцешан*—С. ц., 156; *азадачан*—Тр., 16; *павешан*—Тр., 21; *няпэвен*—Тр., 121 і інш.

З форм займеньнікаў можна адзначыць: *гэсты*, *гэстага*—С. ц., 122; з *гэстым*—С. ц., 130, 153; Тр. 10 і інш.

З форм лічэбнікаў заслугоўвае ўвагі прыклад *восемнанцаты* (год)—С. ц., 42. Як вядома, *н* перад *ц* у лічэбніках 11—19 можна чуць у розных мясцох Беларусі[2]). Ад *два*, як і ў большасьці іншых пісьменьнікаў, ужываюцца формы *двух*, *двум*, *двума* для мужч. р. і *дзьвюх*, *дзьвюм*, *дзьвюма*—для жан. р.

Шмат цікавых дыялектычных асаблівасьцяй знойдзем *у спражэньні*.

Ф. 3 ас. адз. л. цяпер. і будуч. часоў 1-га спражэньня часта канчаецца на—*ць*: *пойдзець*—С. ц., 28; *жывець*—С. ц., 65; *цячэць*—С. ц., 80; *уцячэць*—

[1]) У прыкладах, якія падаюцца ў нашым артыкуле, літары *С. ц.* азначаюць „Сокі цаліны“, *Тр.*—скарачэньне назвы „Трэскі на хвалях“; цыфры паказваюць старонку.

[2]) Я і чуў і ў Асіпавіцкім раёне.

С. ц. 120. Яшчэ часьцей прыклады Зас. адз. л. 2-га спраж. бяз—*ць* (звычайна, у тых выпадках, калі націск ня падае на канчатак): *мусе* зам. *мусіць*—С. ц.. 24, 87; *загавора*—С. ц., 62; *выходзе*—С. ц., 87; *гавора*—С. ц., 91; *носе*—С. ц., 96; *знача*—С. ц., 121, 131, 147, 148; *зачэпе*—С. ц., 73, *любе*—С. ц., 72 і інш.

Паўднёвыя белар. гутаркі адзначаюцца галосным гукам *о* (не пад націскам *а*) перад канчаткам *м* у перш. ас. мн. л. Некалькі прыкладаў такіх форм знашлі мы і ў Цішкі Гартнага (у размове герояў); *успадом*—Тр., 51; *правядом*—Тр., 118; *ущяком*—Тр., 177. Невялікая колькасьць падобных форм паказвае, здаецца, на тое, што граніца гэтае зьявы канчаецца недзе недалёка ад Капыля, але ў гутарцы самое радзімы Ц. Гартнага яна, мусіць, ужо ня існуе.

„Трэскі на хвалях" пераконваюць нас яшчэ ў тым, што дыялект м. Капыля ведае другую характэрную асаблівасьць паўдн.-заходн. падмовы, а іменна, формы будуч. часу на—*му*, *меш*, *ме* і т. д.: *рабіцьму*—17 ст., *рабіцьме*—78, *значыцьме*—20, *хадзіцьмуць*—25, *сьмяяцьмуцца*—30, *памятацьмуць*—31, *думацьме*—32, *ведацьмем*—42, *вучыцьмем*—53, *прасіцьму*—77, *мусіцьмеш*—93, *вячэрацьмуць*—106, *магчыме*—119, 122, *маўчацьмеш*—151, *казацьмуць*—164, *абгаварвацьмуць*—168, *прымушацьмуць*—175, *мецьмем*—190 і інш. Разгледжаныя формы, якія, паміж інш., адзначаюць і украінскую мову, зьявіліся ў выніку злучэньня неазначальнага ладу з дапамагальным дзеясловам; *рабіць*+*іму*, *імеш*, *іме* (параўн. франц. *parler-ai*, *parler-as*, *parler-a*).

Для загаднага ладу ўжываюцца звычайныя формы: *кажы*, у мн. л. *хадзем*, *пастойма* (С. ц., 97), *ущякайма* (Тр., 109), *бярэце* і інш. Заслугоўвае ўвагі толькі прыклад ф. 2-е ас. мн. л., утваранае па аналёгіі з ф. 3 ас. *хай-бы вы... прыселі*—С. ц. 40.

Пераходзячы да дзеяслоўных прыметнікаў, мы пабачым, што мова аўтара „Сокаў цаліны" адзначаецца здольнасьцю да ўтварэньня ўсіх чатырох катэгорый гэтых дзеяслоўных форм: 1) цяперашняга часу дзейнага стану [*убягаючай* (родн. скл. адз. л. ж. р.)—С. ц., 54; *манячыя*—С. ц., 57; *паглынаючая*—С. ц., 99; *узыходзячага*—Тр., 94; *парушаючым*—Тр., 136; *прадстаячае*—Тр., 193; *нарастаючай*—Тр., 249]; 2) прошл. ч. дзейн. стану (*пакінуўшага*—С. ц., 7; *пераліваўшага*—С. ц., 30; *заблісьцеўшыя*—С. ц., 55; *мігаўшыя*—С. ц., 99; *падышоўшых*—Тр., 6; *ападаўшага*—Тр., 44; *маўчаўшая*—Тр., 120 і інш.); 3) цяпер. ч. залежн. стану (*чакаемыя*—С. ц., 21; *пасылаемыя*—С. ц., 30, *пераджываемага*—С. ц., 92) і, звычайна, 4) прошл. ч. залежн. ст. Прыклады апошняе формы, якая захавалася і ў народнай мове, не адзначаем. Паміж інш., некія з украінскіх мовазнаўцаў (напр., Ол. Курило ў сваіх „Увагах до сучасн. укр. літерат. мови") вядуць барацьбу проціў ужываньня дзеяслоўных прыметн., але, як мне даводзілася ўжо аб гэтым пісаць (у II вып. „Вісника Одеськоі комісіі краезнавства при ўкр. Ак. н.", 1926), ніводная літаратурн. мова не абходзіцца бяз гэтых

форм; асабліва вялікая патрэба адчуваецца ў дзеясл. прыметн. цяпер ч. дзейн. ст., і таму добра робяць і беларускія пісьменьнікі, якія ня чураюцца зазначаных форм. Для дзеясловаў нядзейн. стану старыя ф. ф. на—*шы* могуць замяняцца прыметнікамі дзеяслоўн. пахаджэньня на—*лы : парыжэлы*. Гэтыя ф. ф. ведае і мова Ц. Гартнага.

Што датычыцца словаўтварэньня, то тут таксама нешта трэба адзначыць, уперш., ф. *голаў* побач з *галава*, прыслоўнікі з канчаткамі—*ма* (*кудэма*—С. ц., 73, 80, 149; *тудэма*—С. ц., 80; *сюдэма*—С. ц., 124) або—*эю* (*кудэю*[1])—С. ц., 84), нарэшце такія прыслоўнікі, як *вундзека*—С. ц., 89; *сёньнека*—Тр., 16, 127; *цяперака*—Тр., 7, 108.

**У галіне сынтаксу** зьвярнулі на сябе нашу ўвагу такія звароты, цалком згодныя з духам народнае мовы: 1) пабраўшыся за рукі і ссунуўшы Зося касынку, а Гэля хустку на плечы (С. ц., 57) і 2) што магло стацца з бацькамі, жывучы каля фронту (Тр., 80).

Але больш яскравым зьяўляецца слоўнік Ц. Гартнага. Яго дасьледваньне магло-б нават зрабіцца тэмаю для паасобнае працы. Гэта, думаю, стаіць у сувязі з тым, што мова Случчыны ў гэтых адносінах наогул адзначаецца багацьцем і рознастайнасьцю. Л. М. Цьвяткоў у васабістай размове са мною перадаў мне аб тым, што для слоўніка жывое беларускае мовы найбольш усяго матэрыялу падае Слуцкая акруга.

Некаторыя са слоў, што спатыкаюцца ў Цішкі Гартнага, не знаходзім у слоўніку Насовіча. Вельмі цяжка было-б выпісаць усе лексычныя дыалектызмы Ц. Гартнага, і таму мы ўспамінаем толькі галоўныя: *вымерхаўшыся*)* (утаміўшыся)—С. ц., 5, 18; *скрэмзаную*)*—С. ц., 5; *сьлібізуючы*—С. ц., 5, *сьлібізаваў* (чытаў па складох)—Тр., 89; *пілявая*)*—С. ц., 5 і *рупіцца* — часта; няма *хэнці*)* С. ц., 12; *луста* (хлеба), *пашлёгвала*)*—С. ц., 16; *чаўпецца*—С. ц., 17; *абламзаў*)*—С. ц., 19; *скароджаньне*—С. ц., 21; *рымст*)*—Тр., 94; *нарымсьцілася*)*—С. ц., 22; *няўрымсьцішся*)*—С. ц., 73 і інш.; *пляўузгае*)*—С. ц., 24; Тр., 14; (не) *пляўузгай*)*—Тр., 55; *надоячы* (на днях)—С. ц., 24; *трапунак*)* (=выпадак)—С. ц., 25; *хэўра* (кампанія) *)—С. ц., 26 і інш.; *хаўрусная*)* (справа)—Тр., 69; *нелапая*)*—С. ц., 65; *нелапыя*)*—С. ц., 26; *кплю, кпіш*—С. ц., 27; *прыкархнула* (=рас. задремала)—С. ц., 46; *шманаю*)*—С. ц., 44; *не шмануў*)*—С. ц., 31; не *шманаючы*—Тр., 163; *няўшманкі*—Тр., 41; *валтужаньня*)* (з жыцьцём)—С. ц., 40; *шалабоніць*,) кламіць*—С. ц., 44; *тузнуць*—часта; *плойму*)* (запытаньняў)—С. ц., 47; *кацёлкаю*—С. ц., 48; *машаставаю*)* (стужкаю), хвальбон—С. ц., 48; *уталопіла*)* (вочы ў акно)—С. ц., 14; *падрабязіў*)* (рас. засеменил)—С. ц., 49; *скнарная* (кабета)—С. ц., 50; *балхвіў*)* С. ц., 51; *балхвяць*—Тр., 34; *ласьне* (=хіба)—часта; *ашыгаць*)* (=рас. уплетать)—С. ц., 56; *валэндацца*)* С. ц., 65; *наўда* (=карысьць)—С. ц., 72;

[1]) *Кудэю, тудэю, сюдэю*, я чуў у Асіпавіцкім раёне.

*) Слоў, адзначаных зорачкаю, няма ў слоўніку Насовіча.

*пражэцца*)*—С. ц., 74; *пражацца*—Тр., 50 (=жарятся); *тувальняю*)* С. ц., 76; *козлыт*)*—С. ц., 77; „імшаць"*)—С. ц., 80; *аскабалка*)*—С. ц., 85; *аскабалачкі*, —Тр.,94; *бадзяліся*—С.ц.,93 (=рас шлялись, бродили), *бадзяемся*—Тр.,43; *бадзяецца*—Тр., 169; *запуліў*)* (гарнец гарэлкі)—С. ц., 106; *кноразавы* (вочкі)—С. ц., 104; *сьцігалі*—С. ц., 106; *налпам*)*—С. ц., 110; *салоха, негеглец*)*—С. ц. 110; *каразьлівы*—С. ц. 122; *каразьліваю*—Тр., 5; *лахудра*)* С. ц., 124; (дамо) патолю*) С. ц., 126; *атава*—С. ц., 141; *бізунец*—С. ц., 142; *мінтрэжылася*)*—С. ц., 144; *хініся*—С. ц., 147; *нацянькі*)*—С. ц., 149; Тр., 107, 201; *спакволя* (=покволом)—Тр., 27; *моташна*)* (=укр. моторошно)—Тр., 32; *золак*)*—Тр., 32; *катурхнуў*)*—Тр., 40; *катурхаць*—Тр., 67; *выпетрала*—Тр., 44; (не хапае) *магі*—Тр., 44; *мерзькануў*)* (у бліжэйшы двор)—Тр. 57; *тлустымі* (рукамі)—Тр., 68; *закапыліў*)* (губкі; параўн. падобн. укр. слова)—Тр., 71; *спляжыць*—Тр., 95; вочапы*) (калодзезяў)—Тр., 97; *омегам*)*—Тр., 105; вар'ят—Тр., 170; (на) *спрунжынах* Тр., 175; *клыпаўшага*—Тр., 35 (=хромавшего) і шмат іншых.

Некаторыя з пералічаных словаў (напр., *хэнці, тлустымі, спрунжынах*)—відавочныя полёнізмы, другія, як напр., *руліцца, луста, скароджаньне, рымст, няўрымсьцішся, валэндацца, бадзяемся, найда, клыпае*—запазычаны з літоўскае мовы, або ў абедзьвюх мовах зьявіліся з якое-небудзь трэцяе агульнае крыніцы[1]); пахаджэньне-ж большасьці з іх пакуль што застаецца задачай для будучых этымолёгічных дасьледзін.

Яшчэ некалькі слоў аб стылі Ц. Гартнага. Ён любіць фігуру паўтарэньня (гл. С. ц., стар. 31), а з тропаў, галоўным чынам, мэтафору. Некаторыя з яго вобразаў вельмі ўдатныя: хмары... тушылі адну зорку за другой (С. ц., 96); скорамоўкаю, разбаўленаю сытым сьмехам (С. ц., 104); па небе швэндаліся хмары (С. ц., 116); на тварах іх абодвух загулялі рэзвыя ўхмылкі (С. ц., 138); празрыстае сонца ўлівалася сваімі праменьнямі ва ўсе чатыры вакны хаты, змываючы са шкла шыбаў прыгожыя ўзоры марозу (Тр., 101); па канаўках маршчынах (Тр., 103). З народнае мовы ўзята маляўнічае, відавочнае адмаўленьне: *ні каліва, ні званьня*—С. ц., 42, 52 або *ні званьня, ні беднага*—Тр., 99 або, нарэшце, *ні каліва, ні беднага*—Тр., 10.

Закончыўшы агляд мовы Ц. Гартнага, мы бачым, што ён, папершае, пашырае рамкі слоўніка беларускае літаратурнае мовы, падругое—захаваньнем этнографічнага колёрыту ў мове сваёй і сваіх герояў дае цікавы матэрыял для вывучэньня Случчыны, асабліва карысна цяпер, калі вядзецца энэргічная праца па краязнаўчаму дасьледваньню Беларусі.

21-VI 1926.

---

[1]) Адносна гэтага глядзі Карскага, „Белорусы", т. I, стар. 125 і наст., а такжа Казім. Бугі, Славяно-балтийские этимологии, Русск. Фил. Вестн. LXXIII і LXXV.

# ЧАРЛІ ЧАПЛІН—РЭЖЫСЭР [1]

*(„Парыжанка“)*

**Хр. Херсонскі**

„Парыжанку“ нам мала глядзець два і тры разы, яе трэба вывучаць. Яна можа служыць настольнай фільмай кіно-працаўніка. Спосабы Чапліна такія простыя і, здавалася-б, беспасрэдныя, ясныя, але разам з тым нязвычайна тонкія, удумлівыя,—мудрыя.

## Рэакцыя і прогрэс

Формальная навіна не зьяўляецца забаўкай для рэжысэра, ён сьціплы; яго мэтод называюць рэакцыйным,—крокам назад да старога павольнага матэрыялізму з прысмакам тэатральнасьці. У фільме нібы-то няма орыгінальнай зрокавай дынамікі кіно. Такія папрокі Чапліну можна зрабіць толькі пры павярхоўных адносінах да культуры мовы кіно. Гэта ўсё роўна, як-бы эфэктоўнай ігры словам у куплетах эстраднага жанру аддаць перавагу перад значэньнем слова ў драматургіі Шэксьпіра, Остроўскага, Сухава-Кобыліна. Чаплін уносіць глыбокую культуру ў мову псыхолёгічнага кіно, расказвае з такой сілай і паўнатой рэалізму, карыстаецца сродкамі кінематографа з такім пачуцьцём мастацкай меры, што глядач запамінае аб кіно-тэхніцы. Чаплін ня ставіць сябе на бегавую дарожку ў шэраг піротэхнікаў кіно, якія запальваюць аўтарскую ілюмінацыю навокал кожнага свайго трюка і сьпяшаюцца далей, як драпежнікі з заяўкамі на золата. Але яго мэтод таксама далёкі ад эпігонства і старасьці. Ён распрацоўвае свой вучастак з поўнай сур'ёзнай увагай і працавітасьцю.

## Павевы літаратуры

На сэансе „Парыжанкі“ адчуваеш такое самае ўражаньне, як у часе чытаньня геніяльнага псыхолёгічнага роману, або як прысутнічаеш на мастацкім спэктаклі псыхолёгічнай п'есы, якая хвалюе. І тады беспасрэднае

---

[1]) Вывучэньне мэтоду кіно-мастацтва цяпер становіцца ў нас у цэнтры ўвагі мастацтвазнаўства для практычнага аўладаньня кіно. Таму высьвятленьні тых узораў, якія нам дае Эўропа і Амэрыка, даюць шматбаковы інтарэс для дзеячоў мастацтва СССР і паасобку Беларусі, якая пачынае сваю кіновытворчасьць. Чарлі Чаплін, вялікі амэрыканскі артысты, зьяўляецца адным з піонэраў мастацкай культуры кіно. Па сваім незалежным сьветапаглядзе ён можа быць вылучан намі з масы іншых рэжысэраў, якія працуюць у буржуазным грамадзтве.

ўражаньне ад сэнсу рэчы мацней любаваньня яе формай,—чытач запамінае аб тэхніцы кнігі, глядач аб умоўнасьці тэатральнай сцэны. Ігра тэхнікі не заўважваецца,—яна цалком паслужыла для выяўленьня думкі і вобразаў цэльнага мастацкага твору, які адбівае жыцьцё. Так ствараюцца клясычныя творы. І калі Чаплін для гэтага выкарыстаў лепшае з мэтодаў літаратуры і псыхолёгічнага тэатру, то тым лепей для кіно. У „Парыжанцы" многа напісаў, але вы ня лічыце іх залішнімі і не заўважаеце іх колькасьці. Не заўважаеце і тэатральнай умоўнасьці дэкарацыі, таксама як багацьця наплываў, пераходу з агульных плянаў на буйныя ды інш. Уражаньне і думка гледача плыняць зусім ідэнтычна з разьвінаньнем сюжэту і ходам думкі рэжысэра.

Да кінэматографа ня выжыты яшчэ адносіны баўленага, цікавага, атрымаўшага новую захопную тэхнічную забаўку. Яшчэ шмат маленства. Тэхнічная ігра робіцца самамэтай, і кожны стараецца дагадацца, як-бы гастрэй, больш неспадзявана закрануць і зьдзівіць гледача блескам вынайдзеньня. Чаплін ня ставіць сабе такіх мэт. Сродак у яго не звараючаецца ў мэту. Але ён чула карыстаецца зрокавым матэрыялам кіно для выяўленьня розумазрокавага зьместу фільмы: для псыхолёгіі і філёзофіі.

**Сюжэт і дыялектыка апавяданьня**

Сакрэтаў у рэжысэра Чапліна нямнога. Асноўныя рысы яго мэтоду можна прасачыць па трох кірунках: 1) адносіны да сюжэту; 2) мера думкі і простасьці ў паасобных сцэнах і кадрах; 3) праца з актарам.

Сюжэт сцэнарыя (самога Чапліна) зусім звычайны, нават будзённы. Хлапец і дзяўчынка любяць адно аднаго. Бацькі, провінцыйныя буржуа, супроць іх шлюбу. Закаханыя надумалі ўцячы ў Парыж, каб пабрацца і жыць самастойна. У часе ад'езду хлапца затрымала сьмерць бацькі. Дзяўчына ня ведае прычыны і, страціўшы веру ў каханага чалавека, едзе адна. Прашлі годы. Яна—утрыманка нежанатага парыскага багатыра. Ён—бедны мастак, жыве ў Парыжы з маткай. Спатыкаюцца. Ранейшае каханьне зноў кліча іх адзін да аднаго. Жанчына хістаецца паміж сваім новым раскошным жыцьцём з „сябрам" і марай аб звароце да „сапраўднага шлюбу" з каханым. Ён кліча яе, але, калі яна надумала вярнуцца, у яго пад уплывам маці не хапае мужнасьці адкрыта ажаніцца на „такой жанчыне". Яна зноў траціць веру ў яго і на новыя просьбы адказвае халадам. Хлапец забівае сябе. Яна каецца, яе матка годзіцца з ёю і абедзьве жанчыны ўдваіх уцякаюць з Парыжу да ідылічнага провінцыяльнага жыцьця. Выхоўваюць чужых дзяцей... Зноў дзяўчынку і двух хлопчыкаў...

Чаплін кажа,—гэта звычайная гісторыя паўтараецца; у буржуазным грамадзтве яна будзённая і заўсёдная. Вечна аднолькавыя адносіны мужчыны да жанчыны, вечна шчырыя і нікчэмныя словы, якія кажуць адно аднаму, вечна жанчына на раздарожжы. З аднаго боку, романтыка адзінага каханьня, з другога—жыцьцёвая філёзофія цыніка „нежанатага парыскага багатыра", які жэніцца па разьліку на багатай і захоўвае

ўтрыманку: „мы будзем, як раней, таксама добра праводзіць час“... Ён не разумее, чаму яна хвалюецца—„што табе трэба? У цябе ўсё ёсьць“... Грошы, „сябра“-ўтрыманец і, калі ласка, калі хочаш, яшчэ палюбоўнік. „Толькі будзь асьцярожна“...

Самаўпэўнены цынік у гэтым буржуазным грамадзтве больш самастойны ў сваіх дзеяньнях, чым другія. Ён сам ладзіць сваю „сям'ю“ і з пачуцьцём перавагі і жалю кажа жанчыне:—„Твая бяда ў тым, што ты сама ня знаеш, чаго табе трэба“. Хлапец, яго матка, абодва бацькі,—ня хочуць прыняць факт такім, якім ён ёсьць, іх дзеі цалком пад уплывам прадузятай моралі, або пад уплывам іх самых і іх кола. Нават з шчырых пабуджэньняў каханьня яны парушаюць волю адзін аднаго. У гэтых абставінах паміж „вольным“, але распусным Парыжам і моральнымі, але нявольнымі людзьмі, трацiцца жанчына.

Чаплін уважна, глыбоканаглядальна да ўсіх дробезяй расказвае гэтую звычайную мэлёдраму. Ён паказвае, з якой няўмольнай пасьлядоўнасьцю сьвядомасьць і ўчынкі людзей вызначаюцца іх быцьцём. Яго цікавіць ня столькі романтыка настрояў і перажываньняў людзей, колькі дыялектыка іх быту. Ён выкрывае пановаму сюжэт, які зрабіўся да яго зьбітым у ідэалістычным романтычным асьвятленьні. Чаплін знаходзіць у рэальным яго самае рэальнае, яго рухальныя спружыны. І зьбіты сюжэт робіцца вялікім. Мэлёдрама, прасякнутая тонкімі рэжысэрскімі да яе адносінамі, крыху-па-крысе паўстае як трагікамэдыя і трагэдыя.

Цікава, што шмат каму цяжкавата адзначыць род „Парыжанкі“. Што гэта: мэлёдрама, ці псыхолёгічная драма, ці трагікамэдыя. Па сюжэту—мэлёдрама, па рэжысэрскай пастаноўцы—трагікомэдыя. Гэта спосаб вялікага мастака. Дзякуючы яму з будзённага, зьбітага, вельмі знаёмага сюжэту, вырастае рэч, як новае вынайдзеньне. Думка аўтара рэжысэра захапляе гледача. Ці ня ў тым наогул прымета таленту, што ён прымушае нас на знаёмыя рэчы пазіраць новымі вачыма, вынаходзячы ў іх новы сэнс.

Такім павінен быць асноўны спосаб кожнага рэжысэра: паказаць унутраную дыялектыку, сюжэту і выявіць свае да яго аўтарскія адносіны, сваю крытычную думку. Бяз гэтага нашы кіно-рэжысэры застануцца толькі рамесьнікамі і ня здолеюць зрабіцца аўтарамі кіно-пісьменьнікамі

**Мастацкая мера рэчаў**

Ці многа трэба Чапліну абсталяваньня для свае фільмы? Тут Чаплін дае другое заданьне, другі прынцып мастацкага твору: срогая экономія сродкаў, найбольшае выкарыстаньне скупа-абмежаванага матэрыялу, чулая мастацкая мера.

Чаплін дабіваецца паразьлівага іншы раз уражаньня самымі простымі сродкамі. Не забіваючы гледача дэкорацыйнымі эфэктамі, ён наглядальна і сэнсоўна выкарыстоўвае кожную дэталь абсталяваньня, кожную рысу кіно-малярства.

Абыходжаньне людзей з рэччу ўваходзіць складаным элемэнтам у кінэматургію фільмы. Гэткія вызначна знойдзеныя нагляданьнем жыцьця: куфэрак, што скідаецца нашэльнікам на вакзале; гутарка па тэлефоне; каралі жанчыны; саксафон нежанатага; запіска; сьвечка, што дагарае; вячэра ў рэсторане і вячэра, што чакае ў хаце; чакалядныя цукеркі, бакалы з віном; мужчынскі каўнерык, што вывальваецца з століка камоды ў жаночым будуары; паламаны абсац; салодкае пячэньне ў маці, якая прынясла накупленае; гульня з ілюстраваным часопісам у часе гутаркі таварышоў; люлька бацькі, што звалілася, і шмат якія іншыя дэталі ў кожнай сцэне. Усе яны зьвязаны з перажываньнямі людзей, і скрозь Чаплін выкрывае ў іх звыклым ужываньні такі просты рэальны і глыбокі псыхолёгічны сэнс.

Па закончанай простасьці, як лепшы ўзор мастацкай меры для выяўленьня перажываньня чалавека, выдатна сцэна на вакзале. Адзіноцтва дзяўчынкі, якая прыпынілася ў дзьвярах на пэрон і цені ад поезду, што ідзе міма, толькі цені, якія бягуць па яе твары. На вакзале нічога і нікога больш няма, апрача яе, нашэльніка і рукі касіра ў акенцы.

Таксама выдатны спосаб перанясеньня ўсхваляванай гутаркі тарыышак на аўтоматызм масажысткі. З дзівосным тактам, не перашоўшы мяжы ў сьмяхотнае, дано самозабойства мастака, які падае ў вэстыбюлі рэсторану да ног статуі агаленай жанчыны ў халодную ваду акварыуму. Агаленьне дзяўчыны на вечарынцы, расказанае са сполахам ачунялага п'янага.

Ува ўсіх сцэнах аб'ясьненьняў людзей, моцных перажываньняў і сутычак, выкрыты тонкімі спосабамі, за дапамогай простых рэчаў і простых слоў,—уся ўнутраная дыалектыка. Чаплін простымі мастацкімі вобразамі ўмее сказаць шмат чаго.

Скрозь вы адчуваеце яго думку,—яна вамі ўладае.

І скрозь разьвінаецца само рэальнае жыцьцё людзей, якія дзейнічаюць.

**Актор—чалавек**

Адбітку жыцьця Чаплін дамагаецца (трэцяе заданьне сцэнарыстым і рэжысэрам), у першую чаргу, працай з акторамі. Бяз людзей рэчы ня жывуць. Без псыхолёгічнага ўжываньня актораў у драматычны сэнс кожнай сцэны яны не аўладалі-б усім матэрыялам сцэнарыя, абставінамі дзеяньня і ня выявілі-б композыцыі рэжысэра.

Вучэцеся так уладаць акторамі і выклікаць у іх столькі мастацтва, столькі творчай ігры. Адольф Мэнжу іграе таленавіта, але яго зрабіў такім майстар Чаплін. І няма ў фільме ніводнага чалавека, які зрабіў-бы справу сваю дрэнна, эпізодычныя ролі таксама жыцьцёвыя і яскравыя, як і асноўныя. Гэта даецца толькі ўпартай і стараннай працай рэжысэра над стварэньнем усяго колектыўнага ансамблю. Для гэтага рэжысэру-мастаку трэба быць, як Чаплін, наглядальнікам жыцьця, псыхолёгам і філёзофам.

Тады малыя рэчы, бедныя абсталёвачныя сродкі, простыя сюжэты,—у мастацтве робяцца вялікімі.

Трэба вучыцца так працаваць, раней чым захапляць багаты і рознастайны матэрыял. Мы-ж да гэтых часоў не адвыклі дзейнічаць, як драпежнікі, захопнікі і растратнікі свайго мастацкага дабра.

Пачакайце круціць,—прыглядзьцеся да „Парыжанкі" Чапліна.

## Два стылі і сынтэз

У рэжысуры Чапліна гучыць для нас сучаснае патрэбнае культурнае слова. Асабліва для кіно-працаўніка СССР, у якога цяпер псыхолёгія, думка, рэальная жыцьцёвасьць мастацкай фільмы стаяць на чарзе асіленьня на першым месцы, пасьля аўладаньня „Кіно-глазам", сталёвай магутнасьцю плякатнага скульптурнага „Броненосца—Потёмкина".

Стыль „Потёмкина"—колектыўная дыялектыка эпохі,—стыль рэжысэра Чапліна—дыялектыка індывідуальнасьці чалавека пад уплывам абставін. Два канцавосьсі мастацкіх дасягненьняў. Яны не выключаюць адно аднаго і, злучаючыся разам, дапаўняючы адно аднаго, дадуць у сынтэзе новае паглыбленьне культуры і тэхнічнае ўдасканаленьне мастацкай мове кіно. Ці не да гэтага сынтэзу нам трэба імкнуцца?

## Дон-Кіхоцтва Чапліна

Але сам Чаплін не рэволюцыянэр.

Мы ведалі капялюшык, палачку і скапытлівую паходку Чарлі Чапліна,—коміка, эксцэнтрыка, агульнавядомага героя кароценькіх камэдый Ён вабіў сваім тонкім гумарам. У яго сьмеху была сумная іронія і дэмократызм. Ён насіў выгляд няўдачніка, маленькага і слабага грамадзяніна шумлівых гарадоў Амэрыкі, якога заўсёды крыўдзяць у жорсткім і халодным вялікім сьвеце. Сьмешны чалавечак, філёзоф, што ня сумуе, нёс шчырую сымпатыю да прыніжаных і пакрыўджаных маленькіх людзей. І калі ён дасьціпна перамагаў злых асілкаў і полісмэнаў, то публіка сьмяялася шчыра: спачувальна. Асабліва любілі яго дзеці. Але перамагаў ён заўсёды бяскрыўдна і нясур'ёзна, а толькі жартуючы.

Сваю філёзофію Чаплін псыхолёг выкрывае зноў у рэжысэрскім апавяданьні аб парыжанцы У фільме ёсьць мораль. У Чапліна ёсьць некаторая незалежнасьць у сьвеце буржуазнага кіно. Але ён яшчэ не рэволюцыянэр. Ён толькі дзівак, дон-Кіхот. З сумнай іроніяй ён смуткуе і вінаваціць буржуазнае грамадзтва. Мякка і ня вельмі рашуча,—ня йдучы на барацьбу. Ён толькі паказвае і спачувае. Але і ў такім выглядзе „Парыжанка" не спадабалася амэрыканскай публіцы, і ці ні ў яе палоне Чаплін канчае фільму тым, што варочаецца да вясковага жыцьця? Там яна разам з „духоўным айцом"—патэрам (патэр у савецкай рэдакцыі фільмы выкінуты) выхоўвае чужых дзяцей. Гэта мораль—выхад? Але і тут вы адчуваеце сумную іронію думкі Чапліна: ад гэтага духоўнага айца і ад вясковага жыцьця, дзеці, калі падрастуць,—зразумела, зноў пойдуць да ваблівых агнёў Парыжу.

Чаплін не барацьбіт,—а гаротнік.

# КНІГАПІС

**К. Міцкевіч. Мэтодыка роднае мовы.** *Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск—1925 г., стар. 138; 10.000 экз.*

З боку высьвятленьня мэтодаў працы кніжка адзначаецца эклектычным характарам.

Аўтар, зразумела, зьяўляецца прыхільнікам новых спосабаў навучаньня (мэтод цэлых вобразаў у навучаньні грамаце, формальны аналіз у морфолёгіі, творчы дыктант, літаратурна-эстэтычныя экскурсіі і т. п.), але ня бывае бязумоўным пасьлядоўцам таго ці іншага аўторытэту.

Каб таксама і чытачы яго кніжкі мелі вольны выбар, ён дае ім магчымасьць азнаёміцца з усімі кірункамі ў мэтодыцы роднае мовы.

Аднак-жа ёсьць пэўныя пункты, якія ён лічыць грунтоўнымі, абавязковымі для кожнага мэтодыстага роднае мовы. Гэта—навуковыя падставы мэтодыкі; выходзячы з гэтых пунктаў, чытач можа выбраць сабе той ці іншы шлях у практыцы выкладаньня, але павінен заўсёды мець іх на ўвазе.

Трэба якраз гэтыя прынцыповыя пытаньні лічыць асабліва важнымі, бо ў нашай маладой культуры першыя крокі выяўленьня падстаў працы, бязумоўна, маюць вялікае значэньне для будучыны. Як уяўляе сабе аўтар „мэтодыкі“ гэтыя прынцыпы. Зразумела, яму менш прыходзіцца спыняцца на агульных падставах дыдактыкі (абавязковасьці паступовага пераходу ад бліжэйшага да далейшага, ад конкрэтнага да адцягненага і г. д.), бо гэтыя прынцыпы ўсім вядомы.

Але затое яму было неабходна разглядзець цэлы шэраг спэцыяльных пытаньняў, зьвязаных, галоўным чынам, з агульным мовазнаўствам.

У § псыхо-фізычныя процэсы пры чытаньні ён паказвае тры моманты гэтае дзейнасьці: 1) зрокавае ўспрыманьне слоў і слоўных радоў, 2) гука-рухавую працу, якая вядзецца або выяўна—пры чытаньні ўголас, або прыхована—пры чытаньні толькі вачамі і 3) прадметнае прадстаўленьне, або злучэньне з даным словам яго значэньня.

На гэтым грунце аўтар выяўляе розьніцу паміж чытаньнем малаграматнага чалавека (па складох), добрапісьменнага вучня (па цэлых групах слоў).

Але няправільна думае аўтар, што пры нормальным здабываньні навычак ёсьць „непатрэбныя дзеяньні“, якія пасьля „зусім зьнікаюць“. Справа ў тым, што дзеяньні гэтыя ня зьнікаюць, але пераходзяць у падсьвядомую сфэру (ніжэй „парога сьвядомасьці“); мы іх не заўважаем, але яны там існуюць (стар. 27).

Гаворачы аб пабудове нашага моўнага апарату, аўтар коратка і нават ці зусім правільна кажа: „Тая ці іншая ступень нацягнутасьці галасавых зьвязак вызначае сабою вузкасьць або шырыню галасавое шчыліны“. Справа ў тым, што трэба было-б сказаць аб збліжэньні ды аддаленьні адзін ад аднаго двух чарпакавідных

храшчавых адросткаў, да якіх прымацаваны заднімі канцамі галасавыя зьвязкі. Далей, чаму было злучаць поласьці носа з поласьцю рота і ад гэтае апошняе аддзяляць ніжнюю сківіцу? (стар. 50). Велічыня ратавое поласьці ў кожным паасобным выпадку залежыць ад прыбліжэньня ніжняе сківіцы да верхняе. Таму-ж лепш было-б не гаварыць паасобку аб ніжняй сківіцы. Далейшыя назіраньні аўтара ў галіне фізыолёгіі гукаў мовы зусім правільныя і добра выяўлена самая сутнасьць розьніцы паміж мгненымі і працяжнымі зычнымі, аб зьмене артыкуляцыі ў залежнасьці ад суседзтва і г. д.

У § „Выясьненьне сувязі паміж мысьлямі" (стар. 70) аўтар удала ставіць на паасобнае месца лёгічны аналіз складанага сказу. Даўней быў аналіз лёгічна-формальны, дзе панавала поўная блытаніна, мешаніна лёгічнага і формальнага элемэнтаў. Трэба, аднак-жа, заўважыць, што на гэтым пытаньні можна было-б застанавіцца даўжэй, а не ўдзяліць яму ўсяго толькі адну старонку.

Таксама і формальным аналізам простага і складанага сказу трэба было-б зацікавіцца значна больш, чымся гэта робіць аўтар (стар. 119 і 120). У пытаньні аб навучаньні правапісу аўтар зусім слушна надае пераважнае значэньне зрокавым і рухавым уражаньням, а тэорэтычнае веданьне правіл ортографіі ставіць на другім месцы.

Але чаму ён гаворыць, што „правапіс—гэта ёсьць пэўная сыстэма правіл, якія ўстанаўляюць аднастайныя спосабы перадачы мовы ў гукавым пісьме"? (стар. 92). Як бынцам пісьмо складовае (напрыклад, у сэміцкіх мовах) не патрабуе веданьня правіл правапісу.

З боку перадачы сваіх уражаньняў ад розных прадметаў, сваіх назіраньняў „маладыя пісьменьнікі"—школяры, па думцы аўтара, дзеляцца на на наступныя групы: 1) Тып апісальны, які толькі ўспрымае (інакш „пасыўны"). 2) Тып назіральны (які імкнецца да сынтэзу, да злучэньня ўражаньняў у вадну суцэльнасьць). 3) Тып адчувальны (які адчувае вельмі моцна ўсе ўражаньні, усяму спагадае, назірае сувязі і значэньне ўсяго, што ён бачыць). 4) Тып вучоны (які на месца назіраньня ставіць факты).

Гэтае пытаньне аб розных тыпах пісьменьнікаў дзяцей высьветлена аўтарам усебакова, даны нават прыклады з іх творчасьці (стар. 106 і 107).

Зразумела, могуць існаваць і пераходныя тыпы, нават трэба мець на ўвазе, што ў чыстым сваім выглядзе наўрад ці сустракаюцца асноўныя чатыры катэгорыі пісьменьнікаў. Гэта—ідэальны падзел, які перадае жыцьцёвыя факты толькі прыблізна (паміж іншым—мы гэта бачым і ўсюды).

Уся інтэлектуальная праца чалавека цесна зьвязана з дзейнасьцю памяці. Як лёгічная праца, таксама і творчая фантазія вымагаюць матэрыялу; гэты матэрыял—сума даўнейшых уражаньняў перахоўваецца ў запасных складах памяці.

Аўтар паказвае тры віды памяці зрокавы, слыхавы і рухавы. Шкода толькі, што гаворачы аб рухавым відзе, аўтар думае пераважна аб рухах галасавога апарату (стар. 75 і 76). А паміж іншым, для памяці паважнае значэньне маюць і рухі ручных цягніц, якія працуюць пры пісаньні.

Будучы сам мастаком-пісьменьнікам, К. Міцкевіч (усім вядомы Якуб Колас у вершах, або Т. Гушча ў невершаваных творах) асабліва добра, як і трэба было спадзявацца, апрацаваў § „Чытаньне мастацкіх твораў".

Адзнакаю мастацтва зьяўляецца абагульненьне жыцьця ў яскравым вобразе. Вучні павінны ўспрыняць ня толькі ідэю мастака і вобраз, але ўвесь твор, як суцэльнасьць. Мы ўжо ведаем, што К. Міцкевіч зьяўляецца прыхільнікам запамінаньня за дапамогаю цэлага комплексу ўражаньняў ад органаў надворных пачуцьцяў. Цьвёрда праводзячы свой прынцып,

ён і ў даным выпадку стаіць за цэлы комплекс уражаньняў; твор чытаецца, тлумачыцца, ілюструецца малюнкамі, інсцэніруецца і г. д. Гэта ўсё якраз дае магчымасьць назаўсёды запамятаць зьмест і форму твору, а адначасна разьвівае самадзейнасьць і працоўныя навычкі ў вучнях (стар. 84 і 85).

Галоўныя падставы цікавае кніжкі К. Міцкевіча згаджаюцца з прынцыпамі навукі і з вымаганьнямі новага рацыянальнага жыцьця. Тыя недахопы, што мы паказалі, трэба будзе выправіць пры новым выданьні, якое павінна зьявіцца ў хуткім часе, бо кніжку, адначасна і цікавую і карысную, бясспрэчна, скора раскупяць.

**Л. Цьвяткоў.**

**1. Якуб Колас. Казкі жыцьця.** *Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. Менск —1926.*

**2. Максім Гарэцкі. Ціхія песьні.** *Апавяданьне. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск—1926.*

Перада мною дзьве літаратурныя навінкі.

Першая з іх—зборнік апавяданьняў, большая часьціна якіх была ўжо раней надрукована. Амаль што ўсе апавяданьні гэтага зборніку зьвязаны цэльнасьцю ідэі і героя. Герой гэты— прырода, галоўным чынам, беларуская. Гарачаю любоўю да яе і дышуць усе творы аўтара, які імкнецца давесьці, што—

Не ў аднэй толькі людзкай душы
Зерне ёсьць хараства —
Аб ёй казку складае ў цішы
Колас нівы, трава.
Не ў адным толькі сэрцы людзей
Іскра праўды гарыць—
Аб ёй песьню пяе салавей,
Аб ёй рэчка журчыць.
(Замест прадмовы).

Аб усіх кутках беларускай прыроды вы знойдзеце ў гэтым зборніку. Аўтар раскажа вам і аб балоце, і аб вадзе і лясох і, нарэшце, аб насельніцтве гэтых стыхій прыроды.

Ня ўсё ў „Казках жыцьця“, аднак, мае аднолькавую каштоўнасьць. Большасьць іх (напр., Хмарка; Дудар; У балоце; Крыніца; Што яны страцілі; Ноч, калі папараць цьвіце і інш.) напісаны з вялікім мастацтвам. Як цёпла і проста, напр., аўтар нам расказвае аб хмарцы, якая зарадзіўшыся з расы родных ніў, пасьля бадзяньня зноў варочаецца на радзіму, дзе і „заплакала халоднымі сьлязьмі над роднымі палямі“. Гэта апавяданьне, як нам давядзецца далей гаварыць, ілюструе пэўную грамадзкую ідэю, але незалежна ад таго яно можа заняць пачэснае месца ў комплекснай хрэстоматыі, як ударны поэтычны малюнак для комплексу: „Вада і дождж“.

Гэта ўсё адзін бок „Казак жыцьця“, зразумелы нават для дзіцячага веку. Другі бок—гэта сымболізм. Амаль што кожны твор данага зборніку мае, апрача простага, беспасрэднага, яшчэ і другі, алегорычны сэнс. У „Дудары“ (1906) аўтар змалёваў цяжкі лёс свайго народу, у якога пры старым расійскім урадзе заставалася толькі адно права—сьпяваць людзям песьні, але сьпяваць іх сваёю мовай. Упамянутаю „Хмаркаю“ Я. Колас, відавочна, хацеў давесьці некаторым сваім аднапляменьнікам, што „ў родным кутку работы досыць для кожнага“.

Вельмі добрае ўражаньне робіць апошняе апавяданьне, прысьвечанае Янку Купале. Юнаку лясун, русалкі і іншыя лясныя істоты раздаюць свае падарункі—„Адвечную песьню“, „Жалейку“ і інш. Тут мы пазнаем назву твораў, якія гэты юнак-Купала сам падарыў свайму народу.

Зусім паасобна стаіць першае ў зборніку апавяданьне „У балоце“. Загразла ў балоце панская брычка разам з панскаю сям'ёю. Паном рашылі дапамагчы мужыкі. Але пану і тут захацелася камандаваць. Калі-ж яго каманды, якая толькі перашкаджала, мужыкі не паслухалі, ён пачаў лаяцца. Кінулі тады і брычку, і паноў сяляне і пашлі дадому.

„А брычка і паны ўсё глыбей у гразь лезуць“. У 1907 г. гэта апавяданьне, напісанае ў гумарыстычным тоне, бязумоўна, рабіла яшчэ большае ўражаньне.

Есьць аднак, і не такія ўдатныя апавяданьні; незаўсёды ў іх ясныя сымболі. Так, здаецца нам, не адразу шырокія колы чытачоў зразумеюць ідэю твораў „Зло—незаўсёды зло“ або „Кажух старога Анісіма“. Між тым, як даводзіў яшчэ Потэбня, поэзія сваёю вобразнасьцю якраз і імкнецца да мэты палягчэньня тае ці іншае ідэі. Але, наогул беручы, кніжка Я. Коласа чытаецца лёгка, ня так, як тыя творы, адносна якіх даводзіцца ўспамінаць словы Чэхава, якія ён сказаў аб адным з романаў Сянкевіча ( ў лісьце да Суворына), „Одолеваю семью Полонецких“.„

Ціхія песьні" Гарэцкага зьява, бязумоўна, новая і сьвежая ў беларускай літаратуры. Аўтар апавядае чытачом аб звычайным лёсе беларускага хлопца ў старыя часы. Рос у чорнай, закапцелай хаце, у купе брудных лахманоў, вучыўся ў расійскай школе, служыў потым батраком, а калі пачалася вайна, загінуў на фронце ў першы-ж дзень. Але справа ня ў сюжэце, а ў тых яскравых малюнках беларускага быту, якія раскіданы ў яго творы. Вось перад вамі заезны двор. Стары моліцца богу. За драўлянаю пераборкаю, закапаўшыся ў кучу пярын і падушак, маладая пара—зяць і дачка старых. Дзіця гэтае пары калыша батрачка Матруна; усіх яна груба лае, усіх, і дзіця нават, груба кляне, на ўсіх і на ўсё груба бурчыць. Калі яе будзяць, каб адчыніць дзьверы новым прыежджым, яна „сонна пацягваецца, чэша, як скобліць, сьцягно, пасьля карак, а тады працірае свае буркалы і клянецъ“. А старая школа, з настаўнікам—быўшым унтэр-афіцэрам, які „біркаю“ адучаў вучняў ад беларускіх слоў, з мэханічным завучваньнем сказу: „Скворец известен всем“, нарэшце, комічная сцэнка рэвізіі благачыннага, якому настаўнік цалуе руку. Гэта месца апавяданьня вельмі, між інш., нагадвае твор з украінскае літаратуры „Роман“ Васыльчэнка, у якім апісваецца расійская школа на Украіне.

Ударныя апісаньні кірмашу, прыроды. Можа толькі з пачатку апавяданьня аўтар надта дакладна спыняецца на прыродзе. У новых творах расійскае і украінскае літаратуры пэйзаж абмалёўваецца только павярхоўна, адным, двума сказамі.

Часамі аўтар упадае ў лірызм. Жыцьцё, жыцьцё,—гукае ён. „Мы ўсе прыходзім на сьвет хто песьняром, хто разьбяром, а хто і тым і сім патроху... але часта-часта жыцьцё нічагусенькі не пакідае нам і робіць жаласнымі старцамі без пары“.

Імкнецца ён і слоўнік аднавіць, ужываючы словы ў новым сэнсе, а таксама карыстаючыся часамі народнымі зваротамі.

**П. Б.**

*В. Ластоўскі*. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Спроба паясьніцельнай кнігопісі ад канца X да пачатку XIX стагодзьдзя.

Выдана коштам беларускага цэнтру ў Літве. Адціснута ў друкарні Сакалоўскага і Лана. Коўна. 1926 год in folio, VIII+776 стар.

Зьмест: Прадмова (V—VIII). Уступ (1—15). Канец X-га і XI ст. (15—24). XII ст. (24—52). XIII ст. (52—102). XIV ст. (102—137). XV ст. (137—244). XVI ст. (244—497). XVII ст. (497—609), XVIII ст. (609—641). Слоўнік помнікаў старакрыўскай (беларускай) пісьменнасьці (641—720). Выказ імён і рэчаў (720—739). Выказ старакрыўскай (беларускай) пісьменнасьці, паводле зьместу (739—767). Выказ аўтараў, творы якіх або мысьлі выкарыстаны пры апрацаваньні гэтай кнігі (767—774). Папраўкі друку (774—776 укл.).

Перш за ўсё аб назове кнігі, у якой маецца слова „крыўскай“, якое незразумела нашаму савецкаму чы-

тачу. Аўтар кнігі В. Ластоўскі зьяўляецца ініцыятарам так званай „крыўскай орыентацыі“, пачатак якой быў закладзены ў 1923 годзе часопісьсю „Крывіч“, якая выходзіць у Коўне пад рэдакцыяй В. Ластоўскага. Гэтая орыентацыя пры дапамозе памянёнай часопісі мае на мэце пропагандаваць ідэю замены назваў нашага народу і краю: „Беларусь“, „беларускі“ назвамі: „Крывія“, „крыўскі“. Гэтая замена ініцыятарамі абасноўваецца так: назова „Русь“ зьяўляецца не славянскай, занесена яна на славяншчыну норманамі ў IX ст. і мае значэньне выключна як тэрмін *дынастычны* і *веравызнаўчы* (Ю. Верашчака, Аб найменьнях—„Гуды“,—„Крывічы“,—„Русь“. „Крывіч“ 1923 № 1; Ю. Верашчака, Расійскія вучоныя аб Крывічах, ibidem, 1923, № 5; Л. А., Што такое „Русь“ смаленскай търговай граматы 1229 г., ibidem, 1923, № 6). А назова „Белая Русь“, паводлуг гэтае орыентацыі, стала ўжывацца ў адносінах да нашага краю Маскоўскімі царамі XVI ст. з політычнымі мэтамі, дзякуючы якім утварыўся царкоўна-адміністрацыйны падзел: „Русь Вялікая“, „Русь Малая“, „Русь Белая“ і канчаткова гэтая назова замацавана за нашым краем русыфікацыяй XIX ст. (Ю. Суліміpскі, Аб назовах „Крывія“ і „Беларусь“. „Крывіч“ 1925, № 10 (2). Для назваў-жа „Крывія“, „Крывічы“ гэтая орыентацыя знаходзіць больш гістарычных правоў на ўжываньне з прычыны таго, што яны шырока ўжываліся ў першыя стагодзьдзі нашай гісторыі, абазначаючы ўсе этнографічныя групы нашага народу (А. Мачач, Абшар займаны крывічамі і крыўская колёнізацыя. „Крывіч“ 1925, № 10 (2); В. Л., Аб найменьні „Крывічы“. Ibidem, 1924, № 2 (8); Што трэба разумець пад найменьнямі—Паляне, Дрыгвічы, Драўляне, ibidem, 1923, № 3; Я. Станкевіч, Да назову „Крывічы“, „Крывія“, „Студэнская думка“, Вільня, 1924, № 1). Трэба адзначыць, што гэтая орыентацыя мае вельмі мала прыхільнікаў, што адзначана і самым В. Ластоўскім у яго „Маскоўска-Крыўскім Слоўніку“, але яна зацікавіла некаторыя колы беларускага заходняга грамадзтва, аб чым сьведчыць адчыненая дыскусія за зьмену і проці зьмены ў рыскай беларускай газэце „Голас Беларуса“ (1925 г., №№ 9, 10, 13 і наступн.), прычым рэдактар К. Езавітаў, адчыняючы дыскусію, адзначыў, што гэтая новая орыентацыя „выклікае незадаваленьне з боку пераважнае большасьці беларускага грамадзтва“ (№ 9).

У загалоўку „Гісторыі“, як і далей у тэксьце, назовы: „беларускі—крыўскі“ ўжываюцца, як сынонімы.

„Гісторыя“... зьяўляецца капітальнай працай, якая ў сваёй аснове ня мае дасьледчых мэт, а якая з гісторыка - літаратурным ухілам дае сьпіс усіх вядомых стара-беларускіх рукапісаў і друкаў (пераважна паводлуг прац расійскіх дасьледчыкаў).

Такім чынам В. Ластоўскі першы ў беларускай навуковай літаратуры дае поўны сьпіс старадаўных беларускіх рукапісаў і друкаў, якія даходзяць да 892 нумароў. Ужо адзін тэматычны і лічбовы пералік шмат гаворыць аб высокіх ступенях старадаўняй беларускай культуры, рознакалёрная і разнаітая пісоўнасьць якое абхоплівала ўсе бакі тагочаснага жыцьця; зразумела, пераважная большасьць помнікаў прыходзіцца на рэлігійную літаратуру — тагочасную характэрнасьць, бо асьвета і адукацыя ў старадаўныя часы ўтваралася ў царкоўна-манастырскіх асяродках; цяпер яна для нас мае не ідэолёгічную, а вялікую выключна навуковую значнасьць гісторыка-літаратурна-філёлёгічную, а часткай і энтографічную.

Кідаецца ў вочы нязначны лік помнікаў X-XIV ст., якія даходзяць да сто адзінаццаці нумароў. І нам здаецца, што аўтар зрабіў памылку, ня даўшы досьледу аб долі помнікаў гэтага часу.

Калі-б аўтар даў адзін памянёны сьпіс помнікаў, то і гэта праца па выяўленьні старабеларускіх рукапісаў і друкаў і аддзяленьні іх ад літаратур суседзяў, захапіўшых іх сабе, мела-б вялікую значнасьць, але аўтар ідзе далей; ён дае шмат тлумачэньняў і комэнтарыяў гісторыкалітаратурнага характару, якія дапамагаюць найлепшаму ўясьненьню як тэкстаў, так і прычын зьяўленьня тых ці іншых помнікаў. Частка комэнтарыяў ахвярована апраўданьню і забароне тэрмінаў „крывія", „крыўскі". Далей—аўтар зьмяшчае вялікі лік як цэлых тэкстаў, так і адрыўкаў найбольш выдатных дакумантаў.

Зьвяртаюць на сябе ўвагу: І. „Летапісец вялікага княства літоўскага і жамоітскага" (стар. 200—241); да летапісу далучаны абшырныя комэнтарыі (стар. 189—200). У мінулым 1925 г. гэты летапіс, разам з комэнтарыямі, В. Ластоўскім быў выданы асобай кнігай: „Летописец великого кн(я)зства литовско(го) и жомоитского, (паводле сьпіску гр. Рачынскага), Коўна, 1925. 56 стар. in folio. ІІ. Нанова транскрабаваныя тэксты Аль-Кітаба (стар. 364—371). ІІІ. Артыкулы аб друкарскай дзейнасьці Ф. Скарыны (стар. 282—307) і В. Цяпінскага (406-417), IV. Увагі аб Літоўскім Статуце (стар. 433—443) і V. Увагі аб „Слове аб палку Ігара" (стар. 47—50), якія заканчваюцца: Гэткім чынам „Слова аб палку Ігара" будучы помнікам не народнай, а дружыннай поэзіі, дзякуючы яго паўстаньню на нашай тэрыторыі і апяваньню ў ім падзей з нашай гісторыі, павінна быць залічана да помнікаў крыўскай пісьменнасьці" (стар. 50). Цікава адзначыць, што гэты выдатны помнік мінуўшчыны і да сёньняшняга дня зьяўляецца прадметам спрэчак паміж вучонымі Вялікарусі, Украіны і Беларусі. Пытаньне аб тым, каму ён належыць, ня вырашана.

Аўтар „Гісторыі"... не абмяжоўваецца вядомымі помнікамі, ён дае і новыя матэрыялы, напр.: „Арэянскі катэхізм" (стар. 383).

Вельмі цікавы слоўнік стара-беларускіх слоў (640—719), выбраных з тэкстаў, якія прыводзяцца ў „Гісторыі"... Слоўнік мае 1186 слоў. Нягледзячы на непаўнату матэрыялу, бо выкарыстаны толькі матэрыял кнігі, слоўнік, бязумоўна, мае навуковую каштоўнасьць, прычым да кожнага слова дадаецца прыклад ўжываньня яго ў цэлым выразе, час ужываньня і крыніца. Стара-беларускім словам прыдавалі вялікую значнасьць дасьледчыкі нашага быту. Так, падобныя слоўнікі складалі: археограф Грыгаровіч, этнограф Раманаў (іх слоўнікі ня выдрукаваны), а Насовіч у 1870 г. ўключыў у свой „Словарь белорусского наречія" шмат слоўнікавага матэрыялу са старадаўніх беларускіх актаў. Патрэбнасьць у такім слоўніку даўно адчуваецца; „Словарь древняго актавого языка" Н. Горбачевского (Вильна, 1874) дае толькі юрыдычныя тэрміны і то выключна лацінска-польскія. Вялікарасійская навука мела такі слоўнік ужо 30 год таму назад (гл. А. Дюверна. Матеріалы для словаря древне-русск. языка. Москва, 1894).

Бязумоўна, буйным недахопам кнігі зьяўляецца адсутнасьць чыста бібліографічнага матэрыялу аб разгляданых помніках, што здарылася дзякуючы кепскім умовам, у якіх аўтару прышлося працаваць: „ня маючы доступу да арыгінальных помнікаў" і пры „вялікай нястачы найбольш патрэбнай літаратуры" (стар. VIII). З гэтае прычыны да даволі значнага ліку помнікаў аўтар не дае ніякіх комэнтарый, адсутнічаюць нават гісторыка - літаратурныя, а прыводзіць толькі адны загалоўкі.

Апісваючы гэбрэйскія кнігі, перакладзеныя на беларускую мову (стар. 241—243, 396-398), аўтар нідзе не адзначыў рукапіс, пісаны пабеларуску, але гэбрэйскай транскрыпцыяй, апісаны З. Бядулем: „Рукапіс чарнакніжніка XVIII веку", „Вольны

Сьцяг“, 1921, № 5, значнасьць якога для беларускай філёлёгіі яшчэ ня высьветлена; мажліва, што ён ня мае такой значнасьці, як „Аль-Кітаб“, але праходзіць міма яго нашым дасьледчыкам нельга.

Застаецца сказаць аб надворным выглядзе кнігі. Выдана яна на паперы вялікага формату і найлепшай якасьці і аздоблена мастацкай вокладкай вядомага мастака М. Дабужынскага. У самым тэксьце кніга мае 165 аздоб са старадаўных беларускіх рукапісаў і друкаў, якія лішні раз падкрэсьліваюць высокае разьвіцьцё старадаўнай беларускай культуры наогул і мастацтва ў прыватнасьці. Малюнкі абхопліваюць XI—XVIII стагодзьдзі і па зьместу падзяляюцца на застаўкі—18, канцоўкі—11, пачатковыя літары—20, малюнкі (і мініятуры)—28, портрэты дзеячоў—9, здымкі з рукапісаў—37, здымкі з перша і стара-друкаў—26, здымкі з рэчаў (грошы, пячаткі, аправы, каменныя помнікі)—16.

Разгледжаная кніга, выданая ў азнаменаваньне 400-годзьдзя беларускага друку, якое адсьвяткована ў мінулым 1925 годзе, зьяўляецца вельмі каштоўным падарункам беларускай навуцы.

**Ал. Шлюбскі**

## ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

### Сярод пісьменьнікаў

* *Янка Купала*, які зараз знаходзіцца ў сябе дома, у Акопах, напісаў цэлы зьнізак новых вершаў эпічнага характару.

* *Я. Неманскі* гатуе да друку другую кніжку сваіх апавяданьняў.

* *Зьмітрок Бядуля*, калі быў на Каўказе, напісаў шмат вершаў, у якіх адбіваецца прырода і жыцьцё прыгожай Абхазіі. Ім-жа перакладзена апавяданьне Шолом-Алэйхэма „Хлопчык Мотка".

* *Максім Гарэцкі* значна пераапрацаваў сваю „Гісторыю беларускае літаратуры", здаўшы яе да новага выданьня Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву.

* *Ул. Дубоўка* здаў для друку беларускаму аддзелу асьветы пры Наркамасьветы РСФСР зборнік сваіх вершаў.

* *Алесь Гурло* падрыхтаваў да друку чарговы зборнік вершаў, які ў яго набывае Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.

* Некалькі часу таму назад з прычыны разыходжаньня ў організацыйных пытаньнях вышлі з „Маладняка" наступныя поэты і пісьменьнікі. І. Дубоўка, А. Бабарэка, Я. Пушча, Крапіва, К. Чорны, А. Гурло, А. Вольны і П. Трус. Гэтыя пісьменьнікі маюць організаваць новае аб'яднаньне поэтаў і пісьменьнікаў.

* Народным Камісарыятам Унутраных Спраў зацьверджаны статут аб'яднаньня беларускіх драматычных пісьменьнікаў ды композытараў.

* 5 ліпня адбыўся пленум „Маладняка".

* Некалькі нямецкіх выдавецтваў, між якімі выдавецтва „Ульштэйна", згадзіліся выдаць на нямецкай мове беларускія творы беларускіх пісьменьнікаў. БДВ першымі мае паслаць для гэтай мэты апавяданьні Цішкі Гартнага „На новым месцы" і М. Чарота „Галька", „Саматканая сьвітка" ды інш., якія перакладае настаўнік Пеццальд.

* Пісьменьнік Мардвілка перакладае на беларуск. мову з ангельскае апавяданьні Джэка Лёндона.

* Пры Гомельскай філіі „Маладняка" ўтворана 8 раённых гурткоў. У Чачэвіцкім раённым гуртку налічваецца 20 чал.

### Тэатр, музыка, мастацтва

* Інбелькульт зьвярнуўся з просьбаю да ўсесаюзнае Акадэміі Навук, каб яна перавыдала опэру „Селянка", напісаную композытарам Манюшка, водлуг сюжэту беларускага пісьменьніка В. Дунін-Марцінкевіча.

* Беларускі мастак Воўкаў нарысаваў эскіз портрэту У. І. Леніна. Згодна эскізу портрэт будзе ў натуральную велічыню. Эскіз разгледжаны камісіяй Інбелкульту і прызнаны добрым.

* На паказальным концэрце Менскага музычнага тэхнікуму, які адчыніўся беларускаю Марсэльезаю, хор вучняў выканаў „А ў садзе рэчка" М. Аладава, „Жаўранак" Калінікава і „Калыханка" Мацісона.

* Композытарам М. Аладавым гармонізавана беларуская Марсэльеза.

* 18 чэрвеня беларускі музычны этнограф М. Чуркін прадэмонстраваў свае музычныя творы. Інбелкультам набыта звыш 300 запісаў

народных беларускіх песень, сабраных Чуркіным.

* Беларускім Дзяржаўным Тэатрам у наступным сэзоне, паміж іншымі, будуць пастаўлены гэткія п'есы: „Змрок“ В. Шашалевіча, „Вір“ Е. Рамановіча, комэдыя В. Шэксьпіра — „З Уіндзору“, „Лес цёмны“ М. Ільлінскага і інш.

* Цэнтральнае бюро краязнаўства пры Інбелькульце зараз яднае да 170 краязнаўчых пр.

* Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр Галубка ў Бабруйскай акрузе паставіў 33 спэктаклі і даў пяць концэртаў.

### Выдавецтва

* 10 ліпня вышаў з друку № 4 (13) часопісі „Маладняк“.

* Вышаў другім выданьнем „Практычны Расійска-Беларускі слоўнік“ М. Байкова і М. Гарэцкага.

* Кончылася друкаваньнем і пашла ў продаж кніжка Керженцава „Ленінізм“.

* Краязнаўчае таварыства пры Інбелкульце выпусьціла з друку чарговы № 2-3 краязнаўчай часопісі „Наш Край“.

* Бел. Дзярж. Выд. выданы „Падручнік справаводзтва сельскіх і местачковых саветаў“ і „Дзелавод“ С. Серады.

* Кніжнай Палатаю пры Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэцы выпушчаны № 1-6 „Бібліографічнага летапісу кніг“, якія выдаюцца на тэрыторыі Беларусі. Бюлетэні маюць выдавацца пэрыодычна два разы ў месяц.

* ЦБ „Маладняка“ мае выдаць зборнік апавяданьняў Джэка Лёндона. Ім-жа даецца штомесяц па 50 руб. для папаўненьня маладнякоўскае бібліотэкі і організацыі перасовак для вясковых філій.

* Бел. Дзярж. Выдавецтвам здадзены ў друк „Крышталёграфія“ — М. Грамыкі, „Фізыолёгія“ — Я. Цьвікевіча і „Мовазнаўства“ — пр. Бузука.

* Выдавецкі аддзел Інбелкульту выпусьціў новыя кніжкі: „Працы першай усебеларускай глебазнаўчай конфэрэнцыі“ і „Музычная тэрмінолёгія“.

* На міжнародную конфэрэнцыю бібліотэкараў і прыхільнікаў кнігі, што мае цягнуцца па 23 ліпня ў Празе чэскай, Інбелкульт атрымаў запрашэньне прысляць свайго прадстаўніка. Дзякуючы позьняму атрыманьню запрашэньня Інбелкульт ня меў магчымасьці гэтага зрабіць.

### У Інстытуце Беларускае Культуры

* У Інбелкульт зьвярнулася з просьбаю міжнароднае выдавецтва „Мінэрва“ ў Бэрліне даць яму апісаньне працы і структуры Інбелкульту.

* Раднік поўнамоцнага прадстаўніцтва СССР у Польшчы А. Ульлянаў абраны сябрам - супрацоўнікам Інбелкульту. Таксама т. А. Ульлянаву даручана Інбелкультам наладзіць сувязь з культурна-навуковымі ўстановамі Польшчы.

* У Кракаўскай Акадэміі Навук знаходзіцца праца вядомага этнографа і знаўцы Беларусі М. Фэдароўскага „Люд беларускі на Русі Літоўскай“. Інбелькультам зроблена запытаньне ў Акадэміі, ці яна мае гэта выдаваць, і калі ня будзе, то гэта зробіць Інбелкульт.

* Археолёгічная камісія ў складзе Даўгялы, Сербава і інш., накіраваная Інбелкультам у г. Воршу дзеля дасьледваньня існуючых там падземных ходаў, прывязла шмат каштоўната матэрыялу. Матэрыял гэты сьведчыць, што гэтыя падземныя ходы адносяцца да часоў самага далёкага пэрыоду гісторыі.

* Археолёгічная камісія Інбелкульту апрацоўвае археолёгічную карту БССР. Карта Менскае акругі ўжо складзена.

* Для вывучэньня па новых статыстычных матэрыялах экономічнага становішча Польшчы і Чэха-Слава-

кіі, Інбелкультам дадзена навуковая камандыроўка ў гэтыя краі сябру Інбелкульту Г. Гарэцкаму.

* Цэнтральнае бюро краязнаўства пры Інбелкульце зараз яднае да 170 краязнаўчых організацый, з лікам звыш 6.000 сяброў. Наладжана сувязь са Смаленскім, Бельскім і Старадубскім краязнаўчымі організацыямі, а таксама з Украінай, Манджурыяй, Грузіяй і Узьбекістанам. ЦБ абменьваецца выданьнямі з Вільняй, Коўнай, Варшавай, Рыгай і Лейпцыгам.

* Інбелкультам сабрана да 120 тыс. слоў для слоўніка жывое беларускае мовы. Складаюцца краёвыя слоўнікі Невельшчыны, Смаленшчыны, Гомельшчыны.

* Гісторыка-археолёгічная камісія занята вывучэньнем і апрацоўкаю гісторыі Менску; ужо перагледжаны друкаваны матэрыял, складзены плястарога Менску і зроблены раскопкі ў ваколіцах гораду.

* Пскоўскае таварыства харавых сьпеваў запрасіла Інбелкульт прыслаць узоры музычнай народнай беларускай творчасьці.

## За рубяжом

* Беларускім паступовым студэнцтвам у Чэха-Славакіі выданы першы нумар часопісі „Промень". Часопісь мае літаратурна-публіцыстычны зьмест, які справодзіцца ўступным артыкулам ад рэдакцыі. Рэдакцыя, выяўляючы ў ім разьвіцьцё і напрамкі беларускага руху, лічыць зьдзейсьненьне „Беларускае дзяржавы—Савецкае Беларусі—выпаўненьнем заветнае думкі беларускае інтэлігенцыі". „Промень" згодна артыкулу „ў першую чаргу прызначаецца для Заходняе Беларусі і Латвіі, а дзеля гэтага на становішча гэтых краін і будзе зьвяртаць галоўную ўвагу".

* У Праскай Чэха-Славацкай часопісі „Slovenski pžehled" № 3-4 зьмешчана біографія Янкі Купалы і яго-ж портрэт. У гэтай-жа часопісі надрукованы пераклады яго вершаў на чэскую мову: „Брату-беларусу", „Цару неба і зямлі", „Мая вера", і „Не глядзі". Пераклад зроблены Юрам Рубінам.

* У № 5 „Slovenski pžechled" зьмешчана нелапая рэцэнзія Ф. Ціхага на поэму Я. Коласа „Сымон Музыка".

## З УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Восеньню музычнае таварыства імя Леантовіча ў Кіеве намерана наладзіць усеукраінскі дзень музыкі. Да ўдзелу ў гэтым дні намечана прыцягнуць каля тысячы музычных арганізацый, з якімі таварыства зьвязана сваёю працаю. У дзень музыкі, які будзе наладжаны або ў гадавіну сьмерці Лісенкі, або ў гадавіну сьмерці Леантовіча ўсе музычныя арганізацыі маюць наладзіць концэрты па апрацованай таварыствам програме.

* У Саратаве памёр вядомы украінскі тэатральны дзеяч Вішневецкі. Пакойны працаваў як артыста і організатар трупаў.

* Выдавецтва „Кнігаспілка“ рыхтуе да выданьня поўны збор твораў Лісенкі. Выданьне разьмяркована на 2-3 гады. Рэдакцыйная колегія складзена з лепшых украінскіх композытараў і мастацкіх дзеячоў.

* Гнат Хадкевіч напісаў сэрыю рамансаў на зьмест твораў Івана Франкі.

* 20 чэрвеня ў украінскім народным тэатры ў Харкаве адбылося сьвяткаваньне 20-годзьдзя тэатральнай чыннасьці галоўнага адміністратара тэатру Е. Сагайдачнага.

Юбіляр напісаў некалькі бытавых п‘ес.

* Драматург А. Гак перарабіў вядомую п‘есу „Сарачынская ярмарка“, даўшы ёй сучасны зьмест.

* У Віньніцкім акружным архіве знойдзены мэтрычныя запісы ў кнігах аб часе нараджэньня вядомага украінскага пісьменьніка М. Коцюбінскага. Згодна запісу ў мэтрычнай кнізе Прэабражэнскага сабору нараджэньне М. Коцюбінскага адзначана пятым верасьнем 1864 г. Да гэтага ў украінскай літаратуры ня была вядома дата аб нараджэньні пісьменьніка.

*Рэдактар:* **Рэдакцыйная Колегія.** *Выдавец:* **Дзярж. Выд. Беларусі.**

# Зьмест „Полымя“ № 5.



---

375.

БДВ № 121. Галоўлітбел № 18380.

Менск, 1-я Дзярж. друк. Зак. № 506. У ліку 2000 экз.